# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ

МАЙ

1929



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

**Прымаецца падпіска на 1929 год на штомесячную беларускую часопісь літаратуры, політыкі, экономікі, гісторыі, крытыкі**

# „ПОЛЫМЯ“

**VIII ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**Пад рэдакцыяй: З. Жылуновіча (адказны рэдактар), Я. Купалы, А. Некрашэвіча, М. Чарота, І. Шыпілы.**

## У 1929 годзе ў склад супрацоўнікаў „ПОЛЫМЯ“ ўваходзяць:

Александровіч А., Акіта Удзяку (Японія), Байкоў М., Баліцкі А., Бандарына З., Баркоўскі С., Бываеўскі Н. (Яз Дыла), Быхоўскі Б., Бузук П. проф., Бонч-Асмалоўскі А. (Масква), Барычэўскі Е. проф., Барысёнак С. (Кіеў), Бэхэр І. (Бэрлін), Васілевіч Я., Васілеўскі Д., Віткоўскі Я., Вольны А., Вольфсон С. проф., Вайскопф Ф. (Чэха-Славакія), В. Ванчура (Чэха-Славакія), Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Галадзед М., Гарэцкі М., Гарабурда К., Гародня А., Гарэцкі Г., Грамыка М., Гурло А., Грэдынгер М. проф., Герчыкаў І. (Саратаў), Глыбоцкі Т., Гора Я. (Чэха-Славакія), Даркевіч П., Дзяржынскі Ў. (Чаржынскі), Дружчыц В. проф., Дудар А., Езавітаў К. (Латвія), Жарынаў З. проф., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Залуцкі В., Замбржыцкі С., Зімёнка А., Івашын Я., Ігнатоўскі Ўс. проф., Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі Ў., Каган Л., Кіпель Я., Колас Я. (Тарас Гушча), Купала Янка, Кнорын В., Касьпяровіч М., Каваль В., Кіш П. (Бэрлін), Лёсік Яз., Кесэр Г. (Бэрлін), Клейнборт Л. (Ленінград), Ліманоўскі Я., Лявонны Ю., Ластоўскі В., Ляск Б. (Бэрлін), Лайцен Л. (Латвія), Маракоў В., Марук Я., Мачульскі В., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нёманскі Я. (Пятровіч), Нікановіч М., Окіншэвіч Л. (Кіеў), Палішчук В. (Харкаў), Пічэта Ў. проф., Пфляумбаум Е., Піотуховіч М. проф., Прышчэпаў З., Панкевіч П., Поль Г. (Бэрлін), Радзевіч Л., Расін Л., Руткоўскі Е., Сташэўскі В., Салагуб А., Сьнежка Зьм., Самусь М., Сянькевіч А., Трус П., Фінкэльштэйн, Фучык Ю. (Чэха-Славакія), Харэвіч А., Хлябцэвіч Е., Хэрсонскі Х. (Масква), Цьвяткоў Л., Цьвікевіч А., Цьвікевіч Ів., Чарот М., Чарвякоў А., Шатэрнік М., Шыпіла І., Шлюбскі А., Шчакаціхін М. і інш.

### ДА ВЕДАМА СУПРАЦОЎНІКАЎ „ПОЛЫМЯ“

**Рэдакцыя „ПОЛЫМЯ“ захоўвае за сабою права скарачаць і рабіць зьмены рэдакцыйнага характару ў матэрыяле, які падыходзіць да друку ў „ПОЛЫМЯ“.**

**Малазначныя рукапісы і вершы, ня прынятыя да друку, не захоўваюцца і ніякай перапіскі з аўтарамі гэтых рукапісаў рэдакцыя не вядзе. Рукапісы, прысланыя ў „ПОЛЫМЯ“, павінны быць акуратна надрукованы на машынцы і на аднэй старонцы ліста.**

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ

МАЙ
1929

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

# СІНЯЯ ВОСЕНЬ

**Васіль Каваль**

I

Пасьля спаса, у нядзелю ў поўдзень, ляжалі на ўзгорку, супроць вёскі Прасекаў, тры хлапцы: Андрэй Каралёнак — удовін сын, Мікола Вугнач—бязбацькавіч, парабак багатыра Сымона Латуты, і Гарась, сын Трахіма Карпячонка.

Узгорак быў зялёны, там-сям траву коні павыядалі; перад імі спускалася ўніз круча да маленькага ручая. На другі бок ручая, на ўзвышшы, раскінулася вёска Прасекі. А направа, як вокам скінуць, распасьціралася прасекінскае поле. Зялёнае—ярына, жоўтае—жыта і пшаніца. Калі ўздымаўся вецер і пачынаў хадзіць па жыце, дык здавалася, што ідзе нейкае вялікае войска, шуміць і грозіць некаму. Па дарозе з кірмашу ехалі фурманкі і ўздымалі такі густы пыл, што ня відаць было за ім ні чалавека, ні каня.

— Шуміць жыта...—сказаў Мікола, ды ўзяў травінку ў рот.

Андрэй падняў галаву.

— І чаго-б яно магло шумець? Ветру-ж няма, здаецца.

Гарась падняўся з зямлі на калені і агледзеў усё, што было на відавоку—і жыта, і вёску, і дарогу.

— Мне казала маці, што калі жыта красуе, тады зямля дыхае, як чалавек. Гэта ўсё роўна, як цяжарная жанчына ў сабе дзіцё носіць—цяжка ёй. Так і зямля...

— Гм...—прамармытаў Андрэй.

— Што, ня верыш мажа? Яй-бо праўда...

— Ды кінь ты...

— Ну, як сабе хочаш.

Хлопцы былі равесьнікі—зялёныя гады—кожнаму па васемнаццаць. Ня ўмелі яны гаварыць пра зямлю. Зямля—вялікая, чорная, дзе ты яе разгадаеш? Пражыві ты ўсё жыцьцё сваё ды падумай...

Сонца яшчэ было высока, ружовае, яно ледзь-ледзь хілілася на захад.

Андрэй і Гарась ляжалі на жыватох, падпёршы галовы рукамі і ў абодвух вытыркаліся лапаткі. Мікола, ахапіўшы калені рукамі, трымаў у зубах травінку.

Маўчаньне парушыў Мікола.

— Ведаеце што, хлопцы? Пакіну я...

— Латуту свайго?—перабіў Гарась.

— Але-ж. Надакучыла мне, браткі, да сьмерці. Ну, што я выслужу, хоць і цэлы век буду.—Бледны парабкаў твар зачырванеўся.

— Але што-ж ты рабіць будзеш?

— Што рабіць буду? Падумаю.—Мікола палажыў галаву на купіну і закрыў ад сонца рукою скулаты твар.—Можа пайду яшчэ куды, а можа— ў горад...

— Ну-у,—недаверліва працягнуў Гарась,—у горад. Ды ў горадзе без цябе хопіць, каму ты там патрэбен. Вуліцы будзеш падмятаць.

— Вучыцца пайду... на рабфак...

— На рабфак. Гэта зусім іншая справа. Пашоў-бы і я з табою ды няма каго ў двары пакінуць,—сказаў Андрэй.

— А я ўжо ў бацькі прасіўся,—пачаў Гарась,—адпусьці ты кажу, айцец родны любага сына твайго на ўсе чатыры стараны. Хачу я, сын твой, каморнікам быць, палітон замест сьвіткі насіць, і, адным словам, каб чалавекам быць. І даў мне айцец такое блаславеньне: ідзі ты, кажа, гад няпечаны, к ядронай зялёнай. З цябе каморнік, як з мяне камісар. Галава ў цябе, кажа, туды тваю растуды, толькі шапку насіць. Тады і пытаюся я:

— Навошта-ж ты, рыжая барада, зрабіў мяне такім?

— Халера цябе рабіла якая,—кажа мне, а я сьмяюся.

Разгарэлася тады, браткі мае, ласкавае сэрца бацькаўскае, як хапіў ён за кудлы мяне, як пачаў пеставаць.

— Я, кажа, ня бацька табе, я, кажа, гадаваў гада такога чорнага, выгадаваў на гора сабе. Не сьцярпеў і я: схапіўся за бараду і крычу са злосьці яму:

— Бараду вырву, чорт акаянны!

— А тут народ сабраўся, абступілі нас—і ну пацяшацца:

— Ха-ха-ха. Трахім сына каморнікам робіць.

— І валтузімся мы так гэта сярод вуліцы: ён мне аплявуху, а я— таргіль за бараду (а ў барадзе ў яго ёсьць за што ўчапіцца), ня ведаю дакуль-бы мы валтузіліся, але прыбег з поля брат і разьняў нас. Расьціснуў кулак я, аж там шчопаць бацькавых валасоў. І толькі я кінуць хацеў іх на вецер, крычыць бацька: „Стой, ня кідай!“ Палажыў іх сабе на далонь, паказаў людзям і заплакаў. „Глядзеце, людзі, да чаго я дажыўся. Сын мой, меншы сын, бараду вырваў. Не дарую за гэта, век не дарую“. Тут яго людзі ўгаварваць, бач, барада ў цябе вялікая. А ён: „Як я на людзі пакажуся“. Схаваў гэтыя валасы ў падаплёку сярмязе. „Усьцешыў ты, кажа, сынок, мяне на старасьці“. А я яму: „усьцешыў, тата, мяне ў маладосьці; рукамі не магу пашаваліць“.

— З таго часу, як раззлуецца бацька на мяне, заўсёды вымае гэты шчопаць валасоў і паказвае. І крыўдна неяк і горка робіцца. Я ўжо і

перамяніў гэтыя валасы. Як ліняў вясною наш рыжы, узяў дый палажыў яму конскіх, усё роўна носіць пры сабе...

— Так, браткі мае, ахрысьціў мяне бацька на каморніка. І перастаў я думаць пасьля таго пра што-небудзь такое...

Хлопцы трохі пасьмяяліся над хрышчэньнем Гарася на каморніка.

Мікола Вугнач устаў з зямлі, цьвёрда расставіў ногі, правую руку над вочы—і так глядзеў ён у пыльна-зялёную даль. Шырокаплечаму, карчыстаму, з запаленым тварам, ад чаго русыя нястрыжаныя валасы здаваліся выцьвіўшымі, яму пазайздросьціў шчупленькі і спрытны Гарась. Мабыць, ня ўбачыўшы таго, што было патрэбна, Мікола шырока махнуў рукою і, бліснуўшы маленькімі шэрымі вачыма, упарта і ласкава прагаварыў:

— А ўсё-ж такі, хлопцы, я іду ў горад вучыцца. Як-бы там ні сталася, але іду...—і так рашуча сказаў гэта, быццам ён зараз-жа пойдзе сваімі босымі парабчанскімі нагамі па гэтай калючай зямлі.

— Што-ж,—сказаў Андрэй,—ідзі...

— Хлопцы,—стукнуў Мікола сваім цяжкім кулаком па шырокіх грудзёх.—Каб вы ведалі, як мне хочацца вучыцца. Усё б жыцьцё аддаў здаецца, каб толькі сьвет пабачыць, каб хоць трошкі жыцьцё сваё палепшыць. Парабак я, нікога ў мяне роднага няма. Радасьці мне хочацца... Браткі вы мае, дайце веры, яй-права...

Гаварыў і захлёбваўся, чуць ня плакаў, стоячы на каленях.

— Ды вучыліся-ж мы разам. Пачатковую школу скончылі. І як вучыліся, з пугаю і з кніжкаю ходзячы за статкам... Памятаеш, Андрэйка. Эх! Плакаць хацелася... Лягу я, бывала, на мяжу, пагляджу вакол (сонца, гарачынь, зямля цьвіце, радасна так, палкі зялёныя), а я ўспомню, што адзін на сьвеце і заплачу. Тады-ж у мяне думка зарадзілася, як чытаў кніжкі гэтыя і пасьвіў чужое стада, ці заб‘ю, хто на дарозе будзе стаяць, ці свайго дасягну... Эх, браткі!..

Мікола моцна сьціснуў далонямі галаву і ківаў ёю ў бакі. Гарась вышчыпваў з травы малады шчавель і нехаця яго еў. Андрэй ляжаў ніцма, закрыўшы вочы далонямі. Над іх галовамі дадзейна гулі авадні, Гарась злавіў аднаго на сваім носе і ўтыркнуўшы саломінку ў яго брухастае цела, пусьціў. І пакуль стаяла паміж таварышамі гэта няёмкая і і такая пякучая цішыня, ён глядзеў да тых пор, пакуль не схаваўся авадзень. Потым узяў свой гармонік, што ляжаў ля боку—лепшы занятак свой—ня граў, а разглядаў мех, клапаны. Купіў ён гэты гармонік чатыры гады таму ў чырвонаармейца—дэзартыра, ён-жа і навучыў граць. Граць на гармоніку быў сьмекалістым і шанаваў яго.

— Сумна нешта, хлопцы. Давайце-тка я заграю, можа дзеўкі прыдуць. От добра, каб прышлі.

І расьцягнуў гармонік, і зайграў. Пасыпаліся з нутра Гарасявай красуні, маладыя, залатыя гукі. Ня песьня была, ня скок, а наморшчыўшы лоб, падбіраў ён такія лады, каб выходзіла, прыблізна так:

Хаваецца сонца ў золаце лета над родным прасекінскім лесам.

Андрэй і Мікола—неразлучныя сябры — засумавалі, — хто іх ведае аб чым?

— Хлопцы! Дзяўчаты ідуць,—раптам схапіўся на ногі Гарась і заскакаў на месцы.

Ішлі на ўзгорак гурмаю дзяўчаты, сьпявалі яны. Гарась пабег наперад і там пырснуў сьмех. Ішоў ён назад поплеч з белабрысай, маленькай, заўсёды сьмяшлівай Юлькай.

— Юлька, чаго ты сьмяешся?—дапытваецца Гарась, падміргваючы і таўхаючы яе пад бок.

— А табе што?

— Ну, скажы.

— А так, весела мне—хі-хі-хі-хі.

І абодва яны сьмяюцца. Юлька пухленькая, чырвоная, здаецца, вось-вось пырсьне разам са сьмехам з твару яе ружовая кроў.

Дзяўчаты падышлі.

— Здаровы, хлопцы!—сказала па-хлапецку за ўсіх сінявокая Каця Нічыпарава.

— Здаровы, калі не жартуеце.

— А навошта нам жартаваць. Мы і так будзем вас за нос вадзіць.

— Кароткія вашыя завароткі.

— На нас, такіх-сякіх хопіць.

— А ну, папрабуйце...

Гарась падставіў свой нос.

— А ну, павадзі,—сказаў Юльцы.—Юлька ўхапіла за нос.—Ай-ай,—насьмешліва крыкнуў Гарась і, абняўшы Юльку, паваліўся з ёю на траву.

Маладыя, порсткія, дужаліся яны на траве, глядзелі ўсе і, мабыць, зайздросьцілі ім. Круглавідная, чарнявая Хадора Сёмкавых, села разам з Міколам і нешта агульнае знайшлі яны, бо ціха разгаварыліся. Тады-ж Каця схапіла шапку з Андрэевай галавы і пабегла ў гай. Бегла і са сьмехам аглядалася. Дагнаў яе ў самым гаі, паміж кустоў. Стаў адбіраць, а яна не давала і ўсё сьмяялася яму, крыху зьбянтэжанаму, у твар. І ня шапка тут віною—згары яна: сінія вочы ў Каці, гнуткае цела дзяўчыны прымушалі хлапца да зморы вадзіцца з гэтым.

— Ой, змарылася я...

— Сядзь, Каця!

Селі яны побач і яна не выпускала з рук шапкі.

Сьцямнелася... Закінуўшы назад галаву, вылівае раздумны Гарась сваю песенную душу, а хор дзяўчат падцягваў:

Каля шляху стаіць хата
Вокны маляваныя.
Вышаў мілы на вуліцу,
Кудры завіваныя
Э-эха-ха!

А каля боку сядзела ў яго Юлька і дуроннымі вочкамі глядзела на яго кудры.

Каця сказала:

— Ну, чаго ты маўчыш?

— А ты чаго?

— Ды вось слоў няма...

Андрэй узяў яе аднэй рукою і прытуліў да сваіх грудзей. Адчуваў, як падымаліся ў яе грудзі, і вочы з густымі вейкамі былі апушчаны ўніз. Андрэй упяршыню адчуў такую жаночую блізкасьць. Яшчэ бліжэй прытуліўся і са смагаю цалаваў яе, недаступную раней, дачку багатага бацькі. Белая хусьцінка на ёй, белая з палоскамі чорнымі кофта, саматканы андарак і новыя чаравікі на нагах.

— Эх, Кацька!—сказаў Андрэй і ня ўмеў гаварыць больш.

Палажыла галаву на плячо—моцнае плячо Андрэева.

— Ведаеш Андрэйка... Давай будзем любіцца з табою...

— Каця! Буду любіць, як ня ведаю што. Так буду любіць.

— Ну, глядзі-ж, не змані...—і пагразіла пальцам, засьмяялася.

Тут у іх, у бярозавым гаі, і каханьне ўзьнікла, у пару вечару, летняга, пахучага. Толькі ці доўга яно працягнецца? Слаўныя мае, вечары мае! Душа разрываецца. Гармонік зьвініць... Скачуць на ўзгорку дзяўчаты... Сьмехам заклікаюць да сябе...

Пройдзеныя вечары кудравыя.

Маладосьць сваю і кудры свае губляем, пакуль ідзем па нашых дарогах...

Так мы выходзім у жыцьцё.

Так выходзілі Андрэй з Кацяю, Гарась з Юлькаю ды адзінока ішоў з парабчанскай доляю бязродны Мікола...

## II

Як-жа Андрэй Каралёнак выходзіў у жыцьцё?

Пад Варшавай забілі бацьку Андрэявага ў часы завірушнай праклятай. Памёр ён у нейкім шпіталі. Улетку-ж прынёс стараста ліст Аўгіньні Каралёнак, дзе пісалася, што памёр бацька, Рыгор Дзямідавіч Каралёнак, геройскай сьмерцю „за веру, цара і айчыну“. І яшчэ паслаў бацька перад сьмерцю апошняе цалаваньне. Ці лёгка матцы слухаць было, ці лёгка жыць было?

Значыцца, стаў Андрэй з чатырнаццаці зялёных год гаспадаром: земляробам, касцом і ўсім, чым патрэбна быць у гаспадарцы.

— Заматаешся ты, сынок, змалку,—маці плакала звычайна, як сын садзіўся есьці, бо другім разам ня было часу плакаць.

— Перастань матка,—як вялікі, сказаў шаснаццацігадовы Андрэй і стукнуў лыжкаю аб стол.—Жыць будзем як усе людзі. Ці ня бачыш, што я справіўся з усёю работаю...

— Ды не пра тое я, а што вось цяжка табе, змарнееш ты.

— Ну-у... нічога—кінуў Андрэй...

Гэта было ў тую сінюю восень, калі сын у першы год справіўся з работаю разам з усімі. Падлічылі сын з маткаю і вышла, што хопіць сена каню і карове, хопіць бульбы, а на хлеб прыдзецца прырабіць узімку. Ужо тую восень будаваў Андрэй хлеў, навучыўся і ня дрэнна плотнічаць. Як гулялі людзі ігрышча, зрабіў Андрэй і ў сябе, як і ўсе добрыя людзі. За тое-ж і весяліўся. Сьпявалі песьні з Гарасем. Скакалі. К таму часу купіў ён сабе боты—першыя боты ў жыцьці. Пракладалася за чатыры вярсты чыгунка і Андрэй штодзень хадзіў на працу... і весела было часамі, не жалкаваўся ні нашто. Сілы хапала. Ёсьць сіла ў восемнаццаць год.

А яшчэ нейкія хаценьні былі—няясныя, нявыразныя, якія не аддзеліш ад галоўных дум аб штодзенным пражываньні, але-ж пякучыя, вострыя. Вось, здаецца, паглядзеў-бы болей яснага сьвету, чужых людзей. Але-ж, калі ня зьдзейсьніш гэтага, хвала таму задаваленьню, якое жыве ў чалавека. Андрэй быў задаволены.

І раптам даведаўся ён аб крамянасьці жаночага цела і аб ласцы дзявочага сэрца, і маляваўся гэты вобраз цудоўным, неабласканым. Не даваў ён супакою, гнаў некуды, надаваў бурлівасьці...

Вось як праходзіла восень, сказаў Мікола Вугнач хлопцам, што канчаткова ідзе ў горад.

Апошні дзень узорваў ён на зіму гаспадарскае іржышча. Коні ў Сымона Латуты гладкія, як печы, сам гаспадар гладкі і гаспадарка яго—гладкая... Што да гэтага парабку?

Чуць прабівалася сонца праз брудноту хмар, супакойна ліло некалькі цьмяных праменьняў на восенскую зямлю — пахнучую едка халодным ветрам, палыном і розным дзікім зельлем на нязораных палосах... Восенская зямля—шэрая, як дні, захутаная павучыньнем туману, восенскі вецер рэзкі і зябіць рукі; хмары гонкія ды чарнявыя, праз іх ня можа яскрава прабіцца сонца, — таму і бывае яно—сонным, нядужым. Можа таму ў гэтую пару і чалавек—спадарожнік на зямлі—заклапочаны няпрошаным, але неабходным клопатам.

Лёталі зграямі вароны ды падхопленае ветрам, кружылася залацістае кляновае і бярозавае лісьце, прынесенае з гаю.

Спыняўся, пугаўём абціраў ад лемяша зямлю, папраўляў пастронкі, стукаў па бакох коняй лейцамі, ляскаў пугаю — ды зноў ішоў, нахіліўшыся, расставіўшы ногі па бакох баразны...

— Што-ж... Чужая зямля. Чужыя коні. А дзе мая зямля? Дзе я радзіўся? Каго вінаваціць? Эх, ты, сам вінен, што радзіўся...

Памірала маці і наказвала: „Грэх мой, сынок, на табе ляжыць“. Колькі пасьля сьлёз перанёс. Ну, добра, гэта ўсё ў маленстве, ня тое будзе, як вырасьцем...

Замысьліўся так Мікола і зламаў гаспадарскі лямеш. Прыехаў і адпрог на шырокім латуцінскім двары коні, даў ім сена. Паглядзеў Латута:

— Гм... зламаўся лямеш. Стары. Перамяніць прыдзецца...

Моўчкі папалуднаваў Мікола. Знайшоў торбу, некалі даўно пашытую яшчэ нябожчыцай маткаю.

— Дзядзька, Сымон, я пайду ад вас.

— Што? Куды?

— Ды куды-небудзь.

— Куды-ж, так. Сьвет, галубок, вялікі,—дадала Сымоніха, каб адгаварыць.

— А я от і пайду ў яго.

— А што будзеш рабіць?

— Ды мая ўжо справа. Што захачу...

— Та-ак. Значыць разьлік хочаш. Добра. А чым табе дрэнна ў нас?

Змоўчаў Мікола.

Склаў у торбу свае пажыткі: двое портак, дзьве белыя кашулі, адна вышываная Хадорынай рукою, той харошай дзяўчынай, што заўсёды ласкава гаворыць, дзьве кніжкі, купленыя ім у горадзе, ручнік, зімовая шапка, некалькі газэт—і ўсе пажыткі.

— Умаўляліся мы, значыцца, пастолькі ў год на маёй харчы. Даю табе столькі з вылікам парваных пастронкаў, пары бялізны і паламанага лемяша...

— Што ты, дзядзька, здурнеў. На ўсё гэта палову пэнсіі вылічваеш.

— Што-ж, саколік мой,—Сымоніха кажа,—у гаспадарцы ўсё патрэбна.

Узяў Мікола тыя грошы, якія яму далі.

— Эх, вы, людзі, а яшчэ багатыры...

Крыўдна стала.

— Не дараваў-бы я вам, ды чорт на вас, глытайце...

Вышаў з хаты пакрыўджаны і не разьвітаўся, праслужыўшы цэлых чатыры круглыя гады—маладыя гады. Торба за плячыма, у руках кій, далёкі-далёкі прастор змаганьню. Ці мала так выхадзіла каго? Здаецца пашкадаваў-бы, ды нічога-ж не засталося і ўсё чужое. Вось яна прасекінская вуліца, брудная ўвосень, няпрыветныя хаткі — і ў кожнай жыцьцё, хто ведае якое. Там—гай, за гаем балота. (Багата наша старана балотамі і хмызьняком, а ў балотах сосны...).

Чуць не забыў зайсьці разьвітацца з лепшым таварышом—Андрэем Каралёнкам.

Хатка на тры вакны, маленькая і згорбілася, чакае падпоры. „Вось новую-б пабудаваць яму“ — падумаў. Сярод двара, чыста прыбранага, стаіць конь і есьць атаву, мабыць Андрэй нядаўна прыехаў з поля.

— Добры дзень!

Ветла адказала на прывітаньне Андрэява маці і папрасіла сядаць. З лыжкаю ў руках, адарваўшыся ад стравы, павесіла торбу яго на крук. Андрэй палуднуе. Гарась на лаўцы сядзіць, курыць махорку і боўтае нагамі. Відаць, нешта расказвае.

— Што ты такое гаварыў, Гарась?

Маці за яго адказала:

— А вось ня ладзіць усё з братам і з бацькам... А ты-ж, Міколка, куды сабраўся? Я чула, што ў горад ідзеш.

— Але-ж.

— Цяжка табе будзе, сірата?

— А тут лёгка?

— І тут нялёгка,—згадзілася матка. — Прысядзь к нам палуднаваць.

— Ды я палуднаваў...

— А ня гнушайся намі, Міколка. У дальнюю дарогу ідзеш, у невядомую.

І Андрэй стаў прасіць. Згадзіўся. Страва ня ішла ў рот.

— Эха-ха,—уздыхнуў Гарась.—Пакідаеш нас, Міколка.

— Вярнуся, хлопцы.

— Варочайся, Міколка,—папрасіў Андрэй,—варочайся.

Стаў гаварыць Міколка, захлёбваючыся, падняўшы ўгару лыжку.

— Сустрэў я нядаўна гарадзкога хлопца. Комсамолец ён. Разгаварыўся са мною. Выклаў я сваё хаценьне яму. „Прымуць, кажа, на рабфак, ідзі“. І пайду. Усё перажыву, а свайго даб'юся. За праўду стаяць буду...

— А якая-ж у цябе праўда?—пытае Гарась.

— Праўда тая, што я чалавекам хачу быць. А цяпер, які з мяне чалавек? Я сам ня лічу сябе за чалавека. Ці думаеце, дараваў-бы я Латуту грошы, якія мне не дадаў? Ніколі. А так думаеш: чорт цябе вазьмі з грашыма тваімі, падавіся ты, абжэра... Я так думаю...

— А дзе-ж мне сваю праўду знайсьці,—засьмяяўся Гарась.—Скажам, лае на мяне бацька з галавы да ног, б'ецца. Што я павінен рабіць?

— Калі ёсьць за што палаяць, няхай лае...

— От-жа няма за што.

— Давай адпор...

Вылезьлі хлопцы з застольля. Маці перахрысьцілася і пажурыла.

— Ня хрысьціцеся, ня моліцеся, дык і бог долі не дае вам за гэта...

— Калі мне доля тая патрэбна будзе, дык я перахрышчуся—пажартаваў Гарась.

— Ну, пайду,—сказаў Мікола.

— Пачакай, Міколка.

Хлопцы закурылі. Маці прынесла з клеці кавалак сала.

— Навошта вы, цётка?..—пытае Мікола і ведае, што яму прынесла. Адкуль-жа ён возьме...

— Вазьмі, Міколка, прыгадзіцца ў дарозе. Бо хто-ж цябе пашкадуе сірату...

Ніцма хацелася ўпасьці Міколу, цалаваць рукі чужой матцы, а ён адвярнуўся і забыў падзякаваць.

— Пакладу табе яшчэ акраец хлеба,—і ўсё гэта акуратненька завярнула і завязала торбу.

— Ну, бывайце цётка!..

— Бывай здаровенькі, сірата. Няхай бог дае здароўя табе, хлеба-солі, шчасьця...—пажаданьне сялянскае.

Сьлёзы на вачох.

Праводзілі хлопцы свайго таварыша далёка ў поле, за вёску. Гутарылі аб чым папала, успаміналі пройдзенае.

Брудная дарога, туман. Мокрыя бярозкі плачуць расою. На полі жоўтыя яры і ўсё хмурна...

Развіталіся хлопцы і сумнымі пашлі назад, каб кожнаму прыняцца за паложаную справу.

А Мікола Вугнач—парабак—пашоў.

— Бывай, прасекінскае поле!

Пашоў і пашоў, пакідаючы на мокрай дарозе пару шырокіх сьлядоў...

III

Сінім калядным адвячоркам Андрэй Каралёнак вывеў з пуні заінелага варанога каня к калодзяжу на вадапой. Ад таго, што мароз ядранеў і залазіў у парваны на плячы кажух, Андрэй, выцягваючы з абледзянелага зрубу вядро, ад якога ішла пара, тупаў нагамі аб лёд, каб сагрэцца. У каня між гнілаватых жоўтых зубоў тырчэла саломіна і піў ён як-бы нехаця, а ногі ў яго коўзаліся па лёдзе.

— Ну, чаму ня п'еш,—стукнуў гаспадар рукавіцаю па доўгай заблытанай грыве і пачаў насьвістваць.—А можа аўса захацеў? Ну, браток, будзеш ты есьці ў мяне адно сена...

Ён задуменна правёў яшчэ раз па жылістай шыі каня, яшчэ пасьвістаў на сумны лад і паглядзеў на заходзячае сонца. Яно як-бы запаліла пажарам цэлы край бледна-сіняга і халоднага неба. Некалькі хвілін ён заглядаўся, не заўважыўшы, што конь перастаў піць ды ірваўся ў пуню. На вуліцы скрыпелі падмарожаныя дзесяткі лапцей, пілікаў гармонік. Надыходзіў калядны вечар і людзі зьбіраліся гуляць.

— Андрэй!—агукнулі яго, тады ён адвярнуўся і ўбачыў перад сабою падфарбаваны марозам чырвоны твар з усьмешкаю і жывыя, так знаёмыя вочы.

— Куды ты, Каця, ідзеш?

— Гуляць.

— А дзе сёньня гуляюць?

— Ды ў Дзямянавых. Хочаш, разам пойдзем.

Яна бадзёра кіўнула ў бок вёскі.

Ён сказаў:

— Яшчэ з гаспадаркаю няўправіўся.

— Эх ты, бязвусы гаспадар,—пачала яна, як і заўсёды, кпіць над ім.—Гаспадарка ўжо ў яго. Хоць-бы не фарсіў дужа. Ну, які ты гаспадар к чорту?!

— Які ня ёсьць, але гаспадар,—сказаў ён з усьмешкаю і гордасьцю перад дзяўчынаю.

— Кінь ты фанабэрыцца!

Пашла яна. Андрэй крыкнуў наўздагон.

— Дык слухай, Каця, я прыду. Чуеш?

— А па мне хоць і ня прыходзь.

Пашла, але назад аглядалася.

Зачыніўшы ў пуні каня і даўшы яму сена, стаў сеч дровы к заўтрашняму дню.

„Жартуеш ты: „па мне хоць і ня прыходзь". Я думаю ня ўсё роўна— прыду ці не. Чаго-ж ты спынілася—ішла-б сабе дарогаю. Эха-ха!"

Андрэю стала нялюба, што яна ўсюды, дзе толькі быў момант для гэтага, старалася падкалоць. І гразіўся ўжо біць, а нічога не памагае. Часамі ён думаў: навошта зьвязаўся з ёю? Хіба другіх дзяўчат ня было? Мусіць-жа ня было, калі так вышла. Ды ён-жа не навязваўся, яна-ж быццам сама захацела.

Ад самага таго часу, як завязалася ў іх гэта, гулялі; яна насьміхалася, абнімалася на вачох з другімі.

— Паб'ю я цябе некалі,—папярэджваў Андрэй.

— Рукі кароткі,—заўсёды адказвала яна.

— Ты мяне кахаеш?..

— Ну...

— Дык чаго ты з другімі.

— А табе што за справа?

Андрэй так і ня ведаў добра—ці сапраўды яна кахае яго. Ад гэтага часамі рабіўся злосным і дужа хацелася яе пабіць, а ня сьмеў...

Пакуль ён насек дроў, зусім прышоў вечар і пара ўжо было ісьці на вячоркі да Дзямянавых.

„Трэба надзець боты і пайсьці,—рашыў ён.

У хаце каля цёплай печы сядзела маці, сашчапіўшы на грудзёх рукі і вяла такую гутарку з суседкаю.

— Як памёр мой нябожчык, дык некаму, кумачка мая, працаваць...

— Але-ж, але, кумачка,—салодзенька адказвала суседка.

— І кажу я свайму Андрэйку; жаніся ты ўжо, дзякаваць богу—дваццаты гадок, дакуль-жа я ўсё сама буду...

— Пара, ужо, кумачка, пара...

— А ён ня хоча, спраўлюся кажа... Яно-то і пачакаць можна было-б, ды справа-ж не стаіць.

— Не стаіць, не стаіць, кумачка.

Андрэй надзеўся ў новыя боты, прымасьліў валасы перад кавалкам люстэрка.

— Ты-ж хоць не пазьніся Андрэйка.

Андрэй нешта прамармытаў скрозь зубы і, стукнуўшы скрыпучымі дзьвярыма, вышаў на вуліцу.

„Ну, чым я не гаспадар," — думаў хлапец на лёгкім марозным паветры.

Было так ціха і ня было мяцеліцы. Хлебным духам пахла з хат і дзені-дзе курыўся дым: паліліся грубкі, каб сагрэцца людзям у калядны марозны вечар.

А ў прасторнай і новай хаце Дзямянавых вячоркі сама разгуляліся. Уся моладзь не магла зьмясьціцца ў хаце, стаялі натоўпам у сенцах, перашэптваліся з дзяўчатамі, голасна гаварылі, нічога нельга было разабраць і на ўсю сілу рагаталі ад якога-небудзь трапнага жарту. За махорачным дымам жоўтая лямпа пад самай стольлю здавалася плямай. Падлеткі-хлапчукі бегалі пад вокнамі, сьпявалі прыпеўкі і як мага стараліся ўбіцца ў хату, каб хоць адным вокам зірнуць на гульні і скокі.

Андрэй Каралёнак праціснуўся праз натоўп на сярэдзіну хаты. На невялічкім кругу, які жывой сьцяною аддзяляўся гледачамі, некалькі пар заўзята скакалі новамодную „польку“. У пары з Кацяю ішоў хлапец па мянушцы Грыбач, няскладны і з расьсечанай верхняй губою. Ён, відаць быў падвыпіўшы, бо з усёй сілы тармашыў і кідаў у бакі чырвоную і распацелую Кацю. Заўважыўшы Андрэя, яна падміргнула вачыма і яшчэ больш заўзята пашла скакаць. Гэтым яна быццам рабіла закід. У Андрэя зьявілася яшчэ большая злосьць, калі Грыбач схапіў яе ў ахапак і пасадзіў на лаўцы, сам сеў побач з ёю, нізка нагінаўся к яе вуху Каця толькі сьмяялася. Андрэю зрабілася крыўдна; яму хацелася падыйсьці да Грыбача, узяць яго за карак і пусьціць па хаце да дзьвярэй, але ня было сьмеласьці.

Шырока расьцягваючы гармонік, няпэўнай паходкаю да Андрэя падышоў гарманісты Гарась. Шапка ў яго чуць трымалася на патыліцы, а на лоб насунуліся валасы; трошкі падняўшы правае плячо ўверх, разам з правай брывою, ён шапнуў Андрэю на вуха:

— Бачыш, што робіць Грыбач?

— Чорт яго бяры... А ёй я не дарую...

— Хадзем, я табе нешта скажу.

Гарась аддаў гармонік Уласаваму Сымону, абняў за плечы Андрэя, яны вышлі з хаты. Пашлі па вуліцы. У сенцах пачулі, як нейкая дзяўчына сказала:

— Каця ня любіць Каралёнка... Бачыш, якабнімае яе Грыбач...

— Свалата!—адказаў на гэта Андрэй.

— Андрэйка,—гаварыў Гарась, ты ня вер, яй-права яна да чорта любіць цябе, толькі, ведаеш, баіцца, каб ня кінуў, дык яна і паддае табе жару... Яна дзеўка такая—яй-права. А Грыбачу дай па шапцы,— няхай ня лезе, гад.

— Вернемся назад. Куды мы пойдзем?

— Зайдзем, браток, да мяне. У мяне ёсьць... выпіць...

У хаце Андрэй паставіў на стол поўпляшкі адгону, а яго маці прынесла на закуску сала.

— Вы толькі хоць ня бецеся там,—папрасіла маці.

— Ты ня бойся, цябе чапаць ня будзем,—сьмехам адказаў матцы Гарась.

Выпілі па аднэй чарцы, па другой. І хмель абуяў Андрэеву галаву. Гарасевы словы аб тым, каб правучыць гэту свалату, Грыбача, Андрэй прыняў так:

— Што свалата, дык я ведаю, а што вучыць яго, дык ня буду. Ня люблю я гэтага. Калі ўжо сам зачэпіцца, тады маху ня дам, трымайся...

— Але-ж крыўдна, братка. Ты-ж мне найлепшы таварыш...

— Сягоньня скажу ёй рашуча. Хочаш, дык хочаш, а не, дык не. А за нос я не дапушчу вадзіць. Я, браток, хачу па добраму, не хачу буяніць.

Пагаварылі аб дзяўчатах, аб Грыбачу, закурылі Гарасевых папярос, трэцяга сорту, купленых спэцыяльна для сьвята і пашлі на вячоркі. Там так-жа ня спынялася гульня. Толькі селі на лаўку, Грыбач пашаптаўся ў натоўпе з адным хлопцам, потым падышоў да Гарася і, працягваючы руку, груба сказаў:

— Дай папяросу...

— Няма.

— А ты-ж курыш.

— Куру свае...

Грыбач нагнуўся к Гарасю і, дыхнуўшы яму ў твар, прыгразіў:

— Гады! Згаворвацца супроць мяне хадзілі... Я гэта ведаю...

І раптам зрабіў два крокі да Ўласавага Сымона; схапіў у яго з рук гармонік.

— Я граць буду...

Сымон стаў вырываць. Тады Грыбач падняў абедзьвюма рукамі расьцягнуты гармонік і апусьціў з размаху на стрыжаную галаву Сымона. Гармонік заскрыпеў, а Сымон прысеў к падлозе. Зараз-жа дзяўчаты паднялі піск, сталі выбягаць вон. Нехта крыкнуў некаму, каб „не даваў маху"...

Гарась рассунуў людзей і, стаўшы перад грозным Грыбачом, крыкнуў:

— Мой гармонік!..

Грыбач шалёна размахнуўся і стукнуў гармонікам па самай патыліцы, ажно зьляцела шапка з галавы; гармонік слаба дзынкнуў, планкі і галасы захрыпелі.

Тады Андрэй Каралёнак неяк павольна, але ўпэўнена, з зубным скрыгатам, адвёў правы, моцна сьціснуты кулак раз і другі—пад самыя грудзі Грыбача. Апошні не ўстаяў і паваліўся; яго падхапіў ужо на падлозе нехта з хлапцоў.

Пад самай стольлю захісталася лямпа і пачала тухнуць. Стала ціхая і жудасная хвіліна. Грыбач вінавата ўстаў і асалавелымі вачыма агледзеў зоркія, агнём запалёныя вочы; ён у іх не знаходзіў апраўданьня, але ўсё-ж ткі спытаў, сплёўваючы і адвярнуўшыся ў бок:

— За што ён мяне?

Ніхто яму не адказаў.

Сказаў сам Андрэй Каралёнак, на якога са зьдзіўленьнем глядзелі ўтаропленыя вочы:

— За ўсё разам...

Патухла лямпа, а моладзь кінулася ў дзьверы. Гарась узяў Андрэя пад руку. Пад пахаю ён нёс пабіты гармонік. На дварэ перад імі расступіліся. Яны ішлі моўчкі да вугла, пакуль адтуль ня вышла Каця. Андрэй нібы не заўважыў яе. Каця дагнала іх і пашла побач. Тады Андрэй чакаў, пакуль яна першая загаворыць.

І яна зьдзіўлена сказала:

— Як гэта ты яго моцна...

— А няхай ня лезе...

— Праўда. Навошта ён першы пачынаў. Гуляў-бы сабе спакойна...

Андрэй плюнуў на сьнег і павярнуўся да яе:

— Юрыш ты, дзеўка!

— Хто, я?

— Ня ведаеш...

— Не?

Гарась угледзеў спрэчку і, каб разагнаць яе, прабаваў заграць. Галасы хрыпелі, а мех у адным месцы быў парваны. Не задаволены гэтым, быў засьпяваў прыпеўку пра дзяўчат, але і тут абарваўся.

Тады ён разьвітаўся і пашоў дахаты...

Вёска зусім спала. У адным месцы рыпалі вароты, прыціснуты падваротняю заяхкаў сабака. З поўначы стала адліга і пачынала мітусіцца мяцеліца.

Андрэй быў злосны на Кацю. Насупіўшыся, ішоў побач з ёю. Яна здавалася яму чужою. Але нешта было асаблівае, што не давала жорстка абыйсьціся з ёю... Вось ішла яна поплеч з ім—такая-ж любая, адданая і далёкая.

— Слухай, Каця,—пачаў ён сумна,—не хачу, каб так было, як робіш. Навошта табе цягацца з другімі...

— Андрэйка!

Ён пачуў, але ня спыняў сваёй гутаркі. Неяк раптам перайшоў на гаспадарку. Расказваў пра тое, як ён сам пабудаваў новы двор і сяніцу, накасіў сена ня менш за другіх. Ён хоча жыць і будзе жыць, а яна як сабе хоча...

Падышлі да самых варот Кацінага двара, сталі. Яна ўзяла Андрэеву руку.

— Ты думаеш; Андрэй, што я цябе не кахаю... Каб ты ведаў як, з другімі я жартую, а з табою не магу...

У Андрэя невядомая смага і слодыч разьліліся па целе. Ён прыхінуўся да яе гарачых грудзей, яна лёгка адпіхнула яго.

— Каця...

— Што?

— Хочаш... прыду к табе ў сваты... заўтра-ж, бо не магу без цябе... разумееш, не магу...

Яна прытупіла вочы і наском чаравіка разграбала крупчасты сьнег. Сьнег заляпіў іх. Падала густая мяцеліца.

— Можа яшчэ бацька не аддасьць?

— Як гэта не аддасьць. Каця! Прыду заўтра...

Яна засьмяялася і сказала ціханька:

— Прыходзь!..

Андрэй абхапіў дзяўчыну, стаў палка цалаваць гарачы і мокры твар.

А ў гэты час пад павецьцю прасьпяваў певень.

## IV

Увесь пройдзены дзень Андрэй хадзіў пусты і стомлены; адчуваў, што нечага не хапала. К таму-ж у гэтыя калядныя дні ніхто нічога не рабіў, а аднаму не хацелася брацца за якую-небудзь работу. Матка даведалася аб учарашняй бойцы сына з Грыбачом. Яна ня стала журыць, як думаў Андрэй, толькі папрасіла:

— Жаніўся-б ты ўжо, сынок...

І калі Андрэй нічога не сказаў, яна яшчэ больш сумна стала прасіць.

— Цяжка мне аднэй... А буйства ў цябе гэтае ад маладосьці... Паслухайся мяне сынок...

— Эх, перастань ты ўжо хныкаць... Галава ў мяне баліць...

Вышаў на вуліцу, дзе абдало яго ядраным марозным паветрам. Стаяў сярод вуліцы і ня ведаў куды ісьці. Потым усё-ж пашоў на вуліцу. І спадабаўся яму скрып мяккага сьнегу пад новымі ботамі. Мімаходам завярнуў к Гарасю. Нізка прыгнуўшы сьпіну, аж прыліпла к сьпіне кашуля, Гарась ладзіў пал:маны ўчора гармонік і лаяў учарашнія вячоркі і Грыбача. Далей, як і заўсёды стаў жартаваць і пасьвістваць, што ажно разьвесяліў Андрэя.

Яны смачна курылі папяросы, недакураныя ўчора, з-за якіх вышла ўся бяда. Моцна напрацаваўшыся, Гарась разьняў сьпіну і з трэскам у суставах заламаў рукі...

— Ґатова,—сказаў ён на гармонік.—Папрабую граць, каб на яго ліха.

Стаў сярод хаты, закінуў назад русую галаву, удала прытопнуў нагою і расьцягнуў гармонік. Разьліў па хаце глухія і звонкія зыкі.

— Добра, ліха на яго!

Ад задавальненьня ён разявіў рот у шырокую ўхмылку, сеў побач з Андрэем і ласкава пахлопаў па плячы.

— Як, Андрэйка, думаеш? Плюй на ўсё, брат. Каця-ж згодна. Вось і пойдзем сёньня. Нечага адкладаць справу ў доўгі мех...

Андрэй пакрывіўся.

— Яно і праўда... Не магу болей жыць... Будзь у мяне сватам, Гарась.

— Ну, ня маніш? Яй-права пойдзем. Каб ты згарэў. Давай паедзем лепш, форсу больш. Запражы каня, дык мы так пракацім, што толькі трымайся...

Узрадаваны Гарась дастаў бутэльку адгону. Андрэй схадзіў дахаты і падрыхтаваў што трэба. Даведаўшыся аб усім, маці сама стала бегаць і клапаціцца...

А марозны калядны вечар глядзеў у вокны.

З гармонікам цераз плячо ўваліўся ў хату Гарась. Беражліва паставіў гармонік на паліцу і ўсё дзівіўся на яго бліскучыя клапаны.

— Ну, паграю-ж на тваім вясельлі, Андрэйка.

— Дай бог, дзеткі, каб гэта адбылося,—просіць маці.

— Ты ўжо, браце, пастарайся.

— Ды як яшчэ пастараюся—ха-ха-ха! Выхадзі, родная—і ўсё...

Андрэй хутка запрог каня і падаслаў у санях на сене пасьцілку.

Маці незадаволена адвяла ў бок сына.

— Людзі добрыя бяруць сватоў старых. Паважней яно выходзіць. Круцялю такому, як Гарась, не павераць яшчэ. А Нічыпар-жа чалавек стары. Ня любіць ён, калі што якое.

— Ах, кінь ты, маці!

Андрэй узяў у рукі вяровачныя лейцы, сярдзіта шмаргануў імі, і конь падняў галаву кверху. А Гарась выцягнуў ногі на пасьцілцы, поўны адказнасьці за выпаўненьне такіх абавязкаў, як быць сватам. Сані скрыгнуліся, разануліся з размаху ў сьнег. Андрэй хлестануў каня пугаю, той замахаў грываю—і паляцелі сані. Загойкаў ад радасьці Гарась... А маці засталася каля варот, схіліўшы галаву. І аб чым яна думала тады?

Праз некалькі хвілін язды хлопцы пад'ехалі выганам к хаце Нічыпара. Пакінулі за вуглом каня, далі яму сена. У сенцах Гарась падцісьнуў пояс і адкашляўся. А Андрэя затрымала Каця.

— Ну,—спытаў Андрэй,—ты можа гаварыла з бацькам.

— Ой, і не кажы. Як даведаўся, што ты прыдзеш, стаў крычаць, матку пабіў...

— А ты... хочаш ісьці?

— Я-ж казала табе ўчора...

І Андрэй нагнуўся, нешта шапнуў так ціха дзяўчыне, што Гарась недачуў.

Увайшлі ў хату разам. На прывітаньне Нічыпар не адказаў, толькі з печы буркнуў голас Нічыпарыхі. Ад няёмкасьці хлопцы селі на лаўку без запросін...

Гарась ведаў, што сват павінен быць вясёлым, разгаворчывым, а не, і сват—ня сват. Але як тут дагадзіць Нічыпару?

Перш ён думаў узяць жартамі: пахлопаў па кішэні, дзе ляжала бутэлька самагону, і падміргнуў Андрэю. Тут Нічыпар яшчэ больш нахмурыўся, адвярнуўся ў другі бок.

— Ну, як, дзядзька Нічыпар, пажываеш?

І ўжо засьмяяўся і хацеў пахлопаць яго па плячы, але-ж сьцяміў у самы час...

Гарась вадзіў па хаце вачыма, хацеў знайсьці яскравую прычэпку для гутаркі. Пад палом ляжаў цэлы груд бульбы.

„Загавару пра бульбу гэту акаянную“,—рашыў ён.

І загаварыў:

— Як у вас бульбы сёлета—шмат урадзілася?—зноў ніхто не адказаў і Гарась губіў ужо вартасьць свата.

— А ў нас, дык памёрзла... гнілая, трасца на яе...

Адказала з печы Нічыпарыха:

— Ня так шмат, але трохі накапалі.

Узрадаваны Гарась заезьдзіў на лаўцы.

— От-жа і я пра гэта... пра бульбу... не ўрадзілася, значыць, і ў вас...

— А навошта бульба табе?—нарэшце выказаўся хмуры Нічыпар і пашчыпаў пальцамі рэдзенькую сівую бародку.—Ці-ж ты аб ёй клапоцішся?

— Дзядзька Нічыпар, я-ж і кажу, што бульба ў гаспадарцы, калі яна не памерзьне, прыбытак вялікі...

— А калі памерзьне?—запытаў Нічыпар, каб зьбіць з панталыку хлапца, і стаў вытрасаць самасейку.

— Правільна. Што правільна, тое ня грэх. Калі памерзьне, тады ўжо толькі сьвіней карміць. Салодкай робіцца... Закуры дзядзька мае махоркі.

Нічыпар мажа-б і ня ўзяў, але акурат самасейкі не хапіла. Ён моўчкі ўзяў і закурыў. Тады ў яго на сэрцы як-бы адлягло, і ён па-прыяцельску запытаў у Гарася, калі той пойдзе рэзаць дровы ў казну, бо і ён сам хацеў-бы хоць некалькі дзён пахадзіць—зарабіць грошай. Гарась абяцаў узяць у сваю кампанію, што пойдзе на тым тыдні.

Прышла ў хату Каця і села каля Андрэя. Шэптам гаварылі між сабой.

Гарась паставіў на стол кварту адгону.

— Што, дзядзька, мажа вып‘ем?

— Нічога ня выйдзе,—прабурчэў Нічыпар.

— Чаму-ж так?

— Сказана—ня выйдзе. Не аддам Каці. Вунь за яе сватаюцца не такія, як вы галаштаньнікі. Багачы.

— Што там багачы... Старое гэта, дзядзька.

Тады Нічыпар абурыўся.

— А як-жа ён будзе жыць, га? Конь ды карова. Ня буду піць...

— А жывуць-жа неяк людзі,—падала з печы свой сумны голас Нічыпарыха.

— А калі яна сама згодна?

— Усёроўна ня выйдзе. Ці я дзеля таго гадаваў яе? Усё пановаму хочаце, трасца вашай матары.

— Ты-б можа, тата, ня крычаў, бо яны прышлі, як і ўсе добрыя людзі,—упрошвала дачка.

— Ага,—дык ты за іх. Вон з мае хаты. Каб твайго і сьледу тут ня было, распусьніца...

Нічыпар кінуўся к дачцы і стаў тармашыць яе. Нічыпарыха стала ўпрошваць раззлаванага бацьку, а Гарась трымаў яе за рукі...

Каця накінула на плечы кажух і, спалоханая, выскачыла за дзьверы (ведала, калі бацька пачне біць, дык не пашкадуе). Андрэй у сенцах да яе:

— Ня бойся, Каця,—і ўзяўшы за руку,—хадзем са мною.

Пасадзіў яе на сані, сьцебануў лейцамі каня...

У хаце падняўся гвалт. Кумельгам выкаціўся адтуль Гарась, дагнаў на дарозе і з размаху паваліўся на сані. Запыхаўшыся, крыкнуў:

— Гэй, гані, не дагоніць. Самагон, каб на яго ліха, забыў на стале. Але няхай стары з гора пажывіцца.

Ноч цёмная. Адна дарога віднеецца белая, як палатном усланая. Конь бяжыць шпарка. А Гарась яшчэ больш гнаў.

Андрэй абняў Кацю і трымаў, каб ня вываліцца. І яму здавалася, што нікому не аддаў-бы яе цяпер. У пасторах, у подскаках саней чулася раздольнае, шырокае...

— Ты ня будзеш сумаваць па сваёй хаце?—у самае вуха шаптаў.

— Не...

— Ну, от-жа... Кахаеш мяне?

— Дужа... дужа.

І зялёныя, і сінія, і чорныя—каляровыя ночы—растапляюцца ў маладосьці...

Вось яны ўвайшлі ў хату. Маці чакала сына і не гасіла лямпы. Сын скінуў шапку і сказаў:

— Маці, я прывёз сабе маладуху.

— А божа-ж мой,—крыкнула яна,—як-жа гэта?

І пачула маці нядобрае. Паглядзела на сына і на маладуху. Потым уздыхнула, пагладзіла нявесткіну руку і ветла папрасіла:

— Садзіся, Каця.

Усе маўчалі. Доўга маўчалі. Бо зьявілася нешта і раптам парушыла ўсё жыцьцё, Здавалася, будуць увесь век маўчаць...

Знайшоўся адзін Гарась: ён дастаў з паліцы гармонік, прыгнуў да яго галаву і зайграў; перш ціха, потым усё мацней. І граў ён, быццам, для самога сябе, і разам думка была: разьвесяліць гэтых людзей. Звонкія гукі прыцягнулі да вокан дзяўчат і хлопцаў. Потым усе прышлі ў хату.

А Гарась прыпяваў, тупаў нагамі, ківаў і закідаў назад галаву, ажно пот ліў з ілба...

Людзі паскакалі, пагаманілі і разышліся.

— Рад за цябе, братка мой, яй-права рад,—сьмяяўся Гарась, вышаў з хаты разам з другімі, не перастаючы грацъ на вуліцы—такі ўжо характар у чалавека.

Пагаварыла новая сям'я пра гаспадарскае, і маці са старымі касьцямі палезла на печ, а маладуха слала пасьцель...

І думала старая аб сваёй маладой нявестцы і аб сыне—аб іх абодвых—і аб тым, як знаходзяць людзі адзін аднаго. Думала старая і запамятала аб шчасьці маладых.

А яно прышло ў тую ноч і няпрыкметна пасялілася ў кутку. І будзе яно да тых пор, пакуль самі людзі ня выганяць яго, як няпрошаную госьцю.

Так яно і будзе...

# АРХАНГЕЛЫ З КРЭСАУ

**Васіль Сташэўскі**

## АКТ І

АСОБЫ:

Аркадзь Шпак—малады прыгожы вясковы хлапец.

Мікісь Галачка—малады вясковы хлапец, нізкага прызёмістага росту, жвавы.

Уладзік—малады вясковы хлапец, высокага росту, не асабліва зграбны.

Гэлька, Ганя — маладыя дзяўчаты.

Зінка—дзяўчынка падлетак.

Тарас—мужчына сярэдніх гадоў.

Адам—таксама, вышэйшы ростам.

Заўзенты—асаднік, нізкаватага росту, рыжаваты.

Пілiп—здаровы, складны хлапец.

*Дзея адбываецца з краю лесу. Хлопцы, дзяўчаты, мужчыны прывялі ў нядзельку пасьвіць коні. З правага ці левага боку выходзіць Аркадзь.*

Аркадзь *(на плячах гонька-посьцілка, аброць. Паглядзеў наўкола. Ён выбірае месца, дзе сесьці. Пасьля павярнуўся ў той бок, адкуль прышоў, і гукае).* Хлопцы! гэй, там, хлопцы! Чуеце?

Голас. Ну, што? Чуем!

Аркадзь. Валі сюды! Тут будзе лепш.

Голас. Што-о?

Аркадзь. Сюды, кажу, ідзеце, тут такі ўзгорачак і коні ўсе відаць. Што? *(Прыслухоўваецца).*

Голас дзяўчыны. Ты сюды ідзі, Аркадзь, мы да цябе ня пойдзем.

Аркадзь. Што яна там пішчыць? *(Пашоў).*

*(І далей чуваць голас:* „Ну, што вы выбралі голае нейкае куп'ё".

*(З другога боку паказваецца асаднік Заўзенты).*

Заўзенты *(за плячыма стрэльба. Паціху выходзіць і ўважна глядзіць у той бок, куды пашоў Аркадзь. Пасьля апускае руку ў кішэню, нібы мерыцца выняць рэвольвэр, і дастае папяроску).* Бандыцкае насеньне! *(Прыкурвае, углядаецца і падсмальвае вусы).*

Цьфу, цьфу, ты, халера! У вусы ткнуў сярнічку. *(Атрэпвае пальцамі вусы. Чуваць гамон хлапцоў і дзяўчат).* Ага, ага, ідуць сюды. *(Папраўляе стрэльбу, адыходзіць назад, натыкаецца на пянчук і задам падае.*

*Ускаквае, трымаецца аднэю рукою за стрэльбу, а другою—за зад).* Ой, добра, што ня выстраліла. *(Хутка адыходзіць).*

Голас *(за сцэнаю).* Ну, дзе той твой узгорак?

Аркадзь. Ды вось-жа, ён тут.

*(З гоманам выходзяць хлопцы, дзяўчаты, мужчыны, падлеткі, усяго чалавек 10—12).*

Гэлька. Ну, і аблюбаваў-жа месца!

Галасы: І я скажу.

А чым дрэнна?

Ды ўсёроўна!

А ці відаць усе коні?

Аркадзь. Бачыце-ж, усе на віду. Кладзі аброці!

Мікісь. Я тут. *(Хоча класьці гоньку).*

Аркадзь. Пачакай!

Мікісь. Чаго?

Аркадзь *(да Гэлькі).* Гэты яловы кусьцік для нашае кралі Галены.

Мікісь. Ого! Гэп-чхі! Каралева! Каралева!

Гэлька. Чаго ты дзярэшся, шарачковы кароль?

Голас. Шарачковы... ха-ха-ха!

Мікісь. Калі ласка, каралева Галена—пад кусьцік, толькі асьцярожна, каб часам там сёе-тое... *(Усе сьмяюцца).*

Аркадзь. Што, дзе? *(Прыглядаецца пад куст).* Но, но, дудкі. Усё ў парадку. *(Усе сьмяюцца).*

Тарас. І хіцер-жа ён, гэты Мікісь.

Адам. І спрыцен!

Аркадзь *(разаслаў гоньку).* Дзяўчата, садзецеся сюды!

Мікісь *(хутка расьсьцілае сваю гоньку побач).* Правільна, сюды, у комунію.

Тарас. Во, бач, у момант прымайстраваўся.

Гэлька. Мы і ня думаем там садзіцца.

Мікісь. А ну, Уладзік, пацісьні іх адтуль.

Дзяўчаты. Ну, ну, мы цябе пацісьнем!

*(Уладзік пачынае падпіхаць дзяўчат да разасланых гонек. Яны ўпіраюцца).*

Тарас. Ну, ну, хто каго?

Мікісь. Уладзік, не паддайся! Націсьці, націсьні!

Гэлька *(адпіхаючыся).* Не націсьнеш! *(Сьмяюцца).*

Тарас. А Ўладзік здае, хе-хе-хе!

Уладзік. Нічога падобнага. *(Бярэ Гэльку ўпол і нясе, яна трапеча нагамі).* Во як я яе. *(Паднёс Гэльку да Аркадзя і Мікіся і паставіў. Пасьля падпіхае і іншых дзяўчат).*

Гэлька. А ну цябе!

Мікісь *(да Ўладзіка).* Эх, ты, нязграбнасьць! Нясе каралеву, нібы шула ў ямку.

Уладзік. А як-жа?

Мікісь. А вось так! *(Хапае праваю рукою яе ўпол, а леваю пад калені, закруціў, пацалаваў у шчаку).*

Адам. Бачыў ты яго! *(Усе сьмяюцца).*

Гэлька *(вырваўшыся, замахнулася на Мікіся аброцьцю).* Ах, ты, карантыш! *(Мікісь шмыгнуў між ёю і Аркадзем. Замахнуўшыся, яна ўдарыла не па ім, а па Аркадзю. Усе рагочуць).*

Аркадзь. Ты гэта што?

Гэлька. Няўжо гэта я цябе выцела? Даруй, Аркадзік, я не хацела.

Аркадзь. А я хацеў?

Мікісь *(адбегшыся).* Хоць і не хацеў, але табе ня шкодзіць. Праўда? *(Усе сьмяюцца).*

Адам *(сьмяючыся).* Такімі цуглямі гвазданула.

Мікісь. Глянь, Гэлька, ты так стукнула па Аркадзю, што вунь цуглі трэснулі.

Аркадзь. Ах ты яшчэ будзеш вышчарацца? *(Бяжыць за ім, Мікісь уцякае, абодва хаваюцца за сцэнай. Усе глядзяць, ці дагоніць Аркадзь).*

Галасы: Во паджгалі...

Як зайцы!

Тарас. Ды дзе яго дагоніш?..

Ганя. А мо' і дагоніць?

Зінка. Даганяе, даганяе!

Адам. Гоп! праз пень!

Уладзік. Лаві, лаві!

Тарас. Ня зловіць!

Зінка. Вой, ловіць, ловіць!

Усе. Ага, але, во, во...

Усе. Ах, выкруціўся!

Адам. Спрыцен!

Уладзік. А я злавіў-бы.

Тарас. Не, і ня думай!

Зінка. Сюды, хутчэй, хутчэй!

*(Выбягае Мікісь).*

Мікісь. Мір, мір, Аркадзь!

Аркадзь *(выходзіць).* Вось і цябе прыміру. *(Наступае. Мікісь бегае, хаваючыся за хлопцаў і дзяўчат).*

Мікісь *(выстаўляе руку)* Мір, Аркадзь! *(Прыгнуўся).*

Аркадзь *(падняў кулак).* Вось я разок адмераю і тады мір. *(Спачатку апускае кулак, а пасьля раптам).* А ну, закурым! Гані свайго!

Мікісь. Закурыць? Калі ласка! *(Да Ўладзіка).* Уладзік, сып паперу!

Аркадзь. Ды папера ёсьць. *(Дастае).*

Мікісь. Ага, добра. Уладзік, сып махоркі!

Гэлька. Во, сыпле.

Аркадзь *(бярэ Мікіся за каўнер).* Даставай сваю, што ты выкручваешся, бачыш ты яго.

Мікісь *(паглядзеў на ўсіх).* Прыдзецца дастаць.

Усе *(сьмяюцца).* Прыдзецца, прыдзецца.

Мікісь. Дастаю! *(Дастае).*

Гэлька. Пойдзем, дзяўчата, у жыта, нарвем валошак!

Ганя. Во гэта добра. Пільнуйце і нашых коняй, а мы пойдзем далёка-далёка...

Аркадзь. Пачакайце, мы вось закурым і пойдзем разам.

Гэлька. Абыдзецца і бяз вас. Сядзеце тут і пільнуйце коняй. Мы прыдзем, тады можаце сабе і вы пайсьці.

Уладзік. І вы бяз нас пойдзеце ў жыта?

Гэлька. Цябе, Уладзік, мы паклічам.

Уладзік. Што мяне? Усіх нас, тады будзе інтэрас, а то што аднаго? Праўда, хлопцы?

Аркадзь. Малайчына, Уладзік, трымай кампанію!

Мікісь *(падыходзіць да Ўладзіка, дае яму руку).* Уладзік! Руку! *(Уладзік дае. Мікісь трасучы).* Дзякую за калетывізму! Альбо ўсе— альбо ніводзін. *(Мяняе тон).* Апрача мяне.

Усе. О-о-о, які ён!

Уладзік. Гэта такая твая калетывіза?

Гэлька. Пойдзем, дзяўчата! *(Пашлі).*

Мікісь. Я так думаю, што няхай яны адны пройдуцца. Мо' ім так і трэба. *(Крычыць да дзяўчат).* Дзяўчата, глядзеце-ж, не нарвецеся на русалку. Адна тут недзе ходзіць!

Голас дзяўчат. Няхай сабе! Мы скажам, каб ішла да вас.

Мікісь. Ведаеце што, хлопцы, крыху счакаўшы, як яны зойдуць у жыта, мы пройдзем паўз край лесу. Я забягу наперад, увайду ў жыта, разьдзенуся, зусім голым буду.

*(Чуваць, як дзяўчата пяюць жніўную—ці іншую песьню).*

Уладзік *(засьмяяўся).* Гы-гы-гы!

Аркадзь. Ну, і што?

Мікісь. І буду так *(паказвае рукамі)* як-бы плысьці да іх і тоненька так—ува-а, ува-а!

Аркадзь. Зусім голы?

Мікісь. Ну, сёе-тое прыдзецца закрыць, а ў валасы, на галаве, наўтыкаю сухое травы, быльніку, каб страшней было.

Тарас. Ну, так сапраўды можна напалохаць.

Адам. Дык дзіва, калі спрэс голы.

Мікісь. Нічога, тут-жа будуць блізка хлопцы, дык яны да іх прыбягуць.

Аркадзь. А што, калі яны ня спужаюцца, а, пазнаўшы цябе, возьмуць у пераплёт, як ты тады будзеш плаваць?

Тарас. Ага, ці знойдзеш тады свае порткі і кашулю?

Мікісь *(памаўчаўшы)*. Ну, дык я-ж ні Аркадзь. Гэта-ж ён бяз шапкі і ботаў пёр ад Булавінскага Юзэфы. *(Уладзік і іншыя голасна сьмяюцца)*.

Аркадзь. Пад'ехаў, чарцяка. Сьмейцеся сабе, а мне што? Назаўтра былі дастаўлены і шапка, і боты.

Мікісь. Ну, дык Юзэфа-ж пастаралася. Эх, і любіць яна, мусіць, цябе?

Уладзік. А чаму ёй ня любіць?

Тарас. Ага, праўду кажаш—чаму ёй ня любіць?

Мікісь. Слухай, Аркадзь, раскажы, як там у цябе вышла, што гэта ты ранічкаю джгаў?

Аркадзь. Якою ранічкаю? Што ты вярзеш?

Мікісь. Ну, так пад раніцу, ды гэта няважна. Скажы, як яна да цябе хілілася?

Уладзік. Гы-гы!

Мікісь *(да Ўладзіка)*. Ты пачакай сьмяяцца. Вось няхай раскажа, тады ўсім будзе сьмешна. *(Да Аркадзя)*. Ну, пачынай.

Аркадзь. Нічога я не пачну, бо няма аб чым гутарыць, мала якое там глупства было.

Мікісь *(да ўсіх)*. Чуеце—было! Маладзец, Аркадзь! Падстаўляеш ножку Булавінскаму.

Уладзік. Значыць, і Булавінскі яе кахае, калі нэрвуецца.

Тарас. А, пустое яго каханьне, калі ўжо каторы год з раматусам ці якою трасцаю дыльгае.

Адам. Ён і не стары, але для ее слабаваты. Як мне здаецца, дык яна з ім нічога такога ня мае, але каб браў замуж, дык, мусіць, не адмовілася-б.

Тарас. Глядзі, мо' яна на гэта і меціць, каб увабраць фальбарачак.

Адам. То-ж, бо то.

Мікісь. Ня сьпі ў шапку, Аркадзь! Падагрэй шляхціца, няхай ажэніцца з ёю, а там цісьні яго—і фальбарачак твой. Толькі ўмова: на другі дзень я, ён *(паказвае на Ўладзіка)*, яшчэ чалавек тры зьяўляемся туды і—усё пароўну на ўсіх. Ну, вядома, Юзэфу цалкам пакідаем табе.

Аркадзь. Пашоў ты са сваёю Юзэфаю!

Мікісь. Ня хочаш? Падзелім і Юзэфу.

Аркадзь. Я ад свае часткі адмаўляюся.

Мікісь. Ну, калі ты сваю частку ўжо атрымаў, тады можаш адмовіцца. *(Усе сьмяюцца)*.

Аркадзь. Ну, ну, мялі, мялі.

Мікісь. Нічога, жарты жартамі, а яна можа быць у нас добраю гаспадыняю. А я бяру пару коняй, саджуся на жняярку, лейцы ў рукі—і пашла касіць! Адным словам, мы ўсё распарадкуем, каму што рабіць. Толькі ведаеш што: трэ' будзе купіць тэлефон!

Уладзік. Ого!

Мікісь. Ого. Такі, што бяз дроту. Дрот-жа не павесіш—асадьнікі абарвуць. Значыць, купляем такі адмысловы тэлефон.

Аркадзь. Ну, што, мо' радзіва?

Мікісь. Во, правільна, гэта самае! Бяру гэтае самае пад паху, ды ў лес. Узлажу на дуб, наводжу трубку... *(Да Аркадзя).* Трубка там ёсьць?

Аркадзь. Ёсьць.

Мікісь. Наводжу трубку на Менск—і званю.

Уладзік. А мо' там ніякага званка і няма?

Аркадзь. Чаму не, можа быць.

Мікісь. Можа быць. Вось я і званю, а пасьля і кажу: *(У глыбіні сцэны за дрэвамі ці за кустамі ўкрадкаю праходзіць асадьнік Зайзенты)* таварышы! Зарэгіструйце і нашу маленькую колектывачку!

Тарас. А які-небудзь асадьнік падслухае ды зарэгіструе ў пастарунку.

Адам. А там і пагналі ў Беластоцкую ці на Лукішкі.

Мікісь. Цьфу! Перабілі думку. І трэба-ж вам, дзядзька Тарас, успамінаць усякую погань!? Пашлі, хлопцы!

Уладзік. А дзяўчата ўжо вунь куды зайшлі.

Аркадзь. Пойдзем, але-ж хто тут наглядацьме за коньмі?

Тарас. Ды мы тут будзем наглядаць—ідзеце сабе.

Аркадзь. Ну добра, пашлі!

Адам *(глядзіць у другі бок).* Мо' трэ' было-б завярнуць тыя двое коняй? Здаецца, яны блізка падышлі да засеву.

Тарас. Э, не, там яшчэ поплаў. Вось успомніў ён мне пра Менск, дык я пра свайго Якіма.

Адам. Ага, ну, як бо ён там, усё вучыцца?

Тарас. Вучыцца і, мусіць, ужо служыць, бо тымчасам вось і ўчора павестку атрымаў я на 20 рублёў.

Адам. Ага, значыць, малайчына! Я табе скажу—ён выб'ецца ў людзі.

Тарас. Ды яно-ж так, пакуль у людзі, а тымчасам два гады ў Беластоку адседзеў.

Адам. А што-ж зробіш, усе-ж сядзяць! Часам пажартуе каторы, ці палае якога асадьніка—дык і забралі.

Тарас. Мой-то, праўда, не жартаваў, а проста, вышаў з цярпеньня. Так, уся моладзь сядзіць за кратамі, ды і ўсе мы нібы ў астрозе. Вось і Якім, як адседзеў, прышоў дадому, дык усё-ж роўна няма спакою. Усё-ж нюхалі, задзіраліся, каб зноў увабраць. Дык дзе-ж ты ўседзіш!? (*Закурваюць*).

Адам. Вось цікава было-б хоць на колькі дзён паехаць туды. Няўжо ў гэтых саветах нідзе няма ну, прымерна, такіх фальбаркоўцаў, як наш шляхціц Булавінскі? Гэта-ж, здаецца, невялікае тут што, якіх дзесяцін каля паўтары сотні ці дзьве.

Тарас. Ды дзе ты бачыў! Там няма фальбаркаў і з поўсотняю, а ня то каб паўтары! Паразьмяралі ўсё. Бо, ведаеш, гэтыя, здаецца, невялікія

фальбаркі, горшае паскудзтва, чым вялікія маёнткі.

Адам. А так, пэўна-ж, што горшае.

Тарас. Там ужо, значыся, ведаеш, што гэта пан і ведаеш, як з ім абыходзіцца і якую весьці гутарку. А гэтыя-ж фальбаркоўцы, дык ліха ведама што—ні паны, ні мужыкі.

Адам. А гонару, дык больш як у пана.

Тарас. А як-жа, не падступіся! А як-жа пачалі пшэкаць!.. Раней, дык некаторыя гаварыў ну, так, як мы, а цяпер, дык так запшэкалі па-польску, што аж, здаецца, сьмярдзіць неяк. Здаецца-ж, падсмальваюць іх трохі. Адзін гэты Іван Біпана колькі даў ім жаху, не, ліха ім, не супакойваюцца.

Адам. Ну, а да таго-ж гэтае насланое—асаднікі.

Тарас. Так, мала гэтага дабра, дык на табе—яшчэ асаднікаў. Цьфу, прападзі ты такое жыцьцё! *(Сплюнуўшы)*. Не, быць ня можа, прыдзе на іх канец. Яны самі пакрысе рыхтуюць яго. І я табе скажу—тут, браце *(азірнуўся)*, каб пачалося, дык... дык ад гэтых шляхціцаў, асаднікаў не засталося-б і макавага зерня.

Адам. А што ты думаеш—так-бы яно і было.

Тарас. Ну, скажы, хто-ж бы гэта выпусьціў-бы жывога хоць-бы гэтага асадніка Заўзентага? Не адзін праз яго трапіў у астрог. А спачатку якім лісам падыходзіў да сялян! Часам ён нібы і за нас, а тут мы чуем яго дух.

Адам. А як-жа.

Тарас. Але як мне здаецца, дык ён нарвецца, выведзе некага з цярпеньня...

*(Праз сцэну з папярэдняга пляну перабягае Зінка з валошкамі ў руках).*

Тарас *(пасьля таго, як яна прабегла)*. Пачакай, дзеткі, ты-ж гэта куды бяжыш?

Зінка *(вярнулася на сцэну)*. Вунь, наш конь ля самага поля, у шкоду цягне.

Тарас. Дзе? А, праўда, мы тут загаманіліся і ня бачым. Бяжы, дзеткі, і мы хіба зараз туды падыдзем.

Зінка. Я і адна там пабуду крыху, а пасьля адганю далей ад поля. *(Пабегла)*.

Адам. Мо', хіба, і нам прайсьці крыху вось гэтых адвярнуць, бо, здаецца, ужо ля самых тычак.

Тарас. Ды яно-ж можна прайсьці, але як-жа тут з адзежаю і аброцямі?

Адам. А хто іх тут будзе браць? Ды мы як бачыш будзем тут.

Тарас. Ну, так. *(Пашлі)*. Дык вось, браце, кажаш. Тут, як яны кажуць, на гэтых крэсах. будзе яшчэ справа. *(Далей голас губляецца. З глыбіні сцэны, з другога боку, выходзіць Заўзенты).*

З а ў з е н т ы. Аб нечым гутарылі, а аб чым—ніяк не ўдалося расслухаць. Гавораць ціха. Лес у гэтым месцы радкаваты, блізка не падыдзеш. *(Углядаецца ў той бок, куды пашлі мужчыны, пасьля пачынае аглядаць вакол сябе).* Так, гонькі іх тут. *(Падымае адну, другую, як-бы шукае пад імі нечага).* О, бандыцкае насеньне беларусінскае! Зьнішчым! Усё зьнішчым. Тут мусіць быць польская шляхетная люднасьць! *(Закурвае. Далёка чуваць песьня. Ён прыслухоўваецца).* Завялі нейкую песьню. Мо' „Ад веку мы спалі"? *(Прыслухоўваецца).* Не, здаецца, нейкая другая. А кумэдная песьня ў іх гэтая „Ад веку мы спалі". Я дык не забараняў-бы яе, толькі выкінуў-бы словы: „прагонім з зямлі палачоў". А што выйдуць з сярпамі і касамі, дык гэта нічога, гэта добра. Няхай сабе ідуць. Толькі ўзяць добры бізун і каторыя з касамі—на сенажаці іх, а каторыя з сярпамі—на поле, хе-хе-хе! О, гэтыя старыя ідуць назад. *(Песьня чуваць мацней. Хлопцы і дзяўчата пяюць партызанскую песьню „Усходы зор").* О, і гэтыя ўжо набліжаюцца. *(Паціху, прыгнуўшыся, нібы хаваючыся за кусты, адыходзіць задам і зноў чуць не наткнуўся на пянчук, але, не даходзячы, азірнуўся, крутнуўся і плюнуў у бок пня).* Панастаўляюць пнёў, бандыты!..

*(Зьяўляюцца Тарас і Адам).*

Т а р а с. Ну, глядзі, здаецца ўсё тут у цэласьці.

А д а м. А пэўна-ж. Дзе-ж яно тут за гэтую хвіліну, як мы адвінуліся, магло падзецца? Тут каб і нанач пакінуў, дык ніхто яго не забраў-бы.

Т а р а с. О, не кажы, браце. Тут часта сёй-той праходзіць. Бываюць тут, між намі кажучы, і з Іванкавае кампаніі—лесавікі, і тыя, што нюхаюць іх сьлед, каб увабраць.

А д а м. Дзіва—яны-ж усюды нюхаюць.

Т а р а с. Вось, чуеш—песьню засьпявалі. Здаецца, пра Івана Біпана. Так, так, пра яго. Гэта-ж каб пачуў каторы з асаднікаў, дык вось табе і прыпісалі-б рэволюцыю. А хацеў-бы я глянуць на гэтага Івана Біпана. Гэта-ж песьню склалі лесавікі пра яго, а яго мо' і жывога няма, толькі песьня... добрая песьня! Любіць моладзь пасьпяваць яе. Але што-ж—сьпявай ды азірайся. *(Песьня ўзмацняецца). (Тарас з задавальненьнем).* Вось слухаеш гэтую песьню і, здаецца, так... браў-бы, што пападзецца ў рукі, і гнаў-бы са свае зямелькі ўсю асадніцкую, жандараўскую зграю, усіх гэтых шляхетных апякуноў над нашым братам селянінам.

А д а м. Чакай, на ўсё свая пара. Будзе яшчэ і гэта. А цяпер пакульшто трэба цішэй.

*(Тарас задумаўся, Адам паглядае ў той бок, адкуль ідуць хлопцы і дзяўчата. З песьняю выходзяць дзяўчата і хлопцы. На галовах у дзяўчат валошкавыя вянкі. За імі ідуць хлопцы. У іх валошка натыкана ў шапках, рубашках. Тарас не глядзіць на іх, не зварух-*

*нуўшыся стаіць, пахіліўшы галаву, і глядзіць у зямлю. Калі ўсе вышлі на сцэну, Адам, замахаўшы рукамі).* — Цішэй вы, слухайце, цішэй!

Мікісь. А што, чаму?

Усе. А што, што?

Адам. Ды навошта вам гэтак моцна сьпяваць, каб яшчэ хто пачуў?

Гэлька. Ну, дык што, як пачуе?

Адам. Ну, дык што? Дык ты ведаеш што!

Аркадзь. Вы тут бачылі каго, ці як?

Адам. Ды я нікога ня бачыў.

Дзяўчата. Ну, дык чаго там...

Мікісь (*да Тараса*). Дзядзька Тарас, што так нешта схіліў галаву?

Тарас (*падняў галаву*). Я нічога... Так... Слухаю вашу песьню.

Мікісь. Мы, дзядзька, грымнулі пра Івана Біпана.

Тарас. Чую, галубок, чую.

Мікісь. Эх! *(Дэклямуе).*

О, Беларусь лясістая,
Ты прытуліла нас
Пад дрэўцамі квяцістымі
У ліхавейны час.
Бярозка, хвоя, клён стары,
Крынічанька вады,
Сталецьцямі шумяць бары,
Ідуць, ідуць гады...
А з імі наша моладасьць,
Парыўнасьць, пачуцьці,
Лепш сьмерць у бойцы волату,
Чым зьдзекі у жыцьці!

*(Пасьля махнуў рукою, як рэгент, і ўсе пачалі сьпяваць апошні куплет, і як кончылі).*

Мікісь (*да Адама і Тараса*). Ну, што, як?

Адам. Добра, але-ж каб цішэй, дык мо' спакайней...

Уладзік. Што там цішэй! Калі ўжо ў лесе няможна засьпяваць, дык дзе-ж тады сьпяваць! А тут голас сам вырываецца з грудзей.

Мікісь. Во, правільна!

Усе. Ага, ага!

Аркадзь. Давай, Мікісь, далей!

Усе. Давай, давай!

Мікісь (*дэклямуе*).

Чаму-ж ты невясёлы, бор?
Мацней шумі, гудзі!
Вітай-жа ты усходы зор!

І кліч людзей, будзі!
Ідзі, народ зьняволены,
Цябе прытуліць бор!
Ня будзем гнуцца болей мы,
Гастрэй гастры тапор.
*(Усе сьпяваюць апошні куплет).*

Мікісь *(да Гэлькі).* Далей ты, Гэлька.

Гэлька *(дэклямуе).*

Усходняя сястрычанька!
Ты нам дапамажы,
У Нёмнаву крынічаньку
Ты кветку палажы!
У кветцы крыху сіланькі,
Змаганьне-ж тут ідзе,
Ў іх волі не прасілі мы,
А сілай браць ідзем.
*(Усе сьпяваюць апошні куплет).*

Аркадзь. Правільна! *(Дэклямуе).*

Мо' кроў пральлецца сьвежая,
Ну, што-ж—трымайся, пан!
Ў твае харомы з вежаю
Гуляць ідзе Іван!

*(Мікісь узмахвае рукою. Усе пяюць гэты куплет. Як кончылі сьпяваць).*

Уладзік. Коні ў ярыне!

Гэлька. А я і забылася пра іх, мо' і сапраўды.

Адам. Ён жартуе. *(Ганя ўглядаецца ў глыбіню лесу, нібы яна нешта заўважыла там).* Там блізка падышло двое, дык-жа там вунь Зінка пільнуе іх.

Ганя. Ці мне паказалася, ці мо' сапраўды нехта мільгануў там.

Усе *(апрача старых).* Дзе, дзе?

Ганя. Вунь за тымі хвойкамі.

Аркадзь. Улева ці ўправа ад бярэзінкі?

Ганя. Крышку ўправа.

Мікісь. А на што яно больш падобна: на зайца ці на карову? *(Некаторыя засьмяяліся).*

Ганя. Які там заяц? Чалавек!

Адам. Я казаў, што трэба цішэй.

Уладзік. Зараз пойдзем памацаем. *(Бярэ аброць, ідзе).*

Мікісь *(усьлед яму).* Лаві, надзявай аброць, ды вядзі сюды.

Тарас. Ціха, пачакай ты крычаць. *(Некаторы час усе маўчаць і глядзяць у той бок, куды пашоў Уладзік).*

Гэлька. Ай, ёй там нешта здалося, а тут ужо і вушы наставілі. Ну, што там такое страшнае можа быць?

Мікісь. Ты пачакай.

Гэлька. Чаго гэта мне чакаць?

Мікісь *(з паказнаю сур'ёзнасьцю).* Супакойся!

Гэлька *(гукае).* Уладзік, вярніся, а то мядзьведзь там!

Мікісь *(дразьнячы).* Уладзік, вярніся, а ты заткні-іся. *(Ганя адышлася крышку).*

Тарас. Ну, супакойцеся-ж вы, няхай вернецца Ўладзік, тады будзеце дражніцца.

Ганя. Ну, вось бачыце, нехта ідзе. *(Пераходзіць да гурту).*

Аркадзь. Дзе ідзе?

Мікісь. Ага, так, бачу, нехта ідзе.

Адам. Казаў, трэ' было цішэй.

Аркадзь. Ага, бачу.

Гэлька. Вітаецца з Уладзікам.

Аркадзь. Хто-ж бы гэта быў?

Мікісь. О, нешта Ўладзік вясёлы. *(Раптам).* Чакайце! Не, ня ён.

Усе. Хто, хто?

Мікісь. А можа...

Усе. Ну, хто, хто?

Мікісь *(радасна).* Ён. Пазнаў! *(Бяжыць на спатканьне).*

Аркадзь. А, пазнаў і я!

Гэлька.<br>Ганя. } Хто, хто? *(Тармошаць яго).*

Аркадзь. Ну, так, ён!

Гэлька.<br>Ганя. } Ну, кажы ўжо!

Аркадзь *(радасна).* Пiлiп! (*Пабег на спатканьне*).

Гэлька *(як-бы спуджана).* Пiлiп? *(І радасна).* Ці-ж гэта Пiлiп?

Ганя. Ён, Гэлечка, ён!

Усе *(за сцэнаю).* Пiлiп!

Аркадзь. Браток, адкуль ты ўзяўся?

Мікісь. А я першы цябе пазнаў.

*(Выходзяць: Мікісь, Пiлiп, Аркадзь, Уладзік).*

Мікісь *(да дзяўчат).* Бачыце, каго знайшлі?

Пiлiп *(да ўсіх).* Пазналі?

Усе *(апрача Мікіся, Уладзіка, Аркадзя).* Пазналі!

Пiлiп *(падаючы руку Гэльцы).* Гэлька! *(Гані).* Ганя! *(Адаму).* Дзядзька Адам! *(Тарасу).* Дзядзька Тарас!

Тарас. Пiлiпка! *(Цалуе яго).* Здаецца, свайго Якіма бачу.

Пiлiп *(радасна і як-бы разгубіўшыся).* Ну, як вы тут... коні пасяце?

Адам. А так, нядзелька-ж сёньня.

Аркадзь. Пасом пакуль-што.

Пiлiп. Ага, сёньня нядзелька?

Дзяўчата. Нядзелька, нядзелька!

Піліп. Так, так... і вяночкі ў вас...

Гэлька *(здымаючы вянок з галавы)*. Гэта мы хадзілі ў жыта...

Піліп. Хадзілі ў жыта... без мяне? *(Бярэ яе вянок з рук і кладзе ёй на галаву)*. Няхай так!

Ганя. А Мікісь русалкаю прыкінуўся і хацеў нас папужаць.

Мікісь. А хіба вы ня спужаліся?

Ганя. І ня вельмі!

Піліп. Ну, якая з яго русалка?

Мікісь. З мяне? Сапраўдная, браток. Без сарочкі, без партох.

Піліп. Хіба так.

Тарас. Ну, добра. Як-жа ты, голубе, трапіў сюды? У нас тымчасам лічылі, што ты ўжо там, у саветах.

Піліп. Пакуль-што пажывем тут, а там будзе відаць. Бяз нас-жа паном ды асаднікам сумна будзе. Быў я далекавата адсюль. І вось нейк пацягнула мяне *(глянуў на Гэльку)* сюды, хочацца зірнуць на свае палеткі, на межы, на жыта... І вось я ціхенька, украдкаю выходзіў на ўскрай лесу і чую песьню нашу, лясную песьню.

Мікісь *(радасна)*. Эх, браток! *(Хапае яго)*.

Піліп. А што?

Мікісь. Хачу высока падкінуць цябе.

Піліп. Ну, што ты, я цяжкі.

Мікісь. Ніякага цяжару я не прызнаю, тыгравая сіла ў мяне! *(Тармошыць альбо падымае Піліпа)*.

Піліп. Добра, Мікісёк, веру, веру. Ну, як, пакінулі шукаць мяне, ці яшчэ наведваюць гэтыя архангелы?

Аркадзь. Ды яны ўвесь час нюхаюць, асабліва гэты новы асаднік Заўзенты.

Мікісь. Ну, і плюгавая хвігура, глянеш на яго, дык камень сам просіцца ў рукі!

Адам. Цябе яны мо' пакрысе і забываюць, бо тады чуткі пашлі, што ты ў саветы перабраўся.

Піліп. Так, ну і добра. Так і вы кажэце. Няхай так думаюць, так лепей. У саветах я яшчэ ня быў, але „Савецкую Беларусь“ вам магу паказаць. *(Дастае газэту „Савецкая Беларусь“. Да Ўладзіка)*. Глянь, Уладзя, каб не найшоў хто. *(Усе абступаюць Піліпа)*.

Уладзік. Добра! *(Выцягвае шыю, абыходзіць сцэну вакол, углядаецца і калі ўсе пачалі чытаць, ён таксама стаў у гурце)*.

Аркадзь Газэтка?

Піліп. Менск!

Мікісь. „Савецкая Беларусь“!

Дзяўчата *(да Мікіся)*. Пакажы, дай глянуць!

Мікісь. Ну, вось бачыце—„Са-вец-кая Бе-ла-русь“.

Адам. Ну, пачытай каторы.

Тарас. Прачытай, Піліпка, як там сяляне арудуюць зямлёю.

Ганя. Кажуць, што там жанчыны роўныя з мужчынамі.

Мікісь. Ну, дык што? А тут ты хіба меншая за мяне?

Адам (*усьміхнуўшыся*). Добра кажаш, каб табе хоць дагнаць я росту.

Гэлька. Ды яна не пра гэта!

Мікісь. Пра комунку што-небудзь такое пачытаць...

Піліп. Шмат аб чым тут пішацца. Чытаеш—і бачыш кіпучую, бурлівую работу і, галоўнае, ніякіх паноў.

Адам. Ну часамі кажуць, што некаторыя маёнткі і фальбаркі пазанікалі комуністыя.

Піліп. Так, паны шмат чаго вярзуць, шмат чаго брэшуць. А што-ж яны будуць казаць, асабліва тыя, якіх выгналі адтуль. Ім-жа трэба якнебудзь настройваць нас супроць саветаў.

Мікісь (*ён углядаецца ў газэту*). Во, бачыце напісана:—У Заходняй Беларусі. А далей—у вёсцы Замасточча...

Аркадзь. Ну, ну, што там?

Мікісь. У вёсцы Замасточча паліцыя...

Зінка (*прыбегшы*). Што вы тут робіце? Мо' аб чым такім гутарыце? Вунь там далей, за тым кустом, асаднік Заўзенты са стрэльбаю сядзіць і ўсё выглядае на вас, траха не наскочыла на яго.

Усе (*узрушана*). Дзе, дзе?

Зінка. Вунь, за тым кустом.

Мікісь (*стукнуў кулаком па кулаку і злосна*). Э-эх! (*Кінулі газэту*).

Піліп. Ну, браткі, я пашоў (*выхватвае рэвольвэр*). Даруйце! Мне нічога, але вам. (*Усе цесна ля Піліпа задам адыходзяць у бок. Гэлька схапілася рукамі за галаву. Адам астаўся пасярод сцэны. Тарас ухапіў аброць з цуглямі і, гледзячы ў зямлю, нэрвова перабірае ў руцэ аброць. Бразнулі цуглі. Хлопцы і дзяўчата, як-бы прыкрываючы Піліпа, адыходзяць*).

Заўзенты (*трымаючы ў руках дубальтоўку выходзіць з боку на авансцэну. З прыдушаным крыкам*). Чаму ня ловіце бандыта?! Га? Чаму? га? Я пытаюся, чаму вы не адказваеце?!

Тарас (*не падымаючы галавы, глянуў з-пад ілба*). Бандыт, пане са стрэльбаю.

Заўзенты. Што? Са стрэльбаю? З якою стрэльбаю?

Адам. З дубальтоўкаю.

Заўзенты. Гэта быў Піліп? Так, Піліп? Адказвайце—Піліп?

Тарас. Ну, вы-ж бачылі лепей за нас, дык навошта гэтыя запытаньні?

Заўзенты. А каб ня бачыў, дык не сказалі-б. А гэта што за папера? (*Падымае газэту „Савецкая Беларусь“*). Газэтка... (*зьдзіўлена высокім, прыдушаным голасам*) „Савецкая Беларусь“! Вось яно што!..

(*Мне яе ў руках*). Савецкай Беларусі захацелася?! (*Ззаду і з боку цесна адзін ля аднаго павольна выходзяць хлопцы і дзяўчаты*). Ня будзе вам Савецкае Беларусі! (*Кідае яе крыху ў бок*). Я яе шротам агнём! (*Стрэляе ў газэту*). Рр-асс-траляю! (*Страляе другі раз. У момант, калі ён страляе, хлопцы і дзяўчаты, некаторыя сьцісну́ўшы кулакі, павольна, але цьвёрда, некаторыя рытмічна, падступаюць на сярэдзіну сцэны, як-бы наступаючы на Заўзентага*).

*ЗАСЛОНА*

---

## АКТ II

### АСОБЫ:

Булавінскі—шляхціц-фальбарковец гадоў пад 50, з маленькаю сіваватаю бародкаю, сухарлявы.

Фабіян Кульбаковіч—шляхціц гадоў 30.

Аскерка—сусед Булавінскага, таксама заможны фальбарковец, гадоў 40, нізкаваты, таўсматы, з доўгімі вусамі, апушчанымі ўніз.

Юзэфа—і служанка, і поўная гаспадыня ў доме Булавінскага, пажылая, але яшчэ са сьвежым выглядам, здаровая, рослая жанчына.

Белавудка—асаднік, сярэдняга росту, фарсун.

Заўзенты—асаднік.

*Адбываецца ў доме шляхціца Булавінскага. Чысты пакой. З аднаго боку—двое дзьвярэй, пасярэдзіне акно і шкляныя дзьверы на вэранду. Між імі вісіць у рамцы фамільны гэрб—залатая булава ў зялёным паўвянку. На сьценах разьвешана некалькі старых портрэтаў.*

(*З бакавых дзьвярэй уваходзяць Кульбаковіч і Булавінскі*).

Булавінскі. Проша, пане Кульбаковіч, да майго салёну, які ўжо ён тут ёсьць. Я вельмі шкадую, што мы, хоць, праўда, далекавата, маеце, раней бліжэйшага знаёмства ня мелі.

Кульбаковіч. Нічога, нічога.

Булавінскі. Сядайце, можа тут (*паказвае на крэсла*), ці там (*паказвае на дыван*), у мяне, маеце, проста, калі, як той казаў, госьць дарагі. (*За імі ўвайшоў і ў дзьверах спыніўся Браніслаў Аскерка*).

Кульбаковіч. Нічога, нічога... Як той казаў, і тут добра, і тут ня кепска, але не зважайце, мы так, паходзім.

Булавінскі. Вось пан Браніслаў, калі прыяжджае да мяне...

Аскерка (*крыху выпіўшы*). Дык вып'ю, пагуляю і паеду.

Булавінскі. Ну, бяз гэтага-ж як-жа... але, маеце, ён адчувае сябе, як дома.

Аскерка. Што, што? Як дома?

Булавінскі. Ну, прынамсі, мне так здавалася.

Аскерка. Здавалася? дык няхай не здаецца.

Булавінскі. Ну, можа я памыліўся, як той казаў...

Аскерка. Памыліўся? дык не памыляйся!

Булавінскі (*разьвёў рукамі*). Я вас не разумею, пане Браніслаў.

Аскерка. І я вас не разумею, пане Булавінскі! Ха-ха-ха!

Булавінскі (*глянуў на Кульбаковіча, Аскерку і разьвёў рукамі*).

Кульбаковіч. Пане Браніслаў, мо' нам лепей ехаць, бо так-жа... як...

Аскерка. Ха-ха-ха! (*Разьдзельна*). Каб мне было тут так, як дома дык я ніколі-б сюды не паехаў-бы.

Булавінскі (*задаволена*). Вось, маеце, згадайце, вы, калі пан Браніслаў жартуе, калі не. Ну, гэта-ж так артыстычна. З такімі людзьмі, з такімі суседзямі можна весела праводзіць нашы, часам, маеце, невясёлыя хвіліны.

Кульбаковіч. О, так, праўда, праўда, пане.

Аскерка (*да іх*). Праўда?

Булавінскі<br>Кульбаковіч } Праўда, так, праўда!

Аскерка (*пяе*). Дык-жа дайце мне за дзесяць злотых дзяўчынку з агнём, дзяўчынку з агнём...

(*Уваходзіць хлопец*).

Хлопец. Брычка гатова!

Аскерка. Перабіў!

Булавінскі. Што такое?

Аскерка. Еду.

Булавінскі. Як еду? Як гэта так раптам?

Аскерка. Не магу больш!

Булавінскі. Як гэта не магу? Дайце-ж пану Кульбаковічу пагутарыць са мною. Гэта-ж такі далёкі госьць.

Кульбаковіч. Яно мо' і сапраўды пара.

Булавінскі. Я не разумею.

Аскерка. Я сам не разумею. Я еду на сяло паглядзець жарабіцу і праз чатыры хвіліны буду тут.

Булавінскі. Ну, вось скажэце, зьбіў мяне зусім.

Аскерка. Адзін мамэнцік—і я тут. (*Вышаў*).

Кульбаковіч. Такі праўда, ён, едучы сюды, меўся паглядзець тут на сяле ў аднаго гаспадара жарабіцу.

Булавінскі. Праўда, тут ёсьць у аднаго ніштаватая жарабіца, ну, а там, і да навучыцелькі напэўна заскочыць, гэта-ж бывае.

Кульбаковіч. Так.

Булавінскі (*счакаўшы*). Проша заўважыць, пане Фабіяне, што ў гэтым пакоі ні аднэй мухі вы ў мяне ня знойдзеце.

Кульбаковіч (*задзірае галаву і шукае вачыма мух*). А праўда, так, так, ня відаць. І чым гэта вы іх труціце, пане?

Булавінскі. Не, навошта атрута? Ня трэба ніякае атруты. Добрая, маеце, гаспадыня і без атруты ня дасьць ім жыцьця.

Кульбаковіч. Так, так. І гэта, ведаеце, вельмі добра, як той казаў, і спакой, і чыстата.

Булавінскі. Дайце-ж рады, пане Фабіяне, маеце, тут мэбля, і карціны, і герб, і каб усякая брыдота пэцкала. Вось маеце... герб... Прызнаюся вам—у бацькі майго ня вісеў ён. Ці-то ён шанаваў яго, ці так можа якія акалічнасьці былі. Дакладна вам не скажу і я, маеце, доўгі час рос і ня ведаў аб старадаўнасьці свайго роду. Адзін мой продак, ня ведаю як яго, маеце, было імя, быў панам на чатыры губэрні. Булавінскага ведалі ўсе.

Кульбаковіч. А, пэўна-ж, ведалі.

Булавінскі. Адных, пане Фабіяне, ганчакоў было дванаццаць пар.

Кульбаковіч. О, гэта, як той казаў, было паляваньне.

Булавінскі. А лясы-ж якія былі! Вось тут, наўкола, нават за маю яшчэ памяць, колькі лісавых нор было... Вайна, маеце, на акопы перарабіла ўсё. Зараз, тымчасам, дзякаваць богу, зараўнавалася, палеткі ўжо выглядаюць, маеце, па-гаспадарску.

Кульбаковіч, Так, так, шмат было фатыгі пану, каб, як той казаў, даць парадак і выгляд.

Булавінскі. Ну, у вас, здаецца, ня так парушаны вайною фальваркі?

Кульбаковіч. Розныя ёсьць, пане. Але наш, прынамсі, дык нічога... можна сказаць, мала пачапаны.

Булавінскі. Ага, то і дзякаваць богу. То проша, пане Фабіяне, запалім. (*Падыходзіць да століка, на якім стаяць каробкі з тутуном, папяросамі).* Маеце выбар, ці гатовую свае набіўкі, ці можа файку ўважаеце, я маю запасную.

Кульбаковіч. Я ўжо гатовую запалю, хоць, як той казаў, я ня вельмі часта займаюся гэтым, асабліва, як знаходжуся дома. (*Закурваюць*).

Булавінскі. Вось так глядзіш, маеце, на гэты герб і, здаецца, нічога такога, каб вельмі ўжо надта, а тым часам кожная рэч у ім мае нешта азначаць.

Кульбаковіч. А, пэўна-ж, ня так гэта.

Булавінскі. Як бачыце—пасярэдзіне булава. Адсюль, значыцца, і пайшло прозьвішча — Булавінскі. Гэтая булава азначае магутнасьць, маеце, майго роду. А вось гэты вяночак з дубовага лісьця, ён, як бачыце, ня сходзіцца, і быццам ён расьце. Гэта азначае, што род жыве.

Кульбаковіч. Так, так, пэўна-ж, жыве.

Булавінскі. О, а ўжо ці мала, пане Фабіяне, маеце, параскідалася такіх пачэсных гаспадароў нашага панства польскага і асабліва на гэтых праклятых крэсах.

Кульбаковіч. Якія, кажуць, важныя былі маёнткі, пане, пад Менскам, парасьцягвалі, кажуць, усе, што нават не пазнаеш, дзе яны і былі. Старыя ліпы нават пасьсякалі.

Булавінскі. Ня было каму галоў сьсякаць ім за такія ўчынкі. Не, пане Фабіяне, я ўжо ня вышаў-бы, каб, барані божа, прышлося, з свайго маёнтку. Хоць-бы аднаму сьцяў-бы галаву. Вы думаеце, пане Фабіяне, я ўцякаў тады, калі гэтыя, пшапрашам, галапузыя ішлі на Варшаву? Праўда, я зусім выпадкова быў тады ў Варшаве, але, маеце, каб быў тут, дык ня вышаў-бы са свайго пакою.

Кульбаковіч. Ну, так, маглі-б, як той казаў, забіць.

Булавінскі. Не, я маю, ведаеце, на ўвазе, што я некаму сьцяў-бы галаву.

Кульбаковіч. Бачыце, пане, яно, як той казаў—як да чалавека. Другі рад, каб як захаваць сваё жыцьцё і часам гатоў ад усяго адцурацца.

Булавінскі. Вось гэта і нядобра, гэта не шляхетна, пане Фабіяне! Кожны шляхетны чалавек мусіць бараніць свой гонар, свой маёнтак, бо гэта і ёсьць яго жыцьцё. Без маёнтку няма гонару, няма пана! Ёсьць многа багатых людзей у горадзе, але дзе іх шляхетнасьць? Там яе няма. Яна можа быць тут вось, сярод гэтых старых ліп, кляноў, пане Фабіяне! Ня ўмеюць цяперашнія насьледнікі шанаваць добрую славу сваіх продкаў. Проша прабачыць за гэта, маеце, божа брані, не пра вас.

Кульбаковіч. Не, проша, я-ж нічога... Я цалкам пагаджаюся з панам, бо пан сапраўды мае рацыю.

Булавінскі. О, вельмі прыемна! Дык проша слухаць далей. Скажэце, вось нейкі цёнг яны маюць да гораду. Гэта-ж, маеце, розум, пане Фабіяне, прадае другі, свой маёнтак і едзе ў горад. А што горад? Што? Бразгатня!

Кульбаковіч. Ну, так!

Булавінскі. Бразгатня, пане Фабіяне! Шлындаецца другі па гарадзкіх закавулках, часам, прабачайце за слова, з падранаю задніцаю і думае, што гэта шляхетна.

Кульбаковіч. Ха-ха-ха! Во гэта вы вельмі трапна сказалі!

Булавінскі. Як кажаце?

Кульбаковіч. Я кажу, што гэта вы вельмі трапна сказалі, пра гэту самую падраную...

Булавінскі. А, ну так. Дык проша-ж слухаць далей. Цяжка глядзець, пане Фабіяне. Няма гаспадароў. Няма!

Кульбаковіч. Так, пане, і я мысьлю сабе, як той казаў, што гаспадарку трэба любіць моцна, шанаваць, як самога сябе.

Булавінскі. Як самога сябе. Бо як-жа інакш? Забярэце ад мяне гэты фальбарак, дык, маеце, аднаго шляхотнага роду ня будзе. Я памру. У момант памру. Вось як, пане Фабіяне.

(*Уваходзіць Юзэфа*).

Юзэфа. Дзень добры! Я крыху забавілася ў вёсцы... пакуль сёе, ды тое, дык вось і тымчасам... (*Падае руку Кульбаковічу. Вітаюцца*).

Булавінскі (*нездаволена*). Магла-б ты пачакаць, пакуль мы тут з панам Фабіянам гутарку маем.

Кульбаковіч (*прыветліва*). Нічога, пані не перашкаджае нам, а як той казаў, наадварот.

Юзэфа. І я скажу. Гаварэце сабе, колькі вам улезе.

Булавінскі (*перабівае, зьдзіўлена*). Юзэфа!..

Юзэфа. Можа ня пілі гарбаты яшчэ?

Булавінскі. Пілі, пілі! Дай нам пагутарыць!

Кульбаковіч. О, дзякую, мы і добра, як той казаў, закусілі.

Юзэфа. Куды гэта нячыстая сіла Аскерку паімчала?

Булавінскі. Проша не зважаць, пане Фабіяне... (*Да Юзэфы*). Што ты сабе думаеш?

Юзэфа (*да Кульбаковіча*). Вы ў нашым баку, мусіць, першы раз?

Кульбаковіч. Так, панечка, я тут прыехаў да пана Браніслава, а потым сюды, як той казаў, да вас. (*Булавінскі незадаволена і разам неяк разгублена паглядае*).

Юзэфа (*папраўляючы спадніцу*). Ну, як у нас, нішто сабе?

Кульбаковіч (*не зразумеўшы запытаньня*). Э-э, ну, так, яно-ж пэўна...

Юзэфа. Надворны выгляд нішто?

Кульбаковіч. А, так, натуральна, тут усё так компануе.

Юзэфа. Кажуць, што ў Польшчы такое прыгожае прыроды няма.

Булавінскі. Юзэфа! Тут ня Літва і не Савецкая Расія, а Крэсы Ўсходні панства Польскага, а гэта значыць—Польшча. (*Да Кульбаковіча*). Проша не зважаць, пане Фабіяне... вось сярнічкі, запальвайце. (*Падышоў да Юзэфы*). Выйдзі на хвіліну!

Юзэфа. Што, можа дзе няспраўна адзеньне на мне?

Булавінскі. Ага... так...

Юзэфа (*азіраючыся на Кульбаковіча хутка папраўляе адзеньне*). Нічагуткі, увойдзецца.

Кульбаковіч. А як у панства з сялянствам? Крыху ладзіцца?

Булавінскі. Я, маеце, пане Фабіяне, ад мужыка ніколі не чакаў асаблівага далікацтва, але...

Юзэфа. А чаго тут вельмі наракаць? Яшчэ ніхто, здаецца, не заступаў з кіем.

Булавінскі. І не заступіць! Я не такі.

Юзэфа. Што там не такі! (*Да Кульбаковіча*). Ён не такі, ён, ведаеце, храбры, пакуль на печы.

Булавінскі. Юзэфа! Я забараняю табе ўмешвацца ў нашу гутарку.

Кульбаковіч (*далікатна*). К чаму-ж, пане? Калі ласка, як той казаў, наадварот... Будзем слухаць.

Юзэфа. О, ён ня любіць, калі пачнеш пра яго казаць. Ну, пагутарце сабе. Пайду, прынясу грушак-скарасьпелак. Скарасьпелкі любіце?

Кульбаковіч. А, так, дзякую. Проша не фатыгавацца!

Юзэфа. Падзякуеце, як прынясу.

Булавінскі (*зьдзіўлена*). Юзэфа!

Юзэфа. Зараз прынясу.

Булавінскі. Цяжка, пане Фабіяне, нейкі нядобры дух ходзіць па зямлі. Вось лягу спаць і часам здаецца, што зямля пачынае дрыжаць і я хапаюся тады за ложак...

Юзэфа. Учарэпіцца, ведаеце, за мяне, як той клешч... (*У гэты час хацеў увайсьці асаднік Белавудка. Юзэфа стала ў дзьвярах*). Пачакайце, пан зараз заняты. Прыдзеш крыху пазьней!

Белавудка. Але-ж я ня маю часу пазьней. Я мушу бачыць яго зараз!

Юзэфа. А я кажу, што зараз няможна!

Белавудка. Я маю неадкладныя справы.

Юзэфа. Неадкладныя справы можна адлажыць і на заўтра.

Белавудка. Выбачайце, я маю пільныя справы.

Булавінскі. Што там такое? (*Ідзе да дзьвярэй*).

Юзэфа. Ну, добра! (*Саступае*). Побачым, што тут за пільнасьць такая. (*Вышла, дзьверы засталіся расчыненымі*).

Булавінскі. Ага, пан Белавудка!

Белавудка. Добры дзень, пане! (*Вітаецца. Кланяецца Кульбаковічу*).

Булавінскі. Якія навіны, маеце, пане?

Белавудка. Асаблівых навін я пакуль-што ня маю, але, калі дазволіце, я маю зрабіць пропозыцыю?

Булавінскі. Пропозыцыю? Якую маеце пропозыцыю?

Белавудка. Па спэцыяльнай справе, пане!

Булавінскі. Па спэцыяльнай? Проша выкладаць.

Белавудка. Так... але...

Кульбаковіч. Можа вам адным трэба застацца?

Булавінскі. О, не, пане, я мысьлю, што і вам цікава пазнаёміцца з нашай спэцыяльнаю дзейнасьцю, нам цікава выслухаць вашу думку. (*Да Белавудкі*). Проша выкладаць!

Белавудка. Мае нагляданьні апошняга часу за моладзьдзю нашае вёскі Вухналі пераконваюць маё баявое дасьведчаньне ў тым, што калі не заарыштаваць (*у дзьвярах паказваецца і слухае Юзэфа*) прынаймні двух, дык мы зробім памылку, якую пазьней цяжка будзе выпраўляць.

Булавінскі. Так! Каго маеце на ўвазе і падстава?

Белавудка. Каго я маю на ўвазе, я скажу, а падставу мы падставім. Першага трэба адправіць да пастарунку Аркадзя Шпака, а другога—таго старога Адама.

Булавінскі. А якія вядомы вам іх учынкі?

Белавудка. Першы з іх небясьпечны асабова для вас: я два разы позьнім вечарам сустракаў яго пры выхадзе з вашага саду, але гэта ня ўсё. Другі—атрымаў ліст з Менску ад свайго сына, але гэта ня ўсё. Я перакананы, што яны варожа ставяцца да жонду польскага. Пры спат-

каньні са мною гэты Аркадзь заўжды мае такую на твары міну, што, ведаеце, няма ніякай цярплівасьці. (*Юзэфа адышла, пасьля зноў паказалася ў дзьвярах*).

Булавінскі. Так! (*Да Кульбаковіча*). Вось, пане Фабіяне, маеце чалавек, які за адданую службу ў войску, дастаў тут сабе валоку зямлі. Адданы паляк! І вось такі выпадак. Ёсьць ворагі, а ўчынкаў быццам і няма. Як-бы вы на маім месцы зрабілі?

Кульбаковіч. Прабачайце, як той казаў, я мысьлю сабе, што пан больш спрактыкаваны чалавек, і я мусіў-бы толькі паслухаць, як разумна пан вырашыць гэту справу, але калі пан пытае, я мушу даць адказ.

Булавінскі. Так, проша, проша!

Кульбаковіч. Калі пан... ня ведае, як назьвіска...

Булавінскі. Белавудка.

Белавудка. Белавудка, пане!

Кульбаковіч. Калі пан Белавудка мае сардэчныя перакананьні, што гэтыя людзі застаюцца шкоднымі, тады іх трэба прыбраць.

Белавудка (*схіляе галаву*). Так, слушна!

Кульбаковіч. Калі яны толькі варожы, а на шкодныя ўчынкі ня здатны, тады прыдзецца пачакаць, бо варожасьць тут на Крэсах— звычайная зьява. Я так мысьлю сабе.

Булавінскі. І я так мысьлю сабе, пане Фабіяне! (*Да Белавудкі*). Дык вось, так рабеце, як пан раіць.

Белавудка. Слухаю! Значыцца паведаміць, каб заарыштавалі.

Кульбаковіч. Так, пасьля якога-небудзь учынку.

Булавінскі. Скажаце, як яны што-небудзь такое ўчыняць, прыглядайцеся, пранюхвайце. (*Хутка дае руку Белавудцы*). Дзякую за паведамленьне, працуйце, гэта наш абавязак, маеце, захоўваць спакой панства Польскага, Жэчы Посполітай.

Белавудка (*кланяючыся адыходзіць*). Слухаю, пане! (*Пашоў*).

Булавінскі. Ну, што скажаце, пане Фабіяне?

Кульбаковіч. Так... нішто, толькі, як той казаў, на мой розум, дык трэба справу разгортваць больш шырока.

Булавінскі. А ў мяне ён не адзін. З прыежджых я маю надзейных трох. Гэта тры архангелы, якія адганяюць усё нячыстае, што можа запляміць сьвятое цела нашае маладое айчыны. Мясцовыя таксама ёсьць, але трошкі ня тое.

Кульбаковіч. Я, пане, маю на ўвазе больш шырокае разгарненьне справы ў сэнсе, скажам, арышту цэлай групы, а не аднаго, каб можна было стварыць процэс, а арышт аднаго вясковага хлопца, які яшчэ ня выявіў сябе, ня дасьць пэўнага эфэкту.

Булавінскі. Вы маеце рацыю, пане Фабіяне, і я таксама мысьлю. А тымчасам мяне цікавіць, чаго ён вечарам быў на маёй сядзібе. Прабачайце, я зараз высьвятлю. (*Заве*). Юзэфа! Юзэфа!

Юзэфа (*у другім пакоі*). Гоў!

Булавінскі. Ідзі сюды!

Юзэфа. Чаго? (*Юзэфа ўваходзіць*).

Булавінскі. Юзэфа, тут два вечары паказваўся гэты хлапец—Шпак Аркадзь.

Юзэфа (*вінавата*). Дзе паказваўся? Хто?

Булавінскі. Ну, хто-ж, Шпачкоў Аркадзь. Ён сюды чагосьці заходзіў.

Юзэфа. Куды?

Булавінскі (*злосна*). Ды сюды, ну, у сад, на двор заглядаў.

Юзэфа. А, так, я ведаю. Цяпер я ведаю. Да мяне прыходзіла не калькі разоў краўчыха Аньця, яна мне сёе-тое шыла, а ён-жа за ёю смаліць, дык падыходзіў на спатканьне.

Булавінскі. Што гэта такое смаліць? Божа мой, яна ня можа сказаць так, каб гэта было чалавеку больш прыемна слухаць.

Юзэфа. Што-ж тут дзіўнага! Смаліць ён за ёю, бо ўтрэскаўся па вушы.

Булавінскі. Вой, вой! Ідзі, ідзі ты, даволі. (*Юзэфа няпрыкмэтна для іх усьміхнулася і пашла. У дзьвярах паказаўся п'яны Аскерка*).

Аскерка (*запыніў Юзэфу*). Стой, красуня! Перад табою сам Напалеон Банапарт!

Юзэфа. Хто, хто, кажэце?

Аскерка. Напалеон!

Юзэфа. Напалеон. Такі Напалеон, што на трэску, ды вон.

Аскерка (*хапае яе*). Ух, ты імпэратрыца! (*Цалуе. Юзэфа нібы і вырываецца, але і задаволена*).

Булавінскі (*падняўшы рукі*). Вой, што гэта?!

Юзэфа (*ловіць Аскерку за вус, той адхіляе галаву і бароніцца аднэю рукою, трымаючы яе другою*). Адарву я вам... Хоць адзін вус адарву. (*Вырвалася*).

(*Юзэфа пабегла і зачыніла дзьверы*).

Булавінскі. Што ты робіш, скажы мне, што ты робіш?

Аскерка. Я? Спачатку ішоў у атаку, а цяпер так.

Булавінскі. Ну, дзе твор сорам, Броніась?

Аскерка. Мой сорам?

Булавінскі. Так, я пытаюся, дзе твой сорам?!

Аскерка. Мой сорам да цябе перайшоў.

Булавінскі. Ах, так?

Аскерка. Так, і мне так лёгка, так прыемна... Я цяпер агонь у руках сваіх трымаў!

Булавінскі. З мужычым агнём я ня раіў-бы вам займацца—небясьпечна.

Кульбаковіч. Панове!..

Аскерка. Нявіннасьці я ня ўтрачу, а пагрэцца можна добра.

Булавінскі. Як цынічна... Вы цынік!

Кульбаковіч. Панове, што вы...

Аскерка. Лепш мужычы агонь, чым дымок тлеючага шляхетнага дрэва.

Булавінскі (*з жахам*). Што я чую, што я чую! (*Да Кульбаковіча*). Пане Фабіяне! Я, маеце, ня ведаю... Я... Я ня ведаю, што адказаць...

Кульбаковіч. А вы не зважайце, пане, чалавек падвыпіўшы.

Аскерка (*п'яным голасам*). Хто падвыпіўшы? Вы абодва п'яны, а я, я *(пяе)* цьвяроо-зы (*„ро" бярэ высока, а „зы" на актаву ніжэй)*.

Кульбаковіч. Ну, вось, бачыце, я-ж кажу.

Булавінскі. Вар'ят, як бога кохам! Я ніколі яго яшчэ такім ня бачыў. (*Да Аскеркі*). Паслухай, Бронісь, ты мусіш мяне паслухаць у маім доме.

Аскерка. У тваім доме? (*Скрывіўшыся*). Які гэта дом?

Булавінскі. Бронісь! Я патрабую большае пашаны да гэтага дому!

Аскерка. Ну, шаную, шаную. (*Расстаўляе ногі, схіляе галаву так стаіць*).

Булавінскі (*падыходзячы да яго*). Усё можна і выпіць, маеце, можна, але ніколі няможна забываць, хто вы ест.

Аскерка. А хто забыўся?

Булавінскі. Ты, ты забыўся, хто ты і размаўляеш так, як не павінен размаўляць шляхетны чалавек.

Аскерка (*павольна падымаючы галаву і спакойным тонам*). Я забыўся хто я? (*Крычыць*). Я Напалеон! (*Булавінскі адскочыў*).

Кульбаковіч (*супакойвае*). Так, так пане, але можа мы паедзем, ужо ня рана. (*Увайшла Юзэфа*).

Аскерка. Ехаць? Дайце мне белага каня! Я паеду на Менск, Смаленск, на Маскву, на Канстантынопаль!..

Юзэфа. Далёка, пан, хоча ехаць.

Аскерка. А, царыца! Паедзем на Маскву?

Юзэфа. Чаму не, калі па дарозе да Менску партызаны ня здымуць галавы. (*Прайшла ў спальню*).

Аскерка (*задаволена, гледзячы ўсьлед ёй*). Ух. (*Пасылае пацалунак*).

Булавінскі (*сяромячы яго*). Ух, як гэта прыгожа, пане Аскерка!

Аскерка. А галоўнае—здорава! (*Да Булавінскага*). Скажы мне, як суседу: здорава, а?

Булавінскі. Я яшчэ свайго гонару, свайго сумленьня ня ўтраціў.

Аскерка. А некаторыя такія здольнасьці ўжо?

Кульбаковіч. Паедзем, так-жа немажліва.

Булавінскі. Я прашу пана Аскерку сесьці ў сваю брычку і выехаць. (*Да Кульбаковіча*). Прабачайце, пане, але я змушаны.

Аскерка. Едзем! Эй! лёкаі! расчынеце дзьверы! Музыка—марш! Брашэце сабакі! Аскерка пакідае фальбарак Булавінскага. Ха, ха, ха! (*Пры падтрыманьні Кульбаковіча выходзіць*).

Булавінскі (*у гэты час да Кульбаковіча*). Даруйце, я, пане, я канечна прашу яшчэ заехаць да мяне. Юзэфа! Юзэфа! (*Са спальні выходзіць Юзэфа*).

Булавінскі. Праводзь паноў.

Юзэфа. Як гаспадыня ці як служанка?

Булавінскі. А божа мой, ты-ж ведаеш. Праводзь як-небудзь (*Юзэфа вышла*).

Булавінскі (*глядзіць у вакно*). Дзякуй богу. О! о, што ён робіць, што ён робіць! Конь запрэжаны, а ён хоча садзіцца вярхом. Дзе ў яго шляхетнасьць, дзе ў яго гонар? (*Адыходзіць ад вакна, трымаецца за галаву*). Ай, ай, ай! Чаго ён не нагаварыў, колькі абразы, колькі няпрыемнасьці і сораму перад панам Фабіянам. Я не магу... Я ня маю сілы... (*Садзіцца ў крэсла, схіляе галаву і ў такой позе застаецца нейкі час*).

(*Увайшла Юзэфа*).

Юзэфа, (*энэргічна прычыніла дзьверы, на хвілінку спынілася, кінула погляд на Булавінскага і падышла да вакна*).

Булавінскі. Юзэфка, хадзі сюды, хадзі супакой мяне.

Юзэфа (*іранічна*). Як-жа, пане, загадаеце супакоіць вас? Мо' песьню засьпяваць?

Булавінскі. Юзэфка, і ты злуеш, хадзі галубка, хадзі! (*Юзэфа глянула, сьцепанула плячыма і глядзіць у вакно*). Юзэфка! дай мне мадэры. (*Яна моўчкі хутка выходзіць і праз хвіліну прыносіць і моўчкі ставіць на стол бутэльку, бокал і налівае. Булавінскі гладзіць яе руку*).

Юзэфа. Сабаку пагладзь! (*Адышла, рука яго павісла ў паветры. Ён нейк спуджана глядзіць на яе, а дрыжачаю рукою бярэ бокал, выпівае. Дзіка глядзіць на яго, ставіць на стол, налівае, зноў выпівае. Стук у дзьверы. Юзэфа рэзка павярнула галаву ў бок дзьвярэй*). Хто там? (*Расчыняюцца дзьверы. Уваходзіць Заўзенты*).

Юзэфа (*сур'ёзна*). Пачакайце там!

Заўзенты. Чаму гэта пачакайце, калі я маю да пана пільны інтэрас.

Булавінскі. Так, пачакайце!

Заўзенты. Пане, такі інтэрас, што нельга пачакаць.

Булавінскі. Пачакаць сказаў.

Заўзенты. Калі пан жадае, калі ласка. (*Кланяецца і хутка выходзіць*).

Булавінскі. Дык ты ня хочаш падыйсьці да мяне?

Юзэфа. Не хачу псаваць панскага ганору. За дзьвярыма ёсьць чужы чалавек. Вось як нікога ня будзе, тады я магу быць і тваёю палюбоўніцаю, і жонкаю.

Булавінскі. Ну, цішэй-жа ты, Юзэфа, як-жа так можна?

Юзэфа. Як-жа так можна? А як-жа так можна рабіць з мяне кпінкі? Калі бывае хто чужы, дык я тады служанка (*дразьнячы*) „не зварачайце ўвагі“.

Булавінскі. Ну, ну, нельга-ж адразу, Юзэфка.

Юзэфа. Адразу? неадразу. Нельга-ж і так. Альбо я наймічка, альбо я гаспадыня. Даволі жартаваць. (*Павярнулася і вышла. Расчыніла дзьверы, а тут і Заўзенты*). А ты ўсё з даносамі?

Заўзенты. А ты з носам—хе, хе, хе!

Юзэфа. Глядзі ты, пудзіла, бо як вазьму вілкі, дык будзеш бяз носа. (*У гэты час Заўзенты ўскочыў у пакой. Юзэфа вышла*).

Заўзенты, Страшна, пане, з ёю сустракацца.

Булавінскі. Чаго-ж лезеш?

Заўзенты. Я да яе ня лезу. Яна заўсёды сама прычэпіцца да мяне. Але гэта нічога. Пане! каб вы ведалі, што я ведаю... Пане! каб вы ведалі, каго я бачыў... Пане!

Булавінскі. Ну, што? пане, пане...

Заўзенты. Бяру я стрэльбу, ды пру на паляваньне, на свае адмысловае. Зайшоў на адзін, другі хутар і накіраваўся ў лес, а там...

Булавінскі. Што там?

Заўзенты. А там нашы вухналёўцы пасуць коні.

Булавінскі. Ну, дык што мне іх коні, скажы, што там было?

Заўзенты. Сход, пане, сход—комунічаскі сход!

Булавінскі. Вы чулі, бачылі?

Заўзенты. Я-ж за кустом сядзеў. Пане! Піліп да іх прыходзіў. (*Увайшла Юзэфа, спынілася і слухае*).

Булавінскі. Што Пі-пі-лі-п?.. гэты самы, ён тут?

Заўзенты. Гэты самы, пане.

Булавінскі. А мо' табе здалося?

Заўзенты. Пане, як-жа здалося, калі вось ён і газэтку пакінуў. (*Дастае*). Комунічная „Савецкая Беларусь“. Гэта я прастрэліў яе.

(*Булавінскі хапае газэту, рукі дрыжаць*).

Булавінскі. А дзе-ж ён?

Заўзенты. Уцёк, пане.

Булавінскі (*крычыць*). Чаму ўцёк! (*Трасе газэтаю на Заўзентага*). Чаму вы не застрэлілі яго?! Як вы маглі выпусьціць такога бандыта?!

Заўзенты (*адступаючы*). Страляў пане. Газэту ў яго руках прастрэліў, я ён жывы астаўся, шрот мусіць ня ўзяў. Ён выхапіў з-за пояса бомбу, а іх у яго штук пятнаццаць, ды на мяне, а я за пень, ён бомбаю аб пень, пень выскачыў, а мне няма куды.

Булавінскі (*схапіўся за газэту, апускаецца на крэсла ля століка*). Ах, ах, Езу хрысту! калі-ж тут на гэтых праклятых Крэсах настане спакой. Я... Я хачу спакою. (*Заўзенты разьвёў рукамі*).

Юзэфа. Мусіць, ня скора ён будзе.

*ЗАСЛОНА*

*Канец будзе*

# РАДЦА ПАСОЛЬСТВА ЛЕОПОЛЬД

*(З дзеньніка доктара)*

**Герман Кесэр**

Кастрычнік 1919 г.—Сяляне ведалі, што я ўночы вярнуўся ў вёску пасьля больш чым тыднёвага побыту ў якасьці экспэрта-псыхіатра пры судзе прысяжных у другім горадзе. З вясны жыў я сярод іх, ужо змораны ранейшай працаю доктара па нэрвовых хваробах ваеннага і пасьляваеннага часу ў бліжэйшым паўднёванямецкім фабрычным горадзе. Пісаў у першым паверсе хаткі ў садзе баявую кнігу проці афіцыяльнай навукі, пісаў дарэмна і забываўся хутка на сваіх ранейшых пацыентаў. Ад трыццаці да сарака хворых зьяўляліся па-чарзе штодзень перада мной на крэсьле ў прыймовым пакоі, усе яны былі для мяне толькі адзіным абліччам пакуты з аднастайнымі хваробамі ўласьцівымі іх веку і ўбоству.

Як ранічная работа, на маім стале была разгорнута справа аб растраце, учыненай паштовым касіерам. Тоўстая і белая вокладка была набіта рознымі дакумантамі. Усё было тут: і ўласнае прызнаньне ў паліцэйскім вучастку, і апошні протокол допыту ўжо пасьля арышту. Былі там і конфіскаваныя любоўныя лісты, фотографіі і трамвайны абонемэнт: матэрыял, што сьведчыць аб так званых лёгкадумных і выдаткоўных дачыненьнях з швачкай. Аб тым, што абвінавачаны цяжка пакалечаны на ваеннай службе, ужо даўно псыхічна хворы і павінен быць вызвалены з вастрогу,—ані слова! Наадварот—друк і ўлада былі ў згодзе: „бязумоўна прытомны: старанна апрацаваныя і дзіўна патончаныя спосабы падгатоўкі і доўгачасовага ўтойваньня ўчынку—даводзяць гэта“. Я чытаў з агідай і раскідаў па падлозе бяздушна запоўненыя формальна-афіцыяльныя паперы з іх загадзя падрыхтаваным прысудам. Халодныя ледзяныя прамяні, шмат халаднейшыя, чым восенскі дзень, бяз сонца—адбіваліся ад гэтых папер.

Я кінуў чытаньне, круціўся непакойна ля стала: даўно ўжо адскоквала праўда ад галоваў судзьдзяў і настаўнікаў, хоць і ўбівалі малатком у іх галовы сотні раз тую думку, што душэўная хвароба ёсьць не заўсёды лёгка распазнаваная адмена вар‘яцтва, што мы ня больш ведаем у гэтай галіне, чым бліскучы Шэксьпір у сваім „Гамлеце“.

Я стаяў у цесным пакоі і шукаў дасьціпную фразу, як эпіграф, для характарыстыкі няшчаснага паштавіка ў сваёй экспэртызе. Спыніўся ля

вакна і пачаў барабаніць па шыбе, і гукі ішлі ў непразрыстае паветра. Ня ўсе вар'яты, а толькі невялікая частка іх ёсьць лёгка распазнаваныя крыўлякі...

Я адвярнуўся ад вакна. Па ганку затупалі нечыя ногі: ад сьпеху гэтыя крокі нагадвалі няроўную хаду п'яных людзей. У дзьверы ўварваўся чырвоны ад палкага ўзрушэньня малады сялянскі хлапец у аднэй камізэльцы: „там мярцьвяк“.

— Што? Хто?

— Пойдзем зараз-жа!

Я ўзяў капялюш...

Зыходзячы з ганку і задыхаючыся ад узрушэньня, хлапец вымавіў:

— Там, у маліньніку ля дарогі—там і аўтомобіль яго.

Мы пашлі: хлапец бег наперад, паказваючы дарогу. Ён ішоў кароткімі палявымі сьцежкамі, якімі ішлі раніцой сяляне, каб у змаганьні з прыродаю зноў заваяваць для беднай краіны пшаніцу, жыта і авёс. Я дагнаў яго і ён расказаў мне ўсё, што мог. Я ўявіў сабе ўсё вельмі ясна.

Глыбока ніжэй дарогі сяляне ўжо ад сёмай гадзіны аралі коньмі абложнае поле. У шэрым тумане кожны з іх калі-ні-калі паглядаў угару. Адтуль увесь час відаць было сьвятло і стукала машына. Яны і думалі, што нейкі турысты папсаваў сваю машыну, і былі зусім спакойны. Пасьля працы зрабілі першы перапынак, абцёрлі пот і падсілкаваліся. І толькі пасьля сьнеданьня зьвярнуліся яны з запытаньнем да падарожнага, закрычалі яму ўгару на дарогу праз густы туман—і таму, што адказу ніхто не даваў, а самаход роўнамерна тарахцеў, адзін з сялян пакінуў каня і палез праз кусты на ўсхонаватае ўзвышша.

Хлапец маўчаў. Мы засьпяшаліся і пашлі па вільготных каляінах. Сумная мясцовасьць ляжала пад валавяным туманам, толькі неба крыху мігацела слабым зьзяньнем за хмарнаю заслонаю.

Я спытаўся яшчэ раз: „хто-ж гэты мёртвы чалавек?“

Хлапец яго і ня бачыў.

Калі мы падышлі, падняўся непакойны вецер. Туман то падымаўся, то ападаў.

Узыходзячы на багністую зарослую травою ўзбочыну дарогі, пачулі мы гудзеньне мотору.

Машына стала ўпоперак гасьцінцу. Жоўтае сьвятло цякло з ліхтароў на руды, ужо афарбаваны ў васеньні колер хмызьняк. Шофэр, відаць, хацеў яшчэ асьвятліць узгорак з хмызьняком. Мясцовасьць гэтая нядаўна зрабілася моднай сярод аўтомобілістых: тут палілі агні ў летнія ночы на пагулянках. Гаварылі аб гэтай мясцовасьці яшчэ і таму, што нейкі саюз хацеў паставіць тут помнік мінуламу: першабытнага чалавека з паднятай дубінай.

Далёкія ўспаміны агарнулі мяне, калі я ўбачыў афарбаваны пад колер шампанскага віна спортыўны самаход з сінім сядзеньнем. Фігурны хала-

дзільнік, двухгаловы арол—зьвязваў у маіх думках няўцямна з далёкай асобай. Мне раптам здалося, быццам я трапіў сюды ўжо зусім не як доктар. Разважаць ня было часу. Ля аўтомобіля і далей угары варушыліся, моўчкі і чакаючы, сяляне,ківалі мне і сур'ёзна паказвалі на ніз узгорку.

Яны, відаць, спачувалі: з торбамі і пугамі ў руках глядзелі на мяне, але былі зьбіты з панталыку і ўстрывожаны, яныківалі з дакорам галовамі, былі, відаць, у халодным, але неспакойным настроі. Тымчасам яны тэлефанавалі ўжо з вёскі бліжэйшай паліцэйскай варце.

Адзін з іх сказаў: „Далікатны, вяльможны пан". Ён падняў плечы, шырока раскрытыя вусны выражалі пытаньне.

Тымчасам парожні самаход сам сабою, бяз ніякай чалавечай дапамогі, раптам заварушыўся. У ліхтарох замігацела, з пальнікаў выбухнула полымя, яшчэ раз мільганула, асьвятліла колы і пагасла. Матор закруціўся, слаба загуў і спыніўся, як чалавечае сэрца ў момант сьмерці. Машына стаяла бяз сілы і без сьвятла.

Чалавек у маліньніку сканаў, мусіць, ужо за шмат гадзін перад гэтым. Ён добра ў сябе цэліў: на чатыры пальцы вышэй ад краю сэрца—у грудзі; на яго грудзях я паўтара гады таму назад, яшчэ у часе вайны, нарысаваў сінім алоўкам абрысы яго сэрца...

Гэта я ўжо ведаў адразу і як-быццам бачыў самога сябе на адным абавязковым для ўсіх добрачынным балі ў лютым 1918 г., калі я нагнуўся з драўлянай трубкай (бо стэтаскопу з мэмбранай і гумавымі трубкамі ў гэтую зіму ў мяне ўжо ня было) над зграбным напудраным мужчынам. Было гэта ў пакоі для артыстых гарадзкога казына, дзе ён, пачуўшы слабасьць, бледны і ўзрушаны ляжаў на канапе.

— Гэта толькі ад сэрца,—упэўніваў ён.

— Сэрца ў вас ня хворае. У вас нэрвы хворыя. Іх трэба палячыць.

Мой дыягноз быў правільны. Патрэбна была куля, каб зьнішчыць гэткае сэрца. Я не ганарыўся. Прыгнечаны, вельмі прыгнечаны, устаў я з травы, дзе кленчыў перад трупам.

Іншыя вобразы заставаліся яшчэ зблытанымі паміж сабою за заслонай часу і падзеяў і не выпіналіся наперад, таму што сучаснасьць выпірала ў вочы мацней, чым усё мінулае.

У таямніча-ўрачыстай абстаноўцы, у позе, праўда, крыху нязвычайнай, але ў спакойнай і поўнай годнасьці,—ляжаў на лісьці мужчына і глядзеў ашклянелымі, быццам толькі-што высахлымі пасьля сьлёз вачыма, у шэрае неба.

Усё было нязвычайна, як туманная здань.

Але быццам, каб спраўдзіць гэтую амаль-што вар'яцкую мару, адзін з хлапцоў прачытаў прыдушаным голасам дарожнае пасьведчаньне, якое ён выцягнуў у аўтомобілі з-пад стырнікавага сядзеньня. Чытаў крыху

ўрачыста і абачліва прозьвішча і тытул: імпэратарска-каралеўскі[1]) радца пасольства, камэргер і ротмістр Анты Эміль з дваранскае фаміліі фон Леопольд з Леопольдсбэргу, дырэктар філіалу збраёўнай і аўтомобільнай фабрыкі „Аквіля“, нарадзіўся ў 1862 годзе ў Марошвашаргелі ў Вэнгрыі“.

І быццам з тэю мэтаю, каб з гэтага пышнага апісаньня ўявіць сабе сэнс пагібелі нябожчыка,—вочы нашы сьлізганулі з маркотных рысаў твару дэзэртыра ад жыцьця на яго адзеньне: на зьмяты фрак з залатым камэргерскім гузікам ззаду, на плашч з адкладным каўняром, падшыты белым атласам, на ордэн на чырвонай, як віно, стужцы, на срэбную зорку на левым баку фрака ды іншыя аздобы, якія сумна блішчэлі ўжо пакрытыя вільготнай павалакай, быццам цьвільлю.

Усё гэта знаходзілася напэўна ў адпаведнасьці з носьбітам усіх гэтых годнасьцяй, таксама было зразумела, што ён, як першы прадстаўнік славутых ваенных дастаўнікаў, меў такі дзіўны самаход з адумысловым корабам.

Але ў вільготным тумане ўсё пыталася: „чаму?“ і зноў „чаму-ж?“

Адзін думаў: „Фабрыка не працуе. Са зброяй раней было ў людзей шмат работы. А цяпер машынамі шыць—поўны застой: у каго-ж цяпер бываюць ніткі?“

Другі пугаём капаўся ў сьвежай кучы попелу. Нахіляўся, нюхачы: „пахне валасамі і паперай. Што тут было—ніхто ня ведае. Гэта выявяць агенты крымінальнага вышуку“.

Сівы і важны фурман паказваў пальцам на бледную адкрытую левую руку мёртвага, да якое прыліплі абрыўкі мокрага пер‘я. Ён разглядаў гэта недаверліва, амаль-што пагардліва.

„А гэта што?“

Мы паглядзелі.

„Пер‘е такога цецярука, якога няма ў нашай мясцовасьці“, сказалі сяляне і замоўклі.

Малады селянін падышоў да зарасьніку і дастаў адтуль панскі капялюш, які вісеў там, быццам кінуты на гальлё, скураной сваёй часьцю наповерх.

Ён перавярнуў, паправіў. Гэта быў зялёны плюшавы капялюш, якія і цяпер ахвотна носяць аўстрыякі. Ён падняў яго ціха ўгару, каб усе бачылі: „пер‘і былі вырваны з капялюша“.

„Покрыўка!—Яна ў самаходзе!“ раптам закрычаў я тады тым людзям, што стаялі ўнізе. Мне ўжо цяжка было далей аглядаць мерцьвяка. Але вось плямка сонечнага сьвятла папаўзла ад лякавых чаравік уверх па нагах, па целе, асьвятліла абрузлы твар і выявіла падобныя да шрамоў зморшчкі ля рота і нафарбаваных вусоў. Рот быў разяўлены, нібы для гутаркі. Паднятыя вугалкі вуснаў як быццам зьвязалі гульлівай усьмешкай

[1]) K. und-kaiserlicher und königlicher—імпэратарска-каралеўскі, г. зн. аўстрыяцка-вэнгерскі.

ад тае, зусім ясна азначанае асалоды, якою папераджаецца ў немаладых ужо людзей арыстократычны досьціп.

Пляма спаўзла. Усьмешка зьнікла ў глыбокіх зморшчках.

Дрыгаткімі рукамі нацягнулі мы покрыўку на цела.

Паліцыянты шумна, але з належнай важнасьцю, бегалі з сабакамі і запіснымі кніжкамі па ўзгорку.

Парожняя паляўніцкая каламажка праехала міма і забрала мяне.

У горадзе, здавалася мне, я разьвяжу гэтую няясную сувязь між лёсам гэтага чалавека і мною.

Мы паехалі. Вуліца паднімалася ўгару, конскія капыты стукаталі, перад горадам выступіў з нягустога ўжо туману ў мёртвай цішыні круглы парк і за ім прысады, дзе я спаткаў нябожчыка апошні раз.

Я бачыў яго неаднойчы, нават даволі часта, каб зацікавіцца яго лёсам.

Мне зрабілася горача, я зблядней. Горад і парк праплылі міма. Я нібыта больш ня ехаў. У прыкрым чадзе плылі фурман і коні. Мёртвы нярухомы твар утароплена глядзеў на мяне, як быццам нябожчык дадаткова хацеў пагаварыць са мной хоць ужо было і позна. Ён зрабіўся зноў тым жывым чалавекам у расшпіленай кашулі, які тады ў казыне прыціскаў мокры ручнік да сэрца і самаўпэўнена адхіляў кожную лекарскую раду.

Яго голас...

Не, голасу яго чуць я яшчэ не хацеў. Хай раней нехта іншы растлумачыць мне прычыну яго сьмерці. Хто-небудзь павінен ведаць яго лепш ад мяне. Напрыклад, дырэктар тэатру Фімер з рудымі шчаціністымі валасамі. Намесьнік дырэктара „Аквілі“, чалавек, які зрабіўся напалову скрыняй з узорамі выбараў, напалову—шабляй? Фімер, яго аднагетак і сябар—спортсмэн у залётніцкай спэцыяльнасьці, некаторы час валачыўся разам з выдатнай асобай—замежным фабрыкантам па розных танц-залях і картыжных дамох ваеннага часу. Але ці ня было так, што непасрэдна перад тым, як я паехаў у водпуск, Фімер зьнік з прычыны нейкага цікавага скандалу ва ўласным тэатры? Аб гэтым мог ведаць толькі яго намесьнік. Ці ня Гак завецца ён? Маёр фон-Гак? Ці ня быў ён з нябожчыкам на „ты“?

Гвалтам змусілі мяне прыйсьці на той вечар добрачыннасьці, дзе я быў сьціснуты сярод фракаў, ваенных мундзіраў і опэрэтычных сьпевакоў у францускіх старажытных гарнітурах з косамі. Шмат галасоў гуло ў незразумелай вясёласьці.

Я прыслухаўся, бо адзін з гэтых галасоў сказаў цьвяроза і холадна. Сказаў прыблізна наступнае: „Леопольд, я мушу параіць табе ўзяць сябе ў рукі. Гэтак можна дайсьці нямаведама да чаго! Па-першае, такіх сноў ніколі ня бывае. Па-другое—іх і не апавядаюць. У кожным выпадку нашы стрэльбы „Аквіля“ ўсё яшчэ страляюць. Я ніколі ня сьню, што на мяне ідзе хто-небудзь, каго я не магу застрэліць“.

Фон Гак, вялізная мясная туша, глынуў крыху чырвонага віна, выказваючы гэтую сваю думку.

Другі паглядзеў на столь і загаварыў хмура, як быццам знаходзіўся ў адзіноце на бязьлюдным беразе: „камандаваць сваімі снамі я яшчэ не навучыўся ў нас на службе. Але і гэта можа здарыцца“. Ён адышоўся, сеў ля жанчын за стол, дзе стаяла шмат шклянак шампанскага і потым бязупынна танцаваў з маладымі дзяўчатамі.

Праз тры гадзіны прышоў ён да мяне, сеў на канапу, потым схапіўся з канапы і закрычаў урачыста, запэўніваючы:

„Што ўсё гэта мае супольнага з мэдыцынай і лячэньнем?!“—Я змусіў яго зноў сесьці, узяў за плячо. Ён прыціснуўся тварам да падушкі і пачаў гаварыць сам да сябе:

„Быць выкінутым з сусьветнай гісторыі, сёньня, калі некаторыя паны маюць выдатныя ролі, пачаўшы гэтую справу ў цябе за сьпіной, гэта і ёсьць сардэчная хвароба, проці якое ўжо і сродкаў няма. Кароль [1]), як вам вядома, знаходзіцца адсюль на адлегласьці толькі поўсутак дарогі калі ехаць экспрэсам, і п‘е з гора ўжо а восьмай гадзіне раніцы „Шэры брэнды“ (гарэлку з харэскага вінаграду) [2]).

„Мы маем гонар у гэты адказны час быць скарыстанымі на невялічкія староньнія справы. І кім-жа? Панамі кіраўнікамі пасольства, якія клічуць нас сьвістам, як служак.

„Пазаўчора мы найпадданейша ўдыхалі хэрэсны пах ад яго вялікасьці, замест таго, каб гандляваць агнястрэльнай зброяй і аўтомобілямі. Яго вялікасьць усё яшчэ мае намер працягнуць і надалей пры адпаведных абставінах сваю кар‘еру. Тымчасам кожны з нас, хто праваяваў так ці інакш цэлую вайну, назаўсёды выключаецца з высокай салённай палітыкі толькі таму, што служыў радцаю пасольства ў далікатнай дыплёматычнай місіі; і вось прыходзіцца ад‘яжджаць адсюль з гэткай хваробай у сэрцы“.

Ён з шалёнай злосьцю кідаў падушкамі і казаў далей: „І пры гэтым і ў Гофбурзе, і ў Шэнбруне цябе, як маладога, поўнага сілы афіцэра, лічаць за чалавека, на якога можна абсолютна пакладацца ў найінтымнейшых справах прыдворнае службы, і ў гістарычныя моманты гаварылі табе свае монархаўскія словы! Так, напрыклад, за рыбнай стравай прыносяць дэпэшу аб забойстве Драгі Машынай і Аляксандра Сэрбскага,—а яго вялікасьць кажа толькі наступнае: „мяне гэта ня зьдзіўляе, я гэта прадбачыў“—і не перапыняе ані на хвіліну свайго абеду.—Адзін з міністраў фінансаў, напрыклад, зайкаецца на аўдыенцыі наконт бюджэту і „шмат якіх перашкод“—і атрымлівае адказ: „а мне здаецца, адзіная перашкода—гэта вы“—і ляціць з пасады“.

---

[1]) Для вэнгерца Леопольда—імпэратар Аўстрыйскі зьяўляецца каралём вэнгерскім.

[2]) Анг. Sherry—хэрэс і brandy—гарэлка. Таму Sherrybrandy—моцны сьпірытусовы напой, выгнаны з таго-ж гатунку вінаграду, з якога атрымліваецца і віно хэрэс.

„Вось былі часы!—А яшчэ прыклад — цябе выбіраюць з тэй мэтаю, каб ты, як больш спрактыкаваны чалавек, увёў у першыя мужчынскія радасьці будучую вялікасьць. Апрача таго, прыходзілася нярэдка ў прыватным парадку не абы з кім, але з самым нябожчыкам міністрам Голухоўскім наведваць ночныя балі на вэнгерскім Пратэры ў Вене! Можна, такім чынам, сказаць пра сябе, што служыў у першую чаргу якраз дыплёматычнаму мастацтву!—І, урэшце, усё гэта дарма!“

Ён спыніўся. Пакашляў. Маркотна ўздыхнуў і закрыў балесна вочы рукой. Як-бы меншым зрабіўся яго рост, ён паглыбіўся ў самога сябе. Скура яго пакрылася сотняй дробных зморшчак.

Праз дзьверы чулася музыка. Віолёнчэль пяяла смутную песьню.

Ён толькі слухаў, пастукваў алоўкам, потым зашпіліў кашулю і каўнер і завязаў перад люстрам гальштук: „Ведаеце вы, што іграюць? не?— вось ужо год, як гэта мая ўлюбёная рэч і называецца яна „Элегія“ Массэнэ, і хоць гэта францускі твор, яго іграюць паводле майго асаблівага заказу там, дзе я бываю. Справа якраз у тым, што нават у сярэдзіне пятага дзесятка гадоў больш ня хочацца жыць, калі ўсё ідзе дрэнна! І гэтую проблему мэдыцыне ня прыдзецца разьвязваць!.. Проста не магу больш вытрымаць таго, што гэткі чалавек, як я, дагэтуль і на працягу ўсяго майго жыцьця патрабуе для свайго існаваньня абавязкова жанчын офіцыйных і анонімных“.

Ён зноў разьюшыўся.

Што было далей, нельга і перадаць.

Раней я думаў, што толькі белагарачачнікі і наркоманы здольны ўжываць пры бязьдзейнасьці затрымоўчых цэнтраў гэткія выразы.

Ён быў нібы п‘яны ці шалёны.

З шклянымі вачамі ён заявіў: „мыж тут свае“. Далей з губ яго палілося зусім адкрытае апавяданьне пра яго любоўнае жыцьцё. Ён разьвінуў ружовую панораму, паказваў разьдзетых каралеў, бязгрэшных мадон і ўсяму сьвету вядомых прыгожых жанчын, і на параходзе, і на чыгунцы, і на самаходзе. Усюды, дзе толькі бываюць жанчыны.

І скончыў хмура і злосна: „той самы барон Амур і рыцар Вясна павінны цяпер за памяркоўную асалоду дорага расплачвацца і замяніць мамонай усе найпрыгажэйшыя добраахвотныя адносіны“.

Ён махнуў пагардліва рукой: „Ды яшчэ сардэчная хвароба! Гэта цалкам знаходзіцца па-за межамі мэдыцыны.—І нічога тут ня зробіш!—Але, прынамсі, хоць ведаеш“.

Паправіў гальштук, пакланіўся, пацісnуў мне з усяе сілы руку і, хістаючыся, пакінуў пакой.

Фурман на перадку паляўнічай каламажкі абярнуўся да мяне і затрымаў коні, пытаючыся: „куды?“

— На фабрыку „Аквіля“. А то куды-ж?

Каламажка паехала па вуліцах пустынных у гэты ранічны час далей у квартал багатых віляў. Аб‘ехала рог, той самы рог з плятанамі і сьцеж-

кай для коннай язды, дзе я яшчэ раз спаткаў нябожчыка праз цэлы доўгі год пасьля тае вечарынкі ў казыне. Было гэта ў поўдзень—ён стаяў нярухома пад праменямі красавіковага сонца.

Я ішоў другім бокам вуліцы.

Ён вітаў прыгожую блёндынку ў хутры, далікатна махаючы капялюшом і прыветна ўсьміхаючыся. Яна кіўнула толькі коратка галавой, прайшла міма і пабегла проста, не зварачаючы на яго ўвагі.

Ён глядзеў ёй усьлед, усё яшчэ трымаючы капялюш у руцэ. Яго рот сьціснуўся з кіслай усьмешкай. Як паранены, схапіўся ён за грудзі. Ён аглядзеўся вакол і заўважыў, што я, мусіць, усё бачыў.

Як заўсёды, з часу нашага першага знаёмства, перайшоў ён з прыяцельскай зычлівасьцю на мой бок.

Ён быў няголены і крыху запылены.

Як заўсёды, шчырае рукапацісканьне бяз слоў, але ня дзьвюма рукамі, як звычайна, а аднэй—і без адказу на маё запытаньне аб здароўі.

Ён узяў мяне пад руку і пашоў са мной маёй дарогай. Потым спыніўся, глыбока ўздыхнуў і сказаў мне на вуха: „дзесяць год таму назад аднойчы прыходзіць да мяне ў канцылярыю мая незабыўная жонка, нябожчыца-баронэса фон Шотэк-Бальпляц, і гаворыць мне: „сёньня ў першы раз ніхто на Рынгштрасэ не абярнуўся, каб паглядзець на мяне!—Цяпер я ведаю, што са мной усё скончана“. У гэтым-жа самым леце яна загінула на пагулянцы, едучы ў чоўне возерам пры месячным сьвятле. Ёй было крыху больш за сорак год“.

Ён пакінуў мяне, зморана памахаў рукой. Я хацеў затрымаць яго.

Я пачаў: „але гэтага ня бывае. Вы павінны былі-б...“—толькі я прабаваў параіць яму тое, што можна было прапанаваць у даны момант.

Моўчкі папляскаў ён мяне па плячы: „гэта бывае, даражэнькі!“

Я ня меў сілы пярэчыць. Жоўты і худы, зьнік ён кудысьці ў бочную вуліцу.

За пісьмовым сталом у канцылярыі фабрыкі „Аквіля“ пан фон-Гак, пасьля таго, як я сеў, узяў новую „справу“. На вокладцы быў сьвежы надпіс—прозьвішча Леопольда, унізе крыж—сымболь сьмерці і дата.

Згодна з маімі паказаньнямі ён спакойна рабіў сабе нататкі і дадаў з халодным выразам на твары: „Компанія ні ў якім сэнсе ані не пацярпела. Нябожчык загадзя забясьпечыў надзейнымі замежнымі вэксалямі на ўпарадкаваньне ўсіх сваіх асабістых спраў. Недахопу грошай няма. Касу ён зачыніў учора ў поўным парадку з належным подпісам і бяз ніякага разьвітаньня са мной ці са служачымі. Ключ ад шафы з актамі мы атрымалі сёньня поштай“.

„Ну, а прычына?“

— „На маю думку, гэта быў стопроцантны эгоісты з дубовым вянком і мячамі ў гербе. А то ён так-бы ня схібіў, ці, прынамсі, як я яму і падказваў, зрабіў-бы гэта, знаходзячыся дзе-небудзь на большай адлегласьці адсюль і пасьля канчатковае ліквідацыі свае службы ў нас“.

„Ці ёсьць тут яшчэ хто—яго прыяцелі?“

— „З таго часу, як выехала адна прыватная яго прыяцелька, пакулькі я ведаю,—няма. І нічога ад яе нельга даведацца: яна ня мае сталага месца побыту... хм. Выехала нядаўна з прычыны высланьня яе за невялічкую спробу шантажу. І, праўду кажучы, яе выслалі, дзякуючы майму конфіндэнцыйнаму паведамленьню“.

„А апрача гэтага?“

— „Ад апытаньня жанчын, з якімі ён быў учора ўвечары, трэба таксама адмовіцца“.

„Чаму?“

— „Дэтэктыўнае бюро „Аргус“ паведамляе: „Увесь склад балету пад назвай „Залатая Пена“ з Вены-Будапэшту, увесь вандроўны рэклямны ансамбль гэтай-жа самай фірмы былі запрошаны з уласным піяністым на вячэру ў рэсторан „Сансусі“. Ён сам быў з ордэнам высокае ступені, замест простае розэткі (і гэта ўжо—немалы скандал!). Далей: усіх па чарзе гэтых танцорак ён, працуючы ўласнаручна за шофэра, разьвёз у самаходзе нашае дырэкцыі па іх кватэрах, раздаўшы ім яшчэ раней свае найкаштоўнейшыя паперы.—Вы разумееце?“

Я зразумеў.

Ашаломлены стаяў я на вуліцы. І потым, ня гледзячы ні ўлева, ні ўправа па баках, я пацягнуўся пехатой назад у сяло.

Наступнай раніцой прынёс паштальён ліст. Гэты ліст быў надзвычайна малы і, пасланы на месца службовай дзейнасьці сакратара паштовага аддзяленьня, шукаў мяне ўжо два дні.

Я расьпячатаў яго. Гэта была візытная картка нябожчыка, з абазначэньнем усіх яго пасад і тытулаў.

Апошні тытул быў нагрымзаны алоўкам на ніжнім краі карткі: ку-карэ-ку а. Д. І далей—п. п. ц.

Гадзіна прайшла ў мяне бяз працы.

Зноў лясканьне пугай на дарозе.

З плугамі і боранамі зноў ехалі сяляне на свае палі.

Я кінуў картку, схапіў справу паштовага касіера і пачаў павольна пісаць: ня ўсе псыхічна-хворыя—дурныя крыўлякі. Якаясьці бязьлітасная адасяродкавая сіла бывае часам у іх заблуканых душах. Тут выяўляецца чыннасьць нейкага пэўнага закону.

З нямецкай мовы пераклаў **Ю. Зэмель**.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

**Якуб Колас**

XI

Бліскучы полаг, пас чырвоны,
Фарбуе пожарам усход.
Дзень вось-вось рушыцца ў паход,
Прарваўшы змрочныя заслоны,
І вецер дзесь у дроце звоніць,
Шугае вольны свой палёт.
У пушчы срэбраных прысадаў,
Дзе млечны шлях век-векам лёг,
Тускнее дыямэнт-мурог,
І сходзяць зоры ўжо з пасадаў,
А прадусходняя прахлада
Вандруе з ветрам па палёх.
Эх, ноч, таварышка сакрэтаў!
Не рассыпай свае імжы,
Яшчэ хоць трохі паслужы.
Мінуць-бы хоць узгорак гэты,
У той лажок дайсьці-б да сьвету,
Дзе хмызу сьцелюцца брыжы.
Але зьнімае ноч сутану
І беліць пасмы валасоў
І блеску сьветлых абрусоў,
А на бязьмежную паляну
Выносіць дзень свой сьцяг баграны
Пад гімны раньніх галасоў...
Прыпыні, вандроўнік сьмелы,
Ты свой крок!
Возьме вораг на прыцэлы
Неўзнарок.
Прыпыніся, дальш ні кроку—
Хтось ідзе.

[1]) Гл. „Полымя“ № 3.

Ліха сьпераду і збоку—
Быць бядзе!
Эх, паложыш сваю галоў
Без пары.
Прытуліся ніжэй к долу
І замры.
Стрэл! другі! і каля вуха,
Як пчала,
Куля вусьцішна і глуха
Загула.
Прыпаў к зямлі наш небарака,
А сэрца стукае, бы звон.
Няўжо канец? няўжо палон?
Глядзіць—палеглі аўстрыякі,
Іх трое там, паўзуць, як ракі,
А кулі сьвішчуць наўздагон.
Дык гэта нашы іх спужалі!
Дзяжа ўздыхнуў крыху лягчэй
Ды зноў паўзе, паўзе хутчэй.
Як толькі можа, цісьне далей,
Каб ня тырчаць наверсе паляй
І каб схавацца дзе лаўчэй.
Там нібы зарасьнік унізе
Ўстае, агорнуты ў туман—
Ці чорнабыльнік ці бур'ян,—
Чытаць так цяжка ў гэтай кнізе,
Дзе ўсё заблутана, бы ў глызе,
І вока ўводзіць толькі ў зман,
І ён шыбуе на ачосы,
Бо сходзіць час, радзее мрок,
Жаданы-ж бераг так далёк.
На твар яго сьцякаюць росы,
А думкі кружацца, як восы,
І не знаходзіць схову зрок.
Зірнуў узбоч—і мімаволі
Умлеў, зьнямеў і страціў рух:
Паўзе з ім нехта ў кроках двух!

ДЗЯЖА

Ты хто?—Маўчыць, ляжыць на доле.
А як разгледзеў, яшчэ болей
Перахваціла яму дух.
Глядзіць з-пад кучмы валасатай
Замест вачэй сьляпы правал,

І зубы шчэрацца ў аскал,
Бы кпіны строяць з свайго брата,
Што зацягнула ў вір пракляты
Вар'яцтва цёмнае і шал.
Прадраў Дзяжу мароз па скуры,
Застыў, ні мёртвы, ні жывы,
І шапка злазіць з галавы—
Чаруюць яміны, дзьве дзюры,
Бы вочы сьмерці з-пад пячуры,
Нажамі рэжа сьмех крывы.
У гэтым сьмеху безгалосым,
У зроку мёртвым і сьляпым
Быў злучан жах, дакор жывым,
Протэст, праклён галодных, босых,
Што леглі скошаным пракосам
На корм драпежнікам людзкім.
Дзяжа, праняты дзікім страхам,
Схапіўся, кінуўся ў кусты,
А сьледам гнаўся сьмех пусты,
Гарохам сыпаўся над гмахам,
Дзе косьці, зьмешаныя з прахам,
Паклалі скрытыя масты.
Дабег. Упаў. Зірнуў, паслухаў—
Страляюць дзесь... Бур'ян, трава
Ды чэзлых кусьцікаў са два,—
Мясьцінка досыць ціха, глуха.
Усё-ж з бяды ён вышаў суха...
Чаго спалохаўся, дзівак?
На рэчы глянуў больш цьвяроза
І развважаць пачаў ён тут,
З чаго той страх і перапуд
І гэта сьмешная пагроза?
А ў мысьлях торкае заноза,
Ці не дарэмны яго труд?
Але назад няма звароту—
Ляжы, ня рухайся, маўчы,
Адпачывай аж да начы,
Ці плян складай, ці сьпі ў ахвоту,
А да-цямна пакінь турботу—
Мінуты доўгія лічы.

Расчыніла неба сені,
Пазганяла сонца цені,
Пасушыла вільгаць, росы,
Распусьціла ў небе косы.

Дзень па сьвеце пахаджае,
Людзям думкі нараджае,
Дарыць шчодра ім надзеі,
У шчасьлівы край вядзе іх.
Эх, вы, думкі-вывітушкі!
Ды няверныя вы служкі:
Посул шчасьця ваш вялікі,
А плод—шып калючы, дзікі!
Тускнее дзень. Находзіць вечар,
Разводзіць змрокі па лагох.
Зьвісае пыл ускрай дарог.
У полаг смалі і сінечы
Даль ахінае свае плечы,
І ноч ступае на парог.
У полі горача і парна.
Паветра сьпёрта. Томіць вар,
І адчуваецца цяжар.
На поўдні водблеск вялізарны
Па небе сьцелецца вычварна
Крывавым слупам аж да хмар.
Пара, пара! І час прыходзіць.
Глушэе мрок. Ну, гайда ў пуць...
Надзея, сум і страх і жудзь...
Гусьцее цемрадзь на заходзе—
Там хмары ў грозным хараводзе,
Зарніцы сеючы, плывуць.
А фронт адсьвечвае трывожна
Успышкай стрэлаў і ракет,
Грукочуць громы ім усьлед.
Дзяжа з аглядкай асьцярожна
Паўзе ўпарта і заложна,
Грымотным хмарам шле прывет.
  Дзьве найтруднейшыя задачы:
Узяць калючы дрот у лоб
І перабрацца за акоп—
Ніяк ня пройдзеш ты іначай.
Памылка ўсякая, няўдача
Палон пацягне або гроб.
Залёг пад сеткай, пад калючай,
Глядзіць, напружыў слух і зрок,
Вымае ножніцы і—чок!
І гэты „чок“, як стогн балючы,
Варваўся ў цішу, злы, скрыпучы.
Дзяжа стаіўся і—маўчок!

Счакаў, падстрыг яшчэ драціну,
Адвёў, параніўшы руку—
Бы ў сець папаўся к павуку,
І вязьне ў гнюснай павуціне,
Назад ня выбераш пуціны—
Гані страх прэч! будзь на-чаку!
Мільгнулі цені над акопам,
Пачуўся шум і тукат ног,
Хрусьціць жарства дзесь, як гарох...
І раптам—блісь агнём-патопам!
У небе спуджаным галопам
Імчыцца гром, трасе разлог.
Находзіць хмара, пасмы сьцеле
І ўся палошчацца ў агні.
Эх, вецер-друг! загамані!
Гушчэй, гушчэй зьвівай кудзелю!
Глыбей, глыбей у падзямелю
Вартаўнікоў ты загані!
І шугнуў дождж імклівым гонам,
Як срэбра важкі, бы жывы,
Пацёк на долы, паплавы.
Рэж сьмела дрот, праходзь заслону—
Няма ні скрогату, ні звону,
Мінай акопы і равы!
  Дзяжа, скрываўлены, абдзёрты,
Паўзе, як вуж, цярэбіць дрот
І выпаўз з гідасных варот.
Прад ім акоп. Раздум'е к чорту!
Раз, два і—гоп! парогі сьцёрты.
Надвор'е служыць—упярод!..
  Ужо другога дня сьвітаньне
Сваю выконвае чаргу
І гоніць прэч імглу, смугу.
Астаўся ззаду шлях блуканьня,
Цяжарны шлях пакут, туляньня,
Каб збыць няпэўнасьць і тугу.
І вось нарэшце хутар гэты,
І двор, і дом, і дуб, і сад.
Ці будзе хто яму тут рад,
Як і ў былыя колісь леты?
Ці будзе ласкай абагрэты?
Ці тут засеў чужы салдат?

## ДЗЯЖА

Цярпеньне, друг, цярпеньне,
Як цешыў Курапаткін [1]):
Разьвеюцца сумненьні
І марныя дагадкі!

Ён выбраў пункт сабе прыўдалы
Для забясьпекі, спасьцярог,
У вішняку густым залёг,
Каб вокны бачыць, двор, прагалы
І каб ня згінуць дармагалам
На мілым стыку двух дарог.
Сядзіць ён, мокры, адубелы,
Паходам змучаны, худы,
Адзін між ворагаў, бяды.
Пускае сонца ў неба стрэлы,
А ён, затоены, зьнямелы,
Шукае прошласьці сьляды.
Вайны і фронту адгалоскі
І фронтавы няспынны рух
Плывуць, разносяцца вакруг—
Гучаць моторы і павозкі,
І нясьціханны шум і лёскат
І гром адрывісты—гух-гух!
Але Барыс ня тым заняты—
Вачэй ня зводзіць ён з двара.
Ужо-б, здавалася, пара
І выйсьці добрым людзям з хаты!
Няўжо там пуста і зацята
І ў ёй няма гаспадара?
Яму так сьцішна тут і сумна:
Ён тут адзін і ўсім чужы.
Раняюць кропель капяжы
І штось гамоняць многадумна...
Стаяць бяз стрэх, унь, хаты, гумна,
А ў полі туляцца крыжы...
Ша—сокат чуецца курыны!
Як сьмешна гэта і дзіўно!
Ня чуў яго даўно, даўно.
І нібы нейкія пружыны

---

[1]) Курапаткін камандваў рускай арміяй у вайне з японцамі (1904-05 г.). Руская армія ўвесь час несла паражэньні, а Курапаткін заспакойваў—цярпеньне, цярпеньне.

Яго ўзьнялі у міг адзіны,
І сэрца радасьці паўно...
Ён далей робіць спасьцярогі
Ды думку пестуе цішком,
Што не пакінут імі дом.
І бачыць—вышаў босаногі
Сам гаспадар, пануры, строгі...
Кудысь пасунуўся лажком.
Дзяжа адразу весялее
І комбінуе новы плян
Туды прабрацца за паркан.
І раптам сэрца яго млее:
Ў вакне мільгае хтось, бялее,
Як лёгкі ранічны туман.
І думкі ўсе і ўся істота
І ўсе парывы ў тым акне.
Няўжо ўтрывае, ня гукне?
Не: лепш спыніць, уняць блазноту,
Ён не парушыць адзіноты—
Няхай сама сюды зірне!
Ён ловіць гук чульлівым слухам.
Спадае зашчапка з крука,
Мільгае зграбная рука,
А пад яе прыгожым рухам
Узбоч плывуць дзьве створкі духам,
А між іх постаць... чужака!
Відаць, ён толькі-што з пасьцелі...
І хто такі ён гэты жох?
Так ашукаў! ах, што-б ты здох!..
Нюх маеш добры, прыяцелю:
Ня хібіў, шэльма, спрытна цэліў
На фронт... сардэчных перамог!
  Нядобрых думак і дагадак
У ім віхнуўся цэлы жмут,
Як неўсьвядомлены прысуд...
Ну, што-ж, такі вайны парадак...
А ён, шальмец, дабёр і гладак
І пэўна спрытны баламут!..
Як-бы кагось шукае ў садзе.
Пытаньне толькі ў тым—каго?
Ну, зразумела, не яго.
Дзяжа, як воўк той у засадзе,
Глядзіць, аддаўшыся абладзе
Бясьсільля гэтага свайго.

Чужак, упэўнены, фарсісты,
Крутнуўся выкрутам ўюна
І зьнік дзесь з проразі акна.
Але ў паветры, сьвежым, чыстым
Плыве мотыўчык маршу сьвістам—
На тое-ж моладасьць, вясна.
Дзяжа сядзіць і пільна сочыць,
Як самы шчыры вартаўнік,
А сэрца піша свой дняўнік,
І сэрца іншых вестак хоча—
Шукае постаці дзявочай,
Але яе і сьлед тут зьнік.
Ідзе хвіліна і другая,
І многа іх, такіх хвілін,
Ды мала, скупа ўсё навін,
І томіць гэта нем глухая.
Глядзіць—аж зноў ён выплывае...
Так, афіцэр! ідзе адзін.
Мундзір дагнаны, як уліты,
А кепка ссунута набок.
Смуглявы твар, і цьвёрды крок,
Як-бы з мэталю ўвесь адбіты,
І вусы чорныя падбрыты,
А зрок удумліў і глыбок.
Дзяжа зьнямеў—што-ж будзе далей?
Глядзіць, як злодзей, з-за куста...
Відаць, ён ходзіць неспраста:
Ці не чакае свае кралі?
Ці ня чужое шчасьце ўкралі?
Эй, справа, мусіць, нячыста!
І раптам спрытны афіцэрык
Арлом зірнуў, зьмяніўся ўраз.
Ня йдзе—бяжыць пад пералаз!
Дзяжа ўсхвалёваны бяз меры,
Глядзіць, вачам сваім ня верыць—
Выходзіць Насьця ў той-жа час.
І як яны абое рады!
Яна... адкінут сорам, страх,
Глядзіць з адданасьцю ў вачах.
Ідуць шчасьлівыя ў прысады,
А ты ў цяню сырой прахлады
Усьведамляй свой поўны крах!
І гэта што-ж—яму адплата
За вернасьць, шчырасьць, бездань мук?

За раны ног яго і рук?
За ўсё, што ён захоўваў сьвята?
І ўсё аплёвана, расьпята,
Пад ногі кінута на брук!
А ў давяршэньне ўсяго болю
І горкай крыўды і пакут
На лаўку поруч селі тут,
Парывам, жартам даўшы волю...
І хто прыдумаць можа болей
Бесчалавечна-злы прысуд?

ЁН

Ну, як апачывалі?..
Вы трошкі бледнаваты,
І вочкі вашы вінаваты,
Як-бы яны мне што салгалі!

НАСЬЦЯ

А вы ня будзьце так ахвочы
Заглядаць у мае вочы.

ЁН

Ну, як не заглядаць у іх,
Калі яны і вабяць, і палоняць,
І сэрцу многа так гамоняць
У кожны час, у кожны міг?

НАСЬЦЯ

На сьвеце многа слоў пустых,
І ў гэтых словах праўда тоне,
І я вам мала даю веры,
Бо ведаю—ваш брат
Ня надта плача з-за дзяўчат,
І асабліва афіцэры.

ЁН

Я слоў сваіх ня кідаю на вецер:
Вы для мяне—мілейшая на сьвеце!

НАСЬЦЯ

Ня сьмейце лгаць, а то ўзлуюся
І буду чубіць вас—вось так!—
Зрывае кветачку Настуся

І жартам б'е яго няўзнак.
Ён ловіць руку балаўную
Ды туліць Насьцю і цалуе.

ДЗЯЖА

У маёй забытай тут асобе
Прымі, Настуся, прывітаньне!—
І ціха стала, як у гробе.
Зьнямелі жарты іх, каханьне.
А ён, абшарпаны дратамі,
Са сьледам высахшай крыві,
Стаіць прад імі, як прывід,
Глядзіць халоднымі вачамі,
Актор у ўласнай сваёй драме,
І сьмех блукае, злы, крывы.

ЁН

Вы хто такі, нязваны кавалер?

ДЗЯЖА

Я—рускі афіцэр,
Шаноўны ўража!
А рэшту хай яна даскажа—
Больш пікантна
І са смакам...
Віншую, новая Антанта,
Саюз Расіі з аўстрыякам!

КРОЧАК

Прашу, мой добры гаспадзіне,
Комэдый не ламаць!

ДЗЯЖА

А я прашу вас памаўчаць,
А ваш запал няхай астыне!

КРОЧАК

Не забывайце, хто і дзе вы:
Я вас, як шпега, задзяржу!

ДЗЯЖА

Цішэй! Стрымайце выбух гневу,
Пасьмейце пікнуць—улажу!

НАСЬЦЯ

Барыс! зьлітуйся—супакойся.

ДЗЯЖА

Баішся, Насьця? за каго? ня бойся:
Ня буду вам тут замінаць
І аб былым успамінаць.
Вось картачка, лісты,
Мая сьвятыня, амулеты.
Цяпер яны мне—гук пусты,
Вазьмі назад іх ад Дзяжы:
Чужая стала для мяне, ты,
А я табе даўно чужы.
Бывай!
Прашчай!
І павярнуўся рэзка, крута,
Пашоў уніз пад схіл гары,
Дзе змрочнасьць тояць гушчары.
Прыбіта Насьця і прыгнута.
У сэрцы цемра і пакута—
Канец ганебны, без пары!

# МАЯ ПОЭМА[1])

## Валеры Маракоў

Ноч лягла на Менскія бульвары,
Чорным вокам
Падміргнула мне.
Дальні плач надломанай гітары—
Гэта крык
Аб раненай вясьне.

Дарагія,
Блізкія чарцяты,
Сёньня я поэт
Ці не поэт.
Плачуць клёны ў золата закату,
Скача нейчы згублены шкілет.

Ўспомніў я забытае каханьне.
Кожны з нас
І верыў
І любіў.
У душы, як ў кратары вулкана,
Нёс агонь
І песьні
І журбы.

І таму пад выстралаў раскаты,
Калі сьвет
Ўзьнімаўся на дыбы,
Знаў я песьню вольнай
І багатай,
Поўнай волі,
Шчасьця й барацьбы.

Тыя дні пранесьліся навалай,
Намялі магіл і курганоў.
І калі сягоньня

[1]) Гл. „Полымя" № 4.

Сумна стала,
Мы ня кроў цалуем,
А віно.

* * *

Брэша трывожна у цемры сабака...
Я ўспамінаю свой край,
Сад ў залатых дагарэўшых накрапах,—
Першы і горац і рай.

Ноччу вясновай пад месяцам дальнім,
У холад і ў цемру і дым
Песьню губляю надзей пахавальных,
Песьню пяю маладым.

Прагна гудок праскакаў над дамамі,
Сэрца ахутвае жах.
Здэцца, хтось сьцяў касьцянымі рукамі
Неба далёкага дах.

Колісь тут раньнем ў жыцьцёвую школу
Горда і сьмела пашоў.
Быў я галодным і быў палуголым,
Але з упартай душой.

Ўсё перанёс я—і здраду й каханьне—
Й з кожнай нягодай сьмялей
Верыў, што прыдзе сусьветнае раньне,
Дружба і шчырасьць людзей.

Сёньня-ж я сьціх, я сягоньня згубіўся,
Ў сэрцы і пекла і рай.
П'ю за каханьне вясны-маладзіцы,
П'ю за загублены май.

Плачуць фальшывыя скрыпкі уночы...
Ноч за вакном, як труна.
Плачуць таварыша дымныя вочы,
Плача былога вясна.

Ўспомніў я сэрцам былыя пакуты.
Чуеш, як сэрца?..
— Ага!..
Што прывяло нас з табой да атруты—
Радасьць,
Ці боль...
Ці туга...

Тут ў рэсторане спаткаў я поэтаў...
Ў чадзе табакі й віна
Хтосьці крычаў
Аб бязмэтнасьці мэтаў,
Хтосьці ўвесь сьвет праклінаў...

Доўга глядзеў я на іх ў захапленьні.
Момант і сэрца—вулькан.
Вось дзе крыніца
Начнога натхненьня,
Вось дзе оазіс іх ран.

Хтосьці надрыўна і глуха да болю
Верш свой халодны чытаў...
Усё ў ім было—
І пра шчасьце, й пра волю,
І аб цыганскіх вачах.

Слухаў—і крыўдна і цяжка мне стала,—
Недзе за гэтай сьцяной
Новае йшло непакорнай навалай,
Крыгамі раньняй вясной.

Душна было тут і неяк агідна,
Месяц глядзеў, як мярцьвяк.
Досыць пачуцьцяў журбы паніхіднай,
Сёньня сьпяваюць ня так.

Сёньня пад новым зарніц палыханьнем
Песьняў пытаюць жывых.
Сам я шукаю далёкага раньня,
Толькі па сьцежках ня тых.

* * *

Я пакідаю сталы рэсторану...
Грубы праносіцца сьмех.
Як апынуўся я
Ў п'яных туманах,
Хто мне адкажа цяпер?!

Ах, я успомніў далёкія цені,
Лебедзь—закат на вадзе,
Дзе я,
Жывыя крыніцы натхненьня
Ў стройныя рыфмы адзеў.

Там я шукаў чалавека жывога,
Погляду сьветлых вачэй,
Там з маладой,
Непакорнай трывогай
Пеў пра каханьне начэй.

Некалі там над бутэлькаю піва
П'яны на крэсла прылёг.
Помню—
Таварыш са сьмехам шчасьлівым
Вывеў мяне на парог.

Сёньня-ж туманам накрыліся думы,
Я ня гуляка душой.
Хай я пад час быў
І п'яным... і сумным,
Ўсё-ж я і радасьць знайшоў.

Ўсё-ж перанёс я
І здраду й каханьне
Й з кожнай нягодай сьмялей
Веру,
Што прыдзе хоць нейчае раньне,
Дружба і шчырасьць людзей.

* * *

Была восень, падалі лісты.
Я стаяў на скверы і дзівіўся...
Хтосьці пеў аб нівах залатых,
Пад рояль і плакаў
І маліўся.

Хтось казаў аб шчасьці і жыцьці,
Аб каханьні друга маладога.
Хтосьці зваў да лепшага ісьці
Па другіх,
Нязнаных мне дарогах.

Слухаў я, агорнуты журбой,
Тую песьню... Тыя парываньні...
І расьлі на сэрцы
Шчасьце і любоў,
У душы сьвітала...
Налятала раньне.

Дарагія, блізкія,—ізноў вы!
Быццам нехта мудрае сказаў:
— Што ты талент—гэта бязумоўна,
Толькі трэба жыць,
А не згараць.

Адгараць пачуцьці і імкненьні...
Згасне сэрца буйны аганёк
І згарыш,
Як гэты дзень асеньні,
Нашым дзіўным раньнем і вясной.

Слухаў я, і сэрца замірала.
Вечар быў, як любае пагляд,
Быццам гэта любая сказала,
Што яе любоў я прагуляў.

Ах, ня тое... Месячным узрыдам
Я і сам заплакаў на асфальт...
Плач рояль за цноту Афрадзіты,
За распусту,
Здраду
І за фальш.

У мяне няма цяпер любімай.
Гэй ты, месяц—малпа, пачакай,—
Нафарбуем сэрца пудраю і грымам,
Скажам сонцу:
— Сонца, пакахай!

Адміралі гукі. Падалі лісты.
Я стаяў на скверы і дзівіўся.
Хтосьці пеў аб нівах залатых,
Толькі больш ня плакаў,
Не маліўся...

* * *

Шукаючы жыцьця надзей вялікіх...
І зор сьвятла
І месяца узрыд
Я закапаўся ў кнігах
І ў заліках
Я стаў студэнт—пакорны ангідрыт.

І ў той душы,
Дзе зоры расьцьвіталі,

Дзе рукі ночы кідалі закат,
Там узьняліся думак сэнклінaлі,
І стала неба—вольнасьці плякат.

Там па стапох
Былых маіх жаданьняў
Прайшоў гальштром нязнанага
Жыцьця,
І быццам зноў растручаныя раны
Панёс я ў сэрцы—
Сэрцы мерцьвяка...

Там дзесьці людзі
Горда успрыймалі
Цяпло вясны
І музыку,
І сьвет,
А я над тайнай злой дыягоналі
Сядзеў, як дрэўні мудры Архімед.

Я ўвесь палаў нязнанаю мне сілай...
Тут косьці прадзедаў
Расшырвалі мазгі;
І кожны твар,
Нібыта крыж пахілы,
Пасвойму стаў і блізкі
Й дарагі...

Я надламіўся хутка да бяскраю,
Я, як агарак, хутка дагарэў.
І нехта раіў,
Доўга гэтак раіў,
Каб я шукаў другіх сабе дзьвярэй.

Я захварэў і цёмнымі начамі,
Забыўшы ўсё: і кнігі і пяро,—
Я жыў гарачымі ўстрывожанымі снамі,
Ганяў на выган з хлопцамі
Кароў.

Там пад пякельным сонцам,
На прасторах
Маіх вясновых дум і пачуцьцёў
Я зваў былыя радасьці і гора,
Былыя песьні,
Дружбу і жыцьцё...

Я бачыў сьвет усходаў і закатаў,
Я слухаў доўга песьні пастухоў,
Я бачыў з пугай Дантэ
І Сократа,
Што гналі ў рай пакорных ім кароў.

Ах, там ў раі палі зазелянелі.
Гані туды, там паша багацей.
І раптам чуў я лёгкасьць
Ў хворым целе
І галасы знаёмых мне людзей...

І адчыняў я вочы з заміраньнем...
Душа ляцела ў вольны небакрай.
Ізноў вясна,
Ізноў і сьмех і раньне,
І недзе там гармонік зноў іграў...

Зноў пацягнула жыць і захапляцца
Ўсім тым,
Чым людзі верылі ў людзей.
Наноў за песьні
Й за навуку брацца,
За мудры вечар дум іх і надзей.

Даволі спаць!
Жыцьцё не дамавіна.
Жыцьцё патрэбна ўзяць і палюбіць
І маладой вясной,
Любоўю сына
Нягоды путы скінуць і разьбіць!..

* * *

Мяне спаткалі, быццам мерцьвяка,—
Ніхто ўжо больш
У мой усход ня верыў,
І друга лепшага халодная рука
Не адчыніла зноў мне
Радасныя дзьверы.

І хтосьці
Зьдзекавацца тады з мяне пачаў.
Для іх я быў:
Гуляка і гультай...
І я, як труп,
Як труп жывы, маўчаў
І, як магіла, здушаным я стаў...

Я зразумеў—нахлынула бяда,—
Я шмат забыў і многага ня знаў...
І хтось сказаў:
— Дакуманты аддаць,
Ён не дагоніць, як і не дагнаў!

* * *

— Эх, брэшаш, чорт!..
Яшчэ не адгарэлі
Ў маіх грудзёх уздыхі навальніц,
І, покуль ёсьць
Хоць кропля сілы ў целе,
Я перад лёсам ня схілюся ніц.

Я перад ім ня стану на калені,
Мая душа—ўстрывожаны касьцёр,
І хай мяне абсыпалі каменьнем,
Дык гэта-ж
Й ёсьць сапраўднае жыцьцё.

Я працаваў надрыўна і трывожна,
І я па праве горда перамог.
Я,
Як адсталы ў полі
Спадарожнік,
Не шкадаваў ні рук, ні галавы,
Ні ног!..

Дзівіўся чорт,
Нібы Шукайла з гора,
Яму па гэтых сьцежках не прайсьці.
Яму, як мне, разгойданае мора
У бэтон грудзей,
Як друга не прасіць.

Вячэрні змрок...
Цяплынь і заміраньне...
Ўстае туман над возерам душы...
І ў гэтым цёплым ўдуманым тумане
Сваіх надзей
Разбурваю крыжы.

Ах, як усё вакол зазелянела...
Мой родны край—карміцелька зямля.
Цяпер па праве
Радасна і сьмела
Заву дзяўчат і хлопцаў пагуляць.

* * *

Прышлі хлапцы з дзяўчатамі увечар.
Эх, грай, гармонік—
Д'ябал, не маўчы...
І жыў прастор жаданьнем чалавечым,
Згубіўшы ў сінь
Ад месяца ключы.

І толькі Рая сумна і трывожна
Глядзела ў даль сумуючых палёў...
— Скажы, браток,
З табой за горад можна?—
Мне душна тут, нібыта пад зямлёй.

І мы пайшлі...
І доўга мы блукалі...
Навісьлі хмары...
Вецер узрастаў...
Начных палёў разгойданыя хвалі
Хісталі труп памёршага Хрыста...

Цалуй, маланка, вусны да бяскраю,
Я іх ня ўмеў ніколі цалаваць.
Я пакахаў цяпер студэнтку Раю
І вось аб ёй,
Аб ёй хачу сьпяваць...

Глядзі—сягоньня
П'янствуе прырода,
Яна спраўляе вечны юбілей...
Яе змаганьне—бура-непагода—
Расьце што-дзень упарцей...
І сьмялей...

Глядзі—заплакаў нехта на дарогу,
Пабеглі сьлёзы-іскры
Па палям...
І боль...
І радасьць...
Шчасьце...
І трывогу
Падзелім сёньня з бурай папалам.

— Эх ты, поэт...
Я ня люблю поэтаў,
А ўсё-ж што-небудзь,

Хочаш, пачытай,
Аб тым, чым сэрца палкае сагрэта,
Хто гэты верш парой табе шаптаў.

Я новы ліст зачытваю ад Клары,—
Ён зноў ўстрывожыў думы
Й пачуцьці:

. . . . . . . . . . . .

„Бывай...
Прабач...
Я паміраю ў бары,
Згубіўшы сьвет жыцьця на поўпуці.
Прабач...
Такая чорная навала.
Цяпер я бачу шлях куды ясьней.
Я аднаго даўней цябе кахала,
О, гэта слова дзіўнае—даўней...
Я не хачу растручваць
Тваіх ранаў,
А ўсё-ж скажу,
Як нізкая зьмяя,—
Ты помніш той смуглявы ў чадзе,—
П'яным
Мяне пакрыўдзіў горка й асьмяяў...
О, я была рабом сваіх імкненьняў,
Ты знаеш, гэта—
Даўняга надлом,
Я для сябе,
Для мірных лятуценьняў,
Цьвіла над кожнай ніткай і рублём.
Ї як другія жыць
Я ня умела...
Дзе людзі йшлі вялікай грамадой,
Там я п'янела стомай свайго цела
Ї п'янай ўладай сілы маладой.
Яго я звала
Блізкім і любімым,
Ї я ўзяла,
Як бачыш, цераз край,—
Мы не кахаць...
Ня верыць не маглі мы,
Мы толькі йшлі ў мяшчанства
Дагараць...
Жыві шчасьліў...

Ідзі сваёй дарогай...
Мой кавалер задумаўся... замоўк...
...І так усё!..
Жадаю многа... многа...
О, любы мой... бывай, каханы мой“.

---

— І ты кахаў такую пэсымістку?..
Эх, ты поэт!..
Ты сам расьцяпай стаў.
Ёй на‘т памерці боязна бяз піску,
Нашто ты дрэнь такую мне чытаў?
. . . . . . . . . . . . . . .
О, я ня меў патрэбнага адказу,
Я нахіліўся нізка галавой
І гэту споведзь...
Крыўду і абразу
Схаваў на тайным дне душы сваёй.

* * *

Залатымі хвалямі зашумела возера,
Край ты мой савецкі,
Мой любімы край,—
З маладымі песьнямі,
З маладымі крозамі
Нехта вышаў ў поле пра вясну
Сыграць...

Чуеш песьню дальнюю...
Песьня дзесь калосіцца...
Разгарні гармонік, грудзі разгарні,
Сэрца к новай радасьці,
На прывольле просіцца,
На прастор шырокі маладой вясны.

Сам я песьню любую
Падпяваю дальняму...
Сам такую ўмею сёньнечы злажыць.
Сам складу сягоньнечы мёртвай
Разьвітальную,
Усё-ж аб ёй калісьці пеў і варажыў.

І я ня буду гэтым п‘яны,
Вясновай хвалі меж няма.
Яна мне любай
Больш ня стане,

Як труп,
Як сьмерць...
Як сьмерць сама.
Што сумаваць
Пад сінім небам,
Яно ня стане маладзей...
Кахаць і жыць
Іначай трэба,
Ўсё-ж нек упарцей
І сталей...
Што пажадаць!..
О, лепш нічога!
Жаданьнем мёртвых
Не падняць,
Дзе у магільнага парога
Ня грэе сонца,
Ні вясна!..

Залатымі хвалямі зашумела возера.
Ўзяў пад руку вецер,
І мы ўдвох пайшлі,
Каб поэмай новай і другімі крозамі
Прывітаць далёкія, любыя палі!..

1927-28 г.
Менск.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЬЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА БССР І БЕЛАРУСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА СССР ПАВОДЛЕ ПЕРАПІСУ 1926 ГОДУ

**Г. Гарэцкі**

Пакуль што выдрукаваны толькі папярэднія вынікі або кароткія зводкі перапісу насельніцтва 1926 г. па ўсім СССР [1]). Канчатковыя вынікі перапісу друкуюцца ў асноўных выданьнях, з якіх ужо зьявілася некалькі томаў па аддзелу „Нацыянальнасьць, родная мова, узрост і пісьменнасьць“. У першых тамох вышлі вынікі перапісу па БССР [2]). Гэта дае магчымасьць ужо зараз дакладна, на падставе канчатковых лічбаў перапісу, прасачыць нацасаблівасьці насельніцтва БССР і з меншай дакладнасьцю некаторыя асаблівасьці беларускага насельніцтва СССР.

Нажаль, распрацоўка вынікаў перапісу не падрабязная, комбінацыйных табліц вельмі мала, большасьць вынікаў прыстасавана да акруговых адміністрацыйных адзінак (12 старых акруг БССР); толькі адна табліца падзелу насельніцтва па нацыянальнасьці і асобна па роднай мове (без комбінацый) складзена па раённых адміністр. адзінках БССР. Усё гэта значна звужае магчымасьці дакладнага скарыстаньня і навуковае крытыкі вынікаў перапісу. З прычыны зьмены адміністрацыйных меж, вынікі перапісу 1926 г. амаль зусім няможна параўнаць з адзіным старым перапісам 1897 г. ЦСК (ЦСУ) Беларусі зробіць вялікую справу, калі організуе хоць некаторыя пералічэньні вынікаў перапісу 1926 году, каб параўнаць іх з вынікамі перапісу 1897 году. Бо наогул вынікі першага поўнага савецкага перапісу насельніцтва вельмі багатыя, рознастайныя і варты самай вялікай увагі, шырокай популярызацыі і скарыстаньня для навуковых і практычных мэт.

Вось які малюнак складу насельніцтва БССР па нацыянальнасьці і па роднай мове дае перапіс (гл. табл. на 78 стар.).

Па табліцы можна ўстанавіць такія факты:

1. У сельскіх мясцовасьцях Беларускай ССР (па раёнах) у дзевяці акругах *беларусы* ў складзе насельніцтва займаюць звыш 90%, пры паказаньнях па нацыянальнасьці, у аднэй (Мазырская)—звыш 85%,

---

[1]) Всесоюзная перепись населения 17 декабря 1926 г. Краткие сводки. IV выпуск. Народность и родной язык населения СССР. Москва 1928 г. III вып. Население СССР. М. 1927 г. і інш.

[2]) Всесоюзная перепись населения. Том X. Народность, родной язык, возраст и грамотность. Белорусская ССР. Москва 1928 г.

## Насельніцтва па раёнах у процантах

| Палосы або зоны акруг | Акругі | Беларусы | | | | Расійцы | | | | Яўрэі | | | | Палякі | | | | Іншыя | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальн. | | Па родн. мове | | Па нацыянальн | | Па родн. мове | | Па нацыянальн. | | Па родн. мове | | |
| | | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж | м. | ж. | м. | ж. | |
| I | Полацкая . . | 90,7 | 92,9 | 84,4 | 87,4 | 3,4 | 2,1 | 11,5 | 9,2 | 1,4 | 1,3 | 1,3 | 1,2 | 2,6 | 2,8 | 1,1 | 1,2 | 1,9 | 0,9 | 1,7 | 1,0 | 100 |
| | Віцебская . . | 90,4 | 90,3 | 72,6 | 72,9 | 5,7 | 5,8 | 24,3 | 23,9 | 0,8 | 0,4 | 0,8 | 0,8 | 1,3 | 1,4 | 0,7 | 0,8 | 1,8 | 2,1 | 1,6 | 1,6 | 100 |
| II | Барысаўская . | 90,9 | 91,1 | 87,8 | 88,2 | 2,2 | 2,2 | 8,3 | 8,0 | 1,8 | 1,7 | 1,7 | 1,7 | 4,4 | 4,5 | 1,6 | 1,7 | 0,7 | 0,5 | 0,6 | 0,4 | 100 |
| | Аршанская . | 91,6 | 94,2 | 69,1 | 69,6 | 1,9 | 2,0 | 28,5 | 27,6 | 1,4 | 1,4 | 1,3 | 1,3 | 1,5 | 1,5 | 0,6 | 0,6 | 0,6 | 0,9 | 0,6 | 0,6 | 100 |
| III | Менская . . | 94,5 | 95,5 | 94,2 | 95,4 | 1,3 | 0,5 | 2,8 | 1,8 | 1,4 | 1,3 | 1,4 | 1,4 | 2,3 | 2,3 | 1,1 | 1,1 | 0,5 | 0,4 | 0,5 | 0,3 | 100 |
| | Магілеўская . | 96,3 | 96,4 | 96,5 | 97,3 | 0,6 | 0,5 | 1,2 | 0,9 | 1,5 | 1,4 | 1,4 | 1,4 | 1,0 | 0,9 | 0,3 | 0,3 | 0,6 | 0,8 | 0,6 | 0,1 | 100 |
| | Калінінская . | 97,1 | 96,8 | 75,3 | 74,8 | 1,0 | 0,3 | 22,9 | 23,3 | 1,2 | 1,2 | 1,2 | 1,2 | 0,2 | 0,2 | 0,1 | 0,1 | 0,5 | 0,5 | 0,5 | 0,6 | 100 |
| IV | Слуцкая . . | 95,6 | 96,1 | 94,0 | 95,6 | 1,1 | 0,4 | 3,4 | 1,9 | 1,7 | 1,7 | 1,7 | 1,7 | 1,3 | 1,4 | 0,5 | 0,5 | 0,3 | 0,4 | 0,4 | 0,3 | 100 |
| | Бабруйская . | 91,3 | 91,1 | 82,7 | 84,2 | 3,7 | 3,7 | 13,5 | 11,9 | 2,4 | 2,5 | 2,4 | 2,5 | 2,1 | 2,1 | 0,8 | 0,9 | 0,5 | 0,6 | 0,6 | 0,5 | 100 |
| V | Мазырская . | [illegible] | 89,3 | 88,8 | 89,8 | 0,7 | 0,4 | 2,4 | 1,6 | 3,3 | 3,4 | 3,3 | 3,4 | 2,9 | 2,9 | 1,2 | 1,2 | 4,6 | 4,0 | 4,3 | 4,0 | 100 |
| | Рэчыцкая . . | 65,9 | 65,8 | 31,5 | 32,5 | 25,8 | 25,9 | 63,3 | 62,3 | 2,1 | 2,3 | 2,1 | 2,2 | 1,8 | 1,9 | 0,5 | 0,5 | 4,4 | 4,1 | 2,6 | 2,5 | 100 |
| | Гомельская . | 56,9 | 56,6 | 16,7 | 16,7 | 38,1 | 38,5 | 81,8 | 81,8 | 1,0 | 0,9 | 0,9 | 0,9 | 1,6 | 1,6 | 0,2 | 0,2 | 2,4 | 2,4 | 0,4 | 0,4 | 100 |

у аднэй (Рэчыцкая) — звыш 65% і ў аднэй (Гомельская) — звыш 50%. Апрача дзьвюх акруг, якія да БССР далучаліся *толькі ў часе перапісу* (Гомельская і Мазырская), беларусы па нацыянальнасьці зьяўляюцца ў складзе вясковага насельніцтва БССР выключнай па суцэльнасьці масай (звыш) 90%)[1].

2. *Расійцы* па нацыянальнасьці ў Рэчыцкай і Гомельскай акругах займаюць ад 25 да 40% (25,8%—38,5%), у Полацкай, Віцебскай і Бабруйскай акругах ад 3 да 6% і ў іншых акругах—менш 3%.

3. *Палякі* па нацыянальнасьці толькі ў аднэй Барысаўскай акрузе маюць 4,5% у складзе вясковага насельніцтва, ва ўсіх іншых акругах—менш 3%. Палякоў больш, чым расійцаў, у Барысаўскай, Менскай, Магілеўскай, Слуцкай і Мазырскай акругах.

4. *Яўрэі* займаюць сярод вясковага насельніцтва 2—3% у Мазырскай, Бабруйскай і Рэчыцкай акругах, у іншых акругах менш 2%. Раёнам значнага пашырэньня яўрэяў-вяскоўцаў зьяўляецца Беларускае Палесьсе. Пераважнае месца сярод іншых нацменшасьцяй беларускай вёскі яўрэі маюць у Магілеўскай, Калінінскай і Слуцкай акругах (яўрэяў больш, чым расійцаў і палякоў).

5. *Іншыя нацыянальнасьці* больш-менш значныя групы складаюць сярод вясковага насельніцтва Мазырскай, Рэчыцкай і Гомельскай акруг (пераважна *украінцы* — іх 2,9%, 3,4% і 2,2%), а таксама Полацкай і Віцебскай акруг (пераважна *латышы*—іх 0,7% і 1.2%).

6. Нацыянальны склад *мужчын і жанчын* вельмі блізкі між сабою, за некаторымі выключэньнямі: беларусаў у Полацкай акрузе больш сярод жанчын, затое сярод мужчын больш расійцаў; у Менскай акрузе расійцаў больш сярод мужчын, чым сярод жанчын, а таксама ў Калінінскай, Слуцкай, Мазырскай, г. зн. у акругах з мінімальным процантам расійцаў,—гэта сьведчыць аб тым, што расійцы тут—немясцовыя карэнныя жыхары. (Сярод немясцовага, прышлага насельніцтва заўсёды больш мужчын); сярод яўрэяў і палякоў адносіны мужчын і жанчын цалком ураўнаважаны (выключэньне—яўрэі ў Віцебскай акрузе).

Калі падзяліць усе 12 акруг БССР на 5 палос, або зон, як гэта зроблена ў табліцы, па іх географічнаму разьмяшчэньню з поўначы на поўдзень, і ў кожнай паласе разьмясьціць акругі ў кірунку з захаду на ўсход, дык можна заўважыць, што значэньне беларусаў па нацыянальнасьці ў складзе вясковага насельніцтва ўзрастае з поўначы і поўдня БССР да яе цэнтру—III паласы: Менская, Магілеўская і Калінінская акругі[2]). Гэта нібы цэнтральная беларуская этнографічная вось, нібы хрыбет беларускага этнографічнага абшару. Цікава адзначыць, што і ў

[1]) БССР зьяўляецца самай аднастайнай па нацскладу, спаміж іншых Саюзных Рэспублік: процант беларусаў у БССР—80,6, украінцаў у УССР—80,0 проц., рускіх у РСФСР—73,4 проц., узбэкаў у УзбССР—73,4 проц., туркмэнаў, у Туркменскай ССР—70,2 проц.

[2]) Б. П. Вейнбэрг вылічыў, што цэнтр беларускага насельніцтва ляжыць паміж Менскам і Магілёвам.

Заходняй Беларусі працяг гэтае восі захоплівае найбольш беларускія па нацыянальнаму складу мясцовасьці (Наваградчына, Лідчына, Горадзеншчына).

Значным дасягненьнем перапісу 1926 году было тое, што ён зарэгістраваў асобна нацыянальную прыналежнасьць насельніцтва і асобна яго родную мову. Дзякуючы гэтаму можна прасачыць—хоць і груба—прыблізна *процэс асыміляцыі* паасобных нацыянальных груп.

7. Нацыянальны склад насельніцтва БССР па роднай мове значна розьніцца ад складу па нацыянальнай прыналежнасьці. Звыш 90% беларусаў сярод вяскоўцаў па роднай мове маюць ужо ня 9, а толькі 3 акругі; звыш 80% беларусаў мае не 1, а ўжо 4 акругі; сюды якраз і трапілі акругі, якія раней мелі звыш 90% беларусаў па нацыянальнасьці. Калі па нацыянальнай прыналежнасьці беларусы ва ўсіх акругах займалі абсолютную большасьць, дык па роднай мове ў дзьвюх акругах яны пераходзяць на становішча нацыянальных меншасьцяй, саступаючы абсолютную большасьць расійцам; гэта якраз акругі, якія далучаліся да БССР у часе самога перапісу—Рэчыцкая (беларусаў—25,8%, расійцаў—62,8%) і Гомельская (беларусаў—38,3%, расійцаў—81,8%), і ў самым факце іх існаваньня ня ў складзе БССР хаваецца прычына зьніжанага проціанту ў гэтых акругах беларусаў па нацыянальнай прыналежнасьці і зусім мізэрнага проціанту беларусаў па роднай мове.

Але ўсё-ж, ня гледзячы на бясспрэчныя памылкі ў рэгістрацыі роднае мовы, факт несупаданьня нацыянальнасьці і роднай мовы для некаторых мясцовасьцяй зьяўляецца рэальным фактам, адбіткам процэсу асыміляцыі беларускага насельніцтва. Калі ўзяць проціант беларусаў па роднай мове і па нацыянальнасьці сярод вясковага насельніцтва па асобных палосах акруг у кірунку з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход, дык лічбы будуць такімі (%% сярод мужчын):

Проціант беларусаў

| Акругі I групы | Па нацыянальнасьці | Па роднай мове | ± % | Акругі II групы | Па нацыянальнасьці | Па роднай мове | ± % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Поўнач | | | | | | | |
| Полацкая . | 90,7 | 84,4 | — 63,0 | Віцебская . . | 90,4 | 72,6 | — 17,8 |
| Барысаўск. . | 90,9 | 87,8 | — 3,1 | Аршанская . . | 94.6 | 69,1 | — 21,5 |
| Менская . | 94,5 | 94,2 | — 0,3 | Магілеўск . . | 96.3 | 96,5 | + 0,2 |
| Слуцкая . | 95,6 | 94,0 | — 1.6 | Калінінская (III) | 97.6 | 75.3 | — 22,3 |
| Мазырская . | 88,5 | 88,8 | + 0,5 | Бабруйск. . . | 91.3 | 82,7 | — 8,6 |
| | | | | Рэчыцкая . . | 65,9 | 31,5 | — 34,4 |
| | | | | Гомельская (III) | 56,9 | 16,7 | — 40,2 |
| Поўдзень | | | | | | | |

Захад ⟶ Усход (шыротныя групы)

Гэта географічна орыентаваная табліца паказвае, што процант беларусаў па роднай мове, дасягаючы максымуму ў цэнтры Беларусі, спадае з кірунку на поўдзень і больш рэзка на поўнач у першай групе акруг, у кірунку на поўнач і больш рэзка на поўдзень у другой і трэцяй групе акруг[1]), пры гэтым, чым далей акругі на ўсход, тым больш рэзкае спаданьне. Тую-ж законаўпарадкаванасьць паказваюць лічбы аб разыходжаньні проценту беларусаў па нацыянальнасьці і па роднай мове. Такім чынам, ёсьць два географічных кірункі, у якіх адбываецца асыміляцыя беларусаў—адзін кірунак ідзе на поўнач, другі—на ўсход і паўночны ўсход. Найбольш моцнай інтэнсыўнасьці процэс асыміляцыі беларусаў набывае на паўночна-усходнім і ўсходнім географічным кірунку (Віцебшчына, Аршаншчына, Калінішчына), г. зн. у кірунку цэнтральнага расійскага этнографічнага ядра. Але наогул процэс асыміляцыі не набыў яшчэ сярод беларусаў вялікай моцы; калі ня лічыць Гомельшчыны і б. Рэчыцк. акругі, дзе на лічбы мелі ўплыў спэцыфічныя асаблівасьці адарванасьці ад політычна-культурнай еднасьці з БССР, дык актыўная асыміляцыя ахоплівае ў першай шыротнай групе ня больш 10% насельніцтва (процант беларусаў, якія гавораць не пабеларуску), у другой групе ня больш 20—25%. Зноў яскрава вылучаецца цэнтральны этнографічны пас Беларусі—Менская, Магілеўская і Калінінская акругі, дзе (за выключэньнем апошняй акругі) процэс асыміляцыі ня даў ніякіх вынікаў.

8. *Яўрэі* ў вёсках паказваюць дзіўную ўстойлівасьць роднай мовы; родная мова і нацыянальная прыналежнасьць у яўрэяў-вяскоўцаў супадаюць цалком.

9. *Палякі*, наадварот, спаміж усіх нацыянальнасьцяй БССР выяўляюць найбольш рысаў асыміляцыі. Процант палякоў па роднай мове менш проценту палякоў па нацыянальнасьці па 8 акругах у 2—3 разы, у 3 акругах—звыш чым у тры разы (Гомельская, Рэчыцкая, Магілеўская), у аднэй—да 2 разоў (Віцебшчына). Процэс асыміляцыі такой глыбокай інтэнсыўнасьці ня мог адбыцца сярод польскай нацыянальнасьці, вядомай высокай нацыянальнай самасьвядомасьцю і захоўваньнем нацыянальнай культуры. Таму застаецца толькі адно дапушчэньне: група палякоў вылучана рэгістратарамі паводле нейкай іншай (не нацыянальнай) адзнакі, магчыма, рэлігійнай (каталікі).

10. *Расійцы* па роднай мове паказваюць значнае разыходжаньне з іх значэньнем па нацыянальнасьці. Географічна гэта разыходжаньне найбольшае там, дзе заўважаецца найбольшае зьмяшчэньне беларусаў—найбольшай групай, запісанай расійцамі па роднай мове, былі беларусы.

11. Розьніца ў нацыянальнмм складзе *мужчын* і *жанчын* па роднай мове большая, чым па нацыянальнасьці, асабліва ў беларусаў і расійцаў: сярод жанчын большы процант беларусак па роднай мове, сярод мужчын—большы процант расійцаў: беларуска відавочна больш захоўвае родную мову, чымся мужчына—беларус.

[1]) Да трэцяй групы належаць Калінінская і Гомельская акругі.

Географічнае разьмяшчэньне беларусаў-вяскоўцаў па абшару БССР (па раённых адміністрацыйных адзінках) падана ў картограме № 1. Толькі ў чатырох раёнах БССР беларусы ня маюць абсолютнай большасьці ў складзе насельніцтва: Дабрускім (37,0 проц.), Краснабудзкім (22,3 проц.), Насовіцкім (46,7 проц.) і Сьвяцілавіцкім (34,0 проц.) раёнах на Гомельшчыне. У далучаных да БССР у часе правядзеньня перапісу акругах—Рэчыцкай і Гомельскай—беларусы ў большасьці раёнаў складаюць 50—75 проц. ад усяго сельскага насельніцтва, а ў частцы раёнаў—Васілевіцкім, Горвальскім, Холмецкім Рэчыцкай акругі і Веткаўскім, Дзятлавіцкім і Чачэрскім раёнах Гомельшчыны 75—85 проц. Ня гледзячы на бясспрэчнае зьмяншэньне беларусаў у часе рэгістрацыі, нацыянальная статыстыка новадалучаных акруг цалком сьцьвярджае правільнасьць і падстаўнасьць далучэньня да БССР гэтых карэнных беларускіх акруг. Пераважная большасьць тэрыторыі БССР мае ў складзе насельніцтва 85—95 проц. беларусаў, а вельмі значныя компактныя масы раёнаў на ўсходзе БССР (Магілеўшчына і Калініншчына), на захадзе (паласа Менск-Слуцак і на ўсходзе ад Менску ўніз да Палесься), на поўначы Палесься, на поўнач і на паўднёвы ўсход ад Віцебску і на паўночны ўсход ад Полацку мае звыш 95 проц. беларусаў спаміж сельскага насельніцтва. Дакладная географія разьмяшчэньня беларусаў па абшару БССР яшчэ раз падкрэсьлівае выключную компактнасьць гэтага разьмяшчэньня, выключную аднalітасьць вясковай Беларусі ў нацыянальных адносінах.

Разьмяшчэньне *расійцаў* па раёнах—часта адваротнае разьмяшчэньню беларусаў. Абсолютную большасьць, згодна перапісу, расійцы маюць толькі ў трох раёнах Гомельскае акругі: Дабрускім, Краснабудзкім і Насовіцкім.

*Яўрэі* паважнае значэньне набываюць сярод вяскоўцаў у Журавіцкім раёне, Магілеўскай акругі (4,3 проц.), Краснаслабодзкім раёне, Слуцкае акругі (3,4 проц.), Сьвіславіцкім раёне, Бабруйскай акругі (4,1 проц.) і Парыцкім, той-жа акругі (7,0 проц.), Юрэвіцкім раёне, Рэчыцкае акругі (7,0 проц.) і пяці раёнах Мазырскае акругі: Жыткавіцкім (3,5 проц.), Каралінскім (6,2 проц.), Лельчыцкім (5 проц.), Слабадзкім (4,8 проц.) і Тураўскім (3,5 проц.). Паколькі насельніцтва аднайменных мястэчак адпаведных раёнаў выключана са складу сельскага насельніцтва (мястэчкі Сьвіслач, Парычы, Жыткавічы, Тураў), пастолькі можна меркаваць аб значных пасяленьнях у гэтых раёнах сапраўдных яўрэяў-вяскоўцаў; у другіх раёнах, дзе паказаны значны процант яўрэяў-вяскоўцаў, фактычна гэта жыхары мястэчак, толькі залічаных статыстыкаю ў склад сельскіх паселішч.

*Палякі* прадстаўлены значнымі групамі ў раёнах Ульскім (6,4 проц.) і Ушацкім, Полацкае акругі (4,9 проц.), Высачанскім раёне, Віцебскае акругі (4,2 проц.), у 4-х раёнах Барысаўшчыны: Плешчаніцкім (15,3 проц.), Халопеніцкім (5,7 проц.), Лепельскім (4,9 проц.) і Бярэзінскім (3,9 проц.),


КАРТАГРАМА N 1
РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ
ПА ТЭРЫТОРЫІ БССР
— процант беларусаў паміж вясковага насельніцтва —
ТЛУМАЧЭНЬНЕ
% беларусаў:
да 50,0 %
ад 50,1 да 75,0
„ 75,1 „ 85,0
„ 85,1 „ 95,0
звыш 95,0 %
Дзьвінск
Невель
Полацак
Віцебск
Лепель
Сянно
Ворша
Барысаў
Менск
Магілеў
Клімавічы
Слуцак
Бабруйск
Рагачоў
Гомель
Рэчыца
Мазыр
Чарнігаў
28
30
32

двух раёнах Аршанскае акругі—Круглянскім (4,0 проц.) і Талочынскім (4,2 проц.); у Меншчыне палякі складаюць значную групу ў Сьмілавіцкім раёне (3,3 проц.) і Пухавіцкім (2,9 проц.); у Магілеўшчыне—у Чавускім (2,8 проц.), на Случчыне—у Капыльскім (5,2 проц.); на Бабруйшчыне—у Клічаўскім (5,9 проц.), Парыцкім (4,2 проц.) і Сьвіслацкім (6,1 проц.), на Мазыршчыне—у Каралінскім (3,0 проц.), Нараўлянскім (8,6 проц.) і Слабадзкім (4,9 проц.); у Рэчыцкай акрузе—у Хойніцкім раёне (4,9 проц.) і Юрэвіцкім (3,0 проц.), у Гомельскай акрузе—толькі ў адным Сьвяцілавіцкім раёне (7,5 проц.).

*Латыскія* колёніі пашыраны ў раёнах Ушацкім, Расонскім і Полацкім, Полацкае акругі (ад 200 да 450 жыхароў на раён), Лёзьненскім, Віцебскім, Высачанскім, Кузьняцоўскім, Межанскім, Сураскім раёнах Віцебшчыны (ад 400 да 2000 душ на раён), Глускім раёне, Бабруйскае акругі (418 чал.), Мілаславіцкім раёне Калініншчыны (618 чал.), Быхаўскім, Лупалаўскім, Магілеўскім, Чачавіцкім раёне Магілеўшчыны (ад 200 да 600 чал.).

*Украінцы* ў Гомельшчыне дасягаюць па Краснабудзкаму і Сьвяцілавіцкаму раёнах да 8,2 проц. і 7,4 проц. (па 2—3 тысячы чалавек), па іншых раёнах Гомельшчыны украінцаў значна меншы процант: Добрускі—1,4 проц., Дзятлавіцкі—1,8 проц., Насовіцкі—1,1 проц. У Мазыршчыне вельмі паважную частку насельніцтва украінцы складаюць па Нараўлянскаму раёну—4266 чал., або 13,1 проц.; меншыя часткі—па Слабадзкому (1,8 проц.), Лельчыцкаму (2,4 проц.), Каралінскаму (4,3 проц.) і Жыткавіцкаму (5,5 проц.) раёнах. Прыкметная доля насельніцтва прыпадае на украінцаў у Рэчыцкай акрузе: Камарынскі раён (16,2 проц., або 4178), Лоеўскі—5,6 проц., Холмецкі—3,3 проц., Юрэвіцкі—2,1 проц., Васілевіцкі—4,8 проц. і Брагінскі—2,2 проц. На Мазыршчыне, згодна статыстыкі, украінцы блізка што цалком захоўваюць украінскую мову. Зусім процілеглая зьява ў Гомельскай і Рэчыцкай акругах: з усіх украінцаў роднай мовай лічаць украінскую на Гомельшчыне нібы толькі 6,9 проц., а ў Рэчыцкай акрузе нібы 54,3 проц.

З іншых нацыянальнасьцяй у складзе вясковага насельніцтва паасобных раёнаў трэба адзначыць: *немцы* ў Старобінскім раёне Случчыны (133 чал., або 0,3 проц.), Васілевіцкім раёне, Рэчыцкай акругі (223 чал., або 1,2 проц.) і трох раёнах Мазыршчыны: Нараўлянскім (1934 чал., або 5,9 проц.), Лельчыцкім (271, або 0,9 проц.) і Каралінскім (862, або 3,2 проц.) і *літоўцы*—у Крупскім, Лепельскім і Барысаўскім раёнах, Барысаўскае акругі (па 100—300 чал. на раён), Высачанскім, Лёзьненскім і Сеньненскім раёнах Віцебшчыны (150—400 чал. на раён), Расьнянскім раёне Калініншчыны (звыш 500 чал.), Лупалаўскім раёне Магілеўшчыны (звыш 300 чалавек), Дрыбінскім і Дубровенскім раёнах Аршаншчыны (150—500 чал. на раён).

*Татары* паміж вясковага насельніцтва БССР складаюць ледзь прыкметныя выспачкі па Койданаўскаму і Самахвалавіцкаму раёнах Мен-

шчыны, Бягомльскаму раёну Барысаўшчыны, Краснаслабодзкаму раёну Случчыны. *Цыганы* параскіданы драбнюсенькімі выспачкамі па тэрытотыі ўсёй БССР, нідзе не складаючы хоць троху значных груп.

Карыстаючыся лічбамі нацыянальнага складу па асобных адміністрацыйных раёнах БССР *па нацыянальнасьці і роднай мове*, можна шляхам параўнаньня гэтых лічбаў больш дакладна паказаць географічнае разьмяшчэньне асыміляцыі і экспансіі беларусаў, а таксама можна паказаць географію інтэнсыўнасьці процэсу асыміляцыі беларускае нацыянальнасьці. За паказьнік асыміляцыі або культурнае экспансіі бярэцца процант адносін беларусаў па мове да беларусаў па нацыянальнасьці. Процант, большы 100, адзначае, што ня толькі прадстаўнікі данай нацыянальнасьці ўжываюць (і лічаць за сваю родную) мову гэтай нацыянальнасьці, але што і іншыя народы ўжываюць яе мову, падлягаючы, такім чынам, культурна-нацыянальнай асыміляцыі аналізаванай нацыянальнасьці. Наадварот, процант менш 100, адзначае, што нацыянальнасьць сама асымілюецца. Пры гэтым, чым меншы процант, чым менш прадстаўнікоў нацыянальнасьці ўжывае сваю родную мову, тым глыбей процэс асыміляцыі.

На картограме № 2 паказана па асобных раёнах, *наколькі лік беларусаў па мове больш або менш ліку беларусаў па нацыянальнасьці*. Паказьнікам, значыцца, зьяўляецца—*якая частка беларусаў ня лічыць сваёй роднай мовай беларускую*, ня ўжывае яе.

Раён культурна-нацыянальнае экспансіі беларусаў ахоплівае шырокую паласу паміж Менскам і Магілевам, г. зн. раней вызначаную намі тэрыторыю беларускай этнографічнай восі, беларускай этнографічнай цэнтруючай лініі. Гэта паласа экспансіі беларусаў пашыраецца на поўнач, ад Барысава да Полацка, і на поўдзень, ад Барысава да Слуцку. Лёкальнымі раёнамі беларускае культурна-нацыянальнае экспансіі зьяўляюцца: Сураскі раён на крайнім *паўночным усходзе* БССР, раён к захаду паміж Менскам і Слуцкам на самым крайнім *захадзе* БССР і Палескі цэнтральны раён к захаду ад Мазыра з пашырэньнем на самы *поўдзень* БССР.

Інтэнсыўнасьць процэсу экспансіі наогул вельмі нязначная, максымум + 12,0 проц. у Плешчаніцкім раёне, + 3,3 проц. у Койданаўскім раёне, + 2,7 проц. у Чавускім, + 2,7 проц. у Капыльскім, + 5,2 проц. у Нараўлянскім і + 4,5 проц. у Каралінскім раёнах (на Мазыршчыне). У большасьці раёнаў нацыянальная экспансія беларусаў адбываецца за лік палякоў, але ня ўсюды: напр., у Плешчаніцкім раёне Барысаўшчыны, Каралінскім раёне Мазыршчыны і некаторых іншых, лік павялічэньня беларусаў больш ліку зьмяшчэньня палякоў па роднай мове супроць палякоў па нацыянальнасьці. Магчыма, і гэта відавочна, так, што ў нацыянальную групу палякоў былі зарэгістраваны і палякі, і беларусы-каталікі; можа, само беларускае каталіцкае насельніцтва па нацыянальнай і культурнай несьвядомасьці зблытала рэлігійную і нацыянальную


КАРТАГРАМА № 2
ГЕОГРАФІЯ
АСЫМІЛЯЦЫІ І ЭКСПАНСІІ
БЕЛАРУСАЎ У БССР.
ТЛУМАЧЭНЬНЕ:
БЕЛАРУСАЎ ПА МОВЕ АДНОСНА БЕЛАРУСАЎ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ –
больш
ні больш, ні менш
менш на 3,0%
„ „ 3,1–10,0%
менш на 10,1–25,0%
„ „ 25,1–50,0%
звыш 50,0%
(АБО: ЯКІ ПРОЦАНТ БЕЛАРУСАЎ НЕ ГАВОРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ)
Дзьвінск
Дрыса
Невель
Полацак
Віцебск
Лепель
Сянно
Ворша
Барысаў
Менск
Магілеў
Клімавічы
Бабруйск
Рагачоў
Слуцак
Гомель
Рэчыца
Мазыр
Чарнігаў
28
30
32
56
54
52

прыналежнасьць („каталік—значыцца паляк“), можа, у гэтым ёсьць грэх за рэгістратарамі, але, разумеецца, у значна меншай меры.

Але не падлягае спрэчнасьці факт, што ў некаторых раёнах Беларускае ССР ня толькі няма ніякіх працэсаў асыміляцыі беларусаў, а якраз наадварот: беларусы або цалком захоўваюць сваю родную мову або нават выяўляюць працэс нацыянальна-культурнае экспансіі, пашырэньня беларускае мовы на іншыя нацыянальныя групы. Разумеецца, гэту „экспансію“ трэба ўзяць у лапкі, з прычыны нязначнасьці яе інтэнсыўнасьці. Самы-ж факт яе наяўнасьці паказвае на дыялектычную сутнасьць працэсаў асыміляцыі або экспансіі; адзін працэс можа перайсьці ў другі, адзін працэс можа рэзка зьмяніцца іншым працэсам, у залежнасьці ад конкрэтных умоў абшару, прасторы і часу. Тэорыя аднапінейнасьці працэсу асыміляцыі, тэорыя няўхільнай і нямінучай просталінейна накіраванай асыміляцыі беларускае нацыянальнасьці, русыфікацыі або полёнізацыі (хоць-бы на працягу доўгага часу), не абапіраецца на факты жыцьця.

Раёны адсутнасьці працэсаў як экспансіі, так і асыміляцыі (лік беларусаў па нацыянальнасьці ровен ліку беларусаў па роднай мове) разам з раёнамі слаба-выяўленай асыміляцыі (ня ўжывае беларускае мовы спаміж беларусаў да 3%) разьмешчаны географічна па суседзтву з раёнамі экспансіі, ахопліваючы, такім чынам, разам усё *Палесьсе* (бяз Рэчыцкае акругі), усю заходнюю паласу БССР, ад раёнаў ніжэй і на захад Слуцку праз Менск, Барысаў да Полацку і ўвесь так званы *цэнтральны беларускі этнографічны абшар* БССР—шырокую паласу навакол цэнтральнай лініі Менск-Магілеў. Чым далей на ўсход БССР, тым усё больш узмацняецца працэс асыміляцыі. Раёны з ступеньню асыміляцыі ў 10% (дзесяць процантаў беларусаў ня ўжывае беларускае мовы) ідуць шырокаю паласою ад Слуцку на Бабруйск і далей да Рагачэва, з перарывам ля Бабруйску, з асыміляцыяй ужо ў 10—25%. Раёны больш моцна выяўленай асыміляцыі концэнтруюцца каля гарадоў: Полацак, Віцебск, Ворша, Клімавічы, Мазыр акаляюцца *лёкальнымі* групамі раёнаў з асыміляцыяй 25—50%, а Ворша нават звыш 50%. У акругах з вельмі моцна выяўленым працэсам асыміляцыі—Гомельскай і Рэчыцкай, дзе, згодна статыстыкі 1926 г., больш паловы беларусаў нібы не карыстаюцца і не прызнаюць роднай мовай беларускую, нават у гэтых акругах раёны, бліжэйшыя да гарадоў Гомелю і Рэчыцы, паказваюць асыміляцыю большай інтэнсыўнасьці, чым раёны далейшыя ад гарадоў,—гэта Рэчыцкі, Холмецкі і Лоеўскі раёны каля г. Рэчыцы, з асыміляцыяй 60—80%, і раёны Гомельскі, Добрускі і Насовіцкі каля г. Гомелю з асыміляцыяй звыш 90% (не гавораць пабеларуску нібы 90% беларусаў?!). Таксама і ў акругах са слаба выяўленай асыміляцыяй, як Слуцкая, Менская, раёны, што ляжаць навакол гарадоў, паказваюць вышэйшую ступень асыміляцыі; зусім адваротная зьява ў акругах з выяўленым працэсам экспансіі, як Барысаўская і Магілеў-

ская: тут гарады ня ўплываюць на павялічэньне інтэнсыўнасьці процэсу асыміляцыі беларусаў у вакольных раёнах. Гэта яшчэ раз сьведчыць, што просталінейнае вырашэньне пытаньня аб ролі і ўплыве гарадоў на процэс асыміляцыі або экспансіі было-б няправільным. Калі гарады пры вядомых конкрэтных абставінах зьяўляюцца нібы крышталізацыйнымі ядрамі процэсаў асыміляцыі, пры іншых конкрэтных абставінах яны трацяць такі свой характар (у БССР гэта відаць на прыкладзе Барысава і Магілева) і нават змогуць адыгрываць цалком адваротную ролю (успомнім хоць-бы ролю Вільні ў справе полёнізацыі паўночна-ўсходніх частак Заходняе Беларусі, а разам і ролю Вільні, а цяпер Менску, у справе культурна-нацыянальнага абуджэньня беларусаў). Характар процэсу залежыць ад конкрэтных умоў і абставін; у залежнасьці ад нацыянальнага складу гарадоў, ад тых соцыяльных і культурна-нацыянальных процэсаў, якія там адбываюцца, ад таго агульнага ўплыву гарадоў і моцы яго, які маюць гарады на вакольнае насельніцтва, і, нарэшце, у залежнасьці ад самога вакольнага гарадом насельніцтва, яго складу, культуры і сьвядомасьці,—у залежнасьці ад гэтага будуць і канчатковыя вынікі. Вырашальным-жа фактарам зьяўляецца нацыянальная політыка дзяржавы.

Робячы некаторыя эмпірычныя абагуленьні конкрэтных фактаў статыстыкі, можна сказаць:

1) раёнамі нацыянальна-культурнае экспансіі беларусаў зьяўляюцца найбольш „глухія“ раёны, дзе няма чыгунак і значных гарадзкіх цэнтраў;

2) у залежнасьці ад гэтага характар экспансіі досыць прымітыўны і няглыбокі (пярвотны ўплыў асяродзішча без пасрэдніцтва школы і кнігі, „культуры“ наогул);

3) інтэнсыўнасьць процэсаў асыміляцыі беларускае нацыянальнасьці, інтэнсыўнасьць яе русыфікацыі, павялічваецца ў кірунку на ўсход, галоўным чынам, паўночны і паўднёвы ўсход, у кірунку да непасрэднай сутычнасьці з расійскім этнографічным цэнтрам;

4) лёкальныя раёны з больш глыбокай інтэнсыўнасьцю процэсу асыміляцыі, русыфікацыі беларусаў утвараюцца навокал значных гарадзкіх асяродкаў БССР.

Зробленыя эмпірычныя абагуленьні вельмі трацяць у сваёй вартасьці дзякуючы таму, што яны адносяцца да аднаго *статычнага* моманту (1926 г.). Разгледжаныя ў *дынамічным* падыходзе, яны часткова, а можа і цалком, маглі-б страціць сваю сапраўднасьць. На вялікі жаль, першы перапіс 1897 году ня меў ніякіх даных, каб меркаваць аб процэсе асыміляцыі або экспансіі ды яго інтэнсыўнасьці ў той час, бо ня было асобнае рэгістрацыі нацыянальнае прыналежнасьці і роднае мовы.

Нацыянальны склад гарадзкога насельніцтва БССР цалком іншы, чым разгледжаны склад вясковага насельніцтва. Перапіс акрэсьлівае яго ў такім выглядзе: (гл. табліцу, стар. 89).

## Насельніцтва гарадоў (%%)

| Палосы або зоны акруг | Акругі | Беларусы | | | | Расійцы | | | | Яўрэі | | | | Палякі | | | | Іншыя | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | | Па нацыянальнасьці | | Па роднай мове | |
| | | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| I | Полацкая | 36,6 | 42,7 | 14,1 | 15,8 | 26,1 | 9,8 | 53,8 | 42,3 | 31,5 | 41,8 | 29,1 | 38,6 | 2,6 | 3,6 | 1,0 | 1,8 | 3,2 | 2,1 | 2,0 | 1,5 |
| I | Віцебская | 32,2 | 32,8 | 10,4 | 10,9 | 24,3 | 19,1 | 53,2 | 48,5 | 37,1 | 43,7 | 32,5 | 36,7 | 2,8 | 3,6 | 1,5 | 2,2 | 3,6 | 0,8 | 2,4 | 1,7 |
| II | Барысаўская | 50,4 | 49,5 | 32,9 | 35,1 | 12,2 | 5,3 | 29,8 | 23,7 | 32,1 | 40,9 | 30,7 | 39,0 | 2,5 | 2,9 | 1,1 | 1,4 | 2,8 | 1,4 | 5,5 | 0,8 |
| II | Аршанская | 51,2 | 47,0 | 21,5 | 19,8 | 12,8 | 12,3 | 45,9 | 43,6 | 32,8 | 37,6 | 30,7 | 34,7 | 1,4 | 1,8 | 0,7 | 1,0 | 1,8 | 1,3 | 1,2 | 0,9 |
| III | Менская | 44,1 | 43,7 | 26,5 | 27,0 | 10,8 | 5,9 | 36,1 | 31,3 | 38,4 | 43,4 | 33,6 | 37,6 | 2,5 | 3,7 | 1,9 | 2,9 | 4,2 | 3,3 | 1,9 | 1,2 |
| III | Магілеўская | 51,2 | 52,0 | 36,6 | 38,7 | 13,2 | 6,7 | 31,0 | 23,6 | 32,2 | 37,9 | 29,9 | 35,1 | 1,6 | 1,9 | 0,9 | 1,3 | 1,8 | 1,5 | 1,6 | 1,3 |
| III | Калінінская | 52,9 | 49,2 | 41,2 | 37,3 | 5,9 | 6,9 | 19,2 | 20,7 | 40,2 | 42,5 | 38,7 | 40,9 | 0,3 | 0,4 | 0,2 | 0,4 | 0,7 | 1,0 | 0,7 | 0,7 |
| IV | Слуцкая | 37,2 | 40,9 | 29,9 | 34,5 | 11,4 | 3,0 | 20,7 | 10,9 | 46,9 | 54,1 | 46,2 | 53,2 | 0,5 | 0,8 | 0,4 | 0,7 | 4,0 | 1,2 | 2,8 | 0,7 |
| IV | Бабруйская | 34,6 | 35,9 | 10,7 | 11,4 | 21,7 | 9,3 | 49,5 | 38,6 | 37,1 | 50,4 | 35,0 | 47,3 | 1,8 | 2,7 | 1,1 | 1,8 | 4,8 | 1,7 | 3,7 | 0,9 |
| V | Мазырская | 46,8 | 45,6 | 35,3 | 34,7 | 5,2 | 4,0 | 18,8 | 17,1 | 45,1 | 47,7 | 44,4 | 46,9 | 1,1 | 1,3 | 1,1 | 0,7 | 1,8 | 1,4 | 0,4 | 0,6 |
| V | Рэчыцкая | 26,2 | 24,5 | 1,9 | 1,8 | 27,4 | 27,9 | 59,2 | 57,3 | 40,5 | 42,4 | 37,5 | 39,2 | 3,9 | 4,0 | 0,6 | 0,9 | 2,0 | 1,2 | 0,8 | 0,8 |
| V | Гомельская | 22,9 | 21,3 | 1,0 | 0,4 | 33,9 | 31,9 | 69,5 | 67,8 | 38,3 | 42,0 | 27,3 | 29,4 | 1,4 | 1,9 | 0,7 | 1,2 | 3,5 | 2,9 | 1,5 | 1,2 |

*Беларусы* па нацыянальнасьці маюць абсолютную большасьць сярод гарадзкога насельніцтва чатырох акруг: Барысаўскай, Аршанскай, Магілеўскай, Калінінскай (ад 50,4% да 52,9%). Па новадалучаных акругах— Гомельскай і Рэчыцкай—доля беларусаў ў гарадзкім насельніцтве блізка да $^1/_4$, у рэшце акруг беларусы маюць ад $^1/_3$ да $^2/_5$ у складзе жыхароў гораду.

*Яўрэі* па нацыянальнасьці ні ў аднэй з акруг не набываюць абсолютнай большасьці ў гарадох, іх значэньне хіляецца ад $^1/_3$ да $^2/_5$, дасягаючы максымуму ў Беларускім Палесьсі—Слуцкай, Мазырскай і Рэчыцкай акругах (46,9%, 45,1% 40,5%), г. зн. у тых раёнах, дзе быў адзначаны максымум і яўрэйскага вясковага насельніцтва.

*Расійцы* ў гарадох Гомельскай акругі займаюць $^1/_3$, у Рэчыцкай, Полацкай і Віцебскай акругах—каля $^1/_4$, Бабруйскай—$^1/_5$; мінімум расійцаў у Мазырскай і Калінінскай акругах—каля $^1/_{20}$ часткі, у рэшце акруг—$^1/_7$—$^1/_{10}$ частка ўсяго гарадзкога насельніцтва.

*Палякі* ў гарадох займаюць значэньне блізкае да іх адноснай вагі ў складзе вясковага насельніцтва.

Вельмі рэзкая розьніца наглядаецца ў гарадох у нацыянальным складзе па роднай мове і па нацыянальнасьці. Гэта розьніца ў шмат разоў перавышае аналёгічную розьніцу спаміж вясковага насельніцтва: г. зн., што процэсы асыміляцыі набываюць у беларускіх гарадох выключную напружанасьць. Яны закранаюць нават такія групы, якія ў вясковым насельніцтве не давалі ніякай розьніцы ў вызначэньнях па нацыянальнасьці і ў вызначэньнях па роднай мове, напр. яўрэяў. *Яўрэі гарадоў падлягаюць значнай русыфікацыі і асыміляцыі*, найбольш у Гомельшчыне (да $^1/_3$), Меншчыне, Віцебшчыне (да $^1/_6$), г. зн. *у пераважна буйных гарадох. У акругах з драбнейшымі гарадамі асыміляцыя яўрэяў мае значна меншы размах* (сярэдне 4—6%); мінімум асыміляцыі ў Случчыне і Мазыршчыне, г. зн. у раёнах з максымальным значэньнем яўрэяў у гарадзкім насельніцтве.

Палякі моцна асыміляваны ў гарадох, як і ў вёсках; інтэнсыўнасьць асыміляцыі палякоў у гарадох меншая, чым у вёсках па большасьці акруг. Апрача адбітку процэсу па сутнасьці, тут выяўляецца і магчыма меншая памылка ў рэгістрацыі, бо выпадкаў блытаніны рэлігійнай належнасьці да каталікоў з нацыянальнай належнасьцю да палякоў у гарадох павінна было быць менш (вышэйшая сьвядомасьць і культурнасьць).

Беларускае насельніцтва гарадоў зьяўляецца надзвычайна моцна зрусыфікаваным. Беларусаў па мове менш, чым беларусаў па нацыянальнасьці, у 10—20 разоў па гарадох Гомельскай і Рэчыцкай акругі, у 3 і больш разоў—па Бабруйшчыне і Віцебшчыне, у два-тры разы—па Полаччыне і Аршаншчыне; найменш асымілявана беларускае насельніцтва гарадоў Мазыршчыны, Случчыны, Калінішчыны (20—25 проц.), трохі больш Магілеўшчыны і Меншчыны (30—35 проц.). Географія асыміляцыі

беларусаў у гарадох у асноўным супадае з географіяй асыміляцыі іх па вёсках, з адхіленьнямі па Калінінішчыне і Бабруйшчыне; гэта сьведчыць аб тым, што галоўнай прычынай, уплываючай на інтэнсыўнасьць асыміляцыі наогул (і гораду і вёскі) зьяўляецца—няўключанасьць або познае ўключэньне ў склад Беларускае ССР, інтэнсыўнасьць сувязі (чыгункі), велічыня гарадоў (большы горад больш асымілюе). Вынікі гэтыя маюць толькі адносны характар.

У гарадох не наглядаецца аднакавасьці нацыянальнага складу мужчын і жанчын, як гэта было заўважана ў вёсках. У яўрэяў, расійцаў, палякоў—жанчын з адпаведнай нацыянальнай прыналежнасьцю больш, чым мужчын; у беларусаў такой упарадкаванасьці няма.

Паколькі аўтара цікавіць больш *аналіз* і, хоць-бы і *эмпірычныя абагуленьні*, чым інформацыя аб лічбах перапісу, пастолькі разгляд нацыянальнага складу ўсяго насельніцтва (па гарадох і вёсках разам) і разгляд сярэдніх лічбаў па рэспубліцы абмінаецца.

Прасочым сілу ўплыву беларускай і расійскай мовы на розныя нацыянальнасьці ў складзе ўсяго насельніцтва БССР (гарадзкога і сельскага) па акругах. Гэта будзе нібы падагуленьнем пытаньню аб асыміляцыі розных нацыянальнасьцяй БССР.

| Палосы або зоны акруг | Акругі | На 100 чалавек ужываюць, як родную мову | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Беларускую | | | | | | Расійскую | | | | | |
| | | Яўрэі | | Расійцы | | Палякі | | Беларусы | | Яўрэі | | Палякі | |
| | | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. |
| I | Полацкая | 0,6 | 0.6 | 2,0 | 4.8 | 51.9 | 49,4 | 11,5 | 10,3 | 6,3 | 6,5 | 10.5 | 10,4 |
| | Віцебская | 0,3 | 0.3 | 0,7 | 0,8 | 22,6 | 20,4 | 24,5 | 23,9 | 11,6 | 12.0 | 30,0 | 26,5 |
| II | Барысаўская | 0,6 | 0,5 | 4,4 | 5,6 | 60,8 | 59,5 | 9,1 | 8,0 | 3,7 | 3,8 | 4,3 | 4.0 |
| | Аршанская | 0,7 | 0,7 | 2,6 | 3.0 | 38.1 | 35,4 | 30,1 | 28,9 | 5,8 | 6,7 | 28,5 | 28,5 |
| III | Менская | 0,4 | 0,3 | 1,3 | 2,4 | 45,7 | 43,0 | 7,9 | 7,2 | 12,7 | 13,5 | 11,2 | 12,8 |
| | Магілеўская | 0,6 | 0,7 | 1,4 | 5,0 | 57,2 | 53.5 | 3,1 | 2,6 | 5.6 | 5,7 | 9,7 | 9.6 |
| | Калінінская | 0,7 | 0,7 | 7,4 | 7,2 | 32,3 | 26,5 | 22.5 | 22,8 | 2,7 | 2,9 | 30.7 | 23,0 |
| IV | Слуцкая | 0,2 | 0,3 | 1,0 | 5,7 | 60.7 | 61,7 | 3,1 | 2,2 | 1,1 | 1,2 | 2,0 | 2,3 |
| | Бабруйская | 0.3 | 0,3 | 0,6 | 0,9 | 48,1 | 45,4 | 15,4 | 12,8 | 5,7 | 5,7 | 17,3 | 18,3 |
| V | Мазырская | 0,6 | 0,5 | 3,4 | 5,0 | 43.0 | 40,6 | 2,9 | 2,5 | 2,2 | 2,2 | 5,0 | 5,8 |
| | Рэчыцкая | — | — | 1,6 | 1,6 | 15,8 | 15,0 | 55,1 | 53,5 | 6,2 | 6,3 | 62,5 | 61,3 |
| | Гомельская | 0,02 | 0,01 | 1,5 | 1,6 | 40,2 | 36,4 | 75,9 | 75,9 | 27,5 | 28,8 | 41,3 | 39,3 |
| | БССР | 0,4 | 0,4 | 1,6 | 1,9 | 45,1 | 42,7 | 18,1 | 17,2 | 9,4 | 9,9 | 17,7 | 17,6 |

Найбольш пераймаюць беларускую мову палякі (фактычна „беларусы-каталікі“), асабліва мужчыны; сярод жанчын больш выпадкаў блытаніны нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасьці; у чатырох акругах *больш паловы* „палякоў“ гаворыць па-беларуску. За палякамі пераймаюць беларускую мову расійцы, асабліва па Барысаўскай, Калінінскай і Мазырскай акругах; *часьцей пераймаюць беларускую мову жанчыны— „расійкі“, г. зн. наадварот, чым было ў палякоў.* Перавага жанчын-расіек, якія гавораць па-беларуску, як на роднай мове, над мужчынамі з роднай мовай беларускай,—вельмі рэзкая, асабліва па Полацкай, Менскай, Магілеўскай, Слуцкай акругах. Большая частка „расійцаў“ з роднай мовай беларускай ёсьць фактычна беларусы. Хутчэй з гэтых „расійцаў“ трацяць беларускую мову мужчыны, вось чаму такая перавага жанчын—„расіек“ з беларускаю моваю над мужчынамі. Факт шпарчэйшай русыфікацыі беларусаў-мужчын знойдзе ня раз сьцьвярджэньне яшчэ ў далейшым. З яўрэяў лічыць роднай мовай беларускую вельмі невялікі процант, больш-менш роўнамерна па ўсіх акругах БССР, прытым мужчыны і жанчыны аднолькава.

Расійскую мову лічаць за родную ў аднолькавай меры як беларусы, так і палякі. З беларусаў—гэта мужчыны, з палякаў—таксама найчасьцей (але не заўсёды) мужчыны. Мужчына-беларус найбольш дэнацыяналізуецца; жанчына-беларуска моцна захоўвае галоўную нацыянальную адзнаку—мову.

Процант яўрэяў, якія за родную мову лічаць расійскую, досыць значны ў БССР. Пераважна—гэта жыхары гораду, бо яўрэі-вяскоўцы зусім ня трацяць роднае мовы. Найбольш дэнацыяналізуецца яўрэйка-жанчына.

Добра распрацавана перапісам пытаньне аб пісьменнасьці розных нацыянальных груп БССР. Для галоўных нацыянальнасьцяй падана паасобку пісьменнасьць на роднай мове, на расійскай, на беларускай, на некалькіх мовах адразу. Прасочым, на якіх мовах пісьменны беларусы з роднай мовай беларускай і беларусы з роднай мовай расійскай, асобна ў гарадох і вёсках. Для скарачэньня месца падаем пісьменнасьць мужчын, адзначаючы для жанчын толькі характарныя адхіленьні. (Гл. табл. на 93 стар.).

Перапіс 1926 году адзначыў факт вялікай гістарычнай значнасьці ў справе разьвіцьця беларускай культуры—факт вельмі глыбокага пашырэньня пісьменнасьці на беларускай мове як у вёсках, так і ў гарадох. *Толькі па-беларуску* пісьменны $^{1}/_{3}$ частка ўсіх пісьменных у вёсках і $^{1}/_{5}$ частка ўсіх пісьменных у гарадох; пісьменных *па-беларуску і па-расійску разам* налічваецца 21,6 проц. сярод усіх пісьменных у вёсках і больш чым удвоя—46,5 проц.—у гарадох. *Такім чынам, уладае беларускай пісьменнасьцю 54,9 проц. беларусаў па мове ў вёсках і 66,0 проц. беларусаў у гарадох.* Гэтыя факты сьведчаць, які сапраўды моцны грунт пакладзены Кастрычнікавай рэволюцыяй і савецкім будаўніцтвам у справу разьвіцьця беларускае культуры, бо ўсе такія значныя заваяваньні беларускай пісьменнасьці зроблены па Беларусі толькі за савецкі час. У сьвятле

гэтых лічбаў паўстае тая сапраўды гіганцкая роля, якую адыграла за гэты час савецкая беларуская школа. Посьпехі беларускае культуры адзначаюць самі аўтары прадмовы да асноўнага выданьня вынікаў перапісу па БССР [2]): „Несмотря на краткость срока существования белорусской школы и легальной белорусской литературы, число белоруссов, знающих родную грамоту, к моменту переписи оказалось очень значительным. Из 1.467.767 грамотных белоруссов 694.839, т. е. почти половина [3]), показали себя грамотными на белорусском языке, из них 340.645 было грамотных и на белорусском и на русском и 354.194—только на белорусском языке“.

Падзел пісьменных беларусаў-мужчын па мове пісьменнасьці (у % %)

| Палосы або зоны акруг | Акругі | Вёскі: пісьменных | | | | | | Гарады [1]): пісьменных | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па-беларуску | | Па-расейску | | Па-беларуску і па-расейску | | Па-беларуску | | Па-расейску | | Па-беларуску і па-расейску | |
| | | Беларусы з роднай мовай | | | | | | | | | | | |
| | | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. |
| I | Полацкая | 29,6 | 5,4 | 56,0 | 86,5 | 14,1 | 8,1 | 15,3 | 1,0 | 45,1 | 81,6 | 39,6 | 17,4 |
| I | Віцебская | 17,8 | 5,2 | 59,7 | 84,3 | 22,5 | 10,5 | 6,7 | 1,0 | 35,0 | 80,7 | 58,3 | 18,3 |
| II | Барысаўская | 25,9 | 3,0 | 53,5 | 85,8 | 20,4 | 11,2 | 15,5 | 1,8 | 50,8 | 84,5 | 33,5 | 13,7 |
| II | Аршанская | 29,6 | 6,2 | 39,4 | 84,2 | 31,0 | 9,6 | 16,2 | 2,1 | 38,6 | 75,3 | 45,2 | 22,6 |
| III | Менская | 30,9 | 14,3 | 38,9 | 67,4 | 29,9 | 18,1 | 14,4 | 1,3 | 30,7 | 61,8 | 54,7 | 36,8 |
| III | Магілеўская | 45,7 | 1,0 | 8,5 | 71,4 | 45,8 | 27,6 | 29,2 | 1,1 | 7,7 | 75,3 | 63,1 | 23,6 |
| III | Калінінская | 34,4 | 3,1 | 39,3 | 88,5 | 26,3 | 8,4 | 18,2 | 1,8 | 41,8 | 73,7 | 40,0 | 24,5 |
| IV | Слуцкая | 25,5 | 3,2 | 52,7 | 81,3 | 20,0 | 11,5 | 16,3 | 1,8 | 38,9 | 67,1 | 44,8 | 30,9 |
| IV | Бабруйская | 33,5 | 4,5 | 41,3 | 87,8 | 25,1 | 7,7 | 22,2 | 1,4 | 38,1 | 87,6 | 39,7 | 11,0 |
| V | Мазырская | 30,8 | 4,5 | 36,2 | 84,1 | 33,0 | 11,1 | 24,0 | 3,1 | 44,6 | 73,1 | 31,4 | 23,8 |
| V | Рэчыцкая | 6,5 | 0,9 | 90,0 | 98,0 | 2,0 | 0,7 | 3,9 | — | 87,0 | 99,2 | 9,1 | 0,8 |
| V | Гомельская | 6,8 | 0,7 | 90,4 | 98,4 | 2,8 | 0,9 | 13,5 | — | 56,9 | 98,3 | 29,6 | 1,7 |
| | БССР | 33,3 | 4,1 | 43,0 | 90,1 | 21,6 | 5,9 | 19,5 | 1,3 | 33,9 | 79,8 | 46,5 | 18,9 |

Географія пісьменных па-беларуску ў вёсках (а з некаторымі ўхіленьнямі і ў гарадох) нагадвае географію разьмяшчэньня беларусаў па мове: *чым большы процант па акрузе беларусаў з роднай мовай беларускай,*

[1]) Па Менскай, Бабруйскай, Віцебскай, Гомельскай, Магілеўскай акругах толькі галоўныя гарады—Менск, Бабруйск, Віцебск, Гомель, Магілеў; па іншых акругах усе гарадзкія паселішчы.

[2]) Всесоюзная перепись населения 1926 г. Том X. БССР. Москва. 1928. Предисловие. Зав. Сектором социальной статистики ЦСУ СССР М. П. Красильников и Зав. отделом переписи ЦСУ СССР О. А. Квиткин.

[3]) Узяты лік беларусаў з роднай мовай як беларускай, так і расійскай. Сярод беларусаў з беларускай роднай мовай пісьменных па-беларуску больш паловы.

*тым большая частка пісьменных беларусаў пісьменна па-беларуску.* Абедзьве зьявы цесна зьвязаны між сабою; што тут зьяўляецца прычынай і што вынікам—залежыць ад конкрэтных умоў. Зьніжэньне проціанту беларусаў з роднай мовай беларускай у Віцебшчыне, Гомельшчыне і Рэчыцкай акр. бясспрэчна мела аднэю з прычын слабую пашыранасьць беларускае школы і беларускае пісьменнасьці ў гэтых акругах. Але пашыранасьць беларускае пісьменнасьці і школы сама па сабе прычына другараднага парадку. Карэньняў зьяў, якія цалком абумоўліваюць процэс асыміляцыі і экспансіі нацыянальнасьці, у тым ліку і нацыянальную пісьменнасьць, трэба шукаць у фактарах соцыяльных і палітычных.

Як можна было і прадбачыць, сярод беларусаў, якія лічаць сваёй роднай мовай расійскую, вельмі мала пісьменных па-беларуску, як у вёсках, так і ў гарадох, за выключэньнем Менскае, Магілеўскае і Слуцкае акругі, дзе доля пісьменных па-беларуску сярод беларусаў з роднай мовай расійскай дасягае $^1/_3$. Як успамінаем, гарады гэтых акруг робяць найслабейшы асыміляцыйны русыфікатарскі ўплыў на навакольнае вясковае насельніцтва, або зусім яго ня робяць.

У гарадох доля беларускага насельніцтва пісьменнага па-расійску і па-беларуску ў два і больш разоў вышэй адпаведнай долі ў вёсках. Больш культурны і больш пісьменны беларускі горад зрабіў ужо значныя дасягненьні ў справе беларусізацыі, асвойваючы беларускую мову відавочна сьледам за расійскай; нават гарады, якія зьяўляліся наймацнейшымі крышталізацыйнымі ядрамі русыфікацыі, як Гомель, Віцебск, Ворша пашлі далёка па гэтаму шляху, даючы процант пісьменных па-беларуску і па-расійску спаміж усіх пісьменных 29,6, 58,3 і 45,2%! Зноў довад таго, што справу аб асыміляцыйным уплыве гарадоў няможна разглядаць, як процэс прасталінейны і недынамічны.

Толькі па-беларуску больш пісьменны жанчыны-беларускі, як у гарадох, так і ў вёсках. Сярод мужчын большая доля пісьменных па-беларуску і па-расійску.

Вышэй было адзначана, што чым буйней горад, тым глыбей процэс асыміляцыі як яўрэяў, так і беларусаў. Пры далейшым дынамічным разгортваньні зьява гэта можа перавярнуцца ў дыямэтральна адваротнае: больш буйныя гарады, з большай інтэнсыўнасьцю соцыяльнага жыцьця і культуры, могуць пры адпаведнай нацыянальнай палітыцы хутчэй спыніць процэс русыфікацыі і зрабіць больш посьпехаў у справе беларусізацыі. Зародкі такога ходу падзей можна бачыць пры далейшым разглядзе ўжо і фактаў сучаснасьці. Разгледзім пісьменнасьць беларусаў у гарадох Менску, Бабруйску, Віцебску, Гомлі і Магілеве і ў драбнейшых гарадох тых-жа акруг: (Гл. табл. на 95 стар.).

Гэта красамоўная табліччка сьведчыць, што ўжо ў канцы 1926 году [1]) буйнейшыя гарады БССР мелі больш посьпехаў у справе беларусізацыі,

[1]) Перапіс адбываецца ў другой палове сьнежня месяца 1926 году.

чым драбнейшыя, за выключэньнем Магілева, дзе посьпехі амаль аднолькава нязвычайна вялікія, бо блізка ўсе 100% пісьменных пісьменныя па-беларуску як у Магілеве, так і ў драбнейшых гарадох Магілеўскае акругі. У буйнейшых гарадох агульная доля пісьменных па-беларуску сярод усіх пісьменных беларусаў значна вышэйшая, чым у дробных гарадох (асабліва па Гомельскай акрузе). Калі па некаторых драбнейшых гарадох доля пісьменных толькі па-беларуску вышэй, чым у буйнейшых гарадох, дык затое ў буйных гарадох значна вышэй доля пісьменных па-беларуску і па-расійску, так што агульная перавага ў значэньні пісьменных па-беларуску пераходзіць да буйных гарадоў. Доля пісьменных толькі па-расійску скрозь вышэй у дробных гарадох, чым у буйных.

**Сярод беларусаў-мужчын з роднай мовай беларускай пісьменных:**

| Гарады | Толькі па-беларуску | Па-беларуску і па-расійску | Толькі па-расійску | Усіх пісьменных па-беларуску |
|---|---|---|---|---|
| Менск | 14,4 | 54,7 | 30,7 | 69,1 |
| Інш. гарады Менск. акр. | 14,7 | 50,7 | 34,4 | 65,4 |
| Бабруйск | 22,2 | 39,7 | 38,1 | 61,9 |
| Інш. гарады Бабр. акр. | 20,0 | 34,8 | 45,1 | 54,8 |
| Віцебск | 6,7 | 58,3 | 35,0 | 65,0 |
| Інш. гарады Віцебск. акр. | 14,1 | 36,9 | 49,0 | 51,0 |
| Гомель | 13,5 | 29,6 | 56,9 | 43,1 |
| Інш. гарады Гомельск. акр. | 8,3 | 20,0 | 71,7 | 28,3 |
| Магілеў | 29,2 | 63,1 | 7,7 | 92,3 |
| Інш. гарады Магілеўск. акр | 40,1 | 54,5 | 5,4 | 94,6 |

Такім чынам, тэндэнцыю да больш шпаркага тэмпу беларусізацыі ў буйных гарадох мы ўжо перажываем фактычна цяпер; мы зьяўляемся нібы сьведкамі ажыцьцяўленьня гістарычнага прароцтва Сталіна аб няўхільнай беларусізацыі гарадоў БССР. Аб тых кардынальных зьменах, якія будуць адбывацца ў формах і стылю беларускае культуры (цяпер пераважна „вясковае“ культуры), дзякуючы ўплыву беларусізаванага і пролетарызаванага беларускага гораду, тут ня варта гаварыць больш, як толькі адзначыць няўхільнасьць гэтага процэсу.

Пісьменнасьць расійцаў з роднай мовай расійскай і асобна расійцаў з роднай мовай беларускай падана ў наступнай табліцы.

Спаміж пісьменных расійцаў-мужчын пісьменных (у %%):

| Палосы або зоны акруг | Акругі | Вёскі | | | | | | Гарады | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Па-беларуску | | Па-белар. і па-расійску | | Па-расійску | | Па-беларуску | | Па-белар. і па-расійску | | Па-расійску | |
| | | Расійцы з роднай мовай | | | | | | | | | | | |
| | | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. | Бел. | Рас. |
| I | Полацкая | 37,3 | 3,3 | 28,4 | 4,6 | 34,3 | 92,1 | 60,0 | 0,4 | 20,0 | 4,0 | 20,0 | 95,6 |
| I | Віцебская | 37,2 | 5,4 | 26,8 | 12,1 | 36,0 | 82,5 | 31,2 | 0,3 | 50,0 | 7,5 | 18,8 | 92,2 |
| II | Барысаўск. | 42,0 | 7,7 | 11,6 | 9,3 | 46,4 | 83,0 | 23,5 | 0,3 | 47,1 | 4,7 | 29,4 | 95,0 |
| II | Аршанская | 42,6 | 8,7 | 20,6 | 11,7 | 36,8 | 79,6 | 12,0 | 1,1 | 32,0 | 17,1 | 56,0 | 81,8 |
| III | Менская | 34,2 | 2,2 | 34,6 | 19,8 | 46,3 | 89,5 | 23,9 | — | 52,2 | — | 23,9 | 95,2 |
| III | Магілеўская | 31,0 | 3,7 | 62,1 | 17,0 | 6,9 | 79,3 | 31,3 | 0,3 | 62,5 | 7,7 | 6,2 | 92,0 |
| III | Калінінская | 52,5 | 9,0 | 5,1 | 10,9 | 42,4 | 80,1 | 53,8 | 1,6 | 35,9 | 25,3 | 10,3 | 73,1 |
| IV | Слуцкая | 18,7 | 1,6 | 50,0 | 4,5 | 31,3 | 93,9 | 28,6 | 0,4 | 71,4 | 5,3 | — | 94,3 |
| IV | Бабруйская | 40,0 | 5,1 | 29,1 | 9,6 | 30,9 | 85,3 | 22,2 | 0,2 | 44,4 | 2,3 | 33,4 | 97,5 |
| V | Мазырская | 21,0 | 2,2 | 15,8 | 13,1 | 63,2 | 84,7 | 41,7 | 0,8 | 25,0 | 15,8 | 33,3 | 83,4 |
| V | Рэчыцкая | 3,4 | 0,6 | 1,0 | 0,8 | 95,6 | 98,6 | — | — | — | — | 100 | 100 |
| V | Гомельская | 0,4 | 0,2 | 0,4 | 0,5 | 98,8 | 99,3 | — | — | — | 0,3 | 100 | 99,7 |
| | БССР | 18,0 | 1,8 | 10,2 | 3,4 | 71,7 | 94,8 | 32,8 | 0,4 | 41,9 | 6,1 | 25,3 | 93,5 |

Спаміж расійцаў з роднай мовай беларускай *у вёсках* да пісьменных па-расійску належыць толькі ў трох акругах звыш 50%, у рэшце акруг менш паловы (сярэдне каля аднае траціны). *У гарадох* сярод гэтых расійцаў звыш 50% пісьменных толькі па-расійску ёсьць у трох акругах—Гомельскай, Рэчыцкай і Аршанскай, у рэшце акруг процант зноў нізкі (каля $^1/_4$). Значыцца, ахопленасьць беларускаю пісьменнасьцю расійцаў з беларускай мовай вельмі вялікая: за выключэньнем трох акруг, яна дасягае $^2/_3$—$^3/_4$ усяго іх ліку,—гэта або зьявішча культурнае экспансіі беларусаў (што мала верагодна), або вынік памылковасьці ў вызначэньні групы расійцаў з беларускай моваю, вынік, які тлумачыцца тым, што пры перапісу і распрацоўцы яго даных „рускія“ палічаны, як і „вялікарусы“, расійцамі, тады як „рускі з беларускаю моваю“ у БССР сынонім беларуса.

Ахопленасьць расійцаў з расійскаю-ж роднаю моваю беларускаю пісьменнасьцю ўжо вельмі нязначна (ваганьні каля 5%) і па гарадох і па вёсках, дасягаючы паважных вялічынь толькі па Калінінскай, Магілеўскай і Аршанскай акругах (да $^1/_5$ часткі).

У гарадох рознай велічыні ахопленасьць беларускай пісьменнасьцю расійцаў з беларускаю і расійцаў з расійскаю роднаю моваю значна розьніцца.

**Сярод пісьменных расійцаў-мужчын пісьменных намовах:**

| Гарады | Расійцы з беларуск. моваю | | | Расійцы з расійск. мовою | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Толькі па-беларуску | Па-белар. і па-расійску | Разам па-беларуску | Толькі па-беларуску | Па-белар. і па-расійску | Разам па-беларуску |
| Менск | 23,9 | 52,2 | 76,1 | — | — | — |
| Інш. гарады Менскай акр. | 12,5 | 50,0 | 62,5 | 1,1 | 18,6 | 19,7 |
| Бабруйск | 22,2 | 44,4 | 66,6 | 0,2 | 2.3 | 2,5 |
| Інш. гар. Бабруйскай акр. | 70,0 | 10,0 | 80,0 | 1,1 | 9,3 | 10,4 |
| Віцебск | 28,6 | 42,9 | 71,5 | 2,8 | 17,4 | 20,2 |
| Інш. гар. Віцебскай акр. | 37,2 | 26,8 | 64,0 | 5,4 | 12,1 | 17.5 |
| Гомель | — | — | — | — | 0,3 | 0,3 |
| Інш. гар. Гомельскай акр. | 0,4 | — | 0,4 | — | 0,1 | 0.1 |
| Магілеў | 31,3 | 62,5 | 63,8 | 0,3 | 7,7 | 8,0 |
| Інш. гар. Магілеўскай акр. | 57,1 | 42,9 | 100 | 0,9 | 13,1 | 14,0 |

Выразнай законаўпарадкаванасьці перавагі буйных горадоў ў справе беларусізацыі, як гэта было ўстаноўлена адносна беларусаў,—адносна расійцаў, як бачым, ня відаць. Зноў падкрэсьліваецца глыбокая ахопленасьць беларускай пісьменнасьцю расійцаў з беларускаю мовою („рускіх“).

Сярод пісьменных *яўрэяў* вельмі пашырана шматмоўнасьць, пісьменнасьць адразу на некалькіх мовах.

**Спаміж пісьменных яўрэяў пісьменна на мовах:**

| У якіх паселішчах | Род | На аднэй: Яўрэйск. | Расійск. | Белар. | Беларускай і яўрэйскай | Беларускай і расійскай | Беларуск., яўрэйскай і расійскай | Разам на беларускай | Яўрэйскай і расійскай | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гарады | м. | 14,4 | 12,2 | 0,6 | 1,7 | 2,3 | 8,2 | 12,8 | 60,6 | 100 |
| | ж. | 17,1 | 17,4 | 0,8 | 1,4 | 4,5 | 7,4 | 14,1 | 51,4 | 100 |
| Вёскі | м. | 18,8 | 5.5 | 3,0 | 7,3 | 2,3 | 9,2 | 21,8 | 53,9 | 100 |
| | ж. | 21,9 | 7,6 | 4,9 | 6,8 | 4,0 | 8,2 | 23,9 | 46.6 | 100 |
| Разам | м. | 15,2 | 11,1 | 1,0 | 2,6 | 2,3 | 8,4 | 14,3 | 59,4 | 100 |
| | ж. | 17,8 | 15,9 | 1,4 | 2.2 | 4.4 | 7,6 | 15,6 | 50,7 | 100 |

Большасьць паловы яўрэяў-пісьменных пісьменна па-яўрэйску і расійску. Пісьменных толькі на аднэй мове сярод мужчын-яўрэяў каля $^1/_4$ часткі, сярод жанчын—каля $^1/_3$; жанчыны-яўрэйкі ведаюць менш моў, чым мужчыны. Пісьменных толькі на аднэй яўрэйскай мове трохі больш сярод жанчын, але ўсяго на 2—3%. Пісьменных толькі на якой-небудзь аднэй чужой (няроднай) мове таксама больш сярод жанчын, чым паміж мужчын (прыблізна на 5%). У апошнім факце відаць тлумачэньне большай дэнацыяналізацыі яўрэйскіх жанчын, параўнальна з мужчынамі. Беларуская пісьменнасьць прасякае паступова і яўрэйскае насельніцтва, асабліва ў вёсках ($^1/_5$—$^1/_4$ частка), больш прыкметна сярод жанчын.

Такая-ж шматмоўнасьць заўважваецца сярод пісьменных палякоў і украінцаў.

Пісьменных палякоў на розных мовах:

| У якіх паселішчах | Род | Толькі на аднэй мове: Польск. | Белар. | Расійск. | Іншай | Беларускай і расійскай | Беларускай і польскай | Беларускай, польскай і расійскай | Разам беларускай | Польскай і расійскай | Разам польскай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гарады | м. | 4,5 | 2,7 | 36,1 | 0,0 | 5,3 | 2,3 | 11,5 | 21,8 | 37,6 | 55,9 |
| | ж. | 11,6 | 2,0 | 27,7 | 0,2 | 4,0 | 1,7 | 9,3 | 17,0 | 43,5 | 66,1 |
| Вёскі | м. | 7,2 | 11,4 | 30,1 | 0,0 | 8,3 | 7,4 | 6,8 | 33,9 | 28,8 | 50,2 |
| | ж. | 23,7 | 7,9 | 19,9 | 0,1 | 5,0 | 6,7 | 5,8 | 25,4 | 30,9 | 67,1 |
| Разам | м. | 6,6 | 9,3 | 31,5 | 0,0 | 7,6 | 6,2 | 7,9 | 29,0 | 30,9 | 51,6 |
| | ж. | 20,0 | 6,0 | 22,4 | 0,1 | 4,7 | 5,1 | 6,9 | 22,7 | 34,8 | 66,8 |

Пісьменных на некалькіх мовах паміж палякоў-пісьменных прыблізна палова, тады як спаміж яўрэяў ад $^2/_3$ да $^3/_4$; шматмоўнасьць у палякоў выяўлена слабей. Пісьменнасьць па-польску (толькі па-польску і па-польску ў комбінацыі з іншымі мовамі) у мужчын больш у гарадох, чым у вёсках, а наогул мала пераважае палову пісьменных палякоў; сярод пісьменных польскіх жанчын пісьменных па-польску і ў горадзе і ў вёсцы $^2/_3$. Да 80% пісьменных палякоў-мужчын пісьменныя па-расійску, жанчын-жа толькі да 70%. Шмат пісьменных палячак, асабліва ў вёсках, пісьменна толькі па-польску ($^1/_4$—$^1/_5$ частка), перавышаючы ў гэтых адносінах мужчын у тры разы. Беларуская пісьменнасьць ахапляе паміж пісьменных палякоў большую частку, чым паміж яўрэяў (блізка што ў два разы); беларуская пісьменнасьць сярод вясковых палякоў і палякоў-мужчын найбольш пашырана.

Украінцы-пісьменныя вельмі зрусыфікаваны і здэнацыяналізаваны ў БССР параўнаўча з яўрэямі і палякамі.

Пісьменнасьць украінцаў на родных мовах:

| У якіх паселішчах | Род. | Толькі на аднэй мове: Украінскай | Расійск. | Белар. | Інш. | Украінскай і беларуск. | Украінскай, беларускай і расійскай | Беларускай і расійскай | Украінскай і расійскай | Разам беларускай | Разам украінскай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гарады | м. | 3,9 | 61,2 | 0,5 | 0,0 | 0,4 | 4,2 | 5,5 | 24,3 | 10,6 | 32,8 |
| | ж. | 1,7 | 67,7 | 1,1 | 0,1 | 0,2 | 2,8 | 8,7 | 17,7 | 12,9 | 21,4 |
| Вёскі | м. | 6,1 | 74,6 | 4,5 | 0,1 | 0,6 | 1,1 | 4,0 | 9,0 | 10,2 | 16,8 |
| | ж. | 4,5 | 74,0 | 6,5 | 0,6 | 0,3 | 1,2 | 4,3 | 8,6 | 12,3 | 14,6 |
| Разам | м. | 5,3 | 69,9 | 3,1 | 0,1 | 0,5 | 2,2 | 4,5 | 14,4 | 10,3 | 22,4 |
| | ж. | 3,2 | 71,1 | 4,0 | 0,4 | 0,3 | 2,0 | 6,3 | 12,7 | 12,6 | 18,2 |

Украінскай пісьменнасьцю ахоплена толькі 1/5 частка пісьменных украінцаў, супроць 5/6 яўрэйскай пісьменнасьці ў яўрэяў і 1/2—2/3 польскай пісьменнасьці ў палякоў. Як і ў палякоў, сярод пісьменных украінцаў больш пашырана украінская пісьменнасьць у гарадох (у нацменшасьцяй у гарадох мусіць большая нац. сьвядомасьць пры большай агульнай культурнай сьвядомасьці гарадзкога насельніцтва). Украінскай пісьменнасьцю больш ахоплены мужчыны (у палякоў наадварот). Па ліку пісьменных толькі па-расійску украінцы ў БССР зьяўляюцца наймацней зрусыфікаванай нацыянальнасьцю: прычына гэтаму тая, што галоўная маса украінцаў прыпадае ў БССР нановадалучаныя да Беларусі Гомельскую і Рэчыцкую акругі, дзе інтэсыўнасьць процэсаў русыфікацыі была максымальнай і пашыралася ня толькі на асноўную масу насельніцтва гэтых акруг—беларусаў, але і на нацменшасьці, у тым ліку і украінцаў.

Беларуская пісьменнасьць сярод украінцаў пашырана яшчэ ў меншай меры, чым паміж яўрэяў, не адыходзячы ад яе, праўда, далёка ўніз (10—12%).

На заканчэньне разгляду нацыянальных асаблівасьцяй розных нацыянальных груп па пісьменнасьці, падамо абсолютныя лічбы пашыранасьці беларускае пісьменнасьці паміж усіх пісьменных БССР.

| | У гарадох | У вёсках | Разам |
|---|---|---|---|
| Усіх пісьменных | 562.615 | 1.465.489 | 2.028.104 |
| З іх пісьменных па-беларуску: | | | |
| беларусаў | 82.583 | 612.256 | 694.839 |
| рускіх | 7.252 | 5.902 | 13.154 |
| яўрэяў | 31.547 | 10.425 | 41.972 |
| палякоў | 2.539 | 10.683 | 13.222 |
| украінцаў | 709 | 1.083 | 1.792 |
| Разам | 124.630 | 640.349 | 764.979 |

Амаль палова ўсіх пісьменных у вёсках, каля 1/5 часткі пісьменных у гарадох зьяўляюцца пісьменнымі па-беларуску. *А па ўсёй БССР лічба пісьменных па-беларуску дасягае паважнай лічбы ў 3/4 міл. чалавек.* Са ўсяго ліку пісьменных усё яшчэ зьяўляюцца няпісьменнымі па-беларуску каля 1¼ млн. чал., з іх 825 тыс. у вёсках [1]).

Розьніца ў пісьменнасьці сярод галоўных нацыянальных груп у БССР вельмі вялікая:

| | % пісьмен. | |
|---|---|---|
| | Муж. | Жанч. |
| Беларусы . . . | 51,2 | 22.6 |
| Палякі . . . | 57,0 | 43,4 |
| Расійцы . . . | 63,1 | 33,9 |
| Яўрэі . . . | 72,1 | 66.0 |
| Іншыя . . . | 65,1 | 43,0 |

Беларусы найбольш няпісьменная нацыянальнасьць, яўрэі—найбольш пісьменная. Культурнае і гаспадарчае разьвіцьцё краіны павінна прыводзіць да ўсё большага выроўніваньня культурнага і гаспадарчага стану розных нацыянальнасьцяй, а разам, толькі з яшчэ шпарчэйшым тэмпам, да выроўніваньня пісьменнасьці. Тэндэнцыю для гэтага выроўніваньня можна прасачыць праз параўнаньне пісьменнасьці паасобных узростаў у дзьвюх антыподных па пісьменнасьці нацыянальных групах БССР—беларусаў і яўрэяў, асобна ў мужчын і жанчын. Параўнаньне падана графікам.

ГРАФІК N1 ПІСЬМЕННАСЬЦЬ РОЗНЫХ УЗРОСНЫХ ГРУП У ЯЎРЭЯЎ І БЕЛАРУСАЎ.




---

1) Поле працы па ліквідацыі беларускае няпісьменнасьці сярод ужо пісьменных занадта шырокае!

Чым больш старэйшыя ўзросты, тым больш рэзка спадае пісьменнасьць, асабліва ў жанчын, тым усё большыя разыходзіны крывых пісьменнасьці беларусаў і яўрэяў. Да маладых узростаў усё больш крывая пісьменнасьці беларусаў стромка ўзьнімаецца ўгару, амаль зраўніваючыся ў мужчын з крывою яўрэяў. Тэндэнцыя выроўніваньня крывых зусім выразная, тэмп выроўніваньня з бегам часу будзе ўсё больш узмацняцца.

Нацыянальныя асаблівасьці ва ўзросным складзе насельніцтва ёсьць толькі па расійскай нацыянальнай групе—гэта моцнае выпіраньне 20—24 гадовай узроснай групы сярод мужчын. Параўнаем сем узросных груп у розных нацыянальнасьцяй БССР, не даючы, для эканоміі месца, дакладнага параўнаньня па ўсіх групах.

**Процант да ўсяго насельніцтва ўзросных груп**

| Гады | Беларусы | | Расійцы | | Яўрэі | | Палякі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| 8—4 . . . | 16,5 | 15,5 | 13,7 | 14,8 | 13,5 | 11,5 | 14,0 | 12,4 |
| 5—9 . . . | 11,7 | 11,1 | 9,1 | 10,2 | 9,7 | 8,4 | 10,9 | 9,6 |
| 10—14 . . . | 12,1 | 11,2 | 9,6 | 10,5 | 11,7 | 10,7 | 11,5 | 10,7 |
| 15—19 . . . | 11,8 | 12,7 | 9,2 | 11,8 | 11,8 | 12,5 | 11,4 | 12,3 |
| 20—24 . . | 8,8 | 9,0 | **23,3** | 9,6 | 8,9 | 10,8 | 8,7 | 9,3 |
| 25—29 . . . | 7,3 | 8,0 | 7,6 | 9,2 | 7,7 | 9,5 | 6,4 | 8,6 |
| 30—34 . . . | 5,6 | 5,8 | 5,6 | 6,4 | 6,3 | 5,6 | 6,1 | 6,3 |

У беларусаў, параўнаўча з іншымі нацыянальнасьцямі, многалічны самыя маладыя групы (шмат дзяцей). Ужо з 20—24 гадовага ўзросту і далей *самыя працаздольныя рабочыя групы ў беларусаў прадстаўлены слабей.* Выпінаньне 20—24 гадовай групы ў расійцаў тлумачыцца міграцыйным характарам расійцаў, як насельнікаў БССР; магчыма тут выяўляецца і ўплыў пераходу мужчын гэтага ўзросту з іншых нац. груп у групу расійцаў, у такім разе групу 20—24 гадовага ўзросту трэба лічыць носьбітам асыміляцыі; але апошні фактар меў нязначны ўплыў.

## Беларускае насельніцтва СССР

Нажаль, выдрукаваны статыстычны матэрыял перапісу 1926 г. дазваляе характарызаваць беларускае насельніцтва СССР толькі з двух поглядаў: адносна геаграфічнага разьмяшчэньня беларусаў па тэрыторыі Саюзу і адносна інтэнсыўнасьці асыміляцыі, русыфікацыі беларусаў у розных частках Саюзу. Аднак, абодва пытаньні настолькі важныя і цікавыя, што патрабуюць неадкладнага іх разгляду, карыстаючыся толькі кароткімі падсумаваньнямі вынікаў перапісу [1]).

Разьмяшчэньне беларусаў па тэрыторыі Саюзу ССР падана ў картограме № 3. Аборыгенным цэнтрам расьсяленьня беларусаў зьяўляецца

[1]) Всесоюзная перепись населения. Краткие сводки. Вып. IV. Народность и родной язык населения СССР. Москва. 1928 г.

КАРТАГРАМА N3.

РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ ПА ТЭРЫТОРЫІ САЮЗУ ССР ЗГОДНА ПЕРАПІСУ 1926 г

— % БЕЛАРУСАЎ ДА ЎСЯГО НАСЕЛЬНІЦТВА —



тэрыторыя Беларускай ССР і суседнія тэрыторыі РСФСР—Пскоўская, Смаленская і Бранская губэрні (беларускія часткі іх). Колёнізацыйных і эміграцыйных цэнтраў расьсяленьня беларусаў можна вылучыць шэсьць: 1) Цэнтральны Сібірскі, 2) Далёка-Усходні, 3) Паўднёва-Украінскі, або Чорнаморска-Азоўскі, 4) Уральскі, 5) Маскоўскі прамысловы, 6) Ленінградзкі прамысловы. Адноснае значэньне гэтых колёнізацыйных цэнтраў для беларусаў выяўляецца з наступнай табліцы:

| Раёны колёнізацыі (акругі або губэрні) | Лік белар. | % іх да ўсяго насельніцтва |
|---|---|---|
| *I. Цэнтр.-Сібірскі раён:* | | |
| Тарская акр. . . . | 43.956 | 15,84 |
| Тулунаўская акр. . . | 31.163 | 14,03 |
| Канская „ . . | 50.816 | 13,39 |
| Ачынская „ . . | 30.149 | 7,66 |
| Краснаярская „ . . | 21.768 | 5,84 |
| Барабінская „ . . | 26.270 | 5,22 |
| Нова-Сібірская акр. . | 37.439 | 4,71 |
| Томская „ . | 26.074 | 3,60 |
| Мінусінская „ . | 10.277 | 3,24 |
| Інш. акр. колён. раёну | 42.240 | — |
| Разам . . | 248.152 | — |
| *II. Далёка-Усходні* | 41.124 | 2,19 |
| *III. Чорнамор.-Азоўскі:* | | |
| Чорнамор. акр. . . | 4.882 | 1,67 |
| Данская „ . . | 11.555 | 1,02 |
| Мікалаеўск. „ . . | 12.798 | 2,57 |
| Крымская АССР . . | 3.842 | 0.54 |
| Армавірская акр. . . | 8.386 | 0.90 |
| Кубанская „ . . | 8.432 | 0.57 |
| Таганрогская „ . . | 2.133 | 0.79 |
| Адэская „ . . | 3.114 | 0.36 |
| Дняпрапятр. „ . . | 11.587 | 0,90 |
| Крываrогск. „ . . | 3.105 | 0.55 |
| Арцёмаўская „ . . | 5.037 | 6.66 |
| Сталінская „ . . | 6.377 | 0.97 |
| Інш. акр. колён. раёну | 13.443 | — |
| Разам . . | 94.691 | — |
| *IV. Уральскі:* | | |
| Ірбіцкая акр. . . | 9.384 | 3,37 |
| Тагільская „ . . | 3.642 | 0.83 |
| Башкірская АССР . | 18.307 | 0,68 |
| Цюменская акр. . . | 2.365 | 0,47 |
| Пермская „ . . | 3 182 | 0,44 |
| Ішымская „ . . | 2.932 | 0.60 |
| Інш. акр. колён. раёну | 4.561 | — |
| Разам . . | 44.376 | — |
| *V. Маскоўскі прамысл.:* | | |
| гор. Масква . . . | 13 161 | 0,65 |
| Маск. губ. . . . | 5.118 | — |
| Яраслаўск губ. . . | 3.503 | — |
| Інш. губ. эмігр. раёну | 8.144 | — |
| Разам . . | 29.926 | — |
| *VI. Ленінградзк. прамыс.:* | | |
| г. Ленінград . . . | 14 572 | 0,90 |
| Ленінградзкая губ. . | 2.260 | — |
| Інш. губ. эмігр. раёну | 1.102 | — |
| Разам . . | 17.934 | — |
| I—VI раёны разам . . | 476.203 | — |
| *Беларускія абарыгенныя раёны РСФСР:* | | |
| у Смаленскай губ. . | 20 408 | 0,89 |
| у Пскоўскай „ . . | 34 277 | 1.92 |
| у Бранскай „ . . | 21.060 | 1,05 |
| Разам . . | 75.745 | — |
| Беларусы ў інш. раёнах СССР па-за межамі БССР . . . . . | 169.652 | — |
| Разам за межамі БССР . . | 721.600 | — |

Такім чынам, і па абсолютнай масе акумуляцыі беларусаў-высяленцаў і па адноснаму значэньню беларусаў у складзе насельніцтва колёнізацыйных раёнаў, на першае месца са ўсіх шасьці раёнаў высоўваецца Цэнтральна-Сібірскі, асабліва Тарская, Тулунаўская і Канская акругі, у якіх

беларусаў 15% ад усяго насельніцтва. Значэньне раёнаў „прамысловай“ эміграцыі беларусаў (Маскоўскага і Ленінградзкага прамысловых раёнаў) у 6 разоў менш, чым значэньне толькі аднаго Цэнтральна-Сібірскага раёну „аграрнай“ эміграцыі. Паважнае месца займае Чорнаморска-Азоўскі раён эміграцыі.

Нажаль, параўнаньне раёнаў колёнізацыі беларусаў за цяперашні час і за 1897 год амаль немагчыма, з прычыны таго, што ня ўсе высяленцы з Беларусі рэгістравалі сябе беларусамі пры перапісу 1897 году. Ды і пры перапісу 1926 году маса беларусаў па-за межамі БССР рэгістравала сябе, як расійцаў. Таму паданыя вышэй лічбы аб эміграцыі беларусаў ні ў якім разе ня могуць мець абсолютнага значэньня. Іх значэньне толькі адноснае, яны адбіваюць толькі географію расьсяленьня беларусаў эмігрантаў.

Паколькі магчыма параўнаньне лічбаў аб беларусах па-за межамі Беларусі за 1897 і 1926 год,—можна выказаць некалькі меркаваньняў *аб гісторыі раёнаў беларускай колёнізацыі.* Прамысловыя раёны эміграцыі—Ленінградзкі і Маскоўскі—зьяўляюцца старымі раёнамі высяленьня беларусаў і досыць стабільнымі: лік беларусаў за 1897 г. павінен быў быць у Маскве 13,8 тыс. (1926 г.—13,2 тыс.), у Ленінградзе—34,2 тыс. (у 1926 г.—14,6 тыс.). Таксама стары раён беларускай колёнізацыі—Чорнаморска-Азоўскі; хваля беларускай эміграцыі ў гэты раён спынілася ўжо ў пачатку XX ст. Тры другіх колёнізацыйных раёны зусім новыя і стварыліся яны на працягу 10—15 год перад сусьветнай вайной. У 1897 г. у Сібіры налічана толькі 12,3 т. чал. (у 1926 г.—320 т. чал.).

Асаблівую ўвагу прыцягваюць лічбы нацыянальнага складу беларускіх абарыгенных раёнаў РСФСР—частак сучаснай Пскоўскай, Смаленскай і Бранскай губэрняў. Па Пскоўскай губэрні вынікі перапісу яшчэ ня выдрукаваны[1]). У 1897 годзе па трох беларускіх паветах, якія цяпер уваходзяць у склад Пскоўшчыны было зарэгістравана 221.859 чал. беларусаў (па Вяліскаму, Невельскаму і Себескаму паветах), ды ў старой Пскоўскай губэрні было зарэгістравана 2321 чал., значыцца, разам па Пскоўшчыне ў сучасных межах 224.180 тыс. Перапіс-жа 1926 году налічвае толькі 34,3 тысяч беларусаў, або ў $6^1/_2$ разоў менш, ня лічачы нават натуральнага прыросту насельніцтва! Такога колёсальнага зьніжэньня ня можна вытлумачыць адным процэсам асыміляцыі, нават дапусьціўшы, што ён ідзе і ішоў самым інтэнсыўным тэмпам. Тлумачэньне трэба шукаць у бясспрэчных памылках і недакладнасьцях самога перапісу.

Па Смаленшчыне і Браншчыне выдрукаваны ўжо канчатковыя вынікі перапісу[2]). Перапіс 1926 г. дае вельмі зьменшаныя супроць перапісу

[1]) Пісана ў лістападзе 1928 году.

[2]) Всесоюзная перепись населения. Том II. Западный район. Центрально-Промышл. р. Москва. 1928.

1897 году лічбы. Вага беларусаў у агульным ліку насельніцтва вымяраецца нібы толькі адзінкамі, а менавіта:

| | 1926 г. у %% | 1897 г. у %% |
|---|---|---|
| Клінцоўскі павет . . . | 2,2 | (69,4) (па б. Сураск. пав.) |
| Новазыбкаўскі павет . . | 3,2 | 0,2 |
| Пачэпскі . . . . . | 0,6 | (14,2) (па б. Мглін. пав.) |
| Старадубскі . . . | 0,2 | 0,01 |
| Смаленскі (з Красьненскім) . . . . . . | 1,9 | (37,4) (па Смаленскаму і Красьн. разам) |
| Дарагабускі . . . . | 1,1 | 0,04 |
| Ельненскі . . . . . | 1,1 | 2,7 |
| Рослаўскі . . . . . | 0,9 | (0,07) |

Быўшыя па перапісу 1897 году чыста беларускімі—паветы Сураскі, Красьненскі, часткі Мсьціслаўскага, што перайшлі цяпер да Рослаўскага і Смаленскага паветаў, сталі небеларускімі.

Воласьці, якія маюць хоць трохі значны процант беларусаў, па перапісу 1926 году вельмі нямногалікі. Па Клінцоўскаму павету: Гардзееўская—3,7%, Клінцоўская—0,9%, Краснагорская—5,0%, Сураская—0,8%, Унецкая—1,8%, Ушчэрпская—2,3%; па Новазыбкаўскаму павету: Злынкаўская 4,9%, Новазыбкаўская—2,9%, Чуровіцкая—4,6%; па Пачэпскаму уезду—Балыцкая—1,3%, Пачэпская—0,7%, Старасельская—0,9%; па Смаленскаму—Бохацкая 7,0%, Любавіцкая—8,8%, Манастыршчынская—2,8%, Машчынкоўская—2,3%, Руднянская—1,4%, Сыракарэнска-Ліпецкая—1,8%; па Дарагабускаму павету—Дудзенская—3,5%, Кузінская—1,5%, Дарагабуска-прыгародная—1,1%; па Ельненскаму павету—Забалацкая—3,6%, Івонінская—1,6%. Балтуцінская—3,0%; па Рослаўскаму павету—Пятровіцкая—2,7%, Хіславіцкая—2,8% [1]) і г. д.

Тут сумысьля зроблены доўгі пералік валасьцей, каб паказаць, што зрабіла статыстыка з такімі чыста-беларускімі валасьцямі, як напр., Любавіцкая, Манастыршчынская, Пятровіцкая, Хіславіцкая, Бахацкая і г. д. Недарэчнасьці статыстыкі 1926 году адносна вызначэньня беларусаў у аборыгенных беларускіх мясцовасьцях Браншчыны і Смаленшчыны бясспрэчны. Нажаль, адміністрацыйныя межы валасьцей так зьмяніліся, што дапасаваць да перапісу 1926 г. увесь комплекс мэтодаў навуковае крытыкі нацыянальнай статыстыкі (мэтод хронолёгічнага аналізу, хоролёгічнага і г. д. [2]) зусім немагчыма і амаль адзіная магчымасьць была-б праз паўторны перапіс у некаторых валасьцёх і этнографічную экспэртызу.

А пакуль што, калі грунтавацца бяскрытычна на непасрэдных даных статыстыкі (што бязумоўна, і будзе рабіцца ў сотнях выпадкаў), дык трэба прысьці да вываду, нібы ў Вяліскім, Себескім, Невельскім паветах былое Віцебшчыны, Красьненскім пав. Смаленшчыны, частцы Горацкага

[1]) З гарадоў проц. беларусаў па Унечы—16,0, па Клінцох—5,0 проц. і г. д.

[2]) Гл. маю працу „Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы", дзе даецца разгляд гэтых мэтодаў.

КАРТАГРАМА № 4
ІНТЭНСЫЎНАСЬЦЬ АСЫМІЛЯЦЫІ БЕЛАРУСАЎ У СССР ЗГОДНА ПЕРАПІСУ 1926 г.



і Мсьціслаўскага паветаў б. Магілеўшчыны, Сураскім, часткова Новазыбкаўскім і Мглінскім паветах беларускае часткі былой Чарнігаўшчыны,—нібы *ў гэтых паветах адбыўся процэс поўнае русыфікацыі карэннага беларускага насельніцтва*. Гэтыя паветы нібы цалком выпадаюць, траццца з беларускага этнографічнага абшару.

Перапіс 1926 г. даў магчымасьць упяршыню прасачыць на непасрэдных статыстычных даных інтэнсыўнасьць процэсу асыміляцыі народаў. З асыміляцыяй беларусаў у БССР мы ўжо мелі справу вышэй. Толькі што падаваліся факты, якія сьведчаць аб глыбокай асыміляцыі беларусаў у частках РСФСР, суседніх з ССCР. А як ідзе процэс асыміляцыі беларускае нацыянальнасьці на тэрыторыі ўсяго СССР? З гэтым знаёміцькартограма № 4. На ёй паказана, на колькі процантаў лік беларусаў па мове менш ліку беларусаў па нацыянальнасьці, ці іначай кажучы—які процант беларусаў у той ці іншай мясцовасьці не гаворыць па-беларуску [1]). Можна зрабіць такія вывады:

1. Процэсам асыміляцыі (русыфікацыі) беларусаў ахоплены ўсе без выключэньня тэрыторыі іх аселасьці на абшарах СССР.

2. Інтэнсыўнасьць асыміляцыі беларусаў набыла выключную глыбіню; пераважная большасьць тэрыторыі мае паказьнікам асыміляцыі 75—90% і нават звыш 90%. Такі паказьнік азначае амаль поўную дэнацыяналізацыю беларусаў на абшарах Саюзу (3/4 беларускіх высяленцаў страціла сваю родную мову).

3. Дэнацыяналізацыяй найбольш інтэнсыўна ахоплены такія колёнізацыйна-эміграцыйныя раёны беларусаў: Цэнтральна-Сібірскі, Чорнаморска-Азоўскі і Маскоўскі-прамысловы. Слабей дэнацыяналізуецца Уральскі раён беларускае колёнізацыі, за ім Далёка-Усходні. Найслабей дэнацыяналізацыя беларусаў у самой БССР і на Украіне.

4. У гарадох жанчыны-беларускі паддаюцца больш глыбокай дэнацыяналізацыі, чым мужчыны; у вёсках наадварот—хутчэй і глыбей асымілююцца беларусы-мужчыны.

5. У гарадох процэс асыміляцыі амаль у два разы глыбейшы, чым у вёсках.

Як ужо было заўважана раней, процэс асыміляцыі канечна трэба разглядаць *дынамічна*. Разгляд гэтага процэсу толькі ў *статыцы* можа прывесьці да шэрагу буйных памылак (напр. няправільная ацэнка ролі гарадоў у процэсе асыміляцыі).

Спрабуем прасачыць інтэнсыўнасьць асыміляцыі беларусаў па перапісу 1897 году. Гэты перапіс таксама мае даныя, выкарыстаўшы якія можна з значнай доляй верагоднасьці выявіць інтэнсыўнасьць і раёны асыміляцыі. Даныя гэтыя такія: лік у кожнай губэрні б. Расіі высяленцаў з беларускіх губэрняў, лік беларусаў у гэтай губэрні; з усяго ліку высяленцаў з паасобных беларускіх губэрняў за беларусаў лічым толькі

[1]) Тут ігнаруюцца выключна-рэдкія, але магчымыя, выпадкі ўжываньня беларускай мовы прадстаўнікамі не-беларускай нацыянальнасьці.

частку, адпаведна процанту беларусаў ува ўсім насельніцтве адпаведнай беларускай губэрні. Адносіны ліку беларусаў, фактычна зарэгістраваных перапісам 1897 году, да таго ліку беларусаў, які павінен быць, грунтуючыся на ліку высяленцаў з Беларусі, сьведчаць аб тым, *колькі бела-*




*русаў ня лічыць сябе за беларусаў*, а гэта і ёсьць паказьнік асыміляцыі. Ён значна розьніцца ад паказьніка асыміляцыі па 1926 году— *які процант беларусаў не гаворыць па-беларуску*. Калі будуць выдрукаваны ўсе разьдзелы перапісу 1926 году, у тым ліку і аб высяленцах з БССР, тады будзе магчымасьць і для 1926 году вылічыць коэфіцыэнт асыміляцыі аднолькавы з 1897 годам.

Разьмяшчэньне інтэнсыўнасьці асыміляцыі ў 1897 годзе падаецца картаграмаю № 5. Выразна вылучаецца пяць цэнтраў асыміляцыі— у найбольш прамысловых, найбольш культурных асяродках: Ленінград, Масква, Казань, Кіеў, Тыфліс, асабліва першыя тры. У гэтых лёкальных групах губэрняў інтэнсыўнасьць асыміляцыі беларусаў вельмі глыбокая: звыш 3/4 усіх беларусаў, па паходжаньню з Беларусі, ня лічаць сябе беларусамі. У іншых губэрнях працэс асыміляцыі не выяўляецца.

Параўноўваючы інтэнсыўнасьць і раёны асыміляцыі беларусаў у 1926 і 1897 годзе (памятаючы, зразумела, некаторую неаднолькавасьць паказьнікаў), можна зрабіць такія вынікі:

1. У 1897 годзе працэс асыміляцыі не ахопліваў усіх тэрыторый, дзе жывуць беларусы. Абшар, ахоплены асыміляцыяй, быў менш адпаведнага абшару 1926 году.

2. Інтэнсыўнасьць асыміляцыі ў 1897 годзе была слабей у параўнаньні з 1926 годам.

3. Абагульняючы вывад: асыміляцыя беларусаў у розных частках СССР няўхільна ідзе ўперад (апрача тэрыторыі самой БССР).

Цікава зрабіць параўнаньне інтэнсыўнасьці асыміляцыі беларусаў з іншымі народамі, асабліва тымі, якія знаходзяцца ў соцыяльна-культурных і нацыянальных умовах, падобных да ўмоў беларускае нацыянальнасьці. Такім народам зьяўляюцца украінцы. Вылічваем для кожнае нацыянальнасьці адносіны ліку народу па мове да ліку па нацыянальнасьці; лічбы большыя 100 азначаюць нацыянальнасьць з культурна-нацыянальнай экспансіяй, меншыя 100—з асыміляцыяй; чым паказьнік менш 100, тым глыбей асыміляцыя.

| Нацыянальнасьці СССР | Паказчык экспансіі або асыміляцыі (у 1926 г.) | Узрост ліку ў 1926 г. да 1897 г. [1] | |
|---|---|---|---|
| | | Па нацыян. | Па мове |
| Расійцы | 108,2 | 142,5 | 154,2 |
| Украінцы | 88,3 | 154,2 | 136,3 |
| Беларусы | 73,1 | 133,0 | 97,1 |
| Палякі | 46,3 | 147,0 | 62,1 |
| Ліцьвіны | 92,6 | 230,2 | 134,2 |
| Латышы | 95,8 | 208,2 | 170,5 |
| Немцы | 96,2 | 120,2 | 115,8 |
| Яўрэі заходнія | 72,4 | 106,4 | 77,5 |
| Грузіны (група) | 104,8 | 137,0 | 143,6 |
| Армяне | 93,8 | 147,1 | 138,3 |
| Цюрка-татары | 111,0 | — | 112,9 |
| Узбэкі | 102,4 | 143,3 | 146,7 |
| Казакі і кіргізы | 102,1 | 106,9 | 109,0 |

Народамі, выявіўшымі нацыянальна-культурную экспансію зьяўляюцца расійцы, цюрка-татары, узбэкі, казакі, кіргізы, грузіны,—тры групы, уплыў якіх пашыраецца ва Ўсходняй Эўропе, Сярэдняй Азіі, на Каўказе. Іншых народаў з нацыянальна-культурнай экспансіяй, маючых значную

[1]) Лічбы ўзяты з артыкулу Т. І. Сямёнава „Народность и родной язык населения СССР“ у Всесоюз. пер. нас. Краткие сводки. Вып. IV. Москва, 1928 г.“, стар. XXV.

колькасьць насельнікаў, вельмі мала. Народамі з глыбокай асыміляцыяй зьяўляюцца: палякі, беларусы, яўрэі, украінцы, ліцьвіны, латышы, немцы армяне і г. д. Наогул з 51 групы народаў СССР 37 груп выявілі наяўнасьць асыміляванасьці (або больш паловы). Частка гэтых народаў (17 груп) паказвае ня толькі перайманьне мовы іншых народаў (працэс культурна-нацыянальнага зьміраньня), але і абсолютнае зьмяншэньне ліку прадстаўнікоў гэтых народаў з 1897 году да 1926 г. (працэс фізычнага выміраньня), па нацыянальнасьці і па мове. З 17 нацыянальнасьцяй, якія паказваюць асыміляцыю ў вельмі актыўнай форме, 10 нацыянальнасьцяй перажываюць працэс фізычнага зьмяншэньня і 7 нацыянальнасьцяй—працэс толькі культурнага зьмяншэньня з адначасным узростам фізычных прадстаўнікоў нацыі. Да гэтых сямі нацыянальнасьцяй належаць: камчадалы, таранчы (кашгарцы і ўнгуры), карачаі (кумыкі, нагайцы), асьцякі, яўрэі, курды (і іезіды), беларусы. Калі ня лічыць яўрэяў, працэс асыміляцыі якіх адбываецца ў зусім асобных формах, дык трэба прызнаць, што *беларусы перажываюць працэс асыміляцыі выключнай моцы, які ставіць беларусаў на ўзровень* (у гэтых адносінах) *да найбольш „някультурных“ нацыянальнасьцяй СССР, што стаяць на грані ўжо фізычнага зьмяншэньня і выміраньня (камчадалы, асьцякі і д. т. п.).*

Беларусы ў гэтым сэнсе рэзка адрозьніваюцца ад украінцаў, у якіх заўважаецца ўзрост ліку як па нацыянальнасьці, так і па роднай мове.

Прасочым інтэнсыўнасьць асыміляцыі ў беларусаў і украінцаў больш падрабязна.

**%% беларусаў і украінцау, якія ня лічаць роднай мовай мову сваёй нацыянальнасьці:**

| | Беларусы | Украінцы |
|---|---|---|
| Эўропэйская частка СССР . . | 21,4 | 9,8 |
| Закаўказьзе . . . . . | 93,1 | 57,3 |
| Сярэдняя Азія . . . . | — | 23,1 |
| Сібір і інш. раёны . . . | 86,3 | 44,7 |
| Увесь СССР . . . . . | 26,9 | 11,7 |

Цалком па ўсім СССР беларусы выяўляюць у два разы большую інтэнсыўнасьць асыміляцыі, чым украінцы, прыблізна такія-ж суадносіны застаюцца па эўропэйскай частцы СССР, Закаўказьзю і Сібіры. Калі размах русыфікацыі украінцаў у Закаўказьзі і Сібіры можна лічыць вельмі вялікім, дык размах русыфікацыі беларусаў трэба палічыць проста гіганцкім, які ў бліжэйшыя-ж гады павінен прывесьці да поўнай дэнацыяналізацыі беларусаў якраз у раёнах іх максымальнай колёнізацыі. Вялікую моц асыміляцыі беларусаў адзначае і аўтар прадмовы да вып. IV „Кратких сводок“ перапісу Т. І. Сямёнаў „Для белоруссов процесс ассимиляции, обусловленный в значительной мере руссификаторской политикой

самодержавия, *был особенно силен* [1]), притом по всей территории Союза и в особенности, конечно, в местностях некоренного поселения белоруссов" (стар. XVIII).

Але размах асыміляцыі беларусаў быў фактычна яшчэ больш моцны, чым гэта выяўляе перапіс 1926 году, бо шмат беларусаў запісалася адразу „рускімі" (не вялікарусамі), і як такія яны занесены ў адну рубрыку з расійцамі. Хоць гэта трохі і зьмяншае паказьнік асыміляцыі, аднак у шмат разоў болей дзейнічае запісваньне беларусаў расійцамі. Ведама, напр., што ў Сібір выселілася беларусаў за час 1896—1916 г. звыш 600.000 чал., а тымчасам статыстыка 1926 году паказвае там толькі 320 тыс. беларусаў, значыцца, нават ня ўлічваючы натуральнага прыросту, зьмяншэньне ў два разы. Толькі з часам выдрукаваньня разьдзелу перепісу 1926 г. аб немясцовых нараджэньнях (высяленцах) можна будзе, шляхам параўнаньня высяленцаў з Беларусі з лікам беларусаў у тых ці іншых мясцовасьцях Саюзу, устанавіць сапраўдны размах асыміляцыі. Пэвен, што ён значна перавысіць вызначаныя тут разьмеры русыфікацыі беларусаў.

Статыстыка больш нічога ня можа даць для характарыстыкі процэсу русьфікацыі беларусаў, як толькі ўстанавіць раёны і інтэнсыўнасьць асыміляцыі, г. зн. *факты колькаснага характару.* Характарызаваць процэс асыміляцыі з *якаснага* боку могуць толькі этнографічныя дасьледваньні. Для многіх раёнаў з вялікай інтэнсыўнасьцю асыміляцыі згодна статыстыкі, якасная характарыстыка асыміляцыі можа даць значна мякчэйшыя і не такія пэсымістычныя вынікі. Дасьледваць асноўныя раёны расьсяленьня беларусаў, прасачыць формы асыміляцыі беларусаў, зьмену гэтых форм, як у быце так і ў мове (што самае галоўнае)—вось пачэсная задача беларускае этнографіі, вырашэньне якое можа мець багатыя і практычныя, і навуковыя вынікі. Устаноўленая-ж на падставе статыстыкі асыміляцыя беларусаў ёсьць пераважна асыміляцыя нацыянальнае сьвядомасьці, а ня этнічная, не „языковая", моўная асыміляцыя; гэткай „асыміляцыі" падыходзіў-бы хутчэй тэрмін „псэўдоасыміляцыя".

Апошнім разьдзелам артыкулу зьяўляецца пытаньне аб дынамічных зьменах у нацыянальным складзе насельніцтва БССР. Але статыстыка 1926 г. не дае непасрэдна даных для параўнаньняў іх з перапісам 1897 г. Пералічэньняў першапачатковых матэрыялаў перапісу 1897 г. на сучасныя адміністрацыйныя раёны, а таксама пералічэньняў перапісу 1926 г. на тэрыторыі старых паветаў пакуль што ня зроблена. Таму параўнаньне перапісаў можна правесьці з пэўнай дакладнасьцю толькі па асобных гарадох БССР, лічбы аб нац. складзе якіх вылучаны як у 1897 г., так і ў 1926 г. Для вясковых мясцовасьцяй параўнаньне можа пакуль-што насіць толькі прыблізны, агульны, якасны характар.

З прычыны пэўнасьці, дакладнасьці і цікавасьці, падаю параўнаўчыя лічбы нацыянальнага складу насельніцтва ўсіх гарадоў БССР, для якіх

[1]) Курсыў мой, Г. Г.

можна было зрабіць параўнаньне. Гарады паданы групамі, орыентаванымі ў географічным парадку так, як былі орыентаваны акругі з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход.

| | Гарады БССР | Беларусы | | Расійцы | | Яўрэі | | Палякі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1897 | 1926 | 1897 | 1926 | 1897 | 1926 | 1897 | 1926 |
| | Полацак | 15,4 | 40.0 | 17.4 | 22,0 | 61,4 | 31,7 | 4,5 | 3,1 |
| | Дрыса | 23,0 | 26,8 | 5,4 | 19,6 | 67,3 | 49,5 | 4,0 | 1,9 |
| | Віцебск | 12,2 | 29.5 | 28.9 | 26,0 | 50,8 | 37,5 | 5.0 | 3.7 |
| I | Сураж | 51,5 | 63,4 | 2,1 | 3,1 | 45,7 | 31,8 | 0,2 | 0,7 |
| | Гарадок | 25,8 | 43,4 | 5,0 | 6,2 | 67,9 | 48.3 | 0,6 | 0,9 |
| | Бабінавічы | 36.9 | 57.2 | 12,4 | 1.4 | 47,7 | 32,1 | 0.2 | 3.0 |
| | Сянно | 33.4 | 41,1 | 4,4 | 2,5 | 60,3 | 52,9 | 1,7 | 2,2 |
| | Барысаў | 22,3 | 53,4 | 16,8 | 8,8 | 51,3 | 32,4 | 4,8 | 3.3 |
| | Лепель | 30,5 | 43,2 | 8,3 | 22.3 | 53,8 | 28,8 | 7.0 | 1,3 |
| II | Ворша | 28,4 | 48,5 | 12,8 | 16,3 | 55,3 | 30,8 | 2,3 | 2,1 |
| | Горкі | 45,2 | 58.6 | 7,3 | 10,9 | 44.9 | 27,8 | 1,3 | 0.5 |
| | Копысь | 54,4 | 71,6 | 2,1 | 3,9 | 41.3 | 23,7 | 0,9 | 0,7 |
| | Менск | 9.0 | 42.4 | 25.5 | 9.6 | 51.2 | 40,8 | 11,4 | 3.4 |
| | Чэрвень | 30,3 | 50,2 | 5.2 | 3.6 | 61,5 | 41,1 | 1,3 | 2.8 |
| | Магілеў | 29,8 | 48.4 | 15,9 | 13,4 | 49,8 | 34,1 | 3,1 | 1,9 |
| III | Стары Быхаў | 48,2 | 58,4 | 3,0 | 7,1 | 47,6 | 32,6 | 1,1 | 0,6 |
| | Чавусы | 43.8 | 61,2 | 4.1 | 5.0 | 50.7 | 32,5 | 0,9 | 0.7 |
| | Клімавічы | 48,9 | 55.4 | 2,2 | 8,8 | 48,0 | 33,9 | 0.6 | 0,4 |
| | Мсьціслаў | 33,3 | 51,7 | 5,6 | 4,3 | 59,6 | 41.9 | 1,3 | 0,8 |
| | Чэрыкаў | 42 0 | 46.9 | 5,3 | 17,9 | 51,1 | 34.2 | 1,2 | 0.4 |
| | Слуцак | 16,8 | 32,2 | 7.7 | 11,2 | 71,4 | 53,3 | 3,6 | 0.8 |
| IV | Бабруйск | 4,9 | 30,4 | 28,3 | 21,6 | 60.2 | 42,0 | 3,1 | 1,5 |
| | Рагачэў | 20,7 | 32,6 | 15,3 | 16,8 | 55,8 | 47,5 | 4,1 | 1.4 |
| | Мазыр | 16,9 | 25.8 | 10,0 | 9,3 | 69.2 | 61.3 | 3,3 | 1,5 |
| V | Рэчыца | 31,2 | 33,7 | 9.1 | 18,3 | 57.4 | 44,6 | 2,1 | 1,2 |
| | Гомель | 17,6 | 21,8 | 19,4 | 17.3 | 55,4 | 43.7 | 4,4 | 2,0 |

Асноўнай асаблівасьцю ў зьмене нацыянальных суадносін у беларускіх гарадох на працягу апошніх трыццаці год зьяўляецца вельмі моцнае павялічэньне ў складзе насельніцтва адноснай вагі беларусаў. У гэтым надзвычайна моцным процэсе „беларусізацыі“ беларускіх гарадоў няма ніякіх адхіленьняў або выключэньняў ні ў адным горадзе: значэньне беларусаў скрозь павялічваецца, у розных мясьцінах толькі з рознай інтэнсыўнасьцю. Узрастаньне вагі беларусаў прыблізна ў два і больш разоў выяўляецца ў гарадох: Полацку, Барысаве, Воршы, Менску, Слуцку, Бабруйску.

Другой асаблівасьцю дынамікі нацыянальнага складу трэба адзначыць вельмі інтэнсыўнае зьмяншэньне адноснага значэньня яўрэяў, якое выяўляецца без выключэньняў ва ўсіх гарадох БССР.

Вага палякоў у складзе гарадзкога насельніцтва павялічваецца толькі ў тых гарадох, дзе значэньне іх у 1897 годзе было мінімальным і дзе такім-жа мінімальным застаецца яно і цяпер: Сураж, Гарадок, Бабінавічы, Сянно, Чэрвень. Ува ўсіх іншых гарадох адносная вага палякаў зьніжаецца больш моцна, чым вага яўрэяў, і надзвычайна моцнае зьмяншэньне ў Дрысе, Лепелю, Менску (з 11,4 проц. да 3,4 проц.), Слуцку, Бабруйску, Рагачэве, Мазыры, Гомелі і г. д., наогул пераважна ў гарадох са значным процантам палякоў у 1897 годзе.

Значэньне расійцаў у складзе гарадзкога насельніцтва БССР больш-менш *стацыянарна* ў Полацку, Віцебску, Гарадку, Воршы, Магілеве, Чавусах, Рагачэве, Мазыры, Гомлі; *зьніжаецца* досыць моцна ў Бабінавічах, Сянно, Барысаве, Менску (з 25,6 проц. да 9,6 проц.), Чэрвені; *павялічваецца* асабліва значна ў Дрысе, Лепелі, Быхаве, Клімавічах, Чэрыкаве, Рэчыцы, г. зн. у найбольш дробных і глухіх гарадох. Але лепш будзе лічыць, што ў дынаміцы адноснага значэньня расійцаў у складзе насельніцтва агульнае законаўпарадкаванасьці, ці нават тэндэнцыі, устанавіць нельга. Таксама амаль няма законамернасьцяй у *геаграфічным разьмяшчэньні* тых або іншых *зьмен нацыянальнага складу* насельніцтва гарадоў БССР.

Вельмі выразна выяўленая тэндэнцыя дынамікі нацыянальнага складу да зьмяншэньня яўрэяў сярод гарадзкога насельніцтва прымушае прасачыць гэта зьмяншэньне і ў абсолютных лічбах. Абсолютны лік яўрэяў зьменшыўся ў 1926 годзе супроць 1897 года пераважна ў некаторых драбнейшых гарадох: Чэрвень, Лепель, Слуцак, Сураж, Гарадок, Сянно, Бабінавічы, Мсьціслаў, Чэрыкаў, Быхаў, Чавусы, Ворша, Горкі, Копысь, Полацак, Дрыса і з *буйнейшых* гарадоў—у адным Магілеве. Наадварот, у самых буйных або прамысловых гарадох БССР абсолютны лік яўрэяў павялічыўся, асабліва ў Менску, Бабруйску, Віцебску, Гомлі, Барысаве, Рэчыцы ды інш., а зьменшылася толькі іх адносная вага. З гэтага факту лёгка падыйсьці да тлумачэньня *пакіданьня* яўрэямі беларускіх гарадоў, да *высяленьня* з іх. Яўрэйская гарадзкая эміграцыя абумоўлена, як магчымасьць, скасаваньнем палітычнай няроўнапраўнасьці яўрэяў

(„черта оседлости“), адчыненьнем для яўрэйскай эміграцыі вялізных буйных гарадзкіх цэнтраў у РСФСР і УССР з высокай аплатай кваліфікаванай рабочай сілы яўрэйскага рамесьніка і яўрэйскага інтэлігента (высокай, параўнаўча з беларускай аплатай). Сама-ж рэалізацыя гэтай магчымасьці (эміграцыя) адбываецца з прычыны адноснай „прамысловай“ перанаселенасьці дробных і не індустрыяльных беларускіх гарадоў, з якіх эміграцыя і адбываецца ў першую чаргу. Калі-б у БССР быў здавальняючы прыплыў капіталаў для інтэнсыўнага разгортваньня рабоча-орыентаванай прамысловасьці, БССР лёкалізавала-б у сябе многія віды гэтай прамысловасьці і ўтрымала-б на месцы кваліфікаваных яўрэйскіх рамесьнікаў і рабочых. Гэты процэс утрыманьня яўрэйскага насельніцтва на месцы мы і наглядаем у тых беларускіх гарадох, дзе прыплыў капіталаў і разьвіцьцё прамысловасьці былі здавальняючымі.

На жаль, перапіс 1897 году не падаваў нацыянальнага складу паасобных мястэчак, і мы пазбаўлены цяпер магчымасьці меркаваць, якая-ж дынаміка нацыянальнага складу адбылася ў гэтых цікавых па свайму характару і значэньню паселішчах. Апрыорна можна лічыць, што ў *вылюдненьні мястэчак* (факт, які сьцьвярджае статыстыка) галоўную ролю мела высяленьне яўрэйскай часткі насельніцтва. Процэс і формы яўрэйскай эміграцыі з Беларусі вельмі складаны. Тут магчымы быў двухбаковы ток: яўрэйскае насельніцтва мястэчак і дробных гарадоў БССР пераходзіла на аселасьць у буйнейшыя-ж беларускія гарады, яўрэйскае-ж насельніцтва гэтых гарадоў само эмігравала ў гарады РСФСР і УССР, разумеецца, была і непасрэдная эміграцыя з яўрэйскіх мястэчак за межы Беларусі. Цікавая і па формах, і па кірунку, і па характары прычын яўрэйская гарадзкая эміграцыя з Беларусі заслугоўвае самастойнага дасьледваньня.

Параўнаньне дынамікі нацыянальнага складу БССР *асобна вясковага і асобна местачковага насельніцтва* даць немагчыма па характару распрацоўкі перапісаў 1897 і 1926 году (у 1897 г. ня вылучаны мястэчкі). Даваць-жа параўнаненьне па вясковаму і местачковаму насельніцтву разам—значыць атрымаць вынікі, якія можна прадбачыць апрыорна: зьменшэньне яўрэяў і палякоў, стабілізацыя расійцаў (або іх зьменшэньне ў некаторых выпадках), павялічэньне беларусаў.

*P. S.* Пасьля напісаньня працы атрыманы канчатковыя вынікі перапісу па Пскоўшчыне: беларусаў—у г. Вяліжы 3.6%, Вяліскай вол. 15,4%, Селязьнёўскай 12,9%, Усьвяц. 6,3%, Усмынс. 7,8%; у г. Невелі 4,1%, Валадар. вол. 14,3%, Ізочынскай 4,7%, Маеўскай 10,9%, Урыцкай 28,5%, Чарняцоўскай 18,4%; у г. Себежы 12,5%, Валадарскай вол. 8,9%, Пустошкінскай вол. 4,7%, Луначарскай 1,6% і г. д.

Усе беларусы ў беларускай Пскоўшчыне нібы страшэнна зрусіфікаваны: 80—95% беларусаў нібы лічаць роднай мовай расійскую.

# ХАРАКТАРЫСТЫКА СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСІ Ў 80—90 г. г. [1])

**А. Цьвікевіч**

А. Наступ расійскага капіталу на Беларусь пры канцы XIX в. Пропаведзь колёнізацыі Беларусі С. Южаковым. Узрост прамысловасьці на Беларусі, экономічны ўздым і разьвіцьцё расійскае асьветы.

Б. Крытычнае становішча польскага маёнтку на Беларусі ў 80 гадох і пачатак яго ўздыму. Сувязь гэтага ўздыму са становішчам польскае прамысловасьці; зацікаўленасьць да беларускага рынку. Новы пэрыод у грамадзкім жыцьці Польшчы і яе „зварот“ на Беларусь. Агульны фронт магната і ППС у гэтай справе. Перасьцярогі „западноруссов“.

Эпоха грамадзкага заняпаду на Беларусі, якая цягнулася на працягу амаль дваццаці год, пачынаючы з другой паловы 60-х гадоў, і якая тлумачылася тым, што расійскі і польскі капітал, перажываючы пачатковую стадыю свайго накапленьня, быў заняты апанаваньнем свайго ўнутранага цэнтральна-расійскага і карэнна-польскага рынку,—у 80-х гадох прыходзіць к канцу. З гэтага моманту ў жыцьці Беларусі пачынаецца новы пэрыод, у які яна нанова робіцца об'ектам барацьбы паміж Расіяй і Польшчай, як тая „окраина“, або тыя „крэсы“, дзе павінен быў канчаткова замацавацца або расійскі, або польскі капітал [2]).

Расійская тэкстыльная прамысловасьць гэтае эпохі, зьяўляючыся даволі высока разьвітай у капіталістычным сэнсе, цалкам ужо захапіла ўнутраныя губэрні старой імпэрыі, і буйныя мануфактуры цэнтральна-прамысловага раёну прымушаны былі шукаць сабе рынкаў на тэрыторыі суседніх краін,—Новаросіі, Паўднёвым усходзе, на Заволжжы, Паўночным Каўказе, Сібіры, Туркестане і г. д. Так зв. „окраины“ Расіі пачалі ў 80—90-х гадох адыгрываць ролю „колёній“ Масквы,—тых самых „колёній“, якія політычна былі падбіты ўладай расійскіх цароў некалькі ста-

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца адным з апошніх разьдзелаў працы А. Цьвікевіча „Западно-русская школа і яе прадстаўнікі“, якая друкавалася у часоп. „Полымя“ і якая выдаецца Белдзяржвыдавецтвам асобнай кнігай. *Рэдакцыя.*

[2]) Каб унікнуць непаразуменьня, мусім зазначыць, што тэрмін „польскі капітал“ (як, эвэнтуальна, „расійскі капітал“) ужываецца намі ня ў сэнсе *нацыянальна*-польскага капіталу, а *тэрыторыяльна*-польскага,—які разьвіваўся ў Польшчы і заваёўваў Беларусь з захаду.

годзьдзяў таму назад, але экономічная заваёва якіх і экономічнае „аб'яднаньне“ з Расіяй пачалося толькі цяпер [1]).

Побач з экономічнай заваёвай „окраин“ адбывалася і культурнае іх заваяваньне, прычым праніканьне ў гэтыя краіны расійскай культуры, шляхам гвалтоўнага зьнішчэньня ўсіх мясцовых адзнак, павінна было расчышчаць тут дарогу расійскаму капіталу. У гэтым быў сэнс нацыяналістычнай політыкі Аляксандра III і таго „культур-кампфа“, тае барацьбы за „адзіную рускую культуру“, якая ўзмоцненым тэмпам пачала праводзіцца на „окраинах“ іменна пры канцы XIX стагодзьдзя.

У ліку іншых „окраин“ Расіі апынулася ў гэты пэрыод і Беларусь. Хоць дзяржаўнае далучэньне яе да імпэрыі адбылося яшчэ ў канцы XVIII ст., аднак за сто год, што мінулі з тае пары, Беларусь экономічна жыла асобным ад Расіі жыцьцём і была больш зьвязана з Польшчай [2]). Сваёй натуральнай гаспадаркай яна здавольвала большасьць сваіх патрэб: адзеньне, абутак, рэчы хатняга ўжытку, шкляное начыньне, нават жалезныя вырабы, усё, што патрэбна было ў вясковым сялянскім жыцьці, і большасьць таго, што патрэбна было для памешчыцкага двара,—выраблялася тут-жа на месцы. Толькі нялічныя коленіяльныя тавары, ды прадметы раскошы заграпічнага пахаджэньня прывозіліся сюды нялічнымі яўрэйскімі і польскімі экспортэрамі з Заходняй Эўропы. Дзякуючы гэтаму становішчу Беларусь і ў культурным сэнсе захоўвала сваё ўласнае аблічча: разам з тканінай, сьвіткай і міскай народнага мясцовага вырабу захоўваліся і беларускія нацыянальныя сьпевы, і беларускія скокі. Горад і гарадзкая капіталістычная культура ў слабой ступені прасочваліся ў тоўшчу беларускага краёвага жыцьця.

Пры канцы XIX ст. становішча пачало рэзка зьмяняцца. Капітал, у першую чаргу расійскі, у выглядзе масавага фабрычнага вырабу пачаў у гэты пэрыод грунтоўна выціскаць на Беларусі выраб дамовы, пабіваючы яго і таннай цаной і вялізнай колькасьцю. Гандлёвы капітал зьвязаў Беларусь з самымі далёкімі тэрыторыямі, а чыгункі спалучылі яе з Расіяй у адно суцэльнае, наблізіўшы насельніцтва краіны ўсутыч да расійскай фабрыкі і заводу. Дзякуючы сваёй экономічнай адсталасьці, Беларусь *мусіла* абярнуцца ва ўнутрана-дзяржаўную расійскую колёнію, у той

[1]) Гл. Н. Ленін (В. Ульянов) Собр. соч. т. III, VII—„Об образовании внутреннего рынка“ (значение окраин), стар. 482 і далей. Мысьлі Леніна аб экономічнай ролі і становішчы „окраин“, вельмі грунтоўныя. На жаль, як ён сам прызнаецца (стар. 485), дэтальны разгляд гэтага пытаньня („разьвіцьцё капіталізму ўшыр, распаўсюджаньне яго на новыя тэрыторыі“) не ўваходзіў у плян яго работ. У паказаным разьдзеле зазначаны толькі агульныя прынцыпы, якія, аднак, даюць нам магчымасьць ясна паставіць самую проблему і зрабіць з ея належныя вывады ў стасунку да Беларусі.

[2]) Расійскі ўрад да 1822 г. пакідаў поўную свабоду Польшчы ў яе гандлёвых зносінах з „Літвой“. Не зьмянілі становішча і лібэральныя мытныя правілы 1822 г. Горшымі для польскай прамысловасьці былі мытныя стаўкі па закону 24 лістапада 1831 г. (пасьля паўстаньня). Аднак, як тады, так і пры пазьнейшых пераменах (1859 г. і 1877 г.), польская баваўняная прамысловасьць цалкам панавала на беларускім рынку.—Janowicz: Zarys rozwoju przemysłu w. Kr. Polskiem, 1907, str. 62.

экономічны hinterland, які павінен быў насычвацца продукцыяй цэнтральна-прамысловага раёну Расіі.

У сувязі з экономічнай заваёвай Беларусі пачалася і ліквідацыя яе старога патрыярхальнага быту, які трымаўся яшчэ ад часоў прыгону. Капіталізм, пранікаючы ў край, насычваючы ўсе бакі яго жыцьця і захапляючы зямляробства, нішчыць старыя формы гэтага быту. „Мядзьведжыя куты і захалусьці пачынаюць зьяўляцца цяпер ужо выключэньнем і з кожным днём робяцца ўсё больш і больш антыкварнай рэдкасьцю; зямляўласьнік хутчэй і хутчэй абяртаецца ў прамыслоўца, які падпарадкаваны агульным законам вытворчасьці“ [1]). Удасканаленыя шляхі зносін, па выразу Адама Сьміта, імкнуцца наблізіць кожную вёску да гораду. Архаізм у народнай гаспадарцы краіны паволі зьнікае: сальная сьвечка замяняецца бакінскай газай, беларуская мягерка—маскоўскім картузам, жаночы андарак—фабрычнай сукенкай. Разам з імі паволі пачынаюць стушоўвацца зыркія перад тым беларускія нацыянальныя звычаі і абрады: старадаўняе вясельле, сьвяты купальля, беларуская дуда—усё гэта адціскаецца нарастаючым расійскім капіталізмам усё далей на вёску, у найбольш глухія мясьціны. Жальбаў на падобнае зьявішча мы сустракаем нямала ў беларускіх этнографаў таго часу.

Беларусь робіцца звычайнай колёніяй Расіі. Два варункі, характарныя для колёніі, маюцца тут у наяўнасьці: незанятыя свабодныя для колёнізацыі землі ў выглядзе вялізарнейшых абшараў беларускага Палесься, якія расійскі ўрад пачаў прыводзіць да парадку шляхам генэральнай асушкі (экспэдыцыя ген. Жылінскага і інш.), а затым наяўнасьць гэткіх экономічных абставін, пры якіх Беларусь мусіла заставацца аграрнай краінай, якая выраблялa сельска-гаспадарчы продукт і атрымлівала гатовы выраб прамысловасьці. У гэтым сэнсе яна была сваеадменнай „дзікай Башкірыяй“, колёнізацыю якой гэтак маляўніча апісаў Рэмізаў („Очерки жизни дикой Башкирии“), у якой колёнізатары нішчылі ў пень карабельныя лясы і абярталі „ачышчаныя ад дзікіх башкіраў“ палі ў „пшанічныя фабрыкі“. Толькі малюнак гэты па прыродных варунках быў тут крыху іншым.

Цікава, што расійскія колёнізацыйныя імкненьні ў кірунку Беларусі ясна вызначыліся ня толькі ў практычным жыцьці, ня толькі ў факце штодзеннага захапленьня расійскім капіталам беларускага экономічнага жыцьця, але і ў літаратуры. Так, напрыклад, вядомы расійскі соцыолёг С. Южаков у 1886 годзе акрэсьлена прапаведваў колёнізацыйны паход на Беларусь, тлумачачы яго патрэбу інтарэсамі расійскай дзяржаўнай гаспадаркі [2]). „Колёнізацыя Палесься,—кажа ён, разумеючы пад „Палесьсем“ наогул увесь беларускі этнографічны абшар,—належыць да

[1]) У. Ленін (В. Ульянов), т. III, стар. 246.

[2]) С. Южаков: „Переселенческий вопрос“, „Сев. Вестник“, 1886, август, № 8, отд. II, стар. 25—48. Больш дэтальна аб гэтым гл. ніжэй.

ліку самых важнейшых заданьняў нашай унутранай экономічнай палітыкі. У экономічных адносінах гэты вялізны край ад Бальтыцкага мора да Аўстрыяцкае мяжы зьяўляецца пустэчай, вельмі рэдка населенай, вельмі слаба культывaванай, бяз жаднай прамысловасьці; экономічна ён зьяўляецца аномаліяй і шкодна адбіваецца на экономічным разьвіцьці Расіі". Каб пазбавіцца гэтае шкоднасьці, Расія павінна колёнізаваць Беларусь з усходу, а Польшча з захаду, гэткі быў вывад популярнага вучонага.

Колёнізацыя Беларусі расійскім капіталам вызначылася пры канцы XIX веку ў самых рознастайных формах: у форме гандлёвых зносін мясцовых фірм з Масквой, у форме адкрыцьця на Беларусі аддзяленьняў маскоўскіх і пецярбурскіх банкаў і банкірскіх кантор, у буйным разьвіцьці чыгунак, у буйным дзяржаўным будаўніцтве—ня толькі чыста экономічным, але і стратэгічным, ва ўсё большым наплыве на Беларусь расійскага войска і чынавенства і, урэшце, у надзвычайна шпаркім узросьце расійскае школы і асьветы наогул.

Разьвіцьцё фабрычнае прамысловасьці ў 90-х гадох у параўнаньні з 60-мі г. г. вырасла амаль у тры разы: лік рабочых з 1866 г. павялічыўся ў 1897 г. з 23 тысяч чал. да 560 тысяч, а сума вытворчасьці з 19 мільёнаў да 60 мільёнаў. Асабліва шпарка, дзякуючы прыродным умовам Беларусі, пачала разьвівацца прамысловасьць па апрацоўцы дрэва: у той час як у 1866 г. гэтая галіна народнае гаспадаркі займала толькі 1,7% усяго ліку рабочых,—у 1897 г. яна займала ўжо 12,7% [1]). У пяць разоў вырасла хэмічная прамысловасьць (процантныя адносіны ліку рабочых для паказных гадоў—1,0%—15,7%), табачныя—фабрыкі Горадзенскага раёну (з 0,7%—6,4%), поліграфічная (2,3%—5,6%) і г. д. У сувязі з хуткім разьвіцьцём дрэваапрацоўнай прамысловасьці, а таксама высокімі цэнамі на лес на заграцічных рынках, у 90-х гадох нагляддаецца ўкладаньне вялізных капіталаў у лясныя распрацоўкі на Беларусі.

Чыгункі, якія ў папярэдні пэрыод пакрылі густой сеткай Беларусь, разьвіваліся ўсё больш, праразаючы край з поўначы на поўдзень і з усходу на захад і пачалі ў разгляданы пэрыод даваць належны экономічны эфэкт у таварным і пасажырскім звароце. Мясцовы беларускі рынак усё больш ажыўляўся і зьвязваўся праз іх з галоўнымі цэнтрамі імпэрыі. Шосавае будаўніцтва паставіла Беларусь у 90-х гадох на першае пасьля Польшчы месца ў Расіі: так, напрыклад, Горадзенская і Віленская губэрні былі забясьпечаны шосамі ў 130 кіл. на 10 тыс. насельніцтва (65 кіл. на 100 кв. кіл. тэрыторыі), тады як рэшта эўропэйскай Расіі мела забясьпечанасьці 33 кіл. на 10 тыс. насельніцтва (8 кіл. на 100 кв. кіл. тэрыторыі) [2]).

Побач з экономічнай колёнізацыяй адбываўся націск культуры. Расійская школа і кніга зьяўляліся ў даным выпадку натуральным саюзьнікам

[1]) Лічбы ўзяты ў М. Доўнар-Запольскага: „Народное хозяйство Белоруссии".

[2]) К. Оппенгейм: „Россия в дорожном отношении", 1920, стар. 48.

расійскага капіталу і яго правадніком на Беларусі, ня менш як расійская адміністрацыя [1]). Пасьля занядаду 70-х год, калі расійская асьвета ў краі ня толькі не разьвівалася, а ў некаторых выпадках нават скарачалася,— буйнае разьвіцьцё яе ў канцы стагодзьдзя асабліва кідаецца ў вочы. Прымаючы пад увагу патрэбу хутчэйшае русыфікацыі Беларусі, тут пачынае насаджвацца ў вялізным ліку так званая „царкоўна-прыходзкая" школа, якая была пад загадам Сыноду і служыла мэтам ураду пры дапамозе мацнейшага яго засабу,—праваслаўя. Вось табліца, з якой яскрава відаць гэты буйны рост школ [2]).

| Губэрні | Гады | Мін. Нар. Асьветы | | Сынодальных | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Школ | Вучняў | Школ | Вучняў | Школ | Вучняў |
| Віцебская . . . | 1880 | 168 | 6.185 | — | — | 168 | 6.185 |
| | 1895 | 731 | 17.436 | 632 | 12.238 | 1.063 | 29.674 |
| | 1899 | 430 | 22.924 | 786 | 20.398 | 1.216 | 43.322 |
| Менская . . . | 1880 | 184 | 13.911 | — | — | 184 | 13.911 |
| | 1895 | 321 | 20.917 | 1.368 | 26.474 | 1.689 | 47.391 |
| | 1899 | 323 | 27.355 | 1.774 | 42.093 | 2.097 | 69.448 |
| Магілеўская . . | 1880 | 353 | 7.410 | — | — | 535 | 7.410 |
| | 1895 | 248 | 16.002 | 1.606 | 38.084 | 1.848 | 54.086 |
| | 1899 | 256 | 19.425 | 1.700 | 48.149 | 1.956 | 67.574 |

Што датычыць Віленскай губэрні, дык за 4 гады—1884 па 1888 г.— лік царкоўна-прыходзкіх школ вырас тут з 4 да 352. Па Горадзенскай губэрні адносны лік народных (міністэрскіх) школ да ліку царкоўна-прыходзкіх быў наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1891 год . . | 299 народных школ | 534 царк.-прыходзкіх [3]) |
| 1892 „ . . . | 300 „ „ | 556 „ |
| 1901 „ . . . | 326 „ „ | 1.295 „ |

Конфэсіянальны характар народнае асьветы на Беларусі ў тыя гады быў фактам агульнавядомым,—нічога падобнага ў іншых частках старой імпэрыі ня было.

З гэтых даных відаць, што царкоўна-прыходзкіх школ у трох беларускіх губэрнях—Менскай, Віцебскай і Магілеўскай—у пачатку XX ст. было 4.260, г. зн. у чатыры з лішкам разы болей, чым школ міністэрскіх (народных), якіх было толькі 1009. Вучняў у царкоўна-прыходзкіх школах было ў гэты час 110.640 чал.,—амаль у два разы больш, чым

[1]) Некаторыя адміністратары на Беларусі добра разумелі патрэбы часу. Так, напрыклад, віцебскі губарнатар В. Долгоруков, з мэтай падтрымаць надыход капіталу, выдаў кнігу—„Витебская губерния—историко-географический и статистический обзор", 1890 г., кажучы ў прадмове да свайго выданьня, што выкладзеныя ў ім веды „могуць быць практычна-карыснымі для мясцовых дзеячоў і прадпрыемцаў".

[2]) Узята ў В. Семенова—„Россия" etc., т. IX, стар. 122—123, у сувязі з чым не паказаны лічбы па Горадзенскай і Віленскай губ.

[3]) Выбаркі на Віленскай і Горадзенскай губ. зроблены намі з „Памятных Книжек" гэтых губэрняў за адпаведныя гады.

у народных (69.704 чал.). Усяго пры канцы веку (1899 год) на Беларусі толькі ў трох памянёных губэрнях было звыш 5 тысяч ніжэйшых школ (міністэрскіх і сынодзкіх) з агульным лікам 180 тысяч вучняў. Гэтыя лічбы сьведчылі ўжо аб даволі высокім стане народнай асьветы,—у стасунку да ўсяго насельніцтва лік вучняў складаў звыш 3%.

Раўняючы гэтыя лічбы з тым, што было ў 60—70 гадох, можна бачыць, як далёка пасунулася наперад Беларусь у сэнсе расійскае асьветы ў апошняе дваццацігодзьдзе. У той час як у 1869 годзе вучняў народных міністэрскіх школ было ва ўсіх губэрнях Віленскае навучальнае акругі 63.463 чал.,—у 1880 г. іх было ўжо 74.445 чал., а ў 1899 г.—121.522 чал.[1]). Прымаючы пад увагу, што ў царкоўна-прыходзкіх школах было вучняў у два разы больш, можна лічыць, што пры пачатку XX ст. па чатырох беларускіх губэрнях (Віленскай, Горадзенскай, Менскай і Магілеўскай) ва ўсіх ніжэйшых школах—народных і царкоўных—было звыш 300.000 чал. вучняў.

Сярэдняя школа расла ня так шпарка; яна была значна даражэйшай, а русіфікацыйнае значэньне яе было параўнаўча меншае. Аднак і тут у 90 гадох можна было заўважыць поступ: у той час, як у 1869 годзе на Беларусі, у межах Віленскай вуч. акругі было 16 сярэдніх школ (9 гімназій, 4 рэальных школы і 3 прогімназіі)—у 1899 г. іх было 20 (гімназій—10, рэальных вучылішчаў—7 і прогімназій—3). Да гэтага ліку прыбавілася 3 жаночых гімназіі, якіх у 60-х гадох зусім ня было[2]).

Побач з павялічэньнем школ і ліку вучняў ішла кваліфікацыя настаўніцкага пэрсоналу: тады як у 60—70 гадох настаўнікамі ў народных школах былі людзі без спэцыяльнай асьветы, у 1899 г. настаўнікаў, атрымаўшых спэцыяльную падрыхтоўку, было ў сярэднім 30—35% агульнага ліку[3]).

Выкліканае разьвіцьцём капіталізму павялічэньне насельніцтва гарадоў Беларусі ў разгляданы пэрыод мела свае вынікі і ў кірунку асьветным. Згодна палажэньня аб гарадзкіх школах 31 мая 1872 г., гарадом было дана права адчыняць на свой кошт новыя так званыя „гарадзкія вучылішчы“; для гэтага трэба было толькі адно—забясьпечыць яго памяшканьнем. Аднак да пачатку 80-х гадоў на Беларусі не знайшлося ніводнага гораду, які пажадаў-бы скарыстаць гэтае права і толькі з пачаткам 80-х гадоў справа пачала зьмяняцца: ініцыятыву ўзяў Магілеў, за ім пашоў Менск, Дзьвінск, Барысаў і г. д. У 1888 г. на Беларусі было ўжо 13 гарадзкіх вучылішчаў, а ў 1899 г.—21. Побач з імі ў гэты час вырасла 216 так званых „уездных вучылішчаў“,—нешта сярэдняе паміж народнай школай і гімназіяй.

[1]) А. Белецкий: „Виленский учебный округ в XIX столетии“, „Виленский календарь“, 1904 г., стар. 276.

[2]) Ibid, стар., 289.

[3]) Ibid, стар. 276.

Пачала разьвівацца ў гэты пэрыод на Беларусі і бібліотэчная справа. Так, напрыклад, у Віцебску ў 1896 г. было ўжо 2 публічных бібліотэкі і 14 бібліотэк пры кніжных крамах гораду і яго губэрні (у 1899 г.— 7 самастойных бібліотэк і 19 пры кніжных крамах). На Магілеўшчыне ў 1899 г. было 23 самастойных бібліотэкі і 11 пры кніжных крамах [1]). Адпаведна гэтаму павялічыўся лік самых кніжных крам і друкарань. Урэшце, вялікі лік кніжных кіёскаў пачаў узьнікаць на станцыях жал. дарог. Расійская кніга, журнал і газэта шырокай ракой лілася на Беларусь.

Рост прамысловасьці, буйнае дзяржаўнае будаўніцтва, разьвіцьцё расійскае асьветы на Беларусі і г. д.,—усё гэта паказвала, што капітал усё больш і ўсё глыбей захапляў у тыя часы наш край і грунтоўна перарабляў усю фізіономію тутэйшага жыцьця. Асабліва гэта датычыць беларускага гораду, як асяродзьдзя культуры краю: пры канцы XIX ст. беларускі горад быў ужо цалкам русіфікаваны.

Пры ўсім тым Беларусь усё яшчэ заставалася пераважна аграрнай краінай і зямля, сялянская гаспадарка і памешчыцкі двор адыгрывалі ў яе агульным жыцьці, як і раней, першарадную ролю.

Польскі памешчыцкі двор на Беларусі перажываў у тыя часы надзвычайна цяжкі крызіс. Зьявішча гэтае было, зрэшты, агульным для ўсёй імпэрыі. Пасьля рэформы 1861 г. дваранская зямляўласнасьць, зрушаная са старой прыгоннай асновы, страціла ранейшую стабільнасьць і пачала хістацца. Аднак на працягу 60—70 гадоў яна яшчэ даволі трымалася, бо вызваленьне сялян не дало тых руйнуючых вынікаў, як гэтага баяліся некаторыя сучасьнікі. Трымалася памешчыцкая гаспадарка і на Беларусі, ня гледзячы нават на адміністрацыйна-паліцэйскія меры барацьбы з ёй расійскага ўраду. Заняпад яе, які наглядаўся ў пэрыод 70-х гадоў і які мы апісалі вышэй, быў хутчэй выразам тэхнічнай адсталасьці і зьмяншэньнем палітычнае ролі маёнткаў, дзякуючы нараджэньню новай буржуазнай Польшчы. Польскі памешчыцкі двор на Беларусі ў той час замкнуўся, як мы паказалі, у самым сабе, трымаўся „старасьветчынай“ і ў гэтым сваяадменным анабіозе захоўваў сябе.

У 80-х і пачатку 90-х гадоў адбыліся зьмены ў бок горшага. Аграрны крызіс, які захапіў цяпер імпэрыю і які тлумачыўся тым, што на эўропэйскім рынку зьявілася канадзкая пшаніца і цэны на хлеб,—галоўны экспортны продукт сельскае гаспадаркі Расіі,—значна зьменшыліся, выклікаў катастрофічнае зьмяншэньне цэн на зямлю і наогул на продукцыю памешчыцкага двара. Пачынаецца, па выразу Пакроўскага, „жудаснае аскудзеньне памешчыкаў“ і атака з іхнага боку расійскае ўлады. Пасьля вялікага неўраджаю і голаду 1891-2 году, пэтыцыі аб дапамозе дваранскаму зямляўласьніцтву плоймаю пасыпаліся ў Пецярбург. Перапалоханае масавай ліквідацыяй сваіх маёнткаў і прыпісваючы пагрозу

[1]) Лічбы ўзяты ў В. Семенова.

сваёй соцыяльнай сьмерці, адмене прыгоннай залежнасьці сялянства, памешчыцкая кляса запатрабавала ад „сваёй“ улады безадкладнай дапамогі. У Расіі гэтая дапамога была дана памешчыцкай гаспадарцы сапраўды ў тэрміновым парадку і ў такім вялізным маштабе, які надоўга падарваў фінансавыя магчымасьці дзяржавы. Было організавана спэцыяльнае міністэрства, у 1895—1896 г. дзяржаўны пазямельны падатак зьменшаны на 10 год на 50%, зьменшаны былі ўсялякія пошліны пры продажу зямлі, былі ўстаноўлены нячуваныя палёгкі буйным маёнткам у справе выганкі сьпірту, на чым дзяржава, па вылічэньнях фінансістых [1]), за 27 апошніх год XIX ст. недаатрымала ад памешчыцкіх гаспадарак 400 мільёнаў руб., былі адкрыты вялізныя вэксальныя крэдыты для дваран у дзяржаўным банку, праводзіўся цэлы шэраг штучных мерапрыемстваў для ўтрыманьня на ўнутраным рынку высокіх цэн на хлеб і г. д. Адным словам, уся фінансавая сыстэма вялікай царскай імпэрыі была мобілізавана, каб уратаваць клясу дваран-памешчыкаў. Няма чаго і казаць, што гэткая політыка царызму адбывалася за кошт селяніна-бедняка, які ў галодныя гады быў кінуты ў процьму матэрыяльнай бяды і нэндзы. Мільённыя масы народу ў гэты пэрыод апынуліся на апошняй ступені матэрыяльнай незабясьпечанасьці.

І ўсё-ж такі, ня гледзячы на ўсе захады клясавае дваранскае політыкі, плошча памешчыцкае зямляўласнасьці ў гэты пэрыод пачала значна скарачацца. На Беларусі становішча было тое самае, з тэй толькі адзнакай, што мясцовы памешчык — паляк па нацыянальнасьці, на ўсе спосабы мусіў трымацца зямлі, каб ня быць выкінутым зусім з каляіны краёвага жыцьця. Хоць у параўнаньні з рэштай Расіі скарачэньне памешчыцкае гаспадаркі на Беларусі было меншае, аднак з пачаткам 90-х гадоў яно набыло таксама катастрафічны характар. Вось даныя аб паменшаньні дваранскіх маёнткаў па пяцёх беларускіх губэрнях за апошнія 20 гадоў XIX ст. у процантах да ўсёй прыватнай зямляўласнасьці [2]):

| | 1877 | 1887 | 1897 |
|---|---|---|---|
| Віцебская . . . . | 83,5 | 82,4 | 64,2 |
| Менская . . . . | 93.4 | 93,2 | 79,4 |
| Магілеўская . . . | 86,6 | 82,3 | 70.0 |

Тыя-ж самыя лічбы даюць Віленская і Горадзенская губэрні. Аднак заўважана, што там, дзе польскі памешчыцкі элемэнт быў мацнейшы, там менш зямлі выкідалася на рынак. Так было, як мы бачым з паданай табліцы, у Менскай губ., так было і ў Віленскай і Горадзенскай губ. У Віленскай губ. лік памешчыцкай зямлі ў стасунку да ўсёй прыватнай зямляўласнасьці ў 1887 г. скараціўся ў параўнаньні з 1877 г. з 94,1% да 89,5%, а па Горадзенскай губ.—з 86,4% да 84,2%. Агулам можна

[1]) М. Боголепов: „Государственное хозяйство (1892—903 г.)“, „Ист. России в XIX в.“ т. VIII, стар. 29 і далей.

[2]) М. Довнар-Запольский: „Народное хозяйство Белоруссии“, стар. 33 і інш.

сказаць, што ў апошнія два дзесяцігодзьдзі XIX веку лік памешчыцкай зямлі па ўсёй Беларусі скараціўся больш чым у два разы ў параўнаньні са скарачэньнем у першае дзесяцігодзьдзе пасьля рэформы.

Скарачэньне плошчы памешчыцкай зямлі падкрэсьлівалася адсталымі формамі яе гаспадаркі. „Пасьля скасаваньня прыгонных адносін,—кажа Доўнар-Запольскі,—памешчыцкая гаспадарка заняпала, бо не магла справіцца з наёмнай працай і павесьці справу „па-капіталістычнаму“. Сярод памешчыкаў 70-х г. г. зусім зьнікае зацікаўленасьць да палепшаньня гаспадарчай тэхнікі. Гэта выяўлялася перш за ўсё ў разьвіцьці экстэнсыўных форм гаспадаркі і зьмяншэньні процанту ральлі. Такім чынам, колькасьць ворнае зямлі ў 1881 г. была значна меншая, чым у пачатку 60 гадоў (з 7839 дзес. зьменшылася да 5328 дзес.). Пры гэтым, чым большы быў маёнтак, тым гэтая экстэнсыўнасьць выяўлялася ў большым памеры: буйныя маёнткі прадстаўлялі з сябе лясы і пустэчы, парослыя хмызьняком. Так, напрыклад, у Віленскай і Горадзенскай губ. у буйных маёнтках, меўшых больш за 1.000 дзес., процант ральлі да ўсёй плошчы быў крыху большы за 20. Наадварот, чым гаспадарка была меншай, тым процант ральлі павялічваўся, дасягаючы ў гаспадарках, што мелі 50 дзес., 60% плошчы. Гэта значыла, што ў найгоршым эканомічным становішчы былі ў той час на Беларусі вялізарнейшыя лятыфундыі польскіх магнатаў,—тэй сілы, якая на працягу стагодзьдзя трымала ў сваіх руках усё эканомічнае і культурнае жыцьцё краіны.

Становішча польскае зямляўласнасьці на Беларусі рабілася чым далей, тым больш пагражаючым. Ня гледзячы на тое, што эканомічны эфэкт адміністрацыйнага ўціску польскай зямляўласнасьці быў нязначны і што абмежавальныя законы расійскага ўраду абыходзіліся палякамі на Беларусі даволі ўдала,—усё-ж такі за трыццаць год, што мінула з часу паўстаньня, адмоўныя вынікі былі ў наяўнасьці: паводле вылічэньняў некаторых дасьледцаў, колькасьць зямлі ў польскіх руках на Беларусі пры канцы стагодзьдзя скарацілася амаль на адну траціну [1]). Гэта была ўжо ня толькі эканомічная, але і нацыянальная трагедыя. Польскі памешчык на Беларусі і перш за ўсё магнат, убачыў, што на яго насуваецца відзьмо сьмерці, што над ім пачынае нібы спраўджацца трагічнае прароцтва Крашэўскага. І вось, адчуваючы, што ў ім, як соцыяльным стане, як у клясе, яшчэ не памерлі жыцьцёвыя сілы, і што закон разьвіванага капіталізму яшчэ можа зрабіць на яго стаўку, польскі памешчык на Беларусі схамянуўся і падняў голас на абарону свайго права.

---

[1]) Б. Ольшамовский: „Права по землевладению в Западном крае“, СПБ, 1897. Да гэтых агульных вылічэньняў трэба, аднак, падыходзіць з асьцярожнасьцю, таксама як і і да тэзы Б. Ольшамоўскага, што „обмежавальныя законы ў стасунку да польскае зямляўласнасьці зьявіліся аднэй з галоўных прычын эканомічнага заняпаду краю“ („Значение закона 10 дек. 1865 г. и отношение к давностному владению“,—„Судебная газета“, 1883, № 8 і інш.).

Экономічная коньюнктура ў самой Польшчы як ня трэба лепш спагадала гэткаму павароту. Капіталізм у Польшчы дасягнуў у 80-90-х гадох максымуму свайго разьвіцьця. Лік рабочых на польскіх фабрыках вырас з 119.900 у 1872 г. да 243.733 у 1897 [1]). Насельніцтва Лодзі роўнае ў 1885 г. 150 тыс. чал., праз дзесяць год было роўна 315 тыс. чал., г. зн. больш чым патроілася. Лік гарадоў з насельніцтвам звыш 10 тысяч на працягу апошніх сарака год узрос з 7 да 30; пры гэтым насельніцтва гарадоў павялічылася агулам на 222%, у той час як вясковае толькі на 74% [2]). Выраб лодзінскіх тэкстыльных фабрык павялічыўся з 35 мільёнаў у 1885 г. да 90 мільёнаў у 1895 г. Гэтак-жа колёсальна ўзрасла і здабыча вугалю ў польскіх шахтах: калі ў 1880 г. здабыча вугалю ў Саснавіцах была роўна 78,4 міл. пудоў, дык у 1890 г. яна дасягнула 150,8 міл. пудоў. Агульная вартасьць продукцыі горнае прамысловасьці Польшчы ўзрасла з 64 міл. у 1870 г. да 555 міл. руб. у 1897 г., што пры насельніцтве ў 9½ мільёнаў (перапіс 1897 г.) давала 52,6 руб. на душу [3]). Вельмі паказальнымі зьяўляюцца таксама лічбы капіталаў, якія мелі зварот у гэты час у польскіх банках. Так, па даных Кемнэра, у 4 акцыйных банках Каралеўства ў 1898 г. было да 80 мільёнаў руб. статутавага і рэзэрвовага капіталу, а ўкладаў і вэксалёў у 19 крэдытных таварыстваў да 20 мільёнаў руб. [4]). З гэтых лічбаў відаць, што Польшча ў разгляданы пэрыод была даволі насычана зваротнымі грашовымі сродкамі.

Польскі капітал пачаў шпарка перарастаць граніцы ўласьцівай Польшчы. На захад, г. зн. у бок Нямеччыны і Аўстра-Вэнгрыі выхад яму быў закрыты дзеля больш высокага капіталістычнага разьвіцьця гэтых краін. Значыць заставаўся ўсход, г. зн. Расія і Азія. Сюды, у далёкія абшары Заваложжа, Туркестану, Сібіры і Пэрсіі пашла лодзінская і беластоцкая мануфактура. Першы пэрыод заваяваньня гэтых рынкаў праходзіў для польскага капіталу даволі спагадна. Больш таго: расійская палітыка ня толькі не перашкаджала разьвіцьцю ў Польшчы капіталізму, але вітала яго, бо гэтае разьвіцьцё ўзбагачвала самую расійскую дзяржаву і, што асабліва важна, моцнай, экономічнай сувязьзю зьвязвала Польшчу з імпэрыяй. Урад глядзеў на гэтую эволюцыю як на organiczne wcielenie się w cesarstwo, як на мацнейшае аб'яднаньне каралеўства з агульным дзяржаўным організмам [5]).

[1]) W. Feldman: Dzieje polskiej myśli politycznej, str. 10.

[2]) J. Grabec: Dzieje wspulczesne (1871—1918), str. 153.

[3]) St. Kempner. Rozwój gospodarczy Polski od rozborów do niepodległosci, 1924, VII, str. 104.

[4]) Ibid, str. 113.

[5]) Найбольш упарта і пасьлядоўна праводзіла прынцып экономічнага „wcielenia" Польшчы ў склад Расіі Р. Люксэмбург (гл. яе працу: „Die industrielle Entwicklung Polens", Leipzig), у сувязі з чым яна абвяшчала палітычную незалежнасьць Польшчы „утопіяй". У. Ленін жорстка скрытыкаваў памылковыя позыцыі Р. Люксэмбург у гэтым пытаньні (Собр. соч., т. XIX, стар. 89—139).

Аднак з часам пачалася конкурэнцыя з капіталам расійскім, якая асабліва рэльефна вызначылася з сярэдзіны 80-х гадоў. Расійская прамысловасьць, а з ёю і расійскі ўрад пачалі пільна сачыць за тым, каб гаспадарчае разьвіцьцё польскага каралеўства не перашкаджала гэткаму-ж разьвіцьцю карэннае Расіі. Чым больш насычаліся цэнтральныя і ўсходнія рынкі таварам, тым конкурэнцыя рабілася вастрэйшай. Маскоўскія мануфактурныя фабрыканты пачынаюць скардзіцца імпэратарскаму ўраду, што іх забівае „инопленная и нероссийская Лодзь“ і што гэтаму трэба палажыць канец. У выніку гэтых скаргаў у 1889 г. былі значна падвышаны мытныя стаўкі на бавоўну на польска-нямецкай граніцы. Яшчэ раней, у 1885—1887 годзе, у Пецярбургу, пры непасрэдным удзеле Аляксандра III адбываюцца нарады, якія маюць на мэце „абдумаць і магчыма хутчэй увесьці ў жыцьцё мерапрыемствы для абароны расійскае жалезнае прамысловасьці“, у прыватнасьці—„выпрацаваць проекты мерапрыемстваў, якія павінны быць ужыты ў межах заходняе прыгранічнае паласы дзеля папярэджаньня далейшага разьвіцьця існуючых там і гатовых узьнікнуць жалезных заводаў і фабрык, працуючых на замежным матэрыяле“ [1]). Уся цяжкая індустрыя павінна была, паводле думкі тагачаснага міністэрства фінансаў, концэнтравацца ў цэнтральнай Расіі, і быць па магчымасьці спынена на „окраинах“, г. зн. у першую чаргу ў Польшчы. З гэтай мэтай у царства Польскае была паслана ў 1886 г. спэцыяльная камісія на чале з проф. Янжулам, з заданьнем „высьветліць, у якіх умовах знаходзіцца здабываючая і апрацоўчая прамысловасьць гэтае краіны і якія меры павінны быць ужыты супроць далейшага разьвіцьця польскай фабрычнай прамысловасьці, дзеля ўраўненьня ўзаемных шансаў конкурэнцыі фабрык цэнтральнае Расіі і прывісьлінскага краю“. Камісія дакладна вывучыла пытаньне і злажыла адпаведны плян [2]).

Шляхам адпаведнай сыстэмы мытных ставак, дыфэрэнцыяльных тарыфаў і чыгуначнага будаўніцтва Расія ў 80—90-х гадох пачала ўсё больш прыціскаць тыя галіны польскае фабрычнае вытворчасьці (асабліва так званыя „переделочные заводы“), якія былі для посьпехаў конкурэнцыі найбольш небясьпечнымі [3]). Гэтай-жа мэце служылі і аддзяленьні Расійскага дзяржаўнага банку ў Польшчы, якія пачалі адчыняцца замест Банку Польскага і якія, у процілежнасьць апошняму, былі далёкі ад протэкцыянізму польскае прамысловасьці [4]).

---

[1]) Marceli Lewy: „Wzajemny stosunek przemysłu Królewstwa Polskiego i Cesarstwa Rosyjskiego przed wojną wszechświatową, 1921, str. 116—117.

[2]) Аб апрацаваных проектах зьнішчэньня польскае конкурэнцыі гл. „Отчет И. И. Янжула по исследованию фабрично-заводской промышленности в Царстве Польском“. СПБ, 1888 г., гл. IV, стар. 95 і далей.

[3]) Гл. грунтоўна аб гэтым: M. Lewy: Życie ekonomiczne Król. Polskiego, I, Rosyjskie taryfy celne i kolejowe i ich wpływ na życie ekonomiczne K. P.“, Warszawa, 1915. Заўвагі у Kempnera (op. cit., 114—115), Grabiec (II, 247).

[4]) Банк Польскі зачынены ўрадавым актам у 1885 г., праіснаваўшы амаль 60 гадоў (заснаваны ў 1828 г. па ініцыятыве кн. Любецкага, тагачаснага міністра фінансаў Ц. Поль-

Да гэтага часу польская прамысловасьць карысталася ўласнаю сыравінаю,—перш за ўсё ўласнымі рудамі і коксам. У значнай ступені дапамагаў яе разьвіцьцю кокс і руды сілескага пахаджэньня, таксама як і наогул нямецкі напоўфабрыкат: усё гэта было пад бокам і каштавала танна. Разьвіцьцё ў канцы стагодзьдзя данецкіх шахтаў і руд кацярынаслаўскага раёну, а таксама ўласных баваўняных плянтацый у Туркестане, паставілі прад расійскім урадам патрэбу прасунуць гэтую сыравіну ня толькі ў цэнтральна-прамысловы расійскі раён, але таксама і ў Польшчу. На гэтым грунце пачынаецца новая барацьба, у выніку якой Расія, шляхам адпаведнай мытнай політыкі забараняе нямецкай сыравіне доступ на польскі рынак, дае ход данецкаму вугалю, кацярынаслаўскім і уральскім рудам і падарожвае дастаўку замежнай бавоўны [1]).

Польская прамысловасьць ня вытрымлівае канкурэнцыі з цэнтрам імпэрыі і занепадае: гамарні, машынныя і інш. падобныя заводы пачынаюць пераносіцца на поўдзень Расіі, на Украіну, бліжэй да тамтэйшых шахтаў; польскі прамысловец траціць сваю ранейшую ўпэўненасьць і пачынае шукаць бліжэйшых рынкаў і „свайго“, сталага пакупца [2]).

Бліжэйшым і, з пункту гледжаньня польскага прамыслоўца, „сваім“ унутраным рынкам была Беларусь. Як і Масква,—таксама і Варшава лічыла, што беларускі экономічны абшар ёсьць яе гістарычная і прыраджоная колёнія, у якой, пры патрэбным павялічэньні пакупной здольнасьці насельніцтва, можна разьмясьціць даволі фабрычна-заводзкай продукцыі. Трэба зазначыць, што Беларусь была значным спажыўцом польскае вытворчасьці. Згодна статыстычных даных, апошняя разьмяркоўвалася наступным чынам: 36% усяе вытворчасьці заставалася ў самай Польшчы, 10% ішло ў Харкаўскі і Адэскі раёны, 16%—у Расію і на Далёкі Ўсход, 8%—на Каўказ і Туркестан і 30% на бліжэйшы польскі ўсход,—г. зн. *на Беларусь,* Зах. Украіну і Прыбалтыку.

Вельмі яскравым паказьнікам параўнаўчага значэньня для польскае прамысловасьці 80-х гадоў Беларусі (і Заходняе Украіны) служаць табліцы дысконту вэксалёў і вэксалёў, прынятых на камісію ў польскіх канторах Дзяржаўнага Банку. Згодна гэтых даных, з агульнае сумы вэксальнага звароту ў 1886 г. (ад 1 студзеня па 15 верасьня) у 6.510.534 р. прыпадала на губэрні беларуска-літоўскія і так зв. „юго-западныя“—5.295.224 р. Рэшта вэксалёў прыпадала на цэнтральныя губэрні Расіі, на Прыволжа, Каўказ, паўночна-ўсходнія губэрніі і Азыю [3]). „З гэтых даных

скага). Аддзяленьні Расійскага дзяржаўнага банку займаліся галоўным чынам усталяваньнем сувязі з цэнтральна-расійскімі ўстановамі. Так, напрыклад, у 1905 г. дысконтавана вэксалёў мясцовага пахаджэньня на 34 мільёны, а з Расіі на 139 міл. гл. D' Z. Daszyńska-Golińska: „Rozwój i samodzielnosć gospodarcza ziem polskich“ 1915, str. 112 i 120.

[1]) St. Kempner, op. cit. str. 115, M. Lewy—Wzajemny stosunek etc. str. 129—130.

[2]) Лічбы аб памяншэньні ў канцы 90-х г. г. прадукцыі польскіх вугальных шахтаў прыведзены ў L. Janowicza: „Zarys rozwoju przemysłu w Król. Polskiem“, 1907, str. 49.

[3]) И. Янжул, op. cit., прил. № 12, таблица векселей на города Империи, принятых к учету и на комиссию польскими отделениями Государственного Банка за 1885—1886 г.

відаць, заключае І. Янжул, што найбольшы збыт продуктаў польскае прамысловасьці накіроўваецца ў губэрні паўдзённа-заходнія і паўночна-заходнія разам з прыбалтыцкімі; у гэтыя дзьве часьці імпэрыі збываецца, відаць, каля пяці-шостых усёй продукцыі польскае фабрыкацыі; *губэрні гэтыя, як прымыкаючыя да Царства Польскага, ствараюць, гэтак кажучы, пераважны рынак для яго прамысловасьці*" [1]).

Ня менш цікавою зьяўлялася Беларусь для разьвіванага польскага капіталізму і з пункту гледжаньня сыравіны, перш за ўсё ільну і каноплі для ільняной польскай прамысловасьці [2]). Калі раней, пры вялізных пэрспэктывах 70-х гадоў і вялізных прыбытках, сюды, на беларускія абшары, зьвярталі мала ўвагі і занядбалі іх, дык цяпер, калі павялічылася конкурэнцыя, кінуліся на іх з новай энэргіяй. Прадметам вырабу польскай фабрыкі робіцца ня толькі продукт, патрэбны для далёкага ўсходу, але і для мясцовага насельніцтва.

Тэндэнцыя польскага прамысловага капіталу да пашырэньня ўнутранага рынку як нельга лепш адпавядала інтарэсам польскага зямляўласьніка на Беларусі, які гібеў і задыхаўся ад адсутнасьці капіталу. Падвойны інтарэс спарадзіў адпаведны кірунак польскай экономічнай політыкі: зямляўласьнік на Беларусі абапёрся на капітал, які давала яму карэнная Польшча, і тым ратаваў свой маёнтак ад загубы, а польскі капіталісты, дзякуючы капіталізацыі маёнтку, лягчэй заваяваў сабе беларускі рынак у барацьбе з капіталам расійска-яўрэйскім. Цяпер ужо польскі маёнтак ня мог скардзіцца на недахоп крэдытаў і зваротнага капіталу, які недахоп не даваў яму раней магчымасьці стаць на ногі [3]). Зрабіць гэта было цяпер тым лягчэй, што капітал, які меў зварот у Польшчы ў сельскагаспадарчым сэктары, знаходзіўся ў польскіх руках; калі прамысловасьць вугальная, гамарная, мануфактурная і інш. у значнай ступені належала яўрэйскім і нямецкім капіталістым,—дык капітал польскае буржуазіі і мяшчанства грамадзіўся ў прамысловасьці цукровай, дрэваапрацоўчай, броварнай,—наогул у той, якая была шчыльна зьвязана з рольніцтвам.

Наступ на Беларусь і барацьба з пранікненьнем сюды расійскага капіталу вызначылася з боку Польшчы ў разгляданы пэрыод зусім арганізавана.

Тое, што трэба ратавацца, што трэба выходзіць з тупіка, у які загнала польскага магната на Беларусі агульная экономічная коньюктура

---

[1]) И. Янжул, op cit., прил. 12, таблица векселей на города Империи, принятых к учету на комиссию польскими отделениями Государственного Банка 1885-1886 г. стар. 22.

[2]) Каб не абцяжаць чытача лічбамі, адсылаем яго ў гэтай справе да вылічэньняў W. Olszewicza: „Znaczenie gospodarcze Litwy i Białej Rusi", 1920. У M. Lewy (Życie ekonomiczne, I, str. 37—38) прыведзены надзвычайна яскравыя лічбы аб прывозе ільну і каноплі ў Польшчу ў 1900—1910 г. г. У 1900 г. прывоз гэтай сыравіны быў роўны 285 тыс. пудоў, а вываз—0. У разгляданую эпоху 80—90-х г. г. адносіны лічбаў былі гэткія-ж. Ня трэба напамінаць, што вялізная маса ільну і каноплі ішла з Беларусі.

[3]) „Niwa", 1877, zesz. 66: „W sprawie upadku pos. ziem.", (гл. Z. Doliwa—„Szkice historiczno-społeczne", Zürich, 1818, str. 212).

і адпаведная расійская політыка, магнат гэты зразумеў ужо ў самым пачатку 80-х гадоў. З гэтага ласьне моманту пачынаецца ў польскім грамадзянстве акрэсьленая рэакцыя анты-патрыотычнай програме „органічнае працы". Чым больш завастралася конкурэнцыя польскага капіталу з капіталам цэнтральна-расійскім і чым больш польскі буржуа-прамысловец трацію сваю ўпэўненасьць, тым усё больш узмацняліся новыя настроі. Буржуазія і розначынная гарадзкая шляхта, захопленая прамысловай гарачкай і быўшая на чале грамадзкага жыцьця ў 70 г. г., пачынае цяпер траціць сваю прывабнасьць. Іх вясна пачала праходзіць,—гэта было ясна. Разьвіцьцё падзей паказвала, што экономічная барацьба паміж двума цэнтрамі расійскай імпэрыі—цэнтральна-маскоўскім і польскім, прымушае шукаць выхаду ў нацыянальнай абмежаванасьці, а не ў „гуманітарным продажы", паводле выразу Дмоўскага, Польшчы Расіі. У выніку такой сьвядомасьці на польскай сцэне зьявіўся новы *капіталістычны нацыяналізм*.

На чале яго стаў ня польскі буржуа і не розначынны, „позытыўна думаючы" інтэлігент, а польскі магнат-зямляўласьнік. Шляхецтва, і пры гэтым буйнае,—вось хто робіцца сапраўдным кіраўніком польскай грамадзкай думкі ў канцы XIX ст.. Яна, а ніхто іншы, абвясьціла лёзунг аб звароце да гістарычных польскіх традыцый, напомніла Польшчы аб яе гістарычным „праве на Беларусь" і на граніцы 1772 году.

Пачаткам новага пэрыоду, які ў польскай літаратуры называецца „пэрыодам чыннага патрыотызму" (okres czynnego patryotyzmu), было заснаваньне ў 1886 г. ў Парыжы, сярод эміграцыйных кол і студэнцкай моладзі, так званае „Лігі Польскай" (Liga Polska). § 1 статуту Лігі казаў, што заданьнем яе было „падрыхтаваць і аб'яднаць усе польскія нацыянальныя сілы з мэтай устанавіць незалежнасьць Польшчы на фэдэрацыйнай аснове, зьвярнуўшы ўвагу на тыя часткі Рэчы Паспалітай, якія раней ад яе адпалі (nie spuszczając z oka tych części Rzeczypospolitej, co wcześniej od niej odpadły [1]).

Публіцыстыка гэтага пэрыоду, накіроўваная трыма популярнымі рэдакцыямі—„Słowo", на чале з пачаўшым уваходзіць у славу Генрыхам Сянкевічам, „Niwa" з вядомым Людвігам Гурскім і „Wicki",—абвясьціла барацьбу позытывізму, якім жывілася папярэдняя эпоха капіталістычнага грюндэрства, нападала на прынцыпы экономічнага лібэралізму Сьвентахоўскага. З яе старонак прагучэў клік да ўсіх тых „адсутных арыстократаў, якія беспадстаўна аддалі поле бойкі і моральную ўладу над грамадзтвам клясе мяшчанства". „Быў абвешчаны прынцып,—кажа адзін з дасьледцаў,—што ласьне шляхецкая арыстократыя, якая мае за сабой даўнейшыя традыцыі грамадзкага кіраўніцтва, павінна заняць усе позыцыі, што ласьне яна, а не арыстократыя розуму і залатога мяшка, заклікана цяпер прадстаўляць інтарэсы польскае нацыі" [2]).

---

[1]) J. Grabiec: „Dzieje współczesne", str. 159.

[2]) З. Ленский, op. cit. стар. 261.

Першы голас у новай плыні бясспрэчна належаў памянутым—Гурскаму і Г. Сянкевічу. „Ня гледзячы на тое, што адбыліся паражэньні,—пісаў Гурскі ў „Niwie“,—ня гледзячы на тое, што зьмяніліся ўмовы, польскі шляхецкі двор, як асяродак польскага духу і нацыянальнай думкі, усё-ж узвышаецца над лесам фабрычных комінаў“... „Мы, шляхта, зьяўляемся насьледнікамі даўнейшых правадыроў гэтага краю, і прадстаўнікамі нацыянальных традыцый, рэлігійных асноў і тае ступені цывілізацыі, да якой наш край дайшоў і на якой знаходзіцца“ [1]). Яшчэ з большым натхненьнем і захапленьнем пачаў клікаць Польшчу да „романтызму старых пакаленьняў“ Сянкевіч. Яго ўступленьне ў польскую мастацкую літаратуру было сапраўдным трыумфам. Знамянітая гістарычная трылёгія, напісаная „ku pokrzepieniu serc“,—зьявілася чымсьці нячуваным у сэнсе популярнасьці. Ёю захаплялася літаральна ўся Польшча,—тая Польшча, якая яшчэ ўчора не хацела нічога ведаць, апрача палітычнай экономіі, фізыолёгіі ды тэхнічных навук. „Rodzina Połonieckich“ была яшчэ большым дасягненьнем,—бо дала новую нацыянальна-соцыяльную програму польскаму буржуазнаму грамадзтву.

У чым шукаў натхненьня Сянкевіч? Менш за ўсё ў польскай сучаснасьці і менш за ўсё у сучасным польскім горадзе. Ён увесь,—у поэтызацыі рыцарскага шляхецкага мінулага, яго героі—увасабленьне польскай гістарычнай романтыкі. Як мага далей ад шэрага бяздушнага мэркантылізму!—назад—у поўную бляску і прыгожай колёрытнасьці „Літву“,—каханую айчыну дзядоў! Вось у гэтым закліку—„назад на Літву“, у стары шляхоцкі дом, у гэтай поэтызацыі старога польскага магната,—носьбіта былой славы Рэчы Паспалітай, і тоілася соцыолёгічнае значэньне творчасьці Сянкевіча. Мастацкая творчасьць песьняра новай, патрыотычна-магнацкай Польшчы найбольш адказвала соцыяльна-экономічным тэндэнцыям канца XIX ст., чаму ён і быў абвешчаны нацыянальным геніем, ня меншым за Міцкевіча [2]).

Антановіч, а затым і Пыпін, зусім слушна зазначылі тады, што Сянкевіч зьявіўся выказьнікам сучаснага яму стану гістарычнага самапазнаньня польскае інтэлігенцыі, апошнім словам яе патрыотычных, „нацыяналістычных поглядаў“ і што сам Сянкевіч ня ўзвышаўся над узроўнем хадульных уяўленьняў аб старой Польшчы, бліскаўшай шляхоцкай „добрадзейнасьцю“, якая нібыта гэтак выгодна адбівалася ў гісторыі Ўсходу Эўропы побач з „дзікасьцю“ і „някультурнасьцю“ барбараў-рускіх, украінцаў, беларусаў [3]).

---

[1]) J. Grabiec, 11, str. 250: „Odrodzenie szlachetczyzny“.

[2]) Магнат, да якога заклікала новая школа, быў магнатам „літоўскім на Беларусі“, а не які-небудзь іншы (гл. T. Koneczny: „Polskie Logos a Etnos“, t. II, Polska wobec Litwy, str. 123).

[3]) „Киевская Старина“, 1885, стар. 44—78: Антонович—„Польско-русские соотношения XVII в. в современной польской призме“; артыкул Пыпіна, гл. „Вест. Европы“, 1888, № 1, стар. 565—86.

Дарма больш прогрэсыўныя элемэнты польскае грамадзкасьці таго часу („Athereum“, „Kraj“, „Przegląd Tygodniowy“) казалі, што гіпэрболічныя выхваляньні Сянкевіча шкодны для нацыянальнага ўсьведамленьня палякаў, што яны выклікаюць шовіністычную ізоляванасьць Польшчы, распаляюць нянавісьць да яе суседзяў. Голас іх спазьніўся. Уся буржуазная Польшча стала на бок Сянкевіча, за яго „традыцыйныя ідэалы“. Усе былі захоплены цяпер зноў размовамі аб „вялікай культурнай місіі палякаў на ўсходзе“, задачай Польшчы „цывілізаваць дзікія абшары Русі“, з задаваленьнем чыталі развяжаньні героя трылёгіі—кн. Вішнявецкага „патапіць у крыві хлопскія бунты“ і згаджаліся з Сянкевічам, што кожная крытыка цывілізатарскага канібалізму гэтага пана зьяўляецца амаль-што „богахульствам“ (bluźnierstwo). Кракаўскі профэсар польскае літаратуры Тарноўскі дайшоў у гэтыя гады да таго, што ставіў Сянкевіча ў эўропэйскай пісьменнасьці вышэй за Шэксьпіра, Дантэ і Гётэ.

Трэба зазначыць, што нацыяналізм Гурскага-Сянкевіча ня быў польскім нацыяналізмам у ранейшым значэньні. Тады, у пачатку веку, пад час першага і другога паўстаньня ён быў яскрава рэволюцыйны, ён клікаў Польшчу на барацьбу за вызваленьне ад „усходняга наездцы“, клікаў на крывавае змаганьне за ідэал незалежнасьці з чужой дзяржавай і патрабаваў аб усёй польскай нацыі адзінства волі і пачуцьця. Цяперашні нацыяналізм быў рэакцыйны, напалоханы небясьпекай узрастаючай сілы пролетарскіх мас Варшавы, Лодзі, Саснавіц. Разам з тым ён быў нацыяналізмам груба-шовіністычным і ваяўнічым, што выявілася тады-ж у шырокай хвалі антысэмітызму, кіраванай вядомым юдофобам Еленьскім і адпаведным часопісам.

І сапраўды, роля польскага пролетарыяту ў гэтую эпоху робіцца першараднай; барацьба яго з варожай клясай польскага прамысловага капіталу, як і наогул са ўсёй буржуазнай сыстэмай новай капіталістычнай Польшчы, робіцца ў гэты пэрыод галоўнай сілай, якая вызначае формы і зьмест грамадзкага жыцьця, настроі грамадзтва, усю яго політычную ідэолёгію. Пэрыод поўпэрызму пролетарскіх мас і іх клясавай неорганізаванасьці і слабасьці, зьвязаны з пэрыодам першапачатковага грюндэрства і драпежнага разьвіцьця капіталізму, цяпер ужо мінуў. Барацьба за заработную плату, за лепшыя ўмовы працы выклікаюць вялікую актыўнасьць рабочых Польшчы, і яны пачынаюць організавана выступаць на змаганьне з капіталам: забастоўкі ў майстэрнях Варшава-Венскае ж. д. ў 1882 г., на вялізных Жырардаўскіх мануфактурах у 1882-84 г., вялікія хваляваньні рабочых Варшавы ў 1883 г., у зьвязку з загадам улады рабіць паліцэйскі агляд жанчын-работніц нароўні з проститутками, бурныя дэмонстрацыі беспрацоўных перад варшаўскім каралеўскім замкам у 1885 г., аднаўленьне ў 1887 г. дзейнасьці „Пролетарыяту“ і г. д.,—усё гэта сьведчыла аб тым, што польскія рабочыя масы выходзяць на арэну політычнага жыцьця і сваім змаганьнем з капіталам перарабляюць яго на зусім новы лад. І калі ў 1891 годзе варшаўскі

ген.-губ. Гурко, змагаючыся з стотысячнымі масавымі забастоўкамі рабочых Дамбровы, Лодзьзі і Жырардава, тэлеграфаваў у Лодзь губарнатару Мілеру: „страляць, патронаў не шкадаваць“,—зрабілася зусім ясна, што стары „соцыяльны мір“, які перад тым прапаведвалі лідэры „органічнае працы“—адышоў у мінулае. „Трупы рабочых,—кажа дасьледчык,— разьлютавалі масы. Забастоўка зрабілася ўсеагульнай, і рабочае насельніцтва, адбіваючы ад войск арыштаваных таварышоў, захапіўшы турму і некаторыя казармы, рабілася гаспадаром гораду. Улада і капіталістыя пакідалі Лодзь“ [1]). Гэтая падзея была важнейшай падзеяй разгляданае эпохі.

Вось дзеля якіх прычын новачэсны польскі нацыяналізм Сянкевіча-Гурскага ня бачыў, дый і ня мог бачыць у польскім народзе, як раней, нейкага „нацыянальнага цэлага“, але разглядаў у ім ужо дзьве варожыя клясы, якія штодзень, то больш уздымаліся адна супроць другой у зацятай схватцы; а таму разам з заклікам да захаваньня традыцыі барацьбы з Расіяй і яе самаўладзтвам, ён клікаў да ўпарадкаваньня ўнутрана-польскіх адносін, да падбіцьця польскага работніка і хлопа, захопленага соцыялістычнымі партыямі, уладзе шляхты. Больш таго: калі вымагаў гэтага клясавы інтарэс, польскі магнат ішоў на саюз з расійскім царызмам супроць польскага рабочага. „Сфэры консэрватыўныя, гаворыць Feldman [2]), ня раз у гэты час ішлі з дапамогай царызму для прыдушэньня вызваленчых рухаў, якія ў канчатковым вывадзе і для самой Польшчы былі карыснымі“.

Польскі магнат павінен быў быць правадыром і сапраўдным уладаром новай Польшчы, адраджонай на старым шляхецкім ідэале. Толькі ён павінен быў ратаваць Польшчу ад „соцыялістычнай заразы“ і забясьпечыць яе сілу і ўплыў на ўскрайных яе межах—да граніц 1772 году.

„Кожны народ,—філёзофстваваў з гэтае прычыны адзін з прадстаўнікоў старашляхоцкай генэолёгіі Заленскі [3]),—складаецца з дзьвюх кляс— вышэйшай і ніжэйшай, якія існуюць як організмы, як ніжэйшая і вышэйшая парода. Ніжэйшая кляса хоць і самая шматлікавая, але ў дзяржаве яна адыгрывае пасыўную ролю, а калі часам і выступае дзейна, дык толькі падпарадкуючыся кіраўніцтву вышэйшае клясы. Калі народ страціць веру ў сваіх натуральных правадыроў—магнатаў, дык абавязкова трапіць у рукі аблудных прарокаў“.

Яшчэ больш выразна бараніў правы польскае шляхты на Беларусі другі прадстаўнік тэй-жа плыні ў „Gazecie Polskiej“ [4]). „Мы ня можам разважаць аб народзе толькі этнографічна і забывацца на тое, што тут (на Беларусі) спрадвеку расьселася і ўзьнікла славутая сваёй асьвечанасьцю інтэлігенцыя, якая мае свае гістарычныя і матэрыяльныя правы

---

[1]) Л. Мартов: „Развитие крупной промышленности и рабочее движение до 1892 г.“, Ист. России в XIX в., т. VI, стар. 153.

[2]) Feldman, ч. II, 179, 179, 220.

[3]) „Niwa“, 1878 г., стар. 585.

[4]) „Gazeta Polska“ 1881, № 114,—цытавана па Н. Карееву: „Polonica“ сборник статей по польским делам (1881—1905), стар. 46—52.

і якая пераважна заключае ў сабе консэрватыўныя элемэнты (zachowawcze żywioły). Яна мае тут (на Беларусі) ня менш правоў на існаваньне, чым патомкі нямецкіх рыцараў над Бальтыцкім морам, або earl'аў на фінскім узьбярэжжы".

Вось куды, як бачым, пачаў гнуць з пачатку 80-х гадоў польскі памешчык на Беларусі. Ён цьвёрда даваў зразумець расійскаму ураду, што *„консэрватыўнае значэньне" польскага дваранства на Беларусі павінна даць яму тыя самыя правы, якімі карысталіся нямецкія бароны ў Ліфляндыі і Курляндыі і швэды ў Фінляндыі.* Ён забыў аб „праклёнах гісторыі" і „карах Нэмэзыды", якія зваліліся на галаву Польшчы за яе экспансію на „Літву" і на якія, адступаючы ад Беларусі, жаліліся польскія вучоныя і этнографы папярэдняе эпохі; уладарнай нагой польскасьць ізноў пачала наступаць на ўсход. Пад націскам усясільнага капіталу ідэя Польшчы-пястоўскай пачала зноў уступаць месца ідэі Польшчы-ягелёнскай.

Так дзеялася ў правым польскім лягеры. Аднак і ў левым польскім грамадзтве, сярод польскіх соцыялістычных партый, вызначыўся падобны-ж рэакцыйны паварот. Разгром расійскага рэвалюцыйнага руху пры Аляксандры III, ліквідацыя „Народнае волі" і расправа з польскім „Пролетарыятам" мела непасрэдным вынікам спад рэволюцыйнай энэргіі польскіх работніцкіх мас. Пакараньне сьмерцю сяброў „Пролетарыяту" ў 1886 г. і сьмерць Варынскага ў Шлісэльбурскай крэпасьці былі ў гэтым сэнсе паваротным момантам. Была другая эпоха, надыходзілі іншыя часы. Замест інтэрнацыянальнай солідарнасьці і „брацтва ў пролетарыяце"—польская соцыялістычная думка канца 80-х і пачатку 90-х гадоў усё больш схілялася да тых-жа нацыяналістычных ідэй, якімі дыхалі шляхецка-арыстократычныя яе клясы. Соцыялістычны рух замыкаецца ў нацыянальна-польскіх рамках, пераходзіць на грунт нацыянальнага опортунізму. Кіраваны соцыял-патрыотамі тыпу Ліманоўскага, ён усё больш захапляецца ідэалам старой „Польшчы ад мора і да мора",—і з свайго боку падпірае аднаўленую экспансію польскіх уплываў і польскіх захопаў на ўсходзе, у межах старой „Літвы"—г. зн. Беларусі.

Сярод польскіх соцыялістых аднаўляецца думка аб „правох" Польшчы на Беларусь, праўда, у лагоднай „унітарнай" форме. Мы бачылі вышэй, як Ліманоўскі яшчэ ў 1878 г. пісаў у адным з лістоў Драгоманаву ў Жэневу аб дзяржаўнай сувязі Беларусі з Польшчай: „у гэтай справе,—пісаў ён,—канчатковая пастанова павінна належаць самім народам... яны самі мусяць пастанавіць, ці хочуць разьдзяляць сябе граніцамі, ці захаваць паміж сабою сьціслую фэдэрацыю. Што да мяне, дык прызнаюся, што, як паляк, народжаны сярод латыскае люднасьці, я дамагаўся-б шчыра, каб вунія, падпісаная калісьці ў Любліне вышэйшымі станамі, была аднаўлена ў поўнай меры народамі" [1]).

[1]) Wilh. Feldman, op. cit., str. 36.

Пры заснаваньні сучаснай польскай соцыялістычнай партыі (PPS) прынцып гэты знайшоў сабе програмнае афермленьне. На Парыжскім організацыйным зьезьдзе ў 1892 г., пад уплывам таго-ж самага Ліманоўскага, абранага старшынёй,—ППС прыняла славуты пункт аб нацыянальным пытаньні, які ні слова не гаварыў аб праве Беларусі на самастойнасьць, а проста залічаў яе ў склад „фэдэрацыйнай Рэчы Паспалітай“. Апрача таго, зьезд дэкляраваў і адпаведную тактыку: згодна рэзолюцыі аб нацыянальным пытаньні, ППС павінна была распаўсюдзіць сваю дзейнасьць на ўсе провінцыі, зьвязаныя раней з Польшчай, прычым дзейнасьць іншых соцыялістычных партый на Беларусі, ня толькі беларускіх, але і яўрэйскіх і расійскіх, павінна была быць падпарадкавана яе контролю [1]). Адна толькі рэволюцыйна-марксыцкая група Розы Люксэмбург, Мархлеўскага і таварышоў, падняўшых у эміграцыі сьцяг „Пролетарыяту“, змагаецца ў гэты час не за нацыяналістычную, захватніцкую Польшчу, але за Польшчу пролетарскую. Толькі яна кліча польскія работніцкія масы да інтэрнацыянальнай солідарнасьці, разумеючы, што да сапраўднай свабоды і вызваленьня працоўныя прыдуць ня шляхам нацыянальнага самаабмежаваньня Польшчы, але шляхам супольнай рэволюцыйнай барацьбы супроць капіталу, супроць політычнага ўціску рабочых і сялян усіх нацый і ўсіх дзяржаў [2]).

Такім чынам, і ў патрыотычна-соцыялістычным кірунку Беларусь рабілася об‘ектам агульна-польскай нацыяналістычнай экспансіі. Новачэсная капіталістычная Польшча вярталася на Беларусь аб‘яднаным фронтам—ад магната да пэпэасаўца.

Новы паварот політыкі польскага капіталу і саюз яго з польскай зямляўласнасьцю ня толькі ўратаваў польскага памешчыка на Беларусі, але высака падняў яго экономічнае становішча. Польскі маёнтак набыў сьвежыя сілы і з посьпехам сустрэў націск Расіі.

Тое самае значэньне, якое меў для ўсёй Польшчы Генрых Сянкевіч, для „Літвы“ мела Эл. Оржэшко і яе гурток, які пачаў выключную па актыўнасьці дзейнасьць у Вільні. Не выпадкова, што ласьне ў Вільні, у 1881 годзе, у гуртку Оржэшковай выходзіць з друку кніга Валерыя Пржыбароўскага „Włościane u nas i gdzieindziej“. Выступленьне Пржыбароўскага ў той час было сымптоматычным: праца яго прысьвячалася Крашэўскаму і мела на мэце давесьці, што беларускаму сялянству пад Польшчай жылося ня горш, а значна лепш, чым сялянству іншых краін. Аўтар цалкам бярэ пад сваю абарону польскую шляхту, якую, паводле яго слоў, нагэтулькі збэсьцілі суседзі ў сваіх гістарычных досьледах,

[1]) Wilh: Feldman, op. cit., st. 41—42; таксама З. Ленский, op. cit., стар. 285. Формуліроўка програмы ППС аб нацыянальнай політыцы была настолькі трапнай з пункту гледжаньня польскага патрыотызму, што яе адразу пахваліў малады Дмоўскі,—будучы бацька нарадовай дэмократыі („kierunek PPS jest dodatni, wytwarzający najlepsze siły narodowe“,—W. Feldman, str. 108).

[2]) Гл. Роза Люксембург: „Общественные классы в Польше и восстановление Польши“.

што „шляхціч пачаў выглядаць якімсьці дзікім татарынам або грубым нямецкім графам“. Польскі памешчык на Беларусі, пісаў ён, ніколі ня быў залішне жорсткім у стасунку да прыгонных сялян,—хутчэй наадварот, яго прыгон быў параўнаўча лагодным (w obec tego łagodnego, że się tak wyrazimy, ucisku). Пішучы сваю працу ad majorem nationi gloriam, Пржыбароўскі казаў: „ні ў воднага народу вы ня сустрэнеце гэткай багатай літаратуры супроць прыгону, як у нас. У гэтым ёсьць пацеха для сэрца, для нацыянальнага пачуцьця, што гэтая самая польская шляхта, аслаўленая ворагамі, як прыганяты халопаў, вуснамі лепшых, а нават і горшых сваіх дзяцей, шчыра абуралася за той кірунак, па якім пашло соцыяльнае жыцьцё краю“. Не памешчыкі і ня шляхта,—цьвердзіў аўтар,—вінаваты ва ўцісканьні сялян, а яе ўпраўляючыя, афіцыялістыя.

Правая польская прэса сустрэла працу Пржыбароўскага з вялікім задаваленьнем, ласьне таму, што яна была напісана дзеля pociechy uczucia narodowego і што дзякуючы ёй беларускае сялянства павінна было „прымірыцца“ з польскім магнатам.

Навукова-літаратурная і культурна-выдавецкая чыннасьць гуртка Эл. Оржэшковай у Вільні была надзвычайна знаменным фактам гісторыі 80—90 гадоў на Беларусі, фактам, які найбольш яскрава сьведчыў аб узнаўленьні польскай культурнай экспансіі тут. Творы самой Оржэшко „Patryotyzm i Kosmopolityzm“, аповесьць „Nad Niemnem“ і інш., а таксама дзейнасьць яе бліжэйшых супрацоўнікаў і супрацоўніц (памянёны Пржыбароўскі, Канапніцкая, Касьцялкоўская і інш.), былі вытрыманы ў тых-жа рысах нацыянальнага адраджэньня, і патрыотызму, які сьвядома робіць націск на соцыяльна-„захаваўчы“ момант ў нацыяналізьме, які тлуміць соцыялістычную ідэю і шукае паратунку ад яе космополітычнае сутнасьці ў нацыянальнай абмежаванасьці. Тую-ж тэндэнцыю адбіваў і „Літоўскі“ каляндар, выпушчаны ўпяршыню ў Вільні ў 1882 г. Оржэшковай. Тут таксама, як і ў Пржыбароўскага, праводзіцца аполёгія старой Польшчы, што панавала на беларускіх абшарах шмат вякоў „для карысьці краю“, у іх тая-ж самая „пацеха“ для романтычнага польскага пачуцьця, якое зноў вярнулася на бацькаўшчыну Міцкевіча. Вільна і Кракаў пастаўлены тут побач,—Люблінская вунія зарысоўваецца як шчасьлівейшая падзея „літоўскай“ гісторыі. Вытрымкамі з Пржыбароўскага каляндар даводзіў, што Польшча ніколі ня была пеклам для хлопаў.

Гэты паварот справы адразу быў заўважаны, „русскими старожилами“ на Беларусі,—„западно-руссами“.

„У нас у паветры,—пісаў у „Московские ведомости“ адзін з гэткіх „старожилов“ [1]),—зноў адчуваецца нейкі чад ад недагарэўшых польскіх галавешак. Нявідныя сілы раздуваюць іх. *Палякі падымаюць галаву*

[1]) „Московские Ведомости“, 1882 г., перадрук гл. „Минские Еп. Ведомости“ 1882 г., март, № 6, стар. 151.

(курсіў мой—*А. Ц.*), робяцца фанабэрыстымі, нават нахальнымі супроць расійцаў, шушукаюць паміж сабой і дружна, як-бы па камандзе якогась „ржонда", тэрмінова займаюць стратэгічныя позыцыі. Гэта ўсё робіцца шыта-крыта, але з прыкметным посьпехам". Польская інтэлігенцыя ня дрэмле. Польская мова пачынае гучэць усюды, вучні і афіцэры голасна размаўляюць папольску. У дваранскім клюбе, у салёнах польская мова заглушае расійцаў... У ранейшыя гады палякі адмаўляліся ўступаць у члены клюбу, іх лічылася там два-тры чалавекі; пазьней, як-бы па чыёй камандзе, яны перапоўнілі да таго клюб, што пры апошніх выбарах мелі большасьць галасоў і выбралі некалькі палякаў у старшыні.

„Русские сторожилы кажуць"—піша ў „Новое время" М. Каяловіч,— „а ў прэсе зьяўляюцца галосныя весткі, што ў краі заўважаецца нешта асаблівае, накіраванае да паслабленьня нацыянальных і рэлігійных сувязяй, што зьвязваюць заходня-рускі край з рэштай Расіі". У Вільні ў бягучым годзе выданы два польскіх календары [1]), і ў абодвух з аднолькавай пасьлядоўнасьцю Расія зьнесена з твару зямлі. Гаворыцца там аб Польшчы і аб Літве (у сэнсе былога Літоўскага княства), гаворыцца аб польскай цывілізацыі, польскім лацінстве, але аб Расіі—не... Навокал Вільні ідзе ўзмоцненая агітацыя на карысьць полёнізму. Ксяндзы і паны імкнуцца ўсімі сіламі ажывіць новым духам рэшткі старой Польшчы.
Патайныя польскія школы вырастаюць, як грыбы, па гарадох і асабліва па вёсках; масы польскіх кніжак распаўсюджваюцца ў народзе" [2]).

Сапраўды, у галіне народнае асьветы пачынае з посьпехам адбывацца барацьба палякаў на Беларусі з расійскімі культурнымі ўплывамі шляхам організацыі патаемных польскіх школ, дамовага навучаньня і адкрыцьця прыватных навучальных установ. У 1881 г. патаемных школ было выкрыта 144,—а колькі засталося не адкрытымі, можна толькі дагадвацца. За дзесяць год (з 1879—1889 г. г.) лік вучняў-католікаў па казённых школах Віленскае вуч. акругі павялічыўся толькі на 500 чал.— з 20.380 да 20.900 чал. [3]).

Захаваньне зямлі ў польскіх руках абвяшчаецца на Беларусі і Літве „нацыянальным абавязкам" кожнага паляка. Організацыя памешчыцкае клясы з гэтай мэтай праводзілася ў так званых „зямельных сындыкатах" (syndykaty rolne), у „Таварыствах пазямельнага крэдыту" і інш., якія пакрылі Беларусь густой сеткай і мелі свае філіі па ўсіх губэрскіх, а часам і павятовых гарадох. Галоўным з іх было „Менскае Таварыства" [4]),—

[1]) Мы ведаем толькі адзін каляндар 1882 г. Другі каляндар, які тут спамінаецца,— выданьня Завадзкага,—намі ня знойдзены.

[2]) „Новое Время", 1882 г., гл. перадрук у „Минских Еп. Ведомостях" за 1882 г., апрель, № 7, стар. 175.

[3]) А. Белецкий: „Виленский учеб. Округ. в XIX ст.", „Вилен. Календарь" за 1904 г., стар. 289. Пацьверджаньне росту тайных польскіх школ знаходзім так сама у „Всеподдан. отчете обер-прокурора Синода" за 1884 г.

[4]) S. Kempner, op. cit. 292.

якое склалася з вялікага ліку самых заможных магнатаў і мела значныя крэдытныя фонды. Тут польскі памешчык на Беларусі знаходзіў сабе аб'яднаньне, узаемнае падтрыманьне і абгаварваў сваю тактыку. Дарэмна расійская адміністрацыя пільна сачыла за тым, каб у „Пазямельных Таварыствах“ ня зьвівала сабе гнязда ненавісная ёй „пальшчызна“,—яны ўсё-такі былі падобнымі „гнёздамі“.

У тагачаснай расійскай прэсе знаходзім ня мала скарг на тое, што палякі пашлі ў наступленьне і захапляюць у свае рукі справу народнае гаспадаркі ў краю.

„Віленскі пазямельны банк прымае пад заклад выключна польскія маёнткі,—піша адзін з „обрусителей“,—трымае ў сваіх руках усе зямельныя багацьці дзевяці заходніх губэрань і стаіць на старожы польскіх інтарэсаў краю. На банк гэты нельга глядзець, як на камэрцыйнае прадпрыемства. Ён зьяўляецца самай буйнай палітычнай сілай у краі, і галоўная яго задача—захаваць польскія маёнткі ў польскіх руках“ [1]).

„У 1881 г.,—чытаем у тых-жа „Московских Ведомостях“,—арганізавалася таварыства сельскай гаспадаркі Віленскае губэрні, статут быў зацьверджаны ўрадам і на мінулым тыдні (1882 г., студзень) адбыліся выбары кіраўнічага камітэту. На гэтыя выбары зьявілася 140 польскіх памешчыкаў, а з расійцаў толькі 5: губарнатар Каменскі, папячыцель віл. вуч. акругі—Сергіеўскі, упраўляючы дзяржаўнымі маемасьцямі—Зіновьев і два маршалкі—Ізмайлов і Мясоедов. З палякаў прыехалі нават некаторыя памешчыкі Ковенскай і Горадзенскай губэрняў. Аб скліканьні таварыства ня было ніякіх абвестак у газэтах, і цяпер, пасьля выбараў, ніводная газэта аб іх не ўпамянула. Папярэднія нарады і выбары адбываліся ў доме графа Плятэра. Саймавалі тры дні, аб чым палякі гутарылі—ня ведаем. 25 студзеня на агульным сходзе былі распачаты выбары і большасьцю галасоў выбраны: старшынёй—граф Плятэр, яго памочнік—паляк Елавіцкі, тры члены кіраўнічага камітэту, скарбнік, контролёр, сакратар таварыства,—усе шэсьць чалавек—палякі. З расійцаў—ніводнага“ [2]).

Праглядаючы памятныя кніжкі Віленскага ген.-губ. тых год можна сапраўды прасачыць, што выключная большасьць дэпутатаў ад дваранства (па паветах), так званыя „вольныя прафэсіі“, шмат урадовых пасад і г. д. былі ў тыя гады зноў заняты палякамі. Так, напрыклад, у 1892 годзе ўсе дваранскія дэпутаты ад паветаў былі палякі,—дэпутата-расійца ня было ні на адным з дэпутацкіх сходаў.

„Caveant consules, periculum in mora“—справядліва папераджаюць „западно-руссы“, глядзеце пільна, бо вораг ужо на парозе!

Эканомічны пераход ад старых форм гаспадаркі ў польскім двары на Беларусі да новых, капіталістычных адбыўся акурат у разгля-

[1]) „Московское ведомости“, перадрук у „Минских Еп. Ведом.“, 1882 г. VI, ст. 154.

[2]) „Московские ведомости“, перадрук у „Минск. Еп. Ведом., 1882 г. VI, стар. 154 „Caveant Conculеs!“.

даную эпоху канца 80-х і 90-х гадоў, калі пачаўся пасьлядоўны ўздым памешчыцкай зямляўласнасьці. Гэта выявілася ў пашырэньні засеўнай плошчы: ужо 1887 год даў пэўнае павялічэньне яе ў параўнаньні з 1881 годам (па чатырох беларускіх губэрнях з 5.328 тыс. дзес. да 5.716 тыс. дзес. [1]); зьявішча гэта потым усё разьвіваецца і затрымліваецца толькі ў першым дзесяцігодзьдзі XX в. Дзякуючы ўкладаньню капіталу, буйныя памешчыцкія гаспадаркі пачалі абзаводзіцца сельскагаспадарчымі машынамі, ужываць штучнае ўгнаеньне, весьці ўсю справу згодна запатрабаваньняў агрономічнае навукі. Той прыклад, які падаваў у Расіі вядомы Энгельгарт, на Беларусі пры канцы XIX в. і з пачаткам XX в. пачаў рабіцца агульна-прынятым: капіталізаваны польскі маёнтак на Беларусі зрабіўся прыкладам тэхнічнай высока-пастаўленай гаспадаркі, ператварыўся ў аграрнага культуртрэгера ў тэхнічна-адсталай і беднай капіталамі сялянскай Беларусі. Дзякуючы машыннай апрацоўцы зямлі і штучнаму ўгнаеньню значна паднялася ўраджайнасьць на памешчыцкіх загонах, у параўнаньні з убогім пэрыодам 70 гадоў. Інтэнсыфікацыя гаспадаркі пачынае выяўляцца ва ўсё большым распаўсюджваньні тэхнічных культур, у першую чаргу бульбы, якая давала магчымасьць памешчыку разьвінуць броварную прамысловасьць [2]). Палепшаньню экономічнага становішча памешчыцкай гаспадаркі спрыяла таксама падвышэньне цэн на зямлю, якое ў пераломныя гады 1888—1892 г. г. пачалося бурна і няўхільна.

Усе пералічаныя акалічнасьці далі магчымасьць клясе польскіх зямляўласьнікаў на Беларусі ачуняць ад пражытага ліха папярэдняй эпохі. Упэўнены ў сваёй сіле і ў сваёй здольнасьці весьці барацьбу за існаваньне ў новых умовах, польскі памешчык, адначасова з барацьбой за польскую культуру ў краі супроць культуры і ўплываў расійскіх, пачынае працягваць руку і шукаць агульнае мовы з расійскай уладай. Яго опозыцыя Пецярбургу заходзіла не далей таго, што вымагалася яго клясавым інтарэсам. Страх перад чырвонай небясьпекай рэволюцыі і ростам пролетарскіх сіл Польшчы штурхаў яго сьвядома ў абоймы імпэратарскай Расіі. Адсюль тая політыка лёялізму, якая ўласьціва польскаму шляхоцкаму грамадзянству канца веку, асабліва пры „легальным“ кіраўніцтве кн. Імэрытынскага. Даволі ўспомніць той прыём, які наладзіла панская Варшава Мікалаю II пад час яго побыту там у 1897 г. Унівэрсальны прынцып клясавае солідарнасьці, ня гледзячы на нацыянальную варожасьць, і цяпер рэльефна выявіўся,—і калі на гэтым клясавым грунце паміж варожымі лягерамі—расійскім і польскім—заўважалася магчымасьць якога колечы паразуменьня, польскі памешчык на Беларусі знаходзіў патрэбныя словы лагоднасьці (часта на францускай мове) у стасунку да ўсемагутнай царскай Расіі.

[1]) М. Довнар-Запольскі, op. cit.
[2]) St. Kempner, op. cit., str. 121.

„Расійская дзяржава,—пісаў адзін з выдатных прадстаўнікоў польскіх інтарэсаў на Беларусі пры канцы веку,—настолькі цяпер дужая і моцная, што не вымагае рэпрэсыўных мер дзеля захаваньня непарушнай сувязі з сваімі „окраинами“.

Насельніцтва-ж гэтых „окраин“ (чытай—польскае на Беларусі) на занадта горкай практыцы пераканалася ў немагчымасьці аддзяленьня свайго ад цэнтру дзяржавы і ў канечнай патрэбе і карыснасьці жыцьць агульнадзяржаўным жыцьцём. Дзеля гэтага мы лічым, што інтарэсы як цэнтру, так і „окраин“ дзяржавы—гэта ўзаемнае збліжэньне на асновах роўнаправнасьці з узаемнай пашанай і захаваньнем сваіх культурных асаблівасьцяй“. Расійская ўлада,—аргумантаваў далей аўтар,—павінна зразумець, што ўціскаеньне польскае дваранскае зямляўласнасьці на Беларусі мае сваім вынікам утварэньне сярод польскіх зямляўласьнікаў земельнага пролетарыяту, а таксама вылучэньне з гэтага асяродзьдзя контынгенту пролетарыяту, а той і другі пролетарыят гэта спрыяльны матэрыял для соцыялістычнага руху, шкоднага дзяржаве і грамадзтву, які ня меў да апошняга часу ніякага грунту ў заходнім краі [1]).

[1]) Б. Ольшамовский. „Права по землевладению в зап. крае.“, стар. 123.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ І КОЛЁНІЯЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ЛЕНІНІЗЬМЕ

**М. Равіч-Чэркаскі**

## I. Нацыянальнае і колёніяльнае пытаньне

Ужо многа соцень і тысяч год паміж народамі, насяляючымі зямную кулю, існуе варожасьць. Складаючы дзяржавы, народы робяць набегі на іншыя землі і дзяржавы, захапляюць гэтыя землі, занявольваюць разам з народамі і цэлыя краіны.

Заняволеныя народы імкнуцца да вызваленьня ад няволі заваявальнікаў і тым самым абуджаюць у сябе і сярод сваіх аднапляменьнікаў нянавісьць да заваявальнікаў, якія топчуць у гразь усё, што зьяўляецца дарагім для прыгнечанага народу.

Такім чынам, ужо з даўных часоў, мы маем у наяўнасьці пытаньне, якое цяпер называюць нацыянальным.

Па меры таго, як разьвіваўся капіталізм, многія дзяржавы ўзбагачаліся, заводзілі сталыя арміі, флёт, і паступова захоплівалі чужыя землі, якія знаходзіліся побач з іх дзяржавай. Разам з землямі захопліваліся самыя рознастайныя народы, якія вялікімі масамі жылі на заваёваных землях. Але вялікія дзяржавы, якія кіраваліся прагнымі капіталістымі і іх прадстаўнікамі, не абмяжоўваліся толькі землямі, якія знаходзіліся побач: яны стваралі флёт і накіроўвалі яго на заваяваньне далёкіх земляў, якія знаходзіліся за многа тысяч вёрст ад іх уласнай дзяржавы. У гэтых далёкіх землях часта знаходзіліся найбагацейшыя крыніцы залатое руды, нафты ды іншых сродкаў узбагачэньня. Буржуазія пануючае дзяржавы не магла глядзець роўнадушна на гэтыя нікім не эксплёатаваныя землі і, жадаючы нажыцца, занявольвала гэтыя землі разам з іх жыхарамі.

Да ліку дзяржаў, якія паступова пашыраліся і захаплялі суседнія землі, склаўшы такім чынам дзяржавы, у якіх жывуць шмат якія нацыянальнасьці, належаць былая царская Расія і былая Аўстрыя, у якой царстваваў род Габсбургаў.

У Расіі, якую справядліва называлі „турмой народаў“, жыло каля 60 розных нацыянальнасьцяй і над усімі імі бязьмежна панавала драпежніцкая купка рускіх дваран і капіталістых.

Рускае насельніцтва б. царскае Расіі крыху перавышала па свайму ліку насельніцтва ўсяе рэшты народаў Расіі. Вялікарусаў налічвалася ў

Расіі 51 проц., а ўсіх іншых нацыянальнасьцяй—49 проц. Да ліку іншых нацыянальнасьцяй адносіліся: украінцы, беларусы, палякі, фіны, яўрэі, татары, немцы, грузіны, армяне і шмат іншых. Але нельга сказаць, каб усе клясы ўцісканых нацыянальнасьцяй адчувалі ў аднолькавай ступені ўціск рускіх капіталістых і абшарнікаў. Заможныя клясы кожнай уцісканай нацыянальнасьці і пры царскім рэжыме добра сябе адчувалі, ня ведаючы межаў да павялічэньня сваіх багацьцяў.

Больш за ўсё, зразумела, адчуваў экономічны і палітычны ўціск з боку пануючага капіталу і дваранства працоўны народ, як уцісканай так і пануючай нацыі. Да ліку кляс, якія больш за ўсё цярпелі ад капіталістычнага ладу, былі рабочая кляса і сялянства.

Трэба сказаць, што вялізная большасьць прыгнечаных народаў належала да клясы сялянства. Так, напрыклад, амаль увесь украінскі народ станавіў з сябе на 98 проц. сялян, якія жылі ў вёсках і непадаваліся гвалтоўнаму прыдушэньню з боку пануючага рускага самаўладзтва.

Але былі і такія народы, якія ў культурных адносінах стаялі вышэй пануючай рускай нацыі. Такімі былі, напрыклад, палякі, фіны, часткова—немцы і яўрэі.

У Аўстрыі было яшчэ горш. Аўстрыя станавіла з сябе невялікі асколак нямецкага народу, які знаходзіўся пад уладай каралёў Гогенцолернаў у Нямеччыне. У Нямеччыне жылі і цяпер жывуць да 60 мільёнаў немцаў. Па прычыне зьбегу шэрагу гістарычных прычын, 7—8 мільёнаў немцаў аказаліся асобна жывучымі ў асобнай дзяржаве, якая называецца Аўстрыяй.

Вось буржуазія гэтых 7—8 мільёнаў немцаў, пад кіраўніцтвам старога разбойніцкага дому каралёў Габсбургаў, пачала на працягу шмат год захопліваць уладаньні суседніх народаў. Большасьць гэтых народаў належала да славянскіх пляменьняў. Малалікія, са слабым кіраўніцтвам, яны зрабіліся з цягам часу здабычай Аўстрыі. Апрача таго, Аўстрыя здолела захапіць таксама зямлю мадзьяраў, вядомаю пад назвай Вэнгрыі.

6—7 мільёнаў немцаў лічыліся ў Аўстрыі пануючай нацыяй сярод 50 мільёнаў іншых нацый, складаўшых насельніцтва Аўстрыі, якая пазьней пачала называцца Аўстра-Вэнгрыяй.

Недарма Аўстрыю называлі „ласкутнай імпэрыяй“, бо ўся яна была сшыта з „ласкуткоў“, з невялікіх земляў, з невялікай колькасьцю насельніцтва ў кожнай краіне. Знаходзячыся ў суседзтве з цэлым шэрагам дзяржаў (з Сэрбіяй, Румыніяй, Чорнагорыяй, Італіяй), каралі Габсбургі захоплівалі ад усіх сваіх суседзяй то адзін, то другі тлусты кавалак і разам з ім вялікія пласты насельніцтва.

Іншыя дзяржавы, якія займаліся такім-жа рабаўніцтвам у іншых мясцох, ня ўмешваліся ў гэтыя справы Аўстрыі. Усё-ж, некаторыя дзяржавы, як, напрыклад, царская Расія ці Італія, якія хацелі накладваць свае драпежніцкія лапы на тыя-ж землі, не адважваліся, аднак, распачы-

нацьбарацьбу з Аўстрыяй, бо Аўстрыя мела магутнага саюзьніка ў асобе германскіх каралёў.

Такім чынам, у межах аднэй дзяржавы зьбіраліся шмат якія народы, што жылі побач. Перад дзяржавай стаяла пытаньне аб тым, як вырашыць пытаньне аб сужыцьці гэтых народаў у адзінай дзяржаве, як паслабіць нянавісьць прыгнечаных народаў да пануючага. Самі-ж народы таксама былі вельмі зацікаўлены ў тым, каб стварыць якія-небудзь спосабы мірнага сужыцьця з суседнімі народамі.

Такім чынам, узьнікла нацыянальнае пытаньне, галоўным чынам у дзяржавах, у якіх жылі шматлікія народы пад адзінай уладай у межах аднэй буржуазнай дзяржавы.

Мы ўжо казалі аб тым, што багацейшыя і дужыя дзяржавы стваралі флёт, садзілі на караблі ўзброеных воінаў і пасылалі іх на заваяваньне далёкіх краін, населеных дзікімі, някультурнымі народамі. Такія экспэдыцыі накіроўваліся ва ўсе краіны сьвету, куды толькі маглі дабрацца вялізныя караблі, узброеныя дальнабойнымі гарматамі.

Самая багатая і, у той-жа час, самая драпежніцкая з усіх дзяржаў, якая захоплівала землі ва ўсіх краінах сьвету—гэта Англія ці, як яе іначай называюць—Вялікабрытанія.

Уладаючы двума, параўнальна невялікімі выспамі, якія знаходзяцца на захад ад Эўропы, Англія на працягу некалькіх сот год захапіла землі, якія па сваёй плошчы ў шмат разоў перавышаюць плошчу дзьвёх яе выспаў. Тое-ж самае і ў адносінах насельніцтва. Ангельцаў, насяляючых гэтыя дзьве выспы, ня больш 40 мільёнаў. Насяленьне-ж заваёваных Англіяй далёкіх краін перавышае 400 мільёнаў.

Усе захопленыя землі падзяляюцца на дзьве часткі: землі населеныя зусім дзікімі, някультурнымі народамі і землі, населеныя народамі маючымі сваю культуру, сваю рэлігію, сваю інтэлігенцыю. Першыя называюцца колёніямі Англіі, другія—напоўколёніямі. У першых землях народ становіць для багатых ангельскіх рабаўнікоў, купцоў і фабрыкантаў, выключна „вьючную“ рабочую скаціну. У напоўколёніяльных краінах ёсьць свая ўласная буржуазія, якая імкнецца выцісьнуць ангельскую буржуазію з мясцовага рынку.

Пасьля Англіі, другой па колькасьці колёній краінай трэба лічыць Францыю, потым Амэрыку і цэлы шэраг іншых другарадных дзяржаў, як, напрыклад, Бэльгія, Голяндыя ды інш.

Паступова колёніяльныя народы, якія яшчэ нядаўна знаходзіліся ў стане першабытнай дзікасьці, пачынаюць праяўляць імкненьні да самастойнага жыцьця, да стварэньня ўласнае культуры. Пануючыя дзяржавы ў асобе сваіх капіталістых пачынаюць разумець, што з абуджэньнем гэтых народаў яны страцяць пад сабою грунт.

Таму яны імкнуцца, па меры магчымасьці, папярэджваць хваляваньні і паўстаньні ў заваёваных землях. З аднаго боку, яны трымаюць

напагатове ўзброеных з ног да галавы салдат, з другога боку — яны ідуць паступова на ўступкі патрабаваньням гэтых народаў.

Такім чынам, у шмат якіх дзяржавах, уладаючых колёніяльнымі землямі, стаіць на чарзе пытаньне аб тым, як трымаць у пакоры заняволеныя народы. У заняволеных-жа народаў стаіць пытаньне аб тым, як выйсьці з-пад улады капіталістычных драпежнікаў—вялікіх дзяржаў.

Пытаньне аб тым, як вырашыць пытаньне аб свабодным і самастойным разьвіцьці заняволеных народаў, называецца колёніяльным пытаньнем.

Дзяржавы, якімі кіруюць капіталістыя і якія імкнуцца трымаць у стане заняволеньня колёніяльныя землі, называюцца імпэрыялістычнымі.

## II. Як буржуазія вырашае нацыянальнае і колёніяльнае пытаньне

Многія з нас добра яшчэ памятаюць, як у Расіі царская ўлада вырашала нацыянальнае пытаньне.

Бачачы з боку шмат якіх нацыянальнасьцяй імкненьне да разьвіцьця сваёй культуры, свае мовы, імкненьне да больш ці менш самастойнага жыцьця, царская ўлада паступала так, як павінна была паступаць улада камандуючых кляс.

Каўказ, які заселены некалькімі дзесяткамі маленькіх нацыянальнасьцяй, меў у сваім складзе таксама грузін, армян і татар. Усе гэтыя нацыянальнасьці большасьцю свайго насельніцтва займалі паасобныя невялікія землі, але ў некаторых раёнах гэтыя народы жылі ўперэмешку. Нярэдка ў адным ауле жылі побач армяне і татары або грузіны і армяне. Сярод грузін і армян былі моцныя рэволюцыйныя настроі. Грузія і Арменія імкнуліся да самастойнасьці. Татары, якія паасобнымі сваімі часткамі жылі па суседзтву з Турцыяй, трымалі сувязь з апошняй. Татары лічылі, што выбаўленьне ад царскага іга можа ім прынесьці толькі Турцыя, якая вызнае такую-ж, як яны, мусульманскую рэлігію.

Каб прыдушыць сярод каўкаскіх народаў імкненьне да свабоднага жыцьця, жаданьне адлучыцца ад царскае Расіі, царскае самаўладзтва ўжывала выпрабаваны сродак; яно нацкоўвала армян на татар і грузін на армян. Можна было назіраць, як у працягу некалькіх тыдняў на Каўказе, пры удзеле пераапранутых паліцэйскіх і агентаў ураду, адбывалася разьня між армянамі і татарамі. Армяне нападалі на сваіх суседзяў татар і выразалі іх цэлымі сем'ямі. Тое-ж самае рабілі татары ў іншых мясцох над армянскім насельніцтвам.

Кроў лілася рэчкай і ў гэтым праліцьці крыві царскі ўрад думаў патапіць імкненьне каўкаскіх народаў да самастойнага жыцьця.

Гэткія-ж агідныя прыёмы прыдушэньня імкненьняў іншых народаў ужывала царскае самаўладзтва і ўнутры дзяржавы. Яно нацкоўвала рускіх, украінцаў і палякоў на яўрэяў, а украінцаў на палякоў, рускіх на украінцаў.

Царскі ўрад наладжваў вялікія крывавыя яўрэйскія пагромы, вырэзваючы сотні сем'яў, уключна да жанчын, старых і дзяцей, імкнучыся ўзьняць нацыянальны дух сярод рускіх маласьвядомых рабочых мас, якія жылі ў гарадох, заселеных яўрэямі.

У дачыненьні да палякоў урад ужываў іншыя спосабы, абвінавачваючы іх у тым, што яны здраднікі рускай дзяржаве, урад пазбаўляў многіх з іх права займаць дзяржаўныя пасады. Ён зачыняў польскія школы, польскія гімназіі, польскія культурна-асьветныя таварыствы і нацкоўваў рускіх чыноўнікаў, якія працавалі ў губэрнях царства польскага, супроць палякоў.

Супроць украінцаў урад і рускія нацыяналістыя з ліку абшарнікаў і разьюшаных капіталістых высоўвалі абвінавачваньне ў мазэпінстве. Мазэпінства—гэта значыць імкненьне украінскай інтэлігенцыі аддзяліцца пры першым зручным выпадку ад Расіі і перайсьці на бок Аўстрыі, дзе жыло ў Галіцыі некалькі мільёнаў украінскага насяленьня.

Украінская мова забаранялася ня толькі ў школах, у царкве, установах, але і на вуліцы. Украінскія кнігі, якія друкаваліся за межамі, хоцьбы яны былі па зьместу зусім нявіннымі, забараняліся. За спробу стварыць студэнцкія або якія-небудзь іншыя украінскія гурткі, царскі ўрад адпраўляў у ссылку або ў турму.

Фінляндыю царскі ўрад пазбавіў тэй самастойнасьці, якая была ёй абяцана тады, калі яна была захоплена ад Швэцыі.

Яшчэ ў горшым становішчы знаходзілася Беларусь. Адданая на расправу рускаму чынавенству і польскім абшарнікам, яна станавіла сабою прыгнечаную, экономічна і культурна, колёнію. Армія чорнасоценных організацый апякала яе ад усякага праяўленьня самастойнай нацыянальнай думкі ды імкненьняў. Царскі ўрад імкнуўся канчаткова сьцерці гістарычны твар беларускага народу, называючы Беларусь Заходнім краем.

Аб шмат іншых нацыянальнасьцях, якія не праяўлялі навочна свайго імкненьня да самастойнага культурнага разьвіцьця, гаварыць ня прыходзіцца. Іх трымалі ў стане дзікуноў, не даючы ім магчымасьці ўзьняцца хоць-бы на адну ступень культурных дасягненьняў.

Цяпер пяройдзем да Аўстрыі. Мы ўжо казалі аб тым, што Аўстрыя на невялікіх абшарах сваіх земляў сабрала паўтара дзесятка самых рознастайных нацыянальнасьцяй. Апрача немцаў, тут у якасьці другой пануючай нацыі жылі мадзьяры або вэнгры. Апрача іх, тут жылі чэхі, славакі, сэрбы, славенцы, румыны, украінцы, палякі ды інш.

Доўгія гады Аўстрыя вырашала пытаньне аб мірным сужыцьці народаў амаль таксама, як самадзяржаўная Расія.

Але ва ўмовах палітычнага разьвіцьця краін Заходняе Эўропы народы Аўстра-Вэнгрыі пачалі абуджацца да культурнага жыцьця.

Аўстрыйскія імпэратары доўгі час хваліліся, што іх моц у тым, што насяляючыя Аўстрыю народы сваёй нянавісьцю адзін да аднаго ўзаемна паслабляюцца. Але пасьля, калі, ня гледзячы на адвечную ўзаемную

барацьбу гэтых народаў, яны ўсё-ж патрабавалі сабе правоў, аўстрыйскія імпэратары пачалі двудушна называць заваёваныя імі народы „вазьлюбленымі“ народамі і паступова рабіць уступкі патрабаваньням найбольш культурных нацыянальнасьцяй.

У першую чаргу Аўстрыя, у асобе нямецкай буржуазіі, павінна была падзяліць часткова сваю ўладу з вэнгерскай буржуазіяй. Таму, былая Аўстрыя пачала называцца Аўстра-Вэнгрыяй, г. зн. стварылі саюз з дзьвюх дзяржаў—Аўстрыі і Вэнгрыі, пад кіраваньнем адзінага монарха—караля Франца-Язэпа Габсбурга. Затым паляком у Заходняй і Ўсходнай Галіцыі была дана магчымасьць будаваць свае школы, свой унівэрсытэт, мець там свайго намесьніка і колькі ім захочацца эксплёатаваць і заганяць украінскае насельніцтва, якому забаронена было называцца украінскім. Украінцы там называліся рутэнамі ці русінамі.

Па меры росту, політычнага і культурнага, тэй ці іншай нацыі аўстрыйскія імпэратары давалі ім паступова крупкі правоў і ўлады.

Аднак-жа, нямецкае і вэнгерскае войска заўсёды было на землях гэтых народаў, знаходзячыся на варце інтарэсаў аўстрыйскага імпэратарскага дому і нямецкай буржуазіі.

Самыя малыя спробы выражэньня нездаволеньня выклікала з боку аўстрыйскага ўраду самую дзікую расправу.

Нават уступкі, якія даваў аўстрыйскі ўрад прыгнечаным народам, рабіліся больш па прычыне меркаваньняў прыцягнуць сымпатыі народаў, якія жылі пад уціскам царскае ўлады. Аўстрыя сваёй нацыянальнай політыкай хацела паказаць, што украінцам і паляком пад уладай немцаў жывецца значна лепей, як пад уладаю вялікага славянскага народу, які знаходзіцца пад уладаю расійскага цара.

Колёніяльнае пытаньне вырашалася і вырашаецца ўсімі імпэрыялістычнымі дзяржавамі аднолькавымі спосабамі. Тут, як і ў нацыянальным пытаньні, у аднолькавай меры ўжываецца бізун і пернік. З другога боку—дзяржавы-драпежнікі трымаюць у сваіх колёніях напагатове вялікія ўзброеныя атрады з мэтаю запалохваньня тубыльных жыхароў. Большай часткай імпэрыялістыя прыходзяць да згоды з тубыльнай буржуазіяй для супольнай эксплёатацыі і высмоктваньня сокаў з тубыльнага працоўнага насельніцтва.

Імпэрыялістыя карыстаюцца таксама і іншымі спосабамі прыдушэньня ўсякіх спроб з боку тубыльнага насельніцтва да вызваленьня ад імпэрыялістычнага ярма. Карыстаючыся дзікасьцю, няпісьменнасьцю і поўнай несьвядомасьцю насяленьня сваіх колёній, буржуазія зьбірае ўзброеныя атрады ў аднэй колёніі і пасылае іх у другую колёнію.

Так, напрыклад, Англія ўжывае досыць часта такую практыку. Узброеныя палкі індусаў накіроўваюцца ў Эгіпэт. Наёмнае эгіпэцкае войска накіроўваецца для супакаеньня насяленьня аўстралійскай колёніі, аўстралійцы-ж накіроўваюцца для прыдушэньня свабоды паўднёва-афрыканскіх ангельскіх колёній.

Вучоныя профэсары, якія добра аплачваюцца казной капіталістычных урадаў, ствараюць тэорыі ў абарону барбарскіх прыёмаў імпэрыялістычнай політыкі ў колёніях; яны пішуць вучоныя працы, дзе капіталістыя драпежнікі выстаўляюцца ў ролі людзей, якія нясуць культуру і асьвету дзікаму насельніцтву Азіі і Афрыкі ды іншых краін. Яны лічаць, што карэннае насяленьне гэтых колёній бяз жаднай прычыны падымае бунты супроць іх панаваньня.

Такія дзяржавы, як старая Аўстрыя і царская Расія прыдушвалі ўсякі нацыянальны рух, матывуючы гэта тым, што маленькія народы робяцца ахвярамі агітацыі суседніх дзяржаў, варожых Расіі. Абаронцы царскае ўлады і яе пагромнай політыкі ў дачыненьні да ўціснутых нацыянальнасьцяй пісалі, што прыдушэньне свабоды малых нацыянальнасьцяй патрэбна для адзінства і м гутнасьці вялікай кра ны, кіраванай абшарнікамі і капіталістымі на чале з Мікалаем Раманавым.

## III. Як Маркс і Энгельс выраша лі нацыянальнае пытаньне

Вялікія настаўнікі соцыялізму, якія стварылі тэорыю ў абарону інтарэсаў міжнароднага пролетарскага руху, жылі і працавалі на працягу амаль 30 год, пачынаючы з другой паловы 40-х год мінулага сталецьця і канчаючы 70-мі гадамі.

19-ты век называюць векам абуджэньня нацыянальнасьцяй. На працягу гэтай трыццацігадовай дзейнасьці Маркса і Энгельса шмат якія народы, што спалі доўгія гады, пачалі абуджацца.

Асабліва гэта адносіцца да 40-х гадоў. Рэволюцыя 1848 году, захапіўшая амаль усе краіны Заходняе Эўропы, выклікала ў той час і нацыянальныя рэволюцыі.

Рэволюцыя 1848 году была рэволюцыяй буржуазнай. У цэлым шэрагу краін, расьсеяных і падраных на кавалкі, буржуазія зразумела патрэбнасьць адзінства гэтых частак для абароны яе інтарэсаў проці інтарэсаў чужаземнае буржуазіі. Таму буржуазія, напрыклад, Італіі ці Нямеччыны, пачала заклікаць народ да адзінства і свабоды. Буржуазія імкнулася да ўлады. Ня маючы магчымасьці бяз ўдзелу рабочых і сялян аўладаць тэорыяй, яны пачалі заклікаць апошніх да ўдзелу ў справе вызваленьня нацый.

Але для ўдзелу ва ўзброеных выступленьнях рабочыя і сяляне, якія тады ня былі клясава-сьвядомымі, патрабавалі ад буржуазіі для сябе некаторых вольнасьцяй і праў у выпадку яе перамогі.

Буржуазія, такім чынам, выступала на чале ўсяго народу, на чале нацыі і глядзела на сябе, як на выбаўцу народу.

Буржуазія розных нацыянальнасьцяй высоўвала сваіх герояў, якія кіравалі справай зьбіраньня і вызваленьня народу. Буржуазія давала сваім правадыром шырокія поўнамоцтвы для ажыцьцяўленьня яе дыктатуры ў справе аб'яднаньня нацый.

Так, напрыклад, нямецкія народы высунулі аднаго з буйнейшых дыплёматаў на ўсім працягу гісторыі, гэтым дыплёматам быў граф Бісмарк. Італія высунула другога нацыянальнага героя, якога італьянскія пісьменьнікі і поэты апявалі ў вершах, гэтым героям быў Джузэпэ Гарыбальдзі. Правадыром вызваленьня вэнгерскага народу быў Кошут.

Але як толькі тая ці іншая нацыя дасягала свайго вызваленьня, буржуазія, карыстаючыся сваімі перавагамі і тым, што ў яе руках была армія, што яе прадстаўніком быў усемагутны дыктатар, пакідала рабочых і сялян у гэткай-жа няволі, у якой яны знаходзілася і да вызваленьня.

Якраз у гэты пэрыяд барацьбы нацый у Заходняй Эўропе за сваё вызваленьне Маркс і Энгельс выдалі свой славуты твор, які меў назву „Комуністычнага маніфэсту“.

У гэтым маніфэсьце Маркс і Энгельс тлумачылі, якія задачы стаяць перад комуністычнай партыяй ва ўсім сьвеце. Яны выявілі ў маніфэсьце свае погляды на тое, як рабочыя павінны весьці сябе ў справе нацыянальнай барацьбы паміж капіталістымі розных краін і народаў.

Для нашых настаўнікаў ужо тады было зусім ясна, што капіталістыя ў сваёй барацьбе, у барацьбе за свае ўласныя інтарэсы выстаўляюць лёзунгі, якія павінны прыцягваць шырокія масы рабочых. Самі рабочыя ў гэтай барацьбе ня маюць уласнага інтарэсу, а робяцца пешкамі ў руках капіталістых ды іх абаронцаў.

Маркс і Энгельс лічылі, што пролетар іншае нацыі бліжэй пролетару ўсякай нацыі, чым капіталісты і абшарнік уласнае нацыі. Будучы зацікаўлены ў барацьбе проці іншае нацыі, буржуа ўцягвае несьвядомага рабочага ў павуціну салодкіх слоў. Буржуа абяцае рабочаму залатыя горы пасьля перамогі, але ў выніку нічога не дае яму.

Комуністычнае вучэньне Маркса і Энгельса ў дачыненьні да нацыянальнага пытаньня і заключаецца ў тым, што інтарэсы пролетарыяту розных краёў і народаў настолькі блізкія, што яны павінны аб‘яднацца ў клясавыя пролетарскія організацыі і весьці барацьбу проці свае ўласнай буржуазіі.

Вось як пішуць Маркс і Энгельс у „Комуністычным маніфэсьце“:

„Комуністыя адрозьніваюцца ад рэшты пролетарскіх партый толькі тым, што, з аднаго боку, *у барацьбе пролетараў розных нацыянальнасьцяй, яны высоўваюць і абараняюць агульныя, незалежныя ад нацыянальнасьцяй інтарэсы ўсяго пролетарыяту*, з другога боку, у тым, што на розных ступенях разьвіцьця барацьбы пролетарыяту з буржуазіяй, яны заўсёды прадстаўляюць інтарэсы руху ў цэлым“.

„*У рабочых няма бацькаўшчыны*“, у іх нельга адняць тое, чаго ў іх няма...“

Ужо пад час рэволюцыі 1848 году выясьнілася, што буржуазія кожнае краіны гатова рабіць паслугі буржуазіі другой краіны ў тых выпадках, калі ўцісканыя клясы спрабуюць паўстаць проці яе. Так, вэнгерская рэволюцыя была прыдушана пры дапамозе войска рускага цара ў 1848 г.

Адсюль ясна, што паміж пролетарамі розных краін павінна быць такая-ж супольнасьць інтарэсаў, якая існуе паміж капіталістымі розных краін. Пролетарыят не зацікаўлены ў вядзеньні вайны проці пролетарыяту іншай нацыянальнасьці, так званая бацькаўшчына, усе яе багацьці належаць пануючай клясе. Да таго часу, пакуль улада ў дзяржаве ў руках буржуазіі, пролетарыят зьяўляецца грамадзянінам апошняга гатунку.

Заўсёды, ва ўсіх выпадках Маркс і Энгельс, калі ім прыходзілася адказваць на пытаньні адносна ўзброеных сутычак між паасобнымі нацыямі, яны ўзважвалі гэтыя пытаньні з пункту погляду інтарэсаў пролетарыяту. Для іх важней за ўсё было меркаваньне, у якой меры гэтая вайна будзе выгаднай або шкоднай інтарэсам пролетарыяту і міжнароднага рэволюцыйнага руху.

Гэта можна сьцьвердзіць цэлым шэрагам прыкладаў з жывой рэчаіснасьці і гістарычных падзей таго часу. Пасьля аб'яднаньня Нямеччыны ўсе чакалі вайны між ёю і царскай Расіяй. У той час Нямеччына, якая толькі-што перажыла рэволюцыю 1848 году, лічылася краінай значна больш свабоднай, чым царская дэспотычная Расія. Маркс і Энгельс у надыходзячай вайне былі цалкам на баку свабоднай Нямеччыны проці барбарскае Расіі. Яны ў поўнай меры, і гэта мела падставы, баяліся, што ў выпадку перамогі Расіі царскі абсац задушыць усе рэшткі рэволюцыі ў Эўропе.

Польская дзяржава ў той час была парвана на некалькі частак і падзелена на паасобныя часткі, якія былі разданы Аўстрыі, Нямеччыне і Расіі. Найбольш уцісканай часткай парванай Польшчы была тая, якая належыла Расіі. У той час становішча Польшчы выклікала спачуваньне ўсяе заходня-эўропэйскае дэмократычнае інтэлігенцыі. Усе імкнуліся дапамагчы ёй, дабіцца незалежнасьці, або, прынамсі, палепшаньня свайго становішча.

Зразумела, кіраўнікамі ў барацьбе за польскую незалежнасьць выступалі лютыя ворагі рабочых і сялян—польскія паны і абшарнікі, але Польшча і яе аднаўленьне проці царскае Расіі магла мець вялікае рэволюцыйнае значэньне. Таму Маркс і Энгельс прымалі самы чынны ўдзел ў пропагандзе польскага паўстаньня і ў яго падтрыманьні.

Здаецца, больш за ўсё Маркс і Энгельс ненавідзелі мікалаеўскую рэакцыйную Расію. Яна ім уяўлялася краінай беспрасьветнай і безнадзейнай рэакцыі. Яны лічылі, што шматмільённая, цёмная сялянская і казацкая Расія стаіць заўсёды пагрозай проці ўсякай спробы рэволюцыйнага руху ў Эўропе. У 1874 г. Энгельс у адным артыкуле пісаў наступнае:

„Офіцыйная Расія і цяпер яшчэ зьяўляецца апорай усяе эўропэйскае рэакцыі і яе армія—рэзэрвам усіх іншых армій Эўропы, якія абараняюць грамадзкі лад, заснаваны на ўціску рабочых... Пакуль за сьпіной аўстрыйскай і нямецкай буржуазіі, аўстрыйскага і нямецкага ўраду стаяць рускія,

нямецкі рабочы рух будзе параліжаваны. Таму мы, немцы, больш за ўсіх іншых зацікаўлены ў тым, каб скінуць з сябе ярмо рускай рэакцыі і рускай арміі".

Усё што магло перашкаджаць разьвіцьцю рабочага руху, хоць-бы яно і было рэволюцыйным, Маркс і Энгельс адкідалі. Інтарэсы рабочага руху ў іх стаялі на першым пляне. У 1882 г. Энгельс у адным лісьце свайму сябру пісаў наступнае:

„...Эльзасцы таксама прыгнечаны, але калі яны напярэдадні надыходзячай рэволюцыі провокуюць вайну між Францыяй і Нямеччынай, нацкоўваюць гэтыя нацыі адна на адну, імкнучыся адцягнуць наступленьне рэволюцыі, тады я ім кажу: стоп! Вы можаце запасьціся такім-жа цярпеньнем, як эўропэйскі пролетарыят. З вызваленьнем яго атрымаеце вызваленьне і вы. Але да таго часу мы не дазволім, каб вы станавіліся на дарозе пролетарыяту, які вядзе барацьбу".

З гэтага ліста ясна, што Маркс і Энгельс лічылі пролетарыят тэй клясай, якая ў сваёй барацьбе проці буржуазіі павінна будзе вызваліць ад уціску ўсе малыя народы. Яны думалі, што не буржуазія, а толькі пролетарыят, які пераможа, канчаткова здолее вырашыць нацыянальнае пытаньне, трэба толькі вызваліць пролетарыят ад тэй блытаніны, якую ўносяць капіталістыя ды іх абаронцы.

Ілюструем яшчэ адным прыкладам, найбольш цікавым з пункту погляду Маркса і Энгельса, на задачы пролетарыяту ў барацьбе нацыі за вызваленьне.

Англія сярод многіх заняволеных ёю народаў трымала ў поўнай залежнасьці Ірляндыю. Ірляндцы, насяляючыя выспу пад бокам Вялікабрытаніі, былі культурным, свабодалюбівым народам і вялі доўгую барацьбу проці Англіі за сваё вызваленьне. Але, будучы малалікімі, дрэнна ўзброенымі, ірляндцы, ня гледзячы на ўсе спробы і ўсю энэргію, кожны раз цярпелі паражэньне. Сярод ірляндцаў пашыраўся нацыяналізм, які захапляў усе клясы ірляндзкага народу. З другога боку—у самой Англіі раздражэньне проці рэволюцыйнай Ірляндыі ўзрастала і ў сваю чаргу ахоплівала нават дэмократычныя пласты ангельскага грамадзтва.

Маркс надзвычайна цікавіўся і прымаў блізка да сэрца інтарэсы Ірляндыі. Наўпрэкі існаваўшаму тады агульнаму погляду аб тым, што Ірляндыя не павінна адлучацца ад Англіі, Маркс меў свой пункт погляду на гэтае пытаньне.

Паводле думкі Маркса ангельская рабочая партыя павінна абавязкова ўключыць у адзін з пунктаў свае програмы патрабаваньне адлучэньня Ірляндыі ад Англіі. Гэтага патрабуюць непасрэдныя інтарэсы ангельскае рабочае клясы. Змагаючыся за вызваленьне Ірляндыі, ангельская рабочая партыя тым самым змагаецца проці ангельскай рэакцыі.

Шмат разоў Маркс зьвяртаўся да ірляндзкага пытаньня, лічачы, што позыцыя, занятая ім у гэтым пытаньні, зьяўляецца адзіна правільным і просталінейным пунктам погляду ў нацыянальным пытаньні.

Вось як, між іншым, піша Маркс у адным з сваіх дакладаў:

„Ірляндыя—гэта адзіная зачэпка для ангельскага ўраду трымаць вялікую сталую армію, якую ў выпадку патрэбы пасылаюць і процi ангельскіх рабочых... Народ, які занявольвае другі народ, куе свае ўласныя ланцугі“.

Маркс лічыць, што міжнародная асоцыяцыя рабочых павінна ўсвоіць сабе толькі гэткі погляд на ірляндзкае пытаньне. „Яе першая задача—прысьпешаньне соцыяльнае рэволюцыі ў Англіі. Для гэтае мэты трэба нанесьці рашучы ўдар у Ірляндыі“.

Такім чынам, мы бачым, што Маркс і Энгельс, на працягу трох дзесяткаў год сваёй вучонай рэволюцыйнай дзейнасьці, ні на хвіліну не забывалі нацыянальнае пытаньне. Гэтае пытаньне тады, як і цяпер, мела настолькі буйнае значэньне, што нельга было прыступіць да нормальнага вырашэньня пытаньняў міжнароднага рабочага руху, калі ня даць яснага і цьвёрдага вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

У барацьбе розных народаў між сабой Маркс і Энгельс станавіліся заўсёды на боку больш рэволюцыйнага і прогрэсыўнага народу процi рэакцыйнага. Інтарэсам нацыянальным Маркс і Энгельс надавалі другараднае значэньне ў параўнаньні з інтарэсамі рэволюцыі. Але самым важным і для вызваленьня народаў, і для інтарэсаў рэволюцыі Маркс і Энгельс лічылі інтарэсы міжнароднага рабочага руху.

## IV. Ленін у нацыянальным пытаньні—вучань Маркса

З часу дзейнасьці вялікіх настаўнікаў соцыялізму—Маркса і Энгельса, прайшло некалькі дзесяткаў год. За гэты пэрыод часу нацыянальнае пытаньне ня толькі ня было вырашана, але набыло яшчэ большае значэньне ў цэлым шэрагу новых краін.

Калі пры жыцьці Маркса і Энгельса ўсё нацыянальнае пытаньне было згрупавана вакол Аўстрыі, Ірляндыі і Балкан, то к канцу XIX і к пачатку XX сталецьця, нацыянальнае пытаньне набыло вялізнае значэньне, апроч ужо пералічаных краін Заходняе Эўропы, таксама і ў так званай Усходняй Эўропе, г. зн. у Расіі.

Як ужо было сказана, некалькі дзесяткаў нацыянальнасьцяй, засяляўшых царскую Расію, якая займала адну шостую частку ўсяе зямное кулі, стагналі пад цяжкім ярмом царскага рэжыму. Рускія абшарнікі і рускія капіталістыя самым жорсткім чынам прыдушвалі ўсякія спробы некаторых паасобных народаў патрабаваць сабе свабоды ў самых вузкіх межах. У дачыненьні да Польшчы царскі ўрад за некалькі дзесяткаў год, якія прайшлі з часу рэволюцыйнай чыннасьці Маркса і Энгельса, ня толькі не зьмяніў свае політыкі ў лепшы бок, але нават пагоршыў яе. У цэлага шэрагу іншых народаў урад адбіраў паступова нават тыя крошкі правоў, якімі яны карысталіся раней.

Было ўжо паказана і на тое, як царскі ўрад стараўся скарыстаць узаемную барацьбу і нянавісьць між паасобнымі народамі для таго, каб прыдушыць кожны народ паасобку і рэволюцыйны рух сярод рускіх рабочых і сялян, а таксама сярод рабочых розных нацыянальнасьцяй.

Але канец мінулага сталецьця і пачатак XX сталецьця зьяўляюцца гадамі ўзмоцненага росту капіталізму ў Расіі, а значыцца і росту рабочае клясы. Побач з вырасшай у Вялікаросіі буйнай прамысловасьцю, як, напрыклад, у Петраградзе, Іванава-Вазьнясенку, на Урале ды іншых мясцох, разьвівалася прамысловасьць таксама і ў розных частках Расіі. Так, на Украіне вырасьлі буйнейшыя мэталюргічныя заводы, у Кацярынаславе і ў Данбасе. У Польшчы разьвівалася тэкстыльная прамысловасьць, у Лодзі і Беластоку.

Разам з ростам прамысловасьці ў розных нацыянальных раёнах вырастаў колькасна і пролетарыят розных нацыянальнасьцяй. Польскія, украінскія, беларускія, яўрэйскія, нямецкія, грузінскія і армянскія рабочыя, якія масамі ўдзельнічалі ў буйнай сярэдняй і дробнай прамысловасьці, пачалі організоўвацца на грунце барацьбы за свае профэсіянальныя, клясавыя інтарэсы.

Вядучы барацьбу супроць капіталістых свае і чужой нацыі, пролетары розных нацыянальнасьцяй, у тым ліку і пануючай рускай нацыянальнасьці, рабочыя розных нацый пакрысе пачалі ўсьведамляць супольнасьць сваіх інтарэсаў і канечнасьць весьці супольную барацьбу проці ўсіх капіталістых.

Гэтаму аб'яднаньню пролетараў розных народаў стараліся перашкодзіць, з аднаго боку, рускі ўрад, з другога боку—буржуазія розных нацый. І ўрад, і капіталістыя розных нацыянальнасьцяй ужывалі адны і тыя-ж прыёмы барацьбы проці імкненьня рабочых розных нацыянальнасьцяй да аб'яднаньня і да агульнай барацьбы.

Як ужо было сказана, урад ужываў і барбарскія прыёмы нацкоўваньня розных народаў да ўзаемнае разьні і пагромаў. Тое-ж самае рабіла і буржуазія.

Але, апрача гэтага, буржуазія імкнулася яшчэ затуманьваць мазгі рабочых і сялян розным шкодным дурманам рэлігійнай і ўсякай іншай балбатні. Буржуазія стварала спэцыяльныя організацыі, якія мелі на мэце лавіць у свае сеткі маласьвядомых і яшчэ ня зусім разьвітых у клясавых адносінах рабочых.

Так, напрыклад, рускі ўрад разам з абшарнікамі і капіталістымі пры дапамозе паліцыі і пагромшчыкаў стварыў „Саюз рускага народу", які, атрымліваючы падтрыманьне ўраду, заклікаў рабочых і сялян, агітуючы іх проці іншых нацый, галоўным чынам, проці яўрэяў. Яўрэйская буржуазія ў свой чарод стварыла сваю організацыю, якая называлася сыёніцкай. Яўрэйская буржуазія ўгаворвала рабочых, што ўсе народы ненавідзяць яўрэяў і таму ўсе яўрэі павінны аб'яднацца, каб трымацца ў барацьбе проці ўсіх. Польская буржуазія стварыла нацыянал-дэмократыч-

ную партыю, якая займалася заклікам да бойкотаваньня яўрэйскіх тавараў у Польшчы і адначасова сеяла сярод польскіх рабочых ненавісьць да ўсяго рускага.

Адначасова ўсе вышэйпаказаныя організацыі вялі самую жорсткую барацьбу проці рэволюцыйнага і пролетарскага руху ў межах свае нацыянальнасьці. Капіталістыя як пануючай, так і ўцісканых нацый у аднолькавай меры лічылі клясавую барацьбу шкоднай для інтарэсаў нацыі, для інтарэсаў свае кішэні.

Гэткія-ж організацыі пад рознымі назвамі існавалі ў цэлага шэрагу іншых народаў Расіі. Усе яны вялі барацьбу ўсімі сродкамі проці сваіх рабочых, перашкаджаючы ім аб'яднацца ў сваіх інтарэсах для барацьбы за свае інтарэсы проці сваіх і чужых капіталістых.

Але, зразумела, усе гэтыя прасьледваньні, усе гэтыя прыёмы катаваньня, турмы і ссылкі не маглі канчаткова перашкодзіць стварэньню клясавых пролетарскіх організацый. Яны толькі значна затрымлівалі пасьпяховы ход гэтае барацьбы, пасьпяховае разьвіцьцё клясавае сьвядомасьці, усьведамленьне супольнасьці інтарэсаў пролетараў усіх краін і народаў.

Проці паказаных нацыянальных буржуазных організацый, ня гледзячы на узмоцненыя прасьледваньні царскага ўраду, у Расіі была створана ў 90-х гадох мінулага сталецьця Расійская соцыял-дэмократычная рабочая партыя, якая стала выказьніцай інтарэсаў рабочых усіх народаў, што насяляюць Расію.

Адным с правадыроў, самым буйным і самым выдатным з вучняў Маркса і Энгельса ў Расійскай соцыял - дэмократычнай партыі, быў Уладзімер Ільліч Ульянаў, якога цяпер увесь сьвет ведае пад імем Ленін.

Тымчасам як шмат якія правадыры соцыял-дэмократыі як у Расіі, так і за межамі досыць часта здраджвалі вучэньню Маркса і Энгельса і сьвядома ці несьвядома пераходзілі ў лягер буржуазіі, Ленін з самага пачатку сваёй рэволюцыйнай дзейнасьці ў 90-х гадох мінулага сталецьця і да канца свайго жыцьця праводзіў вучэньне сваіх настаўнікаў у жыцьцё, у жывую справу рабочае клясы.

Тымчасам як шмат якія правадыры соцыял-дэмократычных партый ва ўсім сьвеце імкнуліся вялікае рэволюцыйнае вучэньне Маркса абясшкодзіць, Ленін з вучэньня Маркса зрабіў баявую прыладу ў руках пролетарыяту для бязьлітаснай і непагаджальнай барацьбы проці экономічнага ўціску капіталістычнага ладу.

І ў нацыянальным пытаньні Маркс і Энгельс зьяўляюцца для Леніна самым высокім аўторытэтам. Ленін ня толькі ўспрыняў усё тое, што пісалі нашы настаўнікі па нацыянальным пытаньні, але стараўся паглыбіць і рэволюцыянізаваць зьмест усяго імі напісанага па нацыянальным пытаньні. Бо трэба памятаць, што з часу Маркса і Энгельса і самое нацыянальнае пытаньне пашырылася і паглыбілася, прымаючы часта надзвычайна вострыя формы і перашкаджаючы праясьненьню прынцыпаў пролетарскае барацьбы.

Але, апрача таго, за гэтыя некалькі дзесяткаў год капіталістычныя краіны ва ўсім сьвеце кінуліся на самыя няверагодныя авантуры для адшуканьня колёній для збыту продуктаў свае вытворчасьці. У гэтых авантурах ідзе самая нястрыманая конкурэнцыя між Англіяй, Амэрыкай, Францыяй, Японіяй ды іншымі краінамі.

За гэты-ж час абудзіліся ад сьпячкі многія з заняволеных колёніяльных народаў, якія часта падымаюць паўстаньне проці сваіх імпэрыялістычных прыгнятальнікаў.

Леніну, правадыру спачатку соцыял-дэмократычнай партыі, а потым Расійскай комуністычнай партыі і Комуністычнага Інтэрнацыяналу прыпала ўжыць ідэі Маркса і Энгельса ў новай абстаноўцы, значна больш складанай і заблытанай, як гэта было раней.

Але ў агульным лінія Леніна і Комуністычнага Інтэрнацыяналу была цалкам працягам тых прынцыпаў, якія разьвівалі Маркс і Энгельс тады, калі яны ставілі ірляндзкае пытаньне ў барацьбе ірляндзкага народу проці Англіі.

У адным месцы Ленін піша: „Політыка Маркса ў дачыненьні да Ірляндыі павінна стаць узорам пролетарскай політыкі“.

Значна пазьней, ужо ў пэрыод імпэрыялістычнай вайны, Ленін зьвяртаецца да таго-ж ірляндзкага пытаньня, як яно было пастаўлена Марксам. „Маркс,—піша Ленін,—высоўваў на першы плян, маючы на ўвазе больш за ўсе інтарэсы клясавай барацьбы пролетарыяту ў передавых краінах, карэнны прынцып інтэрнацыяналізму і соцыялізму; *ня можа быць свабодным народ, які прыгнятае іншыя народы*... імпэрыялістычная вайна 1914—1916 г. г... сьцьвердзілі правільнасьць політыкі Маркса, якая павінна *стаць узорам для ўсіх перадавых краін, бо цяпер кожная з іх уціскае чужыя нацыі*“.

Ленін выражаў заўсёды поўную ўпэўненасьць у тым, што тэорыя Маркса зьяўляецца законам пролетарскай політыкі ў нацыянальным пытаньні. Ён лічыў, што Маркс сваімі адносінамі да ірляндзкага пытаньня ня толькі вырашыў нацыянальнае пытаньне ў тэорыі, але таксама даў зусім яснае, дакладнае практычнае кіраўніцтва для ўсяе рэволюцыйнае дэмократыі. „Нашым узорам,—піша Ленін у 1916 г.,—застаецца Маркс, які пражыў дзесяцігодзьдзі ў Англіі, стаў напалову ангельцам і патрабаваў свабоды і нацыянальнай незалежнасьці Ірляндыі ў інтарэсах соцыялістычнага руху ангельскіх рабочых“.

*Канец будзе*

# ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД

*(Успаміны з мінулага)*

**Цішка Гартны**

Цяга да літаратурнае працы адзначылася ва мне яшчэ на школьнай лаўцы. „Сочинения“, якія я пісаў па заданьню настаўніка, заўсёды прыносілі мне ганорную пяцёрку. „Сочинения“ на экзамене пры сканчэньні двухклясавае міністэрскае школы было забрана інспэктарам, як узорнае. Дзякуючы гэтаму я і па сканчэньні школы ня кідаў пісаць. Да першых-жа спробаў пісаньня мяне заінтрыгавалі тэмы народных павер'яў і забабонаў.

Адначасова я спыняўся на іх, не пакідаючы, аднак, і пісаць вершы. Захапленьне чытаньнем твораў розных аўтараў, асабліва А. Някрасава, надавала мне настрою. Не адбіла мяне ад вершапісаньня і няўдача з першымі спробамі пяра ў час мае паездкі ў Кіеў восеньню 1905 году. Астаўшыся ў лютым 1906 году вучнем у гарбарскую майстэрню, я пасьля доўгага працоўнага дня садзіўся пры газьнічцы ў халоднай хаце за сталом ці на печы і пісаў, галоўным чынам, вершы. Тэматыка іх паступова абагачалася і рознастайнілася. Ад грамадзкіх мотываў я шпарка пераходзіў да мотываў працоўных, што было натуральна. Напісанае я прачытваў вечарамі ў суботу сваім лепшым таварышом і дарадчыкам—Рыгору Шкурынскаму і Рыгору Чарнушэвічу. Іх пахвала—а ганьбы ня было ні разу—бадзёрыла мяне не пакідаць быць пісьменьнікам. Зрэдку расхалоджваў мяне трэці таварыш, з якім я поплеч працаваў у майстэрні, гэта Вар'ён Бекіш. Аднак, і ад яго я ня чуў вострае крытыкі, а болей пахвальбу за свае вершы, прысьвечаныя жыцьцю майстэрні і рабочых. Вастрэйшым крытыкам свае творчасьці быў я сам. Напісаўшы верш ці апавяданьне, я праз неўкі час яго перачытваў і знаходзіў нездавальняючым. Параўноўваючы свае творы з надрукаванымі творамі розных пісьменьнікаў, я знаходзіў іх слабымі і далёкімі ад дасканаласьці. Мяне брала сумненьне, што ўсё гэта патугі дарэмныя і да добрага не прывядуць. Але кінуць пісаньне было для мяне немагчымым. Я сам заўважаў, што з кожным часам прыкмячаўся малэнькі посьпех: вершы мае рабіліся гладчэйшымі, тэмы шырэйшымі, прымітыўнасьць—меншаю. Толькі адно мулялася ў маіх думках, гэта цяжкасьць опэраваньня з расійскаю моваю. Здавалася мне, што знаў я яе добра, бо разумеў усё чытанае, гутарыў, хоць і з акцэнтам, усё-ж

нядрэнна, а пішучы—даводзілася шукаць слоў. Я адчуваў плаўкасьць мовы і ў Лермантава, і ў Някрасава, і ў Кальцова, у творах дзесяткаў сучасных поэтаў, якія друкаваліся на старонках часопісаў „Современный Мир“, „Русское Богатство“, „Журнал для всех“ ды інш. Як дайсьці да таго, каб мне перамагчы свае недахопы? Гэта было асноўным заданьнем для посьпеху стацца расійскім пісьменьнікам. Аднак, вакольныя ўмовы перашкодзілі гэтаму. Адкладаючы расійскую кніжку ці газэту, я міжвольна пераходзіў на беларускую мову. Мая гутарка ў хаце, у сям'і, гутарка з хлопцамі і дзяўчатамі, з мужчынамі на прызбах і на рынку—была выключна беларускай. Кніжка, такім чынам, складала для мяне іншы сьвет, далёкі ад беларускае сапраўднасьці. Мотывы ня былі зьвязанымі з ёю, героі да іх псыхолёгія ад мяне далёкімі і мне цемнаватымі. Да ўсяго гэтага трэ' было цягнуцца, пазнаваць, знаёміцца, ды праз кніжкі—трудна.

Тымчасам у маёй памяці муляліся ўспаміны пра выпадковае знаёмства з беларускім друкаваным словам. Восеньню 1905 году ў Капыль трапілі нелегальныя брошуры і лістоўкі соцыялістычнай грамады. Я памятаю, што, угледзіўшы іх, я прагна і з захапленьнем чытаў іх на сходзе капылян у хаце майго суседа Пятруся Гамзы. Яснасьць сэнсу, дзякуючы даступнасьці і зразумеласьці мовы, вельмі кранула мяне. Я ўбачыў, як-бы лёгка было праз беларускую літаратуру весьці пропаганду ў беларускіх мястэчках і вёсках. Аднак, апроч некалькіх проклямацый і брошуры пра зямлю, больш нічога да мяне не папала. Дастаць-жа што-кольвечы новае на беларускай мове я ня ведаў дзе і як.

У Капылі тады іншых партый, апроч соцыял-дэмократычнай—ня было. Эсэры зрэдку наяжджалі ў мястэчка з мэтаю заснаваць сваю організацыю, але іх справа абмяжоўвалася дыскусыяй, пасьля якой яны пакідалі Капыль бяз жаднага посьпеху. Рэшткі народавольцаў з ліку пажылых мяшчан таксама страцілі актыўнасьць і толькі плятонічна цягнулі традыцыйнасьць праз сходы, песьні і вечарынкі ў хаце Міхася Шкірыча па Сьвяржэнскаму завулку.

Гэта характарнасьць Капыля была вельмі цікавай, калі ўзяць на ўвагу, што эсэраўства вакол мястэчка і па суседніх з ім мястэчках мела значнае пашырэньне. Капыльская моладзь як з рамесьнікаў, гэтак і з земляробаў цьвёрда трымалася соцыял-дэмократычнае програмы ў соцыялістычным руху. Дзякуючы гэтаму доступ у Капыль мела, пераважна, літаратура, выдаваная Паўночна-Заходнім камітэтам соцыял-дэмократычнае партыі і лягальная марксыцкая літаратура на расійскай мове. Як ня дзіва таму, а і „Наша Доля“ не папала ў Капыль ніводным нумарам. Магчыма, што яна і выпісвалася некаторымі лібэральнымі панамі, пазьней выпісваўшымі „Нашу Ніву“, але мне ня здарылася на яе натрапіць.

Толькі ў 1908 годзе, летам, мне давялося пазнаёміцца з першаю штотыднёваю беларускаю газэтаю „Наша Ніва“. Ужо пасьля гэтага я выявіў, што яе выпісваў памешчык Іодка-Наркевіч, прымаўшы ў маладыя гады ўдзел у рэволюцыйным руху і пазьней спачуваўшы яму, бабавенская

пані Траскуляцкая і нават памешчык Аколаў-Падгорскі. Выпісваў „Нашу Ніву“ і капыльскі доктар Каролька. Але ні ад каго з іх мне атрымаць гэтае газэты раней не ўдавалася. Зусім выпадкова, стрэўшыся раз з сваім таварышом, фэльдчарам Раманам Гурло, які служыў у Капыльскай больніцы, я мог праз яго папасьці ў рукі „Нашу Ніву“. Ня памятаю, ці я папрасіў газэту ў Рамана Гурло, ці ён мне яе паказаў першым сам. Досыць таго, што я „Нашу Ніву“ ад Рамана Гурло атрымаў і пачаў з ёю знаёміцца. Прачытаўшы „Нашу Ніву“ ад назвы да подпісу рэдактара, я быў у захапленьні. Мяне дзівіў не яе зьмест, ня цікавасьць раскладзенага ў ёй матэрыялу, а, галоўным чынам, даступнасьць яе, яе блізкасьць „духу“ вакольнага беларускага жыцьця, нарэшце, самы факт друкаваньня яе на беларускай мове. Апошняе было да мяне адкрыцьцём. Да гэтага часу я ня мог сабе ўявіць, каб тая мова, на якой гутарылі мае бацькі, сяляне, але якое не відаць было ў кніжках, у школе, у абыходзе крыху бывалых людзей, каб на гэтай мове можна было друкаваць газэту. Я бачыў, з якою стараннасьцю і школьная моладзь, і наяжджаўшыя сьвятамі ў Капыль сэмінарыстыя, і ўсякі, хто крыху пралазіў у „людзі“, цягнуўся да далікатнае расійскае мовы, на якой у нас гутарылі— станавы, поп, ураднік, старшыня, аптэкар, пісар; я бачыў, як на блытаную расійска-беларускую мову салдата, што вяртаўся са службы ці ў пабыўку, чысьцюхенька па-беларуску адказвалі іх землякі, але не задаваўся пытаньнем, чаму і што гэта.

Вялікая тра едыя абрусеньня беларускага працаўніка праходзіла паміж майго зацікаўленьня. Магчыма так і трэба! Нездарма-ж гэткая павага да таго, хто адчураўся мужыцтва і яго мовы!

Але раптам—„Наша Ніва!“ Газэта на беларускай мове. Гэта ўжо нешта значыць! У маім нутры заказытала і гордасьць, і радасьць. Успамінаю, якім палкім абаронцам беларускае мовы стаў я пасьля прачытаньня газэты „Наша Ніва“. І цікава, што паведзеная мною агітацыя сярод капыльскае моладзі праз чытаньне газэты і ўгаворамі за „прызнаньне“ беларускае мовы „роўнапраўнай“, за яе вызваленьне з-пад руціннае пагарды—сустрэла надзвычай цёплую спагаду. Мэрам-бы гэтага і чакалі, каб рашуча, рэволюцыйна скончыць з соцыяльнаю несправядлівасьцю ў адносінах да беларускага працаўніка, якая націскала з боку культурнага яго разьвіцьця. Мае бліжэйшыя таварышы, цесна зьвязаныя з Капылём, з мізэрнаю сваёю гаспадаркаю, не спакушаныя „сьвецкім“ жыцьцём—сталі першымі маімі прыхільнікамі. Гэта былі сяляне-беднякі—Рыгор Шкурынскі, Іван Рубіс, Сяргей Татарынчык, Пятрусь Пласкавіцкі, Зьміцер Гамза, Цімох Гамза, Міхась Татарынчык, Рыгор Чарнушэвіч ды інш. Усе яны, разам са мною, адчулі нейкую палёгку, якая скінула з іх вымаганьне цягнуцца за далікатнаю расійскаю моваю. „Наша Ніва“ ўсім ім прышлася да густу, стала блізкай і цікавай. Мы настойна прасілі Рамана Гурло пазычаць яе ў доктара і даваць нам для чытаньня. Выпісаць каму-кольвечы было цяжка з прычыны хранічнае адсутнасьці сродкаў. Прыватна

я ў той час быў беспрацоўным, і кожная капейка ва ўмовах беднага жыцьця сям'і расцэньвалася рублём [1]). Але, як толькі пачаўся сэзон і я пашоў на працу, з першае свае палучкі была выдзелена адпаведная сума на выпіску газэты „Наша Ніва“. Я акуратна пачаў атрымліваць яе штотыдзень і кожную нядзелю прачытваў па некалькі раз хлопцам ды дзяўчатам на зборнях. Лева-опозыцыйны напрамак газэты паступова зацікаўліваў нас сваім зьместам. У час цёмнае рэакцыі кожнае вастрэй сказанае слова прыцягала да сябе ўвагу і цікавасьць чулае моладзі. „Біржоўка“ і „Соврэменка“, якія, галоўным чынам, прыходзілі ў провінцыю і перадплатнікам, якім быў я—гэтыя газэты былі далёка ад таго, каб раскалыхваць пачуцьцё протэсту супроць ачамернага і катаржнага царскага ладу. Пры гэтым ніводная расійская газэта таго часу і не кранала жыцьця Беларусі ў яго сялянскіх пластох. Рэдкія корэспондэнцыі з таго ці іншага гораду „Паўночна-Заходняга краю“ зусім ня служылі адбіткам сапраўднага жыцьця гэтага краю. „Наша Ніва“ ў кожным нумары прыносіла свайму чытачу соткі допісаў з многалікіх беларускіх мястэчак і вёсак. Яна баразьніла глухое беларускае жыцьцё і падносіла ў дробных фактах яго цікавы рух, яго твар... Аддзел жартаў, які трапна падавала рэдакцыя ў кожным нумары газэты, рознастайніў яе і асабліва падабаўся чытачу.

Але для мяне, а праз мяне і маім бліжэйшым сябром, самым цікавым было чуць родную мову ў друкаваных у газэце вершах. Калі беларуская мова ўдала перадавала весткі і думкі на старонках газэт, то мілагучнасьць яе ў вершах аказалася зусім нечаканай для мяне. Першыя беларускія вершы, прачытаныя ў „Нашай Ніве“, зрабілі на мяне, сапраўды, галоваўскружанае ўражаньне. У маім нутры раптам усё перавярнулася і цяга пісаць па-беларуску зусім у кароткі тэрмін заўладала мною цалкам. Напісаныя раней па-расійску творы паказаліся мне шурпатымі, чэрствымі і бяздушнымі. У іх наглядалася нейкая штучнасьць, хоць я, пішучы, стараўся ўкладаць у іх сваё заўсёды хвалюючае пачуцьцё. Ад нашаніўскіх вершаў павеяла цеплатою непасрэднага жыцьця, у якім я адчуў і часьціну свайго бытаваньня. Асабліва захапіў мяне верш Цёткі „Вясковым кабетам“, які пачынаецца так:

„Эх, кабеты, эх, вясковы, эх вы кветкі прызаўяты! Вашы твары, як васковы, вашы шчокі сьлязьмі зьмяты“. Выразнасьць і моц данага вершу, поруч з вялікаю спагадаю да вясковага працоўнага народу, абуджаў ва мне пачуцьцё абурэньня супроць тых умоў, якія высмоктвалі радасьці і паўнату сялянскага жыцьця. Але вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа надавалі мне бадзёрасьці і маладога задзёру. Чытаючы іх таварышом і таварышкам, я бачыў, як блізка імі прымаецца кожнае слова песьняроў.

---

[1]) Мой бацька—грабар, маці —чорнарабочая, працуючы на падзёншчыне, зараблялі надзвычай мала. Магчыма, у іх пакутным жыцьці хавалася „мяшчанская псыхолёгія“, пра якую ня так даўно пісаў ва „Узвышшы“ шляхцюк-фальбарковец з Горадзеншчыны, саматугам пручыся ў беларускую літаратуру. *Аўтар.*

З гэтага моманту імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа зацямнілі сабою ўсе іншыя, з якімі я пазнаўся раней. Побач з вялікаю павагаю да іх, якая ўбірала ў сябе элемэнты гордасьці ад выяўленьня беларускіх народных талентаў, ва мне закралася жаданьне і самому паспрабаваць пісаць па-беларуску. Перш чымся зрабіць гэта, я падзяліўся думкамі з Рыгорам Шкурынскім, маім лепейшым сябрам і, зразумела, атрымаў яго ўхвалу. І вось, памятаю, як вярнуўшыся з майстэрні, у суботу на змроку восенскім нудным днём, я прысеў за варштатам пры вакне і напісаў свой першы беларускі верш „Бяздольны“.

Чаму ўсё-ж такі гэты мой верш атрымаўся сумным і разуверным, не магу здагадацца і дагэтуль. Каб сказаць, што я меў у той час дрэнны настрой, пераносячы тыя ці іншыя жыцьцёвыя няпрыемнасьці, каб хто зрабіў мне якую-небудзь крыўду, ці дапёк мяне зьдзекамі, або выпадковая акалічнасьць навяла мяне на мінорнасьць—дык не. Праз увесь дзень, працуючы, я пяяў з хлопцамі песьні, плянаваў праводзіны надыходзячага сьвятошнага вечару. Самы факт працы, якая дазваляла прынасіць бацьком сякое-такое падтрыманьне, якая паляпшала якасьць харчаваньня, яшчэ нядаўна старэчага, бядняцкага—не магла ўплыць на мяне сумам. У адносінах да грамадзкага жыцьця я ня мог таксама паскардзіцца. У мястэчку, ня гледзячы на двухгадовую рэакцыю, на настойнае прасочваньне ў асяродак моладзі санішчыны і зацікаўленьня ёю родавымі пытаньнямі, яшчэ аставаўся моцны асяродак соцыял-дэмократыі і бундаўцаў. Суботамі і нядзелямі перапаўнялася моладзьдзю біржа, на якой шырока вяліся спрэчкі на політычныя тэмы. Раз-у-раз мы разносілі па рынку і надзялялі сялян нелегальнаю літаратураю. За намі няўхільна сачыла паліцыя, пара наймітаў-шпэгаў. Ня спыняліся трухі па хатах і на вуліцах. Усё гэта паднімала баёвасьць, дражніла і бадзёрыла...

Адкуль-жа закралася ў маё нутро цёмная жудасьць, прасачыўшая радкі майго першага беларускага вершу? Бязумоўна, што прычынаю гэтага былі тыя вакольныя абставіны, якія далёка ня спрыялі вясёласьці настрою. Бедната жыхарства, цяжкі экономічна-політычны ўціск, культурная адсталасьць, якраз падасьпеўшае к таму часу спагнаньне падаткаў, усё гэта сьведчыла не за добрае ды вясёлае. Сялянства маўкліва несла крыж няволі, часта неспагадліва паглядаючы ў бок бунтоўнае моладзі. Пэрспэктыў было ня відаць. І тое, што я вычытваў у вершах Янкі Купалы, Якуба Коласа ды інш., зьмешчаных на старонках „Нашае Нівы“, і што мяне бадзёрыла і падбівала да ваяўнічасьці, тое хавалася ў сьмеласьці і задзёры, з якімі выступаў на шлях адраджэньня беларускі працаўнік... Ужо ў наступных сваіх вершах я зусім перамяніў настрой, напісаўшы іх у рэволюцыйным духу. Адзін з гэтых вершаў, пасланы зімою 1909 г. ў рэдакцыю „Нашае Нівы“, які меў назву „Хто мы?“, выклікаў спагадлівы адказ рэдакцыі. У вершы „Хто мы?“ я праводзіў думку, што селянін і рабочы зьяўляюцца стварыцелямі людзкіх багацьцяў і ўтрымацелямі жыцьця, бач, „падноскам“, які гэта жыцьцё носіць. Выраз

„падносак“ жыцьця, уплецены, зразумела, у цэлае заключнага чатырохрадкоўе „Хто мы?“, захапіў маіх таварышоў. Яны ўсюды і доўга дэкламавалі гэты мой верш, хвалячы яго. Але чамусьці ён не зьявіўся ў друку: трэба думаць, што таму была віна ў вострасьці вершу. Гэта прычына зноў адпіхнула мяне ад рэволюцыйнага зьместу ў далейшых сваіх вершах, і я перайшоў да мотываў пантэістычнага характару, не пакідаючы, аднак, соцыяльных настрояў...

Першы свой верш я прысьвяціў Янку Купалу. Цяжка зараз успомніць тыя прычыны, якія натаўхнулі мяне на гэта. У „Нашай Ніве“ амаль-што аднолькава сустракаў я вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Абодва поэты хутка засланілі сабою ўсіх іншых і веды пра іх шпарка разьнесьліся ў шэрагах моладзі. І Колас, і Купала ў сваіх творах былі мне блізкія і дарагія. Нават Колас выйграваў у гэтым параўнаўча з Купалай, бо ён зьяўляўся чуць не маім земляком, родам з вёскі Мікалаеўшчыны ў 40 вярстох ад Капылю. Таксама, паступаючы ў Нясьвіскую сэмінарыю, я пазнаёміўся з Коласавымі землякамі, якія ўжо ў 1906 годзе дэкламавалі верш Коласа, вельмі ходкі ў той час, які пачынаўся так: „Констытуцыю далі, адчынілі дзьверы і ў турму нас павялі і таўкуць бязьмеры“. Політычная вастрата вершу сьведчыла за блізкасьць песьняра да політычных падзей, малявала яго ў маім ваччу рэволюцыянэрам-поэтаю. Сьледам я вычытаў пра суд над Коласам за яго ўдзел у рэволюцыйным руху, прысуджэньне яго ў крэпасьць на тры гады. Гэта ў маім адзнаньні асабліва высока паставіла поэту, як песьняра-змагальніка. Орэоль Коласа, у поўным сэнсе слова, сьляпіў мяне і маіх таварышоў. Нельга выказаць глыбіні і напружанасьці тых жаданьняў, што праглі знайсьці магчымасьць спаткацца з ім. Былі сур‘ёзныя намеры у адзін час кінуць Капыль і пайсьці ў Менск, каб дамагчыся стрэчы з Коласам...

Янка Купала выабражаўся мною больш недасяжным. І мо‘ дзякуючы гэтаму, яго ўплыў быў паважна-аўторытэтным. Таксама ў рэдкіх нарысах па агляду творчасьці, якія траплялісі на старонках „Нашае Нівы“, Янка Купала ставіўся першым, а за ім ішоў Якуб Колас. Апроч усяго гэтага, мела свой уплыў і творчасьць першага: яна мяне варажыла і бунтавала. Ухіляючыся перад значнасьцю абодвух паўстаўшых перада мною песьняроў, я, аднак, прысьвяціў свайго „Бяздольнага“ Янку Купалу.

Памятаю абяцанку перад т. Рыгорам Шкурынскім, што адзін з наступных вершаў я абавязкова прысьвечу Якубу Коласу. У кожным разе я не выбіраў тады пяршынства, з якім з гэтых песьняроў я-б хацеў раней спаткацца. Хацелася паглядзець, пагутарыць, пачуць думкі кожнага з іх пра тое, што іх заставіла пісаць па-беларуску і як яны глядзяць на падняты імі лёзунг—лёзунг адраджэньня Беларусі. Соцыяльны бок найболей мяне інтрыгаваў, хоць я адчуваў выразна, што ідэя нацыянальнага вызваленьня свае краіны залягла ў маім нутры досыць грунтоўна. Не пакідаючы быць соцыял-дэмократам, я ўплятаў у сваю програму і нацыянальнае пытаньне. Янка Купала, Якуб Колас, Цётка і іншыя

песьняры адбівалі ў сваіх вершах мае настроі і афармлялі маю поэтычную аснову.

Скора я выпісаў зборнікі твораў гэтых пісьменьнікаў: „Жалейку“ Янкі Купалы і „Песьні жальбы“ Якуба Коласа. Гэта дазволіла песьняром цалкам заўладаць мною. Дзякуючы гэтаму грунтоўнасьць справы па разьвіцьцю беларускага друкаванага слова рабілася ў маім нутры больш сталаю ды сур'ёзнаю. Беларуская кніжка—то ўжо справа вялікая. Ня дзіва, што вершы з „Жалейкі“ і з „Песьняў жальбы“ хутка разьнесьліся па Капылю і ў ваколіцах. „Я—мужык беларус, пан сахі і касы“ Янкі Купалы і „Сон Сьцёпкі ў вастрозе“ Якуба Коласа можна было чуць кожны дзень на кожнай вуліцы. Гэтыя зборнікі вершаў чыталіся ў засос, як да гэтага ня чыталася капыльскай моладзьдзю ніводная кніжка.

Успрыманьне ідэй нацыяльна-соцыяльнага вызваленьня Беларусі да часу 1909 году адбывалася вельмі шпарка—глеба для гэтага ў гушчах рамесьніцкай і сялянскай моладзі была добра падгатаванай. Зацікаўленасьць гэтым у вялікай меры павінна і маёй агітацыі. Я на вачох шматлікіх сваіх таварышоў рабіўся беларускім пісьменьнікам, праз корэспондэнцыі ў „Нашу Ніву“ асьвятляў быт і стан свайго мястэчка і вакольных вёсак, праз мяне атрымлівалася беларуская літаратура і я, галоўным чынам, яе распаўсюджваў... З вялікай спагадай таварышы чакалі чарговага майго вершу ў „Нашай Ніве“ і разам позьнім часам хадзілі са мною на пошту па корэспондэнцыю. Цікавей за ўсё тое, што беларускай літаратурай, якой яна ў той час была, заінтрыгавалася і яўрэйская бундаўская моладзь. Шэраг маіх таварышоў і таварышак з бунду (Д. Бляўчыцкі, Іцка Каплан, Аўтар Зяліцкі, Хана Найкруг ды інш.) бралі ад мяне на чытаньне і „Нашу Ніву“. і зборнікі вершаў. Янка Купала і Якуб Колас сталі вядомы і паважаны ёю. Тая-ж яўрэйская моладзь цёпла вітала мяне з першымі крокамі мае беларускае пісьменьніцкае чыннасьці. Само сабою разумелася кожным і ўсімі, што нацыянальнае пытаньне, як заўсёды, зьяўлялася складаным соцыяльнага. Стан гето і скуткі яго панаваньня трымалі ва ўмовах Беларусі нацыянальнае пытаньне вострым, не даючы нікому ім занядбаць...

Узімку 1909 году, пасьля зьяўленьня маіх вершаў на старонках „Нашае Нівы“, капыльская моладзь наладзіла мне маленькую пачостку. Седзячы ў прытульнай каморцы аднае закусачнае, мы спраўлялі ціхую ўрачыстасьць абуджэньня свайго працоўнага народу. Праз мяне кожны ўдзельнік вітаў беларускае друкаванае слова, вялікасьць і глыбіню паўзьнятых ім пытаньняў, першых беларускіх народных песьняроў і мае выйсьце на шлях пісьменьніцкай чыннасьці. Аднак, у гэтай вузкай і цёплай кампаніі гарбароў і земляробаў яшчэ ня высьветліўся прагляд у канчатковае будучае, куды вяла справа соцыяльна-нацыянальнага вызваленьня Беларусі. Пэрспэктывы былі туманнымі і няяснымі і часамі губіліся зусім недалёка наперадзе. Нам цяжка было рабіць які-б там ні было прогноз

у беларускай справе, будучы цалкам захоплены соцыялістычнымі праблемамі.

Аднак, паступова з пашырэньнем беларускага друкаванага слова ўсё болей ды болей вызначалася важнасьць узьнятых ёю пытаньняў. Хутка абрысы іх выразна пачалі акрэсьлівацца ў маёй сьвядомасьці, затое надзеі ў іх ажыцьцяўленьні заставаліся дужа мізэрнымі. Гурток людзей, які, седзячы ў Вільні, уздымаў гэтае пытаньне, паказваўся мне занадта дзёрскім і сьмелым і, я-б сказаў, нягрунтоўным параўнаўча з шырызною пастаўленых ім перад сабою заданьняў. Часткаю, дзякуючы гэтаму, мяне дзівіла яго ўпартасьць і я прасякаўся павагаю, да яго. Мне вельмі, хацелася пабыць у рэдакцыі „Нашай Нівы“, пагутарыць з яе кіраўнікамі і больш конкрэтна выявіць сабе пэрспэктывы, грунтоўнасьць і сэнс пастаўленых ёю заданьняў. Гэта хаценьне разам з хваляваўшым мяне жаданьнем сустрэцца з Янкаю Купалаю ці Якубам Коласам запаланіла маё нутро. Да жніўня месяца 1909 году яно да таго завалодала мною, што далей я ня мог яму супярэчыць і накіраваў у Вільню.

Вялікая колькасьць капыльскае моладзі горача разьвіталася са мною, абдараючы мяне цёплымі пажаданьнямі посьпехаў. Рэволюцыйныя песьні, пацалункі і палкія поціскі рук паднімалі мой настрой і чырванілі надзеямі наступнае.

Мяне праводзіў да Вільні мой добры таварыш—бундавец Жухавіцкі, які працаваў у Варшаве, але хацеў пазнаёміцца з „нашаніўцамі“. Ён быў адзін з тых яўрэяў-энтузыястых, які самааддана вітаў справу беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня. Усю дарогу ад Капыля да Вільні мы з т. Жухавіцкім правялі ў абгаворы гэтага пытаньня, у высьвятленьні яго пэрспэктыў, у дагадках пра яго жыцьцётрываласьць. Поўны думак і чаканьняў, я нікольki не ўтаміўся ад дарогі, якая забрала для сябе бяссонную ноч: яна мне паказалася кароткай і цікавай.

З вакзалу я ў справоджаньні т. Жухавіцкага накіраваў проста ў рэдакцыю „Нашае Нівы“. Рэдакцыя знаходзілася на Віленскай вуліцы, 21 і прайсьці да яе было нятрудна. Пасьля двух запытаньняў у сустрэчных пешаходаў, мы хутка апынуліся перад вузенькімі дзьвярыма і вакном пры іх, над якімі вісела шыльда, якая сьведчыла аб прысутнасьці тут рэдакцыі і адміністрацыі „Нашае Нівы“. Думаць ня трэ' было доўга—мы ўвайшлі ў цеснае і цёмнае памяшканьне рэдакцыі. Гэта памяшканьне, ня гледзячы на сваю маласьць, дзялілася на тры пакойчыкі: пярэдні, у якім стаяў доўгі стол для канторскіх патрэбаў і экспэдыцыйных, справа ад уваходу—нейкі заслончык і пару крэсел, а ў левым кутку—крывы і паламаны дыван. Прадаўгаватым куфэркам, налева, мясьцілася драбнюткая, як павярнуцца двум чалавекам, за двума маленькімі сталамі, каморка рэдакцыі. Яна была адгароджана ні то тоненькімі дошкамі, ні то фанэрай, зашклянымі ўверсе. На заднім пляне, за зялёнай тоўстай заслонай стаяў столік рэдактара „Нашай Нівы“ А. Уласава, па сьценах віселі абразы, старая зброя і іншыя старажытныя рэчы, сабраныя Я. Луцкевічам,

і складаўшыя яго музэй. Тут-жа ад столі спускалася на тоўстых вяроўках прыладжаная А. Уласавым ка алка для гімнастыкі. Ад усяго гэтага веяла беднасьцю і няпрытульнасьцю. Калі я з Жухавіцкім увайшлі ў рэдакцыю, за канторскім сталом стаяў экспэдытар і канторшчык адначасова, Сьцяпан Нагурскі, які тут-жа запытаў, чаго нам трэба. Я паведаміў, хто я ёсьць, і Сьцяпан гасьцінна запрасіў нас сесьці. Ён напомніў мне, што рэдакцыя „Нашае Нівы“ мяне ўжо чакала, атрымаўшы некалькі часу назад мой ліст. Я, не чакаючы доўга, пачаў распытваць пра Якуба Коласа і Янку Купалу, пра Ядвігіна Ш., А. Уласава ды іншых, каго я ўжо ведаў па „Нашай Ніве“. Сьцяпан мне з большага расказаў, дзе Янка Купала і Цётка, Стары Ўлас і Буйлянка. „Іншыя тут, у Вільні, яны хутка прыдуць—пачакайце“. Праўда, зусім неўзабаве ў рэдакцыю прышлі па адным два яе сябры і супрацоўнікі. Ідучы, кожны з іх мімаходам акінулі нас узрокамі і схаваліся ў рэдакцыйным пакоіку. Я запытаў пра іх у Сьцяпана і той першага назваў Властам, а другога Ядвігіным Ш. Абое зрабілі на мяне першае ўражаньне, як людзі panістыя, якім мала цікавы падобныя мне хлапчукі. Але разам з гэтым прагло мяне хутчэй пазнацца з імі і пачуць хоць што-кольвечы цікавае. Па чарзе Сьцяпан пазнаёміў нас перш з Властам, які тут-жа запрасіў абодвух нас у „рэдакцыю“, і пачаў распытваць, што чуваць у Капылі. З гутаркі выявілася, што мы маем справу з вельмі гасьцінным, добрым і таварыскім чалавекам. Яго мяккая ўхмылка, ценькія, бацькаўскія развагі вельмі пальсьцілі нас абодвух. Хацелася як надалей гутарыць з ім. Вясёлы настроем, з надзвычай гасьціннай мінай на твары, мяккім поглядам вачэй, Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) пазнаўся з намі другім і зараз увайшоў у агульную гутарку. Гаворачы, Ядвігін Ш. жартаваў, пасьмейваўся і ў ім адразу можна было пазнаць таго здольнага новэлістага, з творамі якога са старонак „Нашае Нівы“ я ўжо быў знаёмы. Мы ўчатырох—я, Жухавіцкі, Ластоўскі і Ядвігін Ш.—прагутарылі, пакуль прайшла наляцеўшая разам на горад навальніца. Калі крыху праясьнілася, Жухавіцкі пакінуў нас і пашоў на вакзал па білет на Варшаву, а Ядвігін Ш. павёў мяне аглядаць Вільню. Мы прайшлі ад Віленскай вуліцы да Катэдральнага пляцу, адтуль па Вялікай вуліцы агледзелі важнейшыя знатнасьці гораду. Ядвігін Ш. мне падрабязна расказаў гісторыю ўсяго таго, што мяне цікавіла, і Вільна ад гэтае экскурсіі пакінула на мяне ўражаньне вялікага і цікавага гораду.

Гэтым-жа днём, правёўшы т. Жухавіцкага на вакзал і наслухаўшыся ад яго шчырых водзываў пра дабрату, гасьціннасьць і натхненнасьць у працы нашаніўцаў, я вярнуўся назад у рэдакцыю. Ні Ластоўскага, ні Ядвігіна Ш. там ужо ня было. Затое ўжо Сьцяпан пазнаёміў мяне з надышоўшымі Аляксандрам Уласавым, Антонам і Янам Луцкевічамі і яшчэ з адным чалавекам, прозьвішча якога я зараз не памятаю. Гэта, паколькі я пасьпеў вывесьці правільнае ці не ўражаньне ад першага з імі спатканьня, былі людзі зусім іншага гатунку ад Ластоўскага і Ядві-

гіна Ш. Чамусьці, так мне паказалася, ад іх павеяла большай сур'ёзнасьцю і сухасьцю. З іх гутаркі я не атрымаў тае сардэчнасьці і сяброўства, якія адчуваў з боку Ластоўскага і Ядвігіна Ш. Праўда, А. Уласаў завёў мяне за заслону ў памяшканьне рэдактара, некалькі разоў гайдануўся на качалцы і разам з Янам Луцкевічам пачалі мне паказваць музэйныя скарбы. Ян Луцкевіч быў чалавекам гаваркім і ўмеўшым пахваліцца. Ён тут-жа пераказаў мне, як ён абмануў некалькіх абшарнікаў і асабліва мітрапаліта Шэптыцкага, з якімі мяняў і якім прадаваў музэйныя каштоўнасьці. „Трэба кідацца ва ўсе бакі, каб дастаць капейкудругую на нашу справу“—казаў ён. І гэта мяне засмуціла. Я ня думаў да таго, што „Наша Ніва“ гэткая бедная, каб трэба было з нумару ў нумар шукаць на яе выданьне грошай, часта пазычаючы іх у розных асоб на процант, зьбіраючы з мізэрных заработкаў сяброў рэдакцыі і спачуваючых асоб. Няпрыгляднасьць і беднасьць памяшканьня рэдакцыі хоць і намякала на гэта, але не ў такой меры, як пасьля я выясьніў.

Рэдактар А. Уласаў распарадзіўся Сьцяпану даць мне пераначаваць у рэдакцыі якраз на тым крывым і ломаным тапчане, які я ўгледзеў пры ўваходзе ў рэдакцыю.

З Антонам Луцкевічам на гэты раз мне гутарыць ня прышлося: ён, надышоўшы ў рэдакцыю, штосьці закруціўся і хутка яе пакінуў. Калі вышлі А. Уласаў, Ян Луцкевіч і незнаёмы мне чалавек, я астаўся ў рэдакцыі з экспэдытарам Сьцяпанам.

Неяк сталася так, што я з ім у гэты-ж вечар блізка, па-таварыску, сышоўся і, як кажуць, на адкрытую душу разгаварыўся.

Сьцяпан, як выясьнілася, быў рабочым. Дзякуючы няйменьню работы, ён астаўся на мізэрную, у дваццаць рублёў, пэнсію ў рэдакцыю „Нашай Нівы“. Захапленьне беларускім рухам уцягнула яго ў кола нашаніўцаў, і ён не хацеў ад іх адбівацца. Сьцяпан добра ведаў кожнага з іх і пачаў тут-жа мне характарызаваць. Я лёг спаць ужо большменш асьвядомленым пра стан газэты і пра кожнага з вядомых сябраў рэдакцыі. Паколькі апошняе мяне цешыла, пагэтулькі першае смуціла. Я ўжо меў пэўнае заключэньне ў тым, што мае мары астацца на працу ў рэдакцыі „Нашай Нівы“ безнадзейны. Сьцяпан поўнасьцю высьветліў яе матэрыяльны стан і нечага было сумлявацца. Тым ня меней, замулеўшыя клопаты пра сваё наступнае становішча не засмуцілі яскравага ўражаньня, набытага мною ад спатканьня з дзеячамі беларускага нацыянальна-культурнага руху. Калі-б яшчэ ў дадатак я ўгледзеўся з Янкаю Купалай ці Якубам Коласам, бадай, я быў-бы цалкам компэнсаваны за паездку ў Вільню. Ну, што-ж—гэтага не хапала, і з мяне было досыць узнагароды, якая абмяжоўвалася знаёмствам з памянёнымі асобамі.

Ужо лёгшы спаць, я пачаў думаць, што мне рабіць пасьля „гасьціньня“ ў „Нашай Ніве“. Вельмі прагло астацца ў Вільні, як-кольвечы ўстроіцца на абыякую службу і не парываць з рэдакцыяй. Я ведаў, што час і сумесная праца ў рэдакцыі адшліфуюць далейшыя адносіны з кож-

ным стрэчаным мною чалавекам. Прынамсі, гэта мяне не клапаціла. Але немагчымасьць астацца ў Вільні, на што выразна намякаў Сьцяпан, перашкодзіла бесклапотнаму сну. Помніцца, што я доўга варочаўся з боку на бок, пакуль суцешыўся і заснуў...

Прачнуўся я назаўтра зусім лёгка, але настрой мой пацяжэў. Пад яго націскам я прасіў Сьцяпана пагутарыць з сябрамі рэдакцыі пра мой лёс, ці прымуць яны ў ім той ці іншы ўдзел.

Праўда, у гэты-ж дзень мне паведамілі, ня помню хто, але, здаецца, Ян Луцкевіч, што ёсьць магчымасьць мне паехаць з Вацлавам Іваноўскім, як тады звалі яго па псэўдоніму, Тройцаю, у маёнтак яго бацькі, Лябёдку. Чаму і што вымеркавалі яны гэта, баюся сказаць. Але пэўней усяго, што сябрамі рэдакцыі кіравала думка—хоць да чаго-кольвечы мяне прытуліць, каб пасьля адшукаць лепшае месца. Знайсьці што-кольвечы ў Вільні ў той час ня было магчыма. Аднак, ня ведаю сам, чаму я згадзіўся ехаць у маёнтак, маючы ў руках пэўнае рамяство і магчымасьць знайсьці працу на віленскіх гарбарнях. Тут ужо няйначай кіравала мною пачуцьцё цікавасьці ў новай службе, цесна зьвязанай з імем вядомага нашаніўскага дзеяча. Гэта самае перашкодзіла мне пацікавіцца, на якую-ж службу мяне пасадзяць у маёнтку Іваноўскіх? Я даў згоду паехаць і чакаў, пакуль у Вільню вернецца дзядзька Тройца. Не памятаю, колькі дзён цягнулася маё чаканьне, але выразна ўяўляю сабе той вечар, калі я задуменна з сваім клункам ды палачкаю ў руках накіраваў на віленскі вакзал, каб ехаць на станцыю Скрыбава Балагое-Ваўкавыскай чыгункі. Мне перадалі ад Тройцы, каб я яго пачакаў у Лідзе, дзе мусіла быць перасадка. Пакорліва чакаў я вырашэньня задуманага, ці можа зусім і неабдуманага пляну, завозу мяне ў памешчыцкую сям'ю Іваноўскіх на невядомую мне працу. Прызнацца, ужо ідучы на вакзал, я кратаў у думках пытаньня, што-ж за справу даручаць мне ў мёантку? З земляробскаю працаю я ня быў знаёмы: ні араць, ні баранаваць ніколі не прабаваў. Мае бацькі доўгі час ня мелі і кавалачка поля, працуючы на чорнай працы летам і пры варштаце за тканьнем астраханак мяшкі для рыбы) зімою. Няўжо толькі пачну я вучыцца земляробству? Што-ж, праз дзень усё будзе вядома—а там можна абмеркаваць!

Віленскі вакзал кішэў народам. Разьлівалася мора электрычнасьці, наводзячы нейкую ўрачыстасьць. Белыя кахлі сьцен перад тунэлем і ў тунэлі пераліваліся сьнежнаю чыстасьцю. Багата і стройна адзетыя людзі нясупынна выліваліся і ўліваліся ў тунэль. Я спыніўся перад вітрынаю кніг і з захапленьнем разглядаў рознастайныя вокладкі і перачытваў усялякія назвы кніг. На маіх вачох публіка іх разьбірала, хаваючы ў дарожныя чэмаданчыкі. Мне хацелася, вельмі хацелася купіць хоць пару намечаных кніжак, а ў мяне быў толькі рубель-другі ня больш, што мусілі справодзіць мяне ў няпэўнай дарозе. Ад гэтага часу, праз дваццаць гадоў, застаецца ў маёй памяці адна характарная назва кнігі—гэта: „Я бывала ў Порто-Рыка—танцавала контрэданс". У маіх вачох

пышная першая кляса вакзалу, поўная багатаю, вясёлаю публікаю, дапамінала бясьпечнасьць жыцьця, сапраўды контрэданснага.

Але мне трэ‘ было пакідаць і вакзал, і Вільню. Наколькі часу?..

У Лідзе я пачакаў Тройцу. Ён ехаў дамоў са сваёй жонкаю і спаткаў мяне ветла. Тут-жа мы прыселі за стол і перакусілі, пакуль ніціме цягнік на Скрыбава. З Ліды ад‘ехалі пасьля поўначы і зусім нядоўгі адгон ехалі вельмі доўга. Гэта тлумачылася тым, што чыгунка Балагое-Ваўкавыск была новай і рух па ёй толькі-што разгортваўся.

На Скрыбава мы прыехалі раніцою. Праз усю ноч цярусіў дробны васеньні дождж і на дварэ была нявылазная гразь. На небе плавалі шэрыя дажджлівыя хмары. Да прыходу цягніка з маёнтку прыехалі дзьве падводы—адна панская каламажка на спрунжынах, запрэжаная ў пару добрых стаенных коняй, і другая—просты аднаконны дваровы нарадзік. Тройца з жонкаю ўсеўся ў першай, мяне-ж, зразумела, даручыў фурману другое, папярэдне пазнаёміўшы з ім,—і мы паехалі ў Лябёдку. З поля яшчэ ня былі сабраны аўсы—яны сумна схілялі калосьсе да зямлі, ацяжаныя доўгімі дажджамі. Крыклівыя вераб‘і кучамі насіліся над імі, паднімаючы нясьцерпны вэрхал. Бяссонная ноч у дадатак—рабілі мой настрой далёка не адпаведным для паездкі ў маёнтак да Іваноўскіх. Усё-ж—не варочацца было назад, пакуль ня высьветліцца мэта паездкі.

7-8 вёрст ад Скрыбава да Лябёдкі мы праехалі ў гадзіну. Заехаўшы на дзядзінец, зусім скромны, і спыніўшыся перад звычайным будынкам, які адыгрываў ролю „палацу“, Тройца накіраваў мяне ў парабкаўскую кватэрку, а сам, спатканы роднымі, пашоў у пакоі. „Вы пачакаеце крыху, зараз прыдуць і дадуць вам есьці“, суцешыў ён мяне з ганку пакояў.

Я ня мог не згадзіцца...

Зайшоўшы ў адведзенае памяшканьне—досыць эфэктнае, каб яно было прызначана для сабачае будкі, я сеў пры малюпаткім ваконцы на тоўстай асінавай лаве і стаў чакаць. Чаго?—не памятаю, бо і тады ня ведаў гэтага. У памяшканьні было брудна і цесна. Рой назойлівых мух канцэртаваў у маім вушшу нудныя, цягучыя мэлёдыі. На лаўцы пры печы стаяў вялізарны гаршчок з заціркаю, увесь залеплены гэтымі музыкантамі. Пакрышаны на стале хлеб і нічым ня прыкрыты—таксама служыў завабнаю папаскаю для мух. Знаёміліся яны і са мною, надаедна стукаючы ў твар...

Мінула гадзіна часу—мінула больш—я ўсё чакаў, маючы справу з мухамі. Раптам у пакоях Іваноўскіх зайграла музыка. Пачуліся тэнаровыя засьпевы. Музыка і песьні стройнаю мэлёдыяй выліваліся ў адчыненыя вокны пакояў. Ад іх нясло панскім здавальненьнем, бясьпекаю і асалодаю жыцьця. Ну, на мяне-ж раптам музыка нагнала злосьць і роспач. Я ня мог яе слухаць спакойна, тут-жа ўзмоцнена пачаўшы думаць, як быць. Было ясна, што дзядзька Тройца пра мяне забыў. Калі дадаць, што праз усю дарогу ён і не намякнуў мне пра работу ў маёнтку,

то мая абузнасьць для яго вызначалася вочавідкі. Што аставалася рабіць? Чакаць? Чаго? У момант перада мною вызначылася выразная рашучасьць—кінуць Лябёдку і дзядзьку Тройцу ды вяртацца на вакзал. За рашэньнем—чыннасьць.

З карзінкаю за плячыма я вышаў з двара фальварку і пад зыкі музыкі пашоў на станцыю. Было гадзін дзесяць раніцы, выясьненае неба дало магчымасьць сонцу падсушыць дарогу. Галодны, я ўсё ж, ня сумуючы, шнураваў між жоўтых аўсоў і павяўшага бульбяніку з цёплых гасьцей. Лябёдка аставалася ўсё далей, а парныя вежы касьцёлу ў Васілішках пільна сачылі за мною...

На станцыі, да адходу цягніка, я крыху перакусіў і да вечара ўжо быў у Вільні. На гэты раз я спыніўся недалёка ад вакзалу ў цесным заежджым доме. Вечарам адзіночна пагуляў каля вакзалу, па бліжэйшых да яго вуліцах, абдумваючы—як-жа далей. Крыўда на Тройцу прасілася з нутра. Уражаньне ад Лябёдкі ляжала на сэрцы адстоямі няпрыемнага пачуцьця. Хацелася неадкладна зьявіцца ў рэдакцыю, першым чынам да Сьцяпана, і паскардзіцца яму на няўважлівае абыходжаньне са мною ў Лябёдцы. Да другога каго з рэдакцыйных працаўнікоў паказвацца не хацелася. Я адчуваў, што ім няпрыемна будзе за Тройцу і, магчыма, за тое, што яны мяне ўсваталі яму. Але я ведаў, што, будучы ў рэдакцыі, давядзецца ўбачыцца з усімі. Не патураючы на гэта, назаўтра раніцою я ня мог ісьці куды-небудзь, апроч як на Віленскую, 21.

Сьцяпан не чакаў майго раптоўнага прыходу і быў зьдзіўлены.—Вы не паехалі з Тройцаю?—запытаў ён. Я расказаў яму гісторыю з паездкаю. Сьцяпан выслухаў мяне ўважліва і шчыра паспагадаў мне. Мая крыўда была яму зразумелай. Вось чаму мы абое сышліся на тым, што мне вярней усяго трэба падшукаць месца на аднэй з гарбарняў. Якраз Сьцяпан меў знаёмых гарбароў і гэта не прадстаўляла цяжкасьці даведацца пра становішча з працаю.

Перад маім прыездам у Вільню была скончана гарбарская забастоўка. У ёй рабочыя асталіся пераможнымі і частка забастоўшчыкаў адплацілася звальненьнем з заводаў. Гэта падрывала ўпэўненасьць знайсьці працу, але не перашкодзіла яе шукаць. Рашэньне пайсьці на працу ў гарбарню накіравала мае думкі ў спакойнае ўлоньне. Я рабіўся незалежным ад выпадкаў, падобных да язды ў Лябёдку, нікога не ацяжаў клопатам шукаць мне працы. Сьцяпан браўся за гэта з пачуцьця таварыскасьці. На працягу гэтага дня мне ўсё-ж такі давялося расказаць пра здарэньне з Тройцаю—навошта сябры рэдакцыі рэагавалі неўразумлівымі ківуками галавы. Былі ўсе заспакоены, калі я перадаваў пра свой намер пайсьці на працу ў гарбарню.

Праз пару дзён, дзякуючы Сьцяпану, я ўжо залічыўся на завод Гецава і знайшоў сабе кут у кватэры аднаго рабочага на Лукішках.

Працуючы ў заводзе, я ў пяршыню спаткаўся з асабліва няпрыемным зьявішчам—гэта з трухамі, якія рабіліся тры разы ў дзень пры

выхадзе з заводу. У браме цябе пераймаў здаравенны, з чарствым тварам чалавек і коўзаў рукамі па грудзёх, з бакоў і ззаду. Памятаю тое абурэньне, у якім я знаходзіўся пры трухах. Памятую тую крыўду, якая таілася ў нутры рабочых і якой яны не маглі пакуль-што выліць напаверх. Трухі былі ўведзены пасьля забастоўкі, як гаспадарская рэпрэсія супроць рабочых. Сьціснуўшы зубы, пашлі на яе рабочыя-гарбары; пашлі яны і на павялічаны на гадзіну працоўны дзень. У той час іхняя забастоўка была заміраючым рэхам рабочага руху. Чорная рэакцыя спраўляла ўрачыстасьць па ўсіх абшарах прыдушанай жандарскім абсацам Расіі.

Пройгрыш забастоўкі быў зразумелым. Ад яе вынікаў залежаў і настрой рабочых. Гэты настрой быў прыдушаным. За працаю вяліся разуверныя гутаркі, абгаворваліся нямінучыя памылкі, правяралася памылковасьць тых ці іншых крокаў у забастоўцы. Аднак, надзеі на будучыню не пакідалі пераможных...

Пасьля працы я амаль ня кожны дзень заходзіў у рэдакцыю „Нашае Нівы“. Сустракаючыся, галоўным чынам, са Сьцяпанам, мы абгаворвалі пытаньні рабочага жыцьця, настрояў рабочых, іх матэрыяльнага становішча. Я распытваў, ці ёсьць сярод рабочых прыхільнікі беларускага руху, і даведаўся, што ёсьць. Многіх з іх Сьцяпан ведаў і зьбіраўся мяне з імі пазнаёміць. Хутка я меў некалькі знаёмых рабочых, якія былі ў курсе беларускага нацыянальнага пытаньня. Аднак, мне з імі мала даводзілася сустракацца...

Найбольш я праводзіў часу з прыехаўшым у Вільню супрацоўнікам „Нашае Нівы“, здольным пісьменьнікам і публіцыстым Сяргеем Палуянам. Зайшоўшы адзін раз у рэдакцыю, я ўгледзеў там сярэдняга росту маладога чалавека, якога дагэтуль ня бачыў. Худатвары, з доўгім носам, з глыбока ўпалымі вачмі, у пэнснэ, досыць сутулы, ён быў адзеты ў гарнітур шэра-бурачнага, нявыразнага колеру, з-пад якога выглядала чырвоная кашулька. На галаве ў яго быў буланы шырока-полы капялюш. Выгляд незнаёмага паказаўся мне сур‘ёзным—твар сымпатычным. У задуменным поглядзе варушыліся глыбокія думкі. — Пазнаёмцеся, Сяргей Палуян!—праказаў Сьцяпан. Я быў рады новаму знаёмству, бо ўжо пасьпеў чытаць Палуянавы допісы з Кіева. С. Палуян, як мне паказалася, быў задаволены стрэчаю са мною. Ад першага разу мы з ім блізка сышліся і кожны дзень хадзілі разам гуляць. Гуляючы, мы ўсебакова абгаворвалі становішча беларускага нацыянальна-соцыялістычнага руху, палажэньне „Нашае Нівы“ і політычны напрамак ды настрой сяброў рэдакцыйнай колегіі. Я расказаў С. Палуяну выпадак з паездкаю ў Лябёдку да В. Іваноўскага, ён адазваўся досыць крыўдліва на спатканьне яго ў рэдакцыі некаторымі яе сябрамі. Абоіх нас не здавальняў слабы радыкалізм кіраўнікоў газэты і інтэлігенцкая адмежаванасьць ад рабочых. Слабая сувязь апошніх з рэдакцыяй наводзіла мяне на сум і мы з С. Палуянам ня бачылі пад ёю моцнага грунту. Нявыразнасьць полі-

тычнага крэдо рэдактара газэты А. Уласава, бэлетрыстага і бліжэйшага супрацоўніка рэдакцыі Ядвігіна Ш. ды іншых, іх расплыўчатасьць у поглядах на соцыялістычны рух, на рабочае пытаньне выразна кідалася ў вочы і наводзіла нас на сумлівыя развагі, сеючы халадок у нашых з імі адносінах. С. Палуян, згодна яго словам, належаў у той час да украінскіх с.-д., быў досыць лева-настроеным чалавекам, дэмократам чыстае „душы". Дзякуючы гэтаму нас абоіх больш за ўсё цягнула да Антона Луцкевіча, у гутарках з якім мне ўдалося пераканацца, што ён сьвядомы марксысты. А. Луцкевіч сам казаў, што ён належыць да с.-д., не далучаючыся да ніводнае іх фракцыі. Аднак, у справе падзяленьня ім інтэрнацыянальнасьці рабочага руху і ў пытаньні падвядзеньня выразнай соцыяльнай базы пад беларуска-нацыянальны рух—мы разыходзіліся. У доказах і спрэчках А. Луцкевіч выглядаў у маім ваччу ня зусім вытрыманым соцыял-дэмократам, як мне тады паказвалася. Памятаю, калі мне з ім у будынку бібліотэкі Даніловіча, дзе, здаецца, А. Луцкевіч меў для сябе мізэрны прытулак, давялося заўзята і доўга спрачацца па пытаньню інтэрнацыяналізацыі і пролетарскасьці соцыял-дэмократычнага руху!.. Я адчуваў у А. Луцкевічу добра падгатаванага чалавека, але, урэшце, астаўся далёка неперaward жаным у дыскусіі з ім... З іншымі сябрамі рэдакцыі мне было зусім лёгка спрачацца і я многа разоў раскрываў іх недасканалую, па-мойму, соцыялістычную пляцформу. Цалкам здавальнялі мяне погляды С. Палуяна. Вось загэтым я з ім за кароткі час вельмі блізка зжыўся, узьлюбіў яго і шкадаваў расставацца. А расставацца ня толькі з С. Палуянам, а і з Вільняю мне прышлося неўзабаве.

На заводзе Гецава працаваць было нядрэнна, калі мець на воку здавальняючы заработак. Але ня ў гэтым я бачыў у той час сэнс свайго жыцьця. Немагчымасьць астацца працаваць пры рэдакцыі „Нашае Нівы", адсутнасьць у Вільні Купалы ці Коласа, некаторая холаднасьць у адносінах паміж паасобнымі сябрамі рэдакцыі, іх недастатковая клапатлівасьць наконт падшуканьня для мяне тае ці іншае працы—усё гэта аднавіла ва мне раней вынікаўшыя жаданьні вандраваць. Фактычна ўжо тады, калі я намерыўся ехаць у Вільню ў „Нашу Ніву", я меркаваў не абмяжоўвацца ёю, але аб'ехаць шэраг месц з гарбарскаю прамысловасьцю. Мяне вабіла думка як найшырэй вывучыць жыцьцё гарбара, навязаць з рабочымі сувязь, азнаёміцца з іх настроямі. Да гэтага прымешвалася нясьмелая развага наконт спробы пазнацца і з сьветам горкаўскіх герояў...

Пасьля дзесяці дзён працы на заводзе я зьвярнуўся за разьлікам. Палучка мне дала на паездку зусім нязначную суму, рублёў тры з паловай. Вось чаму, калі я папрасіў ад майстра цэху ліст у Смаргонь, то ён, апроч ліста, сабраў мне на дарогу яшчэ тры рублі. З гэтымі грашыма, разьвітаўшыся з усімі знаёмымі, я выехаў у Смаргонь.

Даючы ліст да смаргонскіх таварышоў, майстар зазначыў, што ў Смаргоне слабавата праца і шмат гарбароў застаецца беспрацоўнымі—так што астацца мне там працаваць наўрад ці давядзецца. Я і сам лічыўся

з гэтым, тым ня меней не пабыць у гэтым асяродку гарбарскай прамысловасьці я ня мог. Смаргонь быў мне даўно знаёмы і з газэт і, асабліва, з расказаў маіх таварышоў, якім даводзілася там працаваць. Рэволюцыйнасьць смаргонскіх гарбароў была мне добра вядома таксама. Яшчэ сядзелі ў памяці смаргонскія забастоўкі і дэмонстрацыі 1905 і 1906 гадоў. Як-жа абмінуць выпадак наведаць яго?

Падарож у Смаргонь компэнсавала няпрыемнасьць пачуцьця, зьвязаную з пакіданьнем Вільні. З павышаным настроем ехаў я ў горад. Знаёмы пах дзёгцю і скуры пачуўся ўжо каля самае станцыі; адтуль-жа ўгледзеў я і шмат фабрычных комінаў, з якіх валіў дым. Насыпаныя кучы мяздры ўсьцяж дарогі яскрава сьведчылі пра размах гарбарскае прамысловасьці ў гэтым заштатным гарадку. Лік рабочых звыш двух тысяч чалавек быў мне вядомы раней.

Мой заезд у Смаргонь выпаў на сонечны цёплы суботні дзень. На галоўнай вуліцы гарадка было поўна людзей. Стаяў гоман і сьмех. Рамізьнік прывёз мяне ў якісьці заежджы дом. Заняўшы адведзеную мне цясьнюткую каморку, я паставіў сваю карзінку, крыху прывёў сябе ў парадак і намерыўся несьці па адрасу ліст, які далі мне ў Вільні. І вось, не пасьпеў я замкнуць сваёй каморкі, як у дом увайшло пару гарадавікоў. Яны тут-жа спынілі мяне і патрабавалі дакумант. Паказаны пашпарт іх не задаволіў: гарадавікі пачалі распытваць—адкуль і чаго я прыехаў у Смаргонь.—Я рабочы-гарбар і заехаў знайсьці працу,—адказаў я. Гарадавікі яшчэ раз падазрона паглядзелі на мяне і не паверылі маім словам. Доўга не чакаючы, яны прыняліся мяне абшукваць. Старанна і акуратна абмацалі яны ўсе мае кішэні, padаставалі з іх усё, што толькі магло ў іх быць. Я, прызнацца, баяўся, што яны абмацаюць і ліст, адрасаваны вядомаму ў Смаргоні соц.-дэм. рабочаму Міцкевічу. У лісьце, што я вёз з Вільні ў Смаргонь, давалася мне характарыстыка, як стойкаму с.-д., якому можна цалкам давяраць, якога трэба падтрымаць і, у сваю чаргу, якому трэба даць ліст у Менск. Гэты ліст ляжаў у мяне пад падбіўкаю ў жукетцы, дзякуючы чаму яго не ўдалося абмацаць. Гэта мяне заспакоіла, і я сьмялей адказаў гарадавікам, калі яны прыняліся за агляд мае карзінкі. У апошняй былі зложаны тыя ці іншыя манаткі—дзьве пары бялізны, летні гарнітурчык—і разам комплекты „Нашае Нівы“ ды некалькі расійскіх кніжак. Гарадавікі зацікавіліся больш за ўсё „Нашай Нівай“. Расклаўшы на ложку зьмешчанае ў карзінцы, яны старанна разглядалі газэту, прабуючы чытаць яе. Іх дубовыя языкі запляталіся ў складох беларускага правапісу, і тупаватыя гарадавікі шырока вылупленымі вачмі, як казлы на ваду, узіраліся ў „Нашу Ніву“.—Што гэта ў цябе за газэты?—абярнуўся да мяне адзін з гарадавікоў.—Гэта беларуская газэта „Наша Ніва,—адказаў я.—„Ну, проста ні слова не зразумець“,—прызнаўся ён.

На прыведзенай гутарцы скончыўся трух, і гарадавікі пакінулі мяне. Калі я вышаў на вуліцу, то каля заежджага дому таўпілася шмат людзей.

Усе яны глядзелі на мяне, як на нейкую знатнасьць. Я пасьпешна накіраваў да т. Міцкевіча, на акрайну гораду...

Распытаўшы яго хату і зайшоўшы ў яе, я стрэў яго ў сенцах і перадаў яму ліст. Міцкевіч прачытаў, зазваў мяне да сябе і пачаставаў сьнеданьнем. Я расказаў яму пра трух мяне гарадавікамі, на што пачуў заўвагу, што мне ня варта было спыняцца ў заежджым доме, а трэба было ехаць проста да яго. „Каб я гэта ведаў!“ прызнаўся я.—Зразумела, вы ня ведалі гэтага, а ў Смаргоні падобныя выпадкі трапляюцца вельмі часта. Далей мы разгаварыліся з ім пра стан работы ў Смаргоні, пра настрой смаргонскіх рабочых, пра іх заработкі, адносіны да соцыялістычнага руху. Міцкевіч быў у курсе смаргонскага жыцьця і да дробязі разказаў мне пра яго. Нельга сказаць, каб я вынес здавальняючае ўражаньне ад яго паведамленьня. Беспрацоўе, якое да канца 1909 году ахапіла вялікую колькасьць смаргонскіх гарбароў, дапамагала панаваўшай рэакцыі адмоўным чынам уплываць на настроі рабочых. З нядаўна магутных с.-д. і бундаўскай організацыі да гэтага часу заставаліся адзінкавыя іх сябры. Праца вялася сярод рабочых досыць слаба. Рабочыя знаходзілі выхад сваім настроям у пашыраным п'янстве; біржа далёка ня мела ранейшага значэньня...

Міцкевіч быў сьвядомым рабочым с.-д.; як і іншыя, у час майго прыезду ён быў беспрацоўным. Каля году перад гэтым ён вярнуўся з Амэрыкі, адкуль прывёз значны ўплыў амэрыканскай культуры. У яго кватэры можна было бачыць пару этажэрак, запоўненых кніжкамі, на стале ляжала некалькі газэт, якія Міцкевіч выпісваў, стаяў прывезены з Амэрыкі грамафон. Знаёмы ён быў і з беларускім рухам, з „Нашай Нівай“ пра вошта ў нас знайшлося багата гутаркі. Мне асабліва было прыемна пазнацца з гэткім сьвядомым і культурным чалавекам, якім быў Міцкевіч... У адзнаку нашага знаёмства ён падараваў мне сваю портрэтку з цёплымі словамі надпісу...

Каля абеду Міцкевіч завёў мяне да свайго знаёмага, рабочага-фальцара. Разам утрох мы абышлі некалькі буйнейшых гарбарняў. З прычыны суботы і недахопу работы, у гарбарнях працавалі лічаныя людзі. Я зразумела, і ня думаў пра магчымасьць астацца ў Смаргоні працаваць, хоць мне гэтага хацелася. Сяброўскія, цёплыя адносіны да мяне з боку новых знаёмых падбівалі ахвоту пажыць нейкі час у гэтым асяродку гарбарскае прамысловасьці...

Але, як ня крыўда, гэтым-жа днём я стаў гатавацца да ад'езду. У час, калі я пашоў на абед да Міцкевіча, другі таварыш пасьпеў арганізаваць збор грошай мне на дарогу да Менску. Перад вечарам ведамы былі вынікі збору, якія далі нешта каля сямі рублёў. Гэтыя грошы разам з лістом да рабочага Палтаржыцкага ў Менску, былі перададзены мне. Пры гэтым цэлая кампанія рабочых завяла мяне ў кавярню, дзе была наладжана маленькая вячэра.

Разьвітаўшыся з новымі знаёмымі, я а восьмай гадзіне ўвечары пакінуў Смаргонь. Чакаючы на станцыі цягніка на Менск, я раптам заўважыў нейкую трывогу. Станцыённае начальства бегла з памяшканьня на пэрон, а за ім пасажыры. Разам з іншымі выбег і я. Якраз насустрач несьлі зарэзанага цягнікам маладога чалавека Ён яшчэ жыў і неміласэрна крычаў ад болю. Струмень крыві, што цёк з адрэзаных ног, праводзіў чырвоную дарожку ад месца няшчасьця да будынку станцыі. На станцыі няшчаснаму надзелі бінты, каб спыніць кроў, але ў яго твары бачыліся сьляды блізкае сьмерці. Я быў моцна крануты, калі па дакумантах даведаліся, што гэта рабочы-гарбар, пашоўшы на станцыю, каб правесьці мяне. Якім чынам ён папаў пад цягнік—так і не ўдалося даведацца. Хутка яго аднесьлі ў станцыённы больнічны пункт. Я тут-жа, на станцыі, прысеў за стол і да прыходу цягніка напісаў сваю першую корэспондэнцыю ў „Нашу Ніву“ з дарогі. Корэспондэнцыя пісалася пад моцным уражаньнем бачанага няшчасьця і вышла кароткай ды няроўнай.

Гадзіне а восьмай увечары я выехаў у Менск. Два гады перад гэтым, у 1907 годзе, я праяжджаў праз яго, вынесшы цёмнае, нявыразнае ўражаньне пра свой губэрскі горад. На гэты раз я ехаў у Менск, спадзяючыся ў ім на нейкі час астацца жыць. Як і што гэта выйдзе, цяжка было раней уявіць сабе, але знаходжаньне ў Менску Ўл. Галубка, з якім я перапісваўся, Ал. Паўловіча і, хоць у вастрозе, Якуба Коласа—востра інтрыгавала мяне.

З лістоў У. Галубка я пазнаваў у ім сяброўскага чалавека, адзыўнага таварыша. Жартаўлівыя вершы Ал. Паўловіча таксама абуджалі ва мне цікавасьць да іх аўтара. Але, галоўным чынам, мае думкі концэнтраваліся на Якубе Коласе. Праз усю дарогу да Менску я абдумваў плян, як-бы мне з ім спаткацца, паглядзець на яго і перадаць яму прывітаньне з „Нашае Нівы“. У маім ваччу пясьняр выступаў барацьбітом-рэволюцыянэрам, які адбываў кару за працу ў нацыянальна-соцыялістычным руху. Яго вобраз зьліваўся з вобразам любага мною расійскага поэты-барацьбіта, П. Я. (Я. Мельшына). Магчымасьць угледзецца з Якубам Коласам надавала мэты маёй паездцы ў Менск. Я не задаваўся пытаньнем, што будзе далей—ці мне лепей накіравацць дамоў, у Капыль, ці працягнуць вандраваньне далей—усё пакладаў на тое ўражаньне, якое атрымаецца ад наведваньня Менску.

Каля адзінаццатай гадзіны ўвечары я сышоў на вакзал і прайшоў у мала знаёмы мне горад. Прывакзальны пляц многа ўступаў такому-ж у Вільні, аднак, гарадзкое жыцьцё, судзячы па руху на ім, мела значны размах. Яно, як і ў Вільні, разам захапіла мяне сваім шумам і блескам, робячы моцнае ўражаньне. Мяне цягнула ў цэнтр, куды беглі буйныя ліхтарні па Віленскай вуліцы, куды несьліся рамізьнікі, накіроўваліся пешаходы. Але рызыкаваць заблудзіць ці трапіць у дарагі готэль—я не захацеў, і спыніўся ў прывакзальных нумарох, памятаецца, у маленькім драўляным будынку на другім паверсе. Цесны, з малым вакенцам у двор, пакоік

дыхнуў на мяне сьпёртым паветрам і беднасьцю абсталяваньня—усё-ж я са здавальненьнем улёгся на мяккую пасьцель і соладка заснуў з дарогі.

Назаўтра, у нядзелю, выпіўшы шклянку гарбаты, я першым чынам накіраваўся да вастрогу. Каля яго брамы стаяла шмат людзей, якія чакалі моманту пуску на ўбачаньне з арыштаванамі. Ахоплены моцным хваляваньнем, я чакаў, калі наглядач адчыніць вароты і ўпусьціць у кантору. Як мне сказаць пра Коласа? Ці выйдзе што з мае спробы дамагчыся з ім угледзецца? А ўгледзеўшыся, што мне гаварыць у прысутнасьці нагледача? Пакуль я абдумваў гэта—наглядач адчыніў вароты і ўпусьціў у цесны змрочны куток надвароткі, якая тоіць у сабе шмат крывавых сьлядоў з часу царскага ладу. Тры гады перад тым на аблезлым скляпеньні тае падваротні быў павешаны Пуліхаў. Было няпрыемна знаходзіцца ў абоймах тоўстых мураваных сьцен і жалезных варот. Маё адчуваньне ніколькі не палепшылася, калі я ўвайшоў з іншымі ў цесную бакоўку, направа ад уваходу ў падваротню. Адгароджаны здаравеннымі парэнчамі куток для наведвачаў дапамінаў каменны мяшок, з якога пры малейшым капрызе нагледача цяжка было выбрацца. За парэнчамі над маленькім столікам сядзеў якійсьці тып і перагортаў сьпіскі арыштаваных. Наглядач распытваў кожнага пра свае адносіны да арыштаванага, з якім той хацеў убачыцца. Калі чарга дайшла да мяне, наглядач сурова агледзеў мяне і суха запытаў: „А табе да каго?—Мне да Кастуся Міхайлавага Міцкевіча“.—Яго тут няма.—А дзе ён?—Ён пераведзены ў жаночы астрог.—Дзе-ж той астрог?—Каля Брэскага вакзалу.—А каго мне прасіць дазволу з ім убачыцца?—Гэта трэба зьвярнуцца да начальніка вастрогу“. Я запытаў, дзе ён жыве, і хутка паімчаўся ў суседні вастрог—чырвоны двухпавярховы домік па Сярпухоўскай. Уеякую боязьнь і нязёмкасьць я занядбаў і сьмела ўвайшоў у канцылярыю начальніка вастрогу—Вам каго?—сустрэў мяне малады чалавек.—Мне начальніка вастрогу.—Яго няма ў Менску, ён выехаў у Рэчыцу.—А да каго мне зьвярнуцца з просьбаю, каб мець дазвол угледзецца з арыштаваным у жаночым вастрозе.—Гэта можа вам дазволіць памочнік начальніка вастрогу, але яго таксама цяпер няма на кватэры, ён павінен зараз прыйсьці. Усё-ж, каб не спазьніцца, вы ідзеце да вастрогу і папрасеце старшага нагледача, магчыма ён вас пусьціць. З гэтаю дарадаю, распытваючы на кожным кроку, я паімчаўся да жаночага вастрогу. З Сярпухоўскай да Брэскага вакзалу кусок здаровы, а ў гарачую пагоду, якая ў той дзень стаяла, было бегчы ня вельмы лёгка. Многія ня ведалі месца вастрогу і я блудзіў, падаўжаючы дарогу, ды нэрваваўся, каб не спазьніцца да дванаццатай гадзіны.

Я ня мог адсапціся, абліваўся потам, калі, нарэшце, прыбег да высокае агарожы вастрогу. Яшчэ стаяла пры дзьверцах трое-чацьвёра людзей і я суцешыўся таму, што не спазьніўся. Зусім неўзабаве здаравенны, паколькі памятаецца, блёндыністы наглядач ушчыніў дзьверцы і паглядзеў на мяне. Я першым зьвярнуўся да яго з запытаньнем:

— Ці нястожна ўгледзецца з Кастусём Міцкевічам, які тут сядзіць?
— А ты хто будзеш?—сувора кінуў цэрбер.
— Я яго стрэчны брат, з Мікалаеўшчыны.
Мне ня прышло тады ў галаву, што наглядач мог патрабаваць дакуманты і выкрыць маю хлусьню. Каб разбавіць сухасьць свайго адказу, я прыняў упрошную міну і пачаў хлусіць далей:
— Я буду прасіць вас дазволіць мне ўбачаньне, бо я па дарозе ў Маскву і болей наўрад ці здолею яго ўгледзець.
Ці мой непрэзэнтабельны выгляд адзетага ў старую жакетку хлапчука, ці нагледачова даверлівасьць маім словам, ці, нарэшце, парадкі ня так ужо строгія было таму віною,—але я хутка ачуўся на прасторным дзядзінцы вастрогу. Наглядач ішоў паперадзе, а я за ім напрасьцец у дзьверы невялікага двухпавярховага будынку вастрогу. Мною валодала пачуцьцё нейкай асабліва пікантнай радасьці, перамешанай з пачуцьцём чаканьня сустрэцца з шанаваным мною, але нябачаным ніколі ў жыцьці пісьменьнікам. Надзвычай прыгожы дзень падвострываў мой урачысты настрой.
— Пастой, вось гэта,—паказаў мне наглядач, калі мы пераступілі парог астрогу. І я прытуліўся да мураванага вушака і пільна сачыў уверх па сходах, куды накіраваў наглядач з ключамі. Ціша, якая панавала ў той момант у будынку вастрогу, выразна выяўляла зычны дзвэнг ключоў, няпрыемна ўплываўшы на вуха,—то няглядач адпіраў камэру.
Праз некалькі хвілін, досыць расьцягнутых у маім адчуваньні, на сходах паказаўся нявысокага росту, лысаваты, з доўгаю барадою, з мілым інтэлігенцкім тварам, вельмі блядым у абойме чорнае расьліннасьці, чалавек. То быў—Якуб Колас. За ім сьледам, пільна пазіраючы на дзьверы, ступаў наглядач. На Коласе была адзета доўгая бела-жоўтаватая, вышытая на каўняры, на падоле і рукавах кашулька і чорныя порткі навыпуск. Кашулька была перацягнута паясом, ні-то беларускім, ні-то па модзе, крамным, вітым у вяроўку.
Падышоўшы да мяне, Я. Колас працягнуў мне руку і зьдзівавана агледзеў мяне з ног да галавы, упяршыню са мною стрэўшыся. Каб не марнаваць часу, хаця мне хацелася яго разглядаць як найдаўжэй, я сказаў адкуль і хто я і перадаў уклон ад рэдакцыі „Нашае Нівы“. Пасьля гэтага Коласаў твар зьмяніўся—на ім прабегла ўдзячная яму ціхая ўхмылка. Ён запытаў у мяне, што чуваць у „Нашай Ніве“, куды я накіроўваюся, і з увагаю выслухаў маё паведамленьне. Як і заўсёды ў падобных выпадках, не знаходзіцца дастаткова слоў для гутаркі, хаця гутарыць хацеў-бы бясконца, прысутнасьць нагледача яшчэ болей зьвязвала мой язык і, памятаецца мне, далёка ня цалкам удалося выкарыстаць даны час для гутаркі з Я. Коласам. Аднак, гэта ўпушчэньне цалкам запоўнілася тым глыбокім і прыемным для мяне адчуваньнем, якое даў мне самы факт сустрэчы з поэтаю ў сваясаблівых умовах.
Пад уражаньнем гэтае стрэчы я знаходзіўся вельмі і вельмі доўга; усе дэталі да яе падгатоўкі, гутаркі і настрой, выгляд вастрогу і той

вобраз Якуба Коласа і дагэтуль ня згладзіліся з мае памяці. Той дзень, у які адбылося наведваньне яго ў вастрозе, сапраўды быў для мяне днём асаблівым, калі я абсолютна забыў пра вострыя клопаты свайго стану, цалкам жывучы пад уражаньем значнага ў маім жыцьці здарэньня.

Пасьля абеду, гэтага-ж дня, калі я пашоў да Ў. Галубка, першым, што я яму сказаў, гэта была мая пахвальба пра наведваньне Я. Коласа. У. Галубок, стрэўшы мяне вельмі гасьцінна, выказаў зьдзіўленьне маім спрытам і дагадлівасьці пабыць у нашага паважанага вязьня і паабяцаў гэта зрабіць ад сябе. Ён цікавіўся настроем Я. Коласа, маёю з ім гутаркаю, уражаньнем Я. Коласа ад спатканьня са мною. Мы доўга абгаварвалі значэньне Я. Коласа ў літаратуры, яго творчасьць і найболей лёс, загнаўшы поэту ў трохгадовую крэпасьць.

Шчырасьць Галубковай спагады падкупала мяне. Ды ня толькі гэта яго якасьць кінулася мне ўвочы. Я ў У. Галубка стрэў вясёлага дружаку і чалавека, які, раз палюбіўшы таварыша, ужо ня зьменіць яму. Наша з ім сяброўства завязалася, як я казаў, яшчэ да спатканьня з ім пісьмова. Стрэча з першага моманту яе аформіла і ўмацавала. Я адчуваў сябе, мэрам-бы многа гадоў ужо бачыўся з У. Галубком, дружыў і толькі на нейкі час быў расстаўшыся... Як ён, гэтак і яго ў той час невялікая сям'я—жонка і старшая дачка Багуся, аказаліся дужа прыемнымі і сымпатычнымі людзьмі. Адпаведна таму ўражаньню, якое пакінула на мяне сем'я Ў. Галубка, зрабілі абставіны дамашняга яго жыцьця. Цесная ў дравяным будынку кватэра Ў. Галубка, з чатырох невялічкіх пакояў, станавіла сабою культурны куток. Сьцены вакол былі ўвешаны малюнкамі, на сталох і этажэрках ляжала шмат кніг. На відным месцы панам адпачываў галубкоўскі гармонік. Усё гэта мне імпанавала і будзіла зайздрасьць—я ў той час знаходзіўся ў процілежным стане вандроўніка, якому наступнае суліла многа горкіх хвілін. Таксама, як я ўжо дапамінаў, мною ў той час валодалі часткаю настроі горкаўскіх герояў—доўгае беспрацоўе і цяжкія матэрыяльныя ўмовы падбівалі на пэсымізм. У кампаніі з жыцьцярадым, жартаўлівым і вясёлым У. Галубком усё гэта зьнікала. Я разглядаў малюнкі, перагортваў кніжкі і нясупынна выслухоўваў апавяданьні і жарты Ў. Галубка. Мяне яшчэ болей зьдзівіла, калі ён паведаміў мяне, што ўсе бачаныя малюнкі напісаны яго рукою. Выявілася, што Ў. Галубок мае здольнасьць да маляваньня гэтак сама, як і да пісаньня. Я з першых часоў свайго сьвядомага жыцьця даражыў здольнасьцю чалавека ў тых ці іншых галінах мастацтва і літаратуры. Памятаю, калі ў 1905 годзе пазьнейшы мой таварыш Д. Бляўчыцкі намаляваў для капыльскіх крам некалькі ўдалых шыльдаў, я з вялікаю павагаю аднёсься да працы гэтага самародка. У ім знаходзіліся буйныя задаткі мастацкай здольнасьці, але цяжкія ўмовы жыцьця іх зацёрлі, ня даўшы ім належна разьвіцца. У. Галубок знаходзіўся ў падобных умовах, і дбаньне пра сям'ю наварочвала яго энэргію ў бок будзённых службовых інтарэсаў. Бедныя бацькі знайшлі вярнейшым пусьціць сына па кан-

торскай лініі, ніж падбаць пра выхаваньне і разьвіцьцё яго адродных здольнасьцяй. Гэтыя здольнасьці знаходзілі сабе выйсьці ўрыўкамі, якія часта меліся ў няўтомнага У. Галубка. Прынамсі, мяне моцна зацікавіў гэты бок галубкоўскай творчасьці і я пра сябе пашкадаваў, што Галубок глядзіць на гэта недастаткова сур'ёзна. Дзякуючы сваёй скромнасьці, ён махаў рукою і на сваю досыць выразную літаратурную здольнасьць. Аднак, гэта не паперашкодзіла яму пахваліцца мне шэрагамі яшчэ не надрукаваных яго мініатур-апавяданьняў. Як і ў надрукаваных, у іх бурліў здаровы галубкоўскі сьмех, вельмі падкупаўшы мяне сваёю натуральнасьцю. Усё-б было можна, але шкода, што мала часу,—скардзіўся У. Галубок. І сьледам забываў гэта, не жадаючы засмучаць настрою. Ды сумлівасьць ад яго сама адскоквала, як гарох ад сьцяны. З галубкоўскага твару, як і цяпер, ні на хвіліну ня сходзіла рэзвая, добрадушная ўхмылка. Яму ўсё выглядала ў ружовых фарбах.

Гэты свой настрой Галубок уводзіў у культ дамашняга жыцьця. Гэта вельмі выразна адзначылася шмат пазьней, калі ў часы, калі ён, аддаўшыся тэатральнай справе, самаахвярна з усёй сям'ёю цярпеў вострыя недастачы, а ўспамінаў пра іх з ухмылкаю на твары. У першую нашу стрэчу гэта ўхмылка насіла адбітак моладасьці і бадзёрасьці. Я ясна прадстаўляю, як пасьля доўгіх гутарак у яго на кватэры пры адчыненым у садок вакне У. Галубок хутка схапіўся з месца, дастаў свой гармонік і зайграў бойкі танец. Пры гэтым ён гукнуў дачушчы, каб яна паскакала, і пяці-шасьцігадовая дзяўчынка пусьцілася ў віхрастыя скокі. У. Галубок іграў, рагатаў і цешыўся, а жонка, тупаючы між нас, з іранічнай ухмылкаю, але са спакойным настроем, паглядала то на нас з Галубком, то на дачку.

Пасьля гэтага Галубок павёў мяне паказваць горад. Ужо вышаўшы з двара, ён прыняўся мне расказваць пра вуліцы і будынкі, не прапускаючы нічога больш-менш заслугоўваючага ўвагі. Мая вострая цікавасьць да ўсяго знаходзіла поўнае тлумачэньне ад Галубка. Гэтак мы ў гутарцы прайшлі з-за мосту Брэскае чыгункі да быўшага Кальварыйскага пляцу. Адтуль мяне Галубок павёў да Альбэрта Паўловіча. Гэта было перад абедам.

А. Паўловіч стрэў нас у чысьценькім прыбраным двары свае кватэры, у якім ён жыве і цяпер. Мы ўтрох зайшлі ў кватэру. Падзеленая на чатыры невялічкія пакоікі, яна выглядала вельмі прытульнай, дасьціпна абсталяванай і прыбранай. Нас сустрэла Пауловічава жонка і старшая дачка Ўлада. Дачка была невялікай дзяўчынкай, вучаніцай першых клясаў гімназіі. На выгляд яна была мілай і прыгожай. Але ні з жонкаю, ні з дачкою доўга гаварыць ня прышлося, бо Альбэрт Паўловіч хутчэй пацягнуў нас у свой малюпаценькі габінэцік. Там, пасадзіўшы нас каля стала, сам ён сеў за стол, выняў з шуфляды вялікую бухгальтарскую кніжку і стаў чытаць свае творы. Ён прачытаў наперад цэлы шэраг удзячных яго жанру гумарыстычных вершаў. Кожны з іх абсьмейваў

самабытную хітрасьць беларускага мужыка, з якою, аднак, мужык часта аставаўся абсьмееным хітрэйшымі за яго. Жарты з мужыцкай некультурнасьці, хоць і ў большасьці яны і насілі нявінны характар, мала мне падабаліся. Выкліканы на момант сьмех зацягаўся сумам.

Сур'ёзьней глядзеў я на лірычныя творы пісьменьніка. Прачытаны ім верш „Бусел" прышоўся мне па настрою і глыбока ўскалыхнуў маё пачуцьцё. Пасьля гэтага чытаньня ва мне абудзілася пашана да здольнасьці А. Паўловіча, куды мацнейшая ад таго, якую я захоўваў раней у сабе. Тут-жа я паспагадаў яму, што столькі добрых твораў даводзіцца марнаваць ненадрукаванымі і чытаць іх з напісанага знаёмым. Альбэрт Паўловіч зрабіў на твары крыўдліва характарную яму міну і адказаў: „Нічога не парадзіш—беларусы ня маюць магчымасьці друкаваць усё тое, што напісана іх пісьменьнікамі". Яго сказ раптам вярнуў мяне да тых умоў, з якімі я спаткаўся ў рэдакцыі „Нашай Нівы". Мне балюча зрабілася на сэрцы і дымок безнадзейнасьці затуліў на момант прагляды ў будучае. Бач, справа з беларускім друкам, з усім беларускім рухам дапамінала мне крохную шкляную пасудзіну, якая ад слабенькага штуршка магла разьбіцца. Сапраўды гэта выглядала іскрай, якую фанатычна і ўпарта разьдзьмухала ў асяродзішчы цёмнай глухой ночы крупка самаахвярных людзей. Даводзіцца моцна дзівіцца, аглядаючыся назад, з якою цудоўнаю сілаю адбываліся разгортваньне і рост беларускага культурнага адраджэньня, праз гэткі кароткі час дайшоўшага да савецкае дзяржаўнасьці. Толькі яго поўная суладнасьць з рэвалюцыйным рухам, які раскалыхваў сілу ды размах беларускіх працоўных гушчаў, можа вытлумачыць гэта. У 1909 годзе чакаць чаго падобнага, значыла быць занадта сьмелым марнікам.

Дваццаць гадоў—тэрмін, пра які ні разу не ўспаміналася, хаця, зразумела, жаданьне скарочвала і яго, але то было наўпрэкі сапраўднаму стану рэчаў.

Седзячы ў габінэціку А. Паўловіча, мы абгаворвалі бягучыя падзеі з беларускага літаратурнага жыцьця. Ён пільна сачыў за яго разьвіцьцём. памятаючы і цікавячыся кожным вершам, кожным артыкулам і нават допісамі. Мой дзесятак вершаў, што друкаваўся на працягу году ў „Нашай Ніве", быў яму знаёмы ўвесь, чаму А. Паўловіч мяне ведаў да спатканьня з ім.

Вось чаму наша гутарка была адкрытай. У ёй мы кранулі ўсіх поэтаў і пісьменьнікаў, якія друкаваліся ў „Нашай Ніве", аддаўшы асноўную ўвагу, зразумела, Янку Купале ды Якубу Коласу. Пра спатканьне з апошнім я пахваліўся і А. Паўловічу. Ен з цікавасьцю распытаў пра Коласаў настрой, выгляд, здароўе і выказаў спагаду да яго лёсу.

Адцягаючыся ў гутарцы на розныя іншыя пытаньні дня, мы раз-ад-разу вярталіся да жыцьця і творчасьці гаспадара кватэры. Ён не хаваў пакуль кніжкі з перапісанымі ў ёй сваімі творамі і для markup розанастайнасьці нашае гутаркі прачытваў то адзін, то другі верш. Таксама А. Паўловіч

пахваліўся мне багатаю колекцыяй старажытных монэт, чым пісьменьнік у той час цікавіўся. Па аналёгіі з У. Галубком, выявілася тут-жа, што Альбэрт Паўловіч займаецца і маляваньнем. Хутка мы пачалі разглядаць альбомы яго малюнкаў, якія мелі свой працяг у эскізах ляндшафтаў і ў зарысоўках портрэтаў, што ўбіралі сьцены. Мая зацікаўленасьць гэтым бокам творчасьці А. Паўловіча ільсьціла яму і яшчэ больш падбаўляла рэзвасьці і гумору поэтавай гутарцы.

З матэрыяльнага боку ў той час А. Паўловіч жыў нядрэнна. Ён служыў бухгальтарам у кіраўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі, атрымліваючы ў месяц да 150 рублёў. У. Галубок, зарабляўшы ўсяго 35 руб., знаходзіўся ў шмат горшых умовах. Гэта відаць было па ўсяму.

А. Паўловіч запрасіў у той-жа дзень нас з У. Галубком на абед. На абедзе, апрача нас, быў яшчэ знаёмы А. Паўловіча, якійсьці Іофэ. Апошні залічаў сябе ў соцыял-дэмократы і зьяўляўся прыхільнікам беларускага нацыянальна-культурнага руху. З гутаркі можна было высесьці, што Іофэ—сапраўды чалавек выразнай марксыцкай школы, добра начытаны і сьвядомы ў гісторыі соцыялістычнага руху. Тагачаснае палітычнае становішча ў Расіі зьявілася багатай тэмай для нашае доўгае і цікавае гутаркі. Праз яе мы зацягнулі час абеду, які набыў для мяне сваю асаблівую гісторыю. Гэта быў першы мой абед ва ўмовах гарадзкога этыкету. І вось, калі я ўсеўся за стол з растаўленымі на ім талеркамі, салфэткамі і блішчастымі відэльцамі і нажамі—я загубіўся, ня ведаючы, што рабіць з нябачнаю ніколі колькасьцю прылад. Да гэтага я меў справу з простымі сялянскімі ўмовамі: голым або прыкрытым цыратаю сталом, на якім ляжалі драўляныя лыжкі, кожнаму сем'яніну па аднэй, адзін нож для бохана хлеба і адна агульная міска са стравою. А гэта... я пільна сачыў за У. Галубком, што ён будзе рабіць, і стараўся самому ісьці за яго прыкладам. Аднак, мне гэта не ўдавалася: у Галубка відэльцы спрытна пераскакалі з рук у рукі, талерка непарушна стаяла на другой, нож і салфэтка мелі сваё прызначэньне. Для мяне, здавалася, шмат чаго было лішнім. Маленькі кусочак стала, які прызначаўся ў маё распараджэньне, быў заграмаджаны цалкам. Трэба было шукаць, дзе палажыць хлеб, лыжку. Нож стукаў па талерцы, відэльцы—па нажы. Гэта выклікала гаспадыніну ўвагу, якая далёка мне не памагала, а яшчэ больш нэрвавала. У скутку ўсяго—я абед перамучыўся і далёка не дасягнуў пастаўленай ім мэты... Але маўчаў, каб праз нейкі час успамінаць, як пра казус...

Абедам у А. Паўловіча быў скончаны першы дзень майго прабываньня ў Менску. Ад Паўловіча я пашоў да сябе, каб назаўтра раніцою аднесьці ліст да Паўтаржыцкага, на завод Сальмана. Ад сьвяточнага, уздымнага настрою, які ва мне паднялі спатканьні з Якубам Коласам, У. Галубком і А. Паўловічам, трэ' было акунацца ў будзёныя клопаты—адшуканьня працы. Аднак, Менск мне паказаўся болей гасьцінным, ніж Вільня, і я не хацеў яго хутка пакідаць. Ідучы да Паўтаржыцкага, я ня

быў упэўнены, што ў Менску дастану працу. За гэтым для мяне .было, нёспадзяваным, калі Паўтаржыцкі, прачытаўшы ліст, паслаў мяне на невялічкую гарбарню на Камароўку да свайго знаёмага Аляксандра. Доўга не чакаючы, я адшукаў і майстэрню, і майстра і тым-жа днём дагаварыўся з ім, каб назаўтра прыйсьці працаваць.

Яшчэ к вечару гэтага дня я перавёз сваю знатную карзінку з заеджага дому пры Віленскім вакзале на кватэру майстра. Бачыце, наша ўмова на працу заключала ў сабе і ўмову на кватараваньне ды харчаваньне ў майстра. Гэта паводзілася тады ўсюды, дзе мне не выпадала быць. Гаспадар майстэрні, ці то майстар, калі майстэрню трымаў сам гандляр шкурамі, спосабам прыняцьця рабочых да сябе на кватэру і харчаваньне іх, папаўняў свой бюджэт. Мой новы менскі гаспадар адвёў мне ў сваёй малюпаткай кватэрцы мініатурны пакоік бяз жаднай мэблі, калі ня лічыць аднаго зломанага крэсла. Свае неадлучныя прылады да пісаньня, прадметы „туалеты“ і кніжкі я злажыў на вакне, якое выходзіла ў цесны двор, а карзінкаю ўзбагаціў абсталяваньне пакою. Гаспадыня, дужа сымпатычная на выгляд, сустрэла мяне бяз жаднае ўвагі, нібы то быў надакучыўшы ёй сем'янін.

Даўшы мне маленькую лямпачку, яна да поўначы не сьпяшалася мне паслаць. Ужо вочы забалелі ад чытаньня, калі яна ўнесла сяньнік і разлажыла мне посьцель на падлозе. Першая сутычка з падобнымі адносінамі папсавала мой настрой.

Далей ня было нічога гэткага, ад чаго-б ён мог падняцца. Наадварот, і абставіны працы, і адносіны да рабочых з боку майстра Аляксандра, і кватэрна-харчавальныя ўмовы—усё зьлівалася ў адну мэрам-бы сьвядома наладжаную сыстэму зьдзеку над асобаю. Але горай усяго, што той дзесятак маіх таварышоў-рабочых, якія працавалі ў надзвычай цеснай, цёмнай і бруднай майстэрні, на гэту сыстэму глядзелі скрозь пальцаў. Усе на падбор яны былі людзьмі несьвядомымі, малапісьменнымі, распуснымі. Зьмест іх гутарак ня выходзіў з вузкага кола абгавору плянаў выпівак і залётаў за дзяўчатамі. Здарэньні, якія вынікалі з гэтага, смакаваліся імі, выклікалі рогат, задаволеньне і рашучасьць на працяг іх у далейшым. Мяне дзівіла, каб у Менску можна было стрэць гэтак адсталых у сьвядомасьці і разьвіцьці рабочых-гарбароў. Капыль пасьля гэтага стаяў на недасягаемай вышыні, і, дарэчы, часта мае думкі пераносіліся да пакінутых у ім таварышоў... Майстар якраз пасаваў да рабочых, праўда, не нутраным сваім зьместам, а паводзінамі. Чалавек ён быў нядурны, ня чужы орыентыроўкі ў палітычных здарэньнях часу, знаёмы з рабочым рухам і прымаўшы ў ім актыўны ўдзел. Але зараз усе гэтыя дадатнасьці ён тапіў у гарэлцы. Амаль ня было таго дня, каб ён зьявіўся ў майстэрню цьвярозым. Калі выпадкам гэта здаралася—тады сярод дня або на сходзе яго ён зьнікаў з майстэрні, каб вярнуцца на кватэру п'янюткім а гадзіне дванаццатай або першай уначы. Дзякуючы запою, майстар ня мілаваў нікога. На рабочых ён пакрыкваў, затрымліваў іх

пэнсію, гразіўся выганам з майстэрні. Усё-ж былі рэдкія моманты, калі ён станавіўся вясёлым і з газэтаю ў руках браўся даказваць свае думкі па тым ці іншым пытаньні. Выпісваньне майстрам газэты ўзводзіла яго на вышэйшую ад рабочых ступень. Ня будзь-бы ён заўятым п'яніцаю, з ім можна было-б жыць па-таварыску. Але гарэлка з яго рабіла апушчэльніка, басяка, нядбайніка да сям'і, а часта і да працы. Ён хадзіў у бруднай жакетцы, у зашмальцаваных да адказу портках, у шапцы, якой месца было на сьметніку, а не на галаве ды яшчэ майстра. Яго ногі ўбіраліся ў цяжкія скрабакі, а скураны сьмярдзючы фартук рэдка калі не наведваў майстравы кватэры. У іншым гарнітуры мне даводзілася бачыць яго ня больш двух разоў на працягу трох тыдняў працы.

Па нядзелях у майстра на кватэры зьбіраліся госьці і выпівалі далёка за поўнач. У час выпіўкі чуўся крык, стукатня, лаянка. Можна сабе думаць, як цікава было ляжаць за часта не зачыненымі тоненькімі дзьверцамі і слухаць гэтыя концэрты. Падобныя кватэрныя абставіны не давалі мне жаднае магчымасьці ні чытаць, ні тым болей пісаць. Аднак, я ўлучаў рэдкія, больш спакойныя моманты і, прысеўшы да вакна, пісаў корэспондэнцыі і вершы. Некалькі з гэтых вершаў былі надрукаваны ў „Нашай Ніве" яшчэ за маю бытнасьць у Менску. Адзін з надрукаваных—„Восень" вельмі спадабаўся Альбэрту Паўловічу і ён мяне пахваліў за яго, калі мы з ім зноў спаткаліся.

І А. Паўловіч, і Ў. Галубок дзівіліся таму, як я мог у паказаных умовах хоць што-кольвечы пісаць. Ды гэта дзівіла і мяне самога, але дзе і навошта было шукаць лепшых умоў? Я зарабляў шэсьць рублёў на тыдзень, з іх тры рублі плаціў майстру за „кватэру" і зусім непразваітыя харчы. З гэтых-жа грошай мне трэба было сабраць некаторую суму на дарогу. Апошняя займала мае думкі неадходна. Як не жадалася мне найдаўжэй пажыць у Менску, цяга да вандроўкі перамагала гэта жаданьне. Дрэнныя ўмовы працы яе ўзмацнялі. І я ўжо праз тыдзень ці дзесяць дзён, стрэўшыся з У. Галубком, паведаміў яго пра свой скоры ад'езд з Менску. У мяне пэўнага маршруту ня было, была вострая рымста мяняць месца, незалежна ад тых ці іншых іх якасьцяй. З Менску простая дарога ляжала на Бабруйск, а там... чаго думаць, што будзе там?

Перад ад'ездам з Менску я зусім выпадкова, седзячы на сквэры, спаткаўся з маімі капыльскімі таварышамі-бундаўцамі. Сярод іх была мая прыяцелька Сора Бляўчыцкая, для якое наша спатканьне мела характар шчасьлівага выпадку. Справа ў тым, што, закахаўшыся ў мяне, Сора не знаходзіла ў Капылі магчымасьці часта сустракацца са мною, каб адпаведна настрою праводзіць час. Яе старая маці, фанатычная законьніца, пільна сачыла за дачкою, лаючы яе за належнасьць да Бунду і за знаёмствы з гоямі. Брат Соры—Давід, пра якога я ўспамінаў, як пра здольнага маляра, чалавек разумны і начытаны, моцны бундавец, хоць і карміў маці цяжкаю працаю каменшчыка, аднак шчыра шанаваў яе

старасьць і не хацеў крыўдзіць старую няўвагаю да яе пачуцьця і думак. Ня гледзячы ўсё-ж на адмоўнасьць, з якою Сорына маці глядзела на яе знаёмства з гоямі, я на працягу зімы вучыў Сору расійскай мове. Гэта зблізіла нас і спатканьне ў Менску мела ўрачысты ў тых умовах характар. Сора хадзіла са мною і па садзе, і па вуліцах ды нікога не баялася.

Трэба спыніцца некалькімі словамі і на другіх дваіх таварышох, з якімі была гэта стрэча. Абодва яны зьяўляліся бундаўцамі, абодва былі маімі сябрамі. З іх Хана Найкруг, далёка адышоўшы ад палітычнага жыцьця, але, як і раней, чалавек вельмі сымпатычны і добры, зараз прысьвяціла сябе мэдыцыне. Яе-ж у той час каханы Алтар Зіліцкі, душа чалавек, разумнік, высока інтэлігентны, цалкам адданы рэволюцыйнаму руху, абсталяваўся жыцьцём абывателя дзесьці ў Заходняй Беларусі.

Калі, стрэўшыся з імі, я паведаміў пра свой намер ахвяраваць некалькі часу на практычнае вывучэньне жыцьця горкаўскіх герояў, яны ўтрох сталі сьмяяцца з мяне. Мой настрой паказаўся ім дзікім і фантастычным і яны, растаючыся, вымагалі абяцанкі паслухаць іх і адказацца ад шкодных думак. Яшчэ, пішучы мне ў Бабруйск доўгія, натхненыя лісты і Хана Найкруг, і, асабліва, Сора Бляўчыцкая не пакідалі ўгаварваць мяне, каб я кінуў „упадніцкі“ настрой. Аднак, зусім незалежна ад іх угавораў і нотацый, я хутка сам крута парваў з гэтымі сваімі юнацкімі намерамі. Тое, што ў Бабруйску, астаўшыся на працу ў майстэрню Салавейчыка, я знайшоў знаёмых рабочых, а незнаёмыя, пазнаёміўшыся, выявіліся на ўзьдзіў добрымі і адданымі таварышамі— зрабіла ва мне значны пераварот. Тут я меў магчымасьць пагутарыць пра бурныя 1905—1906 гады, абгаварыць цягуча-смутную сучаснасьць з вострымі праявамі санішчыны і лігаў любві, пасьпяваць рэволюцыйныя песьні. Умовы працы ў Бабруйску дапоўнілі капыльскія і гэта дазваляла мне асесьціся ў Бабруйску на болей доўгі тэрмін. Як і ў Менску, я астаўся на кватэры і на харч да гаспадара майстэрні. Як і ў Менску, для мяне быў адведзены цесны куток маленькае кватэркі. Тым ня менш гэта мяне не ацяжала. Наадварот, сутыканьне з сям'ёю гаспадара за абедам і гарбатаю выклікала паміж намі заўзятыя спрэчкі па розных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця. Салавейчык—яшчэ чалавек не стары, гадоў 35, пабываў у сьвеце і ў моладасьці многа чытаў. У спрэчках ён выказваў цікавыя думкі, вельмі густа акрашаныя ў дробна-буржуазны практыцызм. Становішча маленькага эксплёататара сямі-дзесяці рабочых значна ўплывала на яго погляды і ранейшую соцыялістычнасьць зводзіла да яўнай к ёй варожасьці. Характарнасьць Салавейчыка малявалася яго прывычкаю працаваць з белым каўнерыкам пры брудных скурах. Яго думкамі опэравала ў спрэчках са мною і яго сваячка, дужа разумная і ня меней прыгожая маладая дзяўчына, што час-ад-часу наведвала Салавейчыка. Грэшным дзелам, дыскусуючы з ёю,

я асалоджваўся яе хараством, рызыкуючы ў кожную хвіліну запаліцца да яе каханьнем.

Штовячэрнія спрэчкі за сталом гаспадара адбіралі ад мяне невялікія магчымасьці ў вольны ад працы час прачытаць кніжку ці што-кольвечы напісаць. Толькі сьвятамі ды нядзелямі, калі гаспадар з сям'ёю пакідалі кватэру на службу, я панам садзіўся за стол і пісаў корэспондэнцыю ў „Нашу Ніву“, лісты да таварышоў і вершы. Апрача гэтага, у цёплую пагоду забіраўся я на крэпасны вал і, любуючыся вакольнымі вобразамі, таксама аддаваў шмат часу на пісаньне. Віды, што расьціляліся перада мною—Бярэзіна, незьмярымыя паплавы, Зялёнка, полігонны гаёк і самы полігон—надавалі мне натхненьня. Аднак, увогуле, за час быцьця ў Бабруйску мне мала давялося напісаць.

Пражыўшы ў ім месяц, я пачаў плянаваць далейшую паездку. Падыходзілі каляды і зрывацца з месца было небясьпечна—сэзон набліжаўся к канцу—але Бабруйск стаў мяне не здавальняць. Вельмі дачасна прышлося стрэцца мне з адным гаспадарчыкам, якога звалі ў Палтаву. Гандляр скурамі, нехта З. Баглій, адчыніў там майстэрню і зьвярнуўся па рабочых у Бабруйск. Умовы прапанаваліся нядрэнныя. Ды ня ў іх была справа. Палтава—Украіна—яе аддалёнасьць хавалі ў сабе завабнасьць, экзотыку для зацяглага вандроўніка. Я ахвотна згадзіўся ехаць, і ў палове лістапада пакінуў Бабруйск.

У Палтаве я апынуўся ноччу. Мой гаспадар завёў мяне начаваць у якуюсьці халодную пустую карчму. Гаспадар карчмы, старэнькі яўрэй, адвёў мне голы вузкі заслон у якасьці падобнай да стадолы сьмярдзючай залі. Я выняў з свае карзінкі ўсё, што ў ёй ляжала і ўладзіў сабе далёка недасканалую пасьцель. Улёгшыся на ёй, ноч паказалася мне за месяц. Я не праспаў, а прамучыўся. Між тым, мой гаспадар соп, як у сене, праз усю ноч і назаўтра зранку адчуваў сябе, як сьлед.

Перад тым, як выйсьці ў горад, мы заплацілі па трыццаць капеек за начоўку, выпілі гарбаты... Мяне асабліва зацікавіла тады адна акалічнасьць: калі я папрасіў сала да гарбаты, то стары яўрэй тут-жа палез у пограб і сам мне прынёс поўфунта смачнага, халоднага украінскага сала. Гэта сьмеласьць шынкара доўга служыла мне тэмаю для кур'ёзнага эпізоду ў апавяданьнях знаёмым пра вандраваньне ў Палтаву. Але ня гэтым фактам вычэрпвалася ўся цікавасьць майго быцьця ў гэтым горадзе. У маім жыцьці Палтава пакінула заметны, памятны сьлед. Пачынаючы з карчмара-яўрэя, які гандляваў салам, рэзаў, важыў і падаваў яго, як кашэрныя перадкі—я прапусьціў перад сабою цэлую галярэю цікавейшых тыпаў, якія праз 20 гадоў яскрава жывуць у маёй памяці.

За шынкаром трэба паставіць самога прадпрыемцу, да якога я прыехаў працаваць. У Палтаве ён меў краму на рынку, а жыў дзесьці за трубою, улева ад Падолу, калі глядзець на яго з-пад цікавага будынку гарадзкога музэю. Там-жа была і майстэрня.

Вышаўшы з карчмы, мы зразу накіравалі да месца працы. Беднасьць наша не дазваляла наняць рамізьніка і мы праз увесь горад з карзінкамі за плячыма ішлі пехам. Пагода была на ўзьдзіў праціўная. Выпаўшы за ноч сьнег хутка раставаў, робячы нявылазную ліпкую гразь. Мае парваныя чаравікі, набіраючы халоднае вады, сьвісталі ёю ва ўсе бакі, бryндаючы порткі па пояс. Памятаю, што якраз адпраўлялі ў салдаты навабранцаў. Грамада іх, маладых, вясёлых, у большасьці п'яных, з песьнямі і крыкамі, баўтаючы клункамі, накіравалася да вакзалу. Нашароханыя крамнікі пільна азіраліся ў бок здаравенных, непаваротлівых гарадавікоў. Хутка на нашых вачох узьняўся нейкі гвалт, застукалі дзьверы крам і на вуліцы сабраўся вагромны натаўп людзей. Дзіка засьвісьцелі гарадавікі, варваліся ў людзкую гушчу і сталі растаўхаць яе. Мы ўжо спускаліся на Падол, а сьвісткі гарадавікоў усё яшчэ разносіліся па рынку. Але хутка іх заглушылі зыкі оркестры, якія стрэлі нас, калі мы спусьціліся з плошчы: то казакі, якіх стаяла ў Палтаве некалькі соцень, ігралі раньнюю малітву—„Коль славен". Гэта малітва ў іграньні казацкай оркестры пазьней мне надаела да ачамернага. Кожны дзень, ідучы на працу, я яе чуў з вакон дзеравяных казармаў. На першы раз іграньне выгадна адбілася на маім настроі пасьля сыгналаў паліцэйскіх.

Але, наближаючыся да месца працы, якое болей за вярсту адлягала ад гораду, я выпусьціў з вушэй музыку і павярнуў увагу да майстэрні. Мяне не здавальняла яе месца, непакоіла невядомасьць кватэрных умоў, сумнявала нявер'е майго прынцыпала. Аднак, усё гэта незаўважна згладзілася, калі мы дайшлі да месца і ачуліся ў малюпаткай, цеснай мазанцы, якая служыла майстэрняй гандляра скурамі Зьмітра Баглія. У майстэрні ўжо працаваў адзін рабочы, які стрэў нас гасьцінна, з таварыскай вытрыманасьцю. Мы аглядзелі яе абсталяваньне, разьмеркавалі месцы і да вечара чакалі гаспадара, ня выходзячы з майстэрні. Мне было цяжка згадзіцца з яе беднасьцю, холадам і няўладжанасьцю. Гэта была першая майстэрня, якая павеяла на мяне сполахам ад думкі астацца ў ёй працаваць. Толькі ўвайшоўшы ў яе—я ўжо рашыў, што „тут ненадоўга маё прабываньне". Гэты настрой у значнай меры быў разьвеяны, калі ў майстэрню зьявіўся яе гаспадар З. Баглій. Вясёлы і сымпатычны, заядлы украінец, ён засыпаў нас рознымі пытаньнямі. Мэрам-бы мы прыехалі да яго, каб слухаць яго каламбурныя апавяданьні, жарты і анэкдоты, а зусім не працаваць. Ды сама праца, на якую ён нас выпісаў, прадстаўлялася ў яго гутарках ні чым іншым, як каламбурам; Баглій глядзеў на ўсё з оптымізмам, і майстэрня, і яе абсталяваньне, і ўмовы працы—усё выглядала з яго гутаркі да таго звычайным і простым, што ня варта было пра яе нічога казаць. І калі мы наварочвалі гутарку на плату, на кватэру, на нагрузку сыравінай, на папаўненьне абсталяваньнем—ён загаворваў гэта гутаркай з адцягненых ад конкрэтнай тэмы галін жыцьця. Прынамсі, ён так і не памог нам нічым, нават радаю, пакінуўшы нас з тым, з чым і стрэў. Вечарам таго-ж дня мы пашлі шукаць кватэры. Каля дзьвюх гадзін абходзілі мы

маленькія мазанкі, але ніхто з-за цеснаты не хацеў браць падсуседа. Так мы ў блізкасьці ад майстэрні кватэры і не найшлі. Вярнуўшыся ў горад, я зайшоў у якійсьці ні то заежджы дом, ні то харчоўку, каб пераначаваць і там-жа ўмовіцца на жыцьцё і харчаваньне.

Нельга сказаць, каб выбар мой быў удачным і з боку начлегу, і з боку яды. Мяне кармілі з агульнага карчэмнага стала, дзень-у-дзень адным і тым-жа украінскім баршчом і падазроным мясам. Раніцою давалі гарбату з пустою булкаю ці абаранкамі. Абеду ня было, бо не хапала часу на дарогу з майстэрні на кватэру. Я браў з сабою кавалак булкі ці хлеба з каўбасою, або з сырам і падзакусваў у майстэрні.

Бедныя харчы і дрэнныя ўмовы начовак стамлялі мой організм і рабілі цяжкой і без таго цяжкую працу гарбара-хільшчыка. Але гэту цяжкасьць і няпрыветнасьць скрашала цёплая мая сямейнасьць з сустрэтым у майстэрні рабочым, добрыя адносіны з самім гаспадаром майстэрні З. Багліем і цікавыя абставіны, якія акольвалі мяне на маёй кватэры. Мой новы таварыш—рабочы, як і гаспадар, былі сьвядомымі украінцамі і соцыялістымі, я быў сьвядомым беларусам соцыял-дэмократам. Гэта нас зблізіла, парадніла, знайшлася агульная мова, процьма тэм, якія абгаворваліся намі за працаю з рабочым, а пад вечар, калі вяртаўся з гораду З. Баглій, і з ім Кароткі, поўны, з мілым заўсёды ў сьмеху тварам, орыгінальны—чыста украінскі тып—З. Баглій зьяўляўся ў майстэрню з газэтаю „Рада“, цёпла вітаўся з намі, папярэдня распытаўшы пра справы, і далей пачынаў расказваць політычныя навіны. Іх разьвіцьцё, напрамак і аналіз З. Баглій разглядаў скрозь прызму украінскай рачаіснасьці. Царская політыка з яе ваяўнічым расійскім нацыяналізмам сустракала ў майго новага гаспадара заядлага ворага. Ён са злосьцю апавядаў пра Шульгінаўскую місію ў Кіеве, пра шырокі наступ на Украіну расійскага капіталу, пра рэпрэсіі супроць украінскага друкаванага слова ды інш. Політыка Аўстрыі ў Галіччыне разглядалася ім як царства нябеснае. Мой заўсёдны напамінак пра падобнае украінскаму становішча ва ўмовах самадзяржаўя Беларусі—сустракала ад З. Баглія спачуваньне. Ён ня раз абгрунтоўваў тэорыю цеснага хаўрусу між будучаю вольнаю Беларусьсю і вызваленаю з-пад царскага ярма Украінаю. Трэба сказаць, што З. Баглій моцна верыў у блізкасьць гэтага часу...

Не забываў думак З. Баглія ў сваёй гутарцы са мною і мой новы таварыш-гарбар. Ён зьвязваў нацыянальнае вызваленьне з соцыяльным. Ён прайшоў барацьбу 1905 году і быў загартаваным пролетарам-рэволюцыянэрам. Кожны раз сваю гутарку ён заканчваў глыбокім уздыхам над прайгранаю рэволюцыяй 1905 году. Яго гарачы тэмпэрамант не аднойчы станавіў нас абодвух у прыкрае палажэньне. Бяз жаднае асьцярогі, ідучы людная вуліцай, мой таварыш вёў вострыя антыўрадавыя гутаркі. На нас азіраліся не адны прахожыя. Адзін раз, нясучы зробленую партыю выцяжак з майстэрні ў краму, мы праходзілі каля губарнатарскага дому. Вартавыя-гарадавікі ня спынілі яго галоснае гутаркі на

тэму пра „царскіх тыранаў“, якіх пара зьмесьці з твару зямлі рашучым паўстаньнем працоўных: яны доўга глядзелі нам усьлед.

Увогуле, я ў гэтым сваім таварышы знаходзіў для сябе блізкага чалавека, аднадумніка і шчырага прыяцеля... Вось дзякуючы гэтаму наша ўзаемная прыязьнь ва многім скрашала мае адзіноцтва ў Палтаве.

Рознастайнілі яго і кватэрныя абставіны. Справа ў тым, што для спаньня мне гаспадары харчоўні адвялі агульную для начовак каморку. Ложак яны далі расстаўны, паходны, які на дзень разьбіраўся і дзесьці хаваўся. У гэтым ложку і заключалася мая прывілегія над іншымі кватарантамі. Я лажыўся спаць на ложку, а на падлозе, удаўжыню ды ўпоперак, раскладалася да дзесяці чалавек—вы думаеце каго?—горкаўскіх герояў. Так, нарэшце, я з імі спаткаўся, як кажуць, носам к носу.

З першае ночы ў нас наладзілася знаёмства, пашлі гутаркі, запытаньні, а праз два-тры дні я ўжо ведаў прозьвішчы і мянушкі кожнага з іх, міжвольна знаёмячыся з іхнымі характарамі, пахаджэньнямі, паводзінамі на дзенных гастролях. Калі я зьбіраўся лажыцца, ужо некаторыя з іх ляжалі на сваіх „пасьцелях“, другія слаліся, трэція толькі-што вярталіся з „промыслу“. Яны былі нагэтулькі далікатнымі, што, прыходзячы, стараліся не пашкодзіць мне спаць, вядучы сябе цішком. Аднак, гэта іх асьцярожлівасьць часта ў адзін момант пакідала іх. Мае суседзі раптам забывалі ўсякую далікатнасьць—распачынаючы заядлую, часта зьверскую грызню. Прычыны для грызьні былі рознастайнага характару, але як адна—пустыя ды нікчэмныя. Адзін раз, калі я ўжо драмаў, малады, здаровы хлапец, мянушкаю Стэссэль, раптам схапіўся з пасьцелі і, дзіка крычучы, нізашто накінуўся на свайго суседа, добрадушнага, ласкавага дзядулю-муляра. Замігалі кулакі, пачуліся крэкты, а далей зьвязаным клубком закачаліся яны на падлозе. Калі Стэссэль прыдушыў старога нагэтулькі, што той ня мог паварушыцца, над пераможаным захадзіла ў руках сібірнага хлапца дзедава вострая кельня. Гэты манэўр заставіў увязацца ў конфлікт і другіх іх хаўрусьнікаў, якія вырвалі з рук Стэсэля кельню і адцягнулі яго ад старога. Трэба сабе ўявіць тую нечаканасьць, з якою хутка абодва драчуны міла ды ласкава гутарылі між сабою, рагочучы да ўпаду. Сцэна бойкі, а сьледам замірэньне гразіла зацягнуцца на ўсю ноч, але сур'ёзнейшы ад іх, галічанін Мікола ўкорліва заставіў усіх сьцішыцца і даць чалавеку (гэта мне) адпачыць.

Раніцою я яшчэ, звычайна, спаў, калі мае суседзі пакідалі пакой і ішлі хто куды, каб вечарам вярнуцца раней за мяне. Першаю тэмаю вячэрняе гутаркі ў іх быў абгавор дзенных посьпехаў. Адзін другому хваліўся сваім заработкам, успамінамі тых асоб, якія шчырэй дарылі ім медзякі, абменьваліся з імі гутаркамі і асобнымі сказамі, якімі гэта падача справодзілася. Спрыт і посьпех аднаго служыў гордасьцю для іншых, але спагады таварышовай няўдачы ня чулася ў словах і ня бачылася ў чыннасьці. Этыка сярод іх панавала водлуг прыказкі „што прымеў—то сам і зьеў“. Цікава, што сытасьць таварыша давала некаторае

моральнае задаваленьне і галоднаму. Прынамсі, успомнены галічанін, на ўзьдзіў стоічна перанасіў сваё хронічнае недаяданьне, радуючыся таму, што яго таварышы пад'еўшы.

З гэтых маіх суседзяй асталіся і дагэтуль у памяці: стары муляр, з барадою-лапатай, як у Грушэўскага, з шырокім маршчыністым тварам, носам з бульбінаю, з добрымі старэчымі шэрымі вачмі. Ён хадзіў у марозы і ў адлігу ў замурзаных кортавых портках, у падраных шкрабакох, у летняй, ніколі не зашпіленай жукеццы, з фартушком, невядома якое матэрыі—болей падобны да пластачкі пабеленае гліны. Стары кожную раніцу лавіў выпадак паправіць печ, пограб ці падмуроўку і большай часткаю гэтым карміўся ды паіўся. Аднак, ён ня цураўся і „страляніны“ (папрашайніцтва).

Другім трэба паставіць Стэссэля. Гэты, як я ўжо казаў, быў маладым, гадоў 19—20 дзяцюком. Поўны, скрыўлены твар рабіў яго вельмі несымпатычным, але па натуры Стэссэль быў добрым, мяккім хлапцом. З яго старэйшыя кпілі, сьмяяліся, а ён ні на момант не злаваў, хоць у ім і хаваліся здольнасьці на апісаныя вышэй учынкі. Бацькі Стэссэля, як мне расказалі, былі багатымі людзьмі. Яны прымушалі яго вучыцца, запрашалі дамоў, давалі грошы—але нічога не магло яго выратаваць з рассмакаванага басяцтва. Пабыўшы дзён 5—6 дома, адзеўшыся людзка, ён браў грошы і вяртаўся да сваіх таварышоў. Кожны яго прыход спраўджваўся пачастункам таварышоў, які ў адзін прысест забіраў ад Стэссэля прывезеныя грошы і адзежу. Назаўтра з раніцы ён ішоў на страляніну, каб увечар зьесьці за залатоўку міску украінскага баршчу, або і галодным легчы спаць. Хадзіў, усё-ж-такі, Стэссэль чысьцей ад другіх.

Сярод гэтае кампаніі выдзеляўся разумны, высокі, блёндыністы дзяцюк, заехаўшы ў Палтаву з Расіі. Гэта быў з выгляду сапраўды брадзяга-абарванец. Але яго брадзяжны выгляд скрашаўся нятухшаю ўхмылкаю на худым вострым твары. Пасінеўшы, з каплямі смаркачоў на тонкім носе, ссутулены, ён падвячэрваў часта рэшткамі ды недаедкамі, пасьля гадзінамі стаяў перад більярдам, сочачы за ігрою. У пакоі ён складна пераказваў здарэньні мінулага дня і ні словам ня скардзіўся на свае няўдачы. Перад тым, якісьці спаць, ён лічыў патрэбным паінформавацца ад мяне пра маё здароўе, справіцца пра мае адносіны да гораду Палтавы, пра маю радзіму і мінулае. Гэта ўвага да мяне склалася ў ім ад частага падзелу мною з ім вячэры, з якою я ня мог справіцца. Амаль ня кожны раз ён чакаў мяне, пакуль я сяду есьці і пасьля з перапрашэньнем падыходзіў да стала...

Далей, з гэтай галярэі маіх суседзяй трэба спыніцца на галічаніне Міколе. Аброслы густымі чорнымі бакамі і барадою, з блядым, хрыстосавым тварам, заўсёды ціхі і пакорны свайму незавіднаму лёсу, маўклівы, ён, аднак, са мною любіў гутарыць. Асабліва нядзелямі ці сьвятошнымі днямі, калі я адным аставўся ў пакоі, Мікалай лічыў патрэбным аддаць на гутарку са мною добрую гадзіну часу. Ён адрэкамэндаваў

сябе, як быўшага соцыял-дэмократа. Апавядаў заўсёды пра рэволюцыю 1905 году, у якой быццам-бы прымаў непасрэдны ўдзел. Паўстаньне ў Кіеве, пабоішча дзяцей ў Палтаве, чыгуначная забастоўка і цэлы шэраг іншых падзей памятнага году памяталіся ім да дробязі і падрабязна пераказваліся мне. Другою тэмаю Міколы служыла украінскае пытаньне. Ён лічыў сябе украінцам і часьцей гутарыў па-украінску, на галічанскім дыялекце. Асабістасьць апошняга тлумачылася мне Міколаю ў кожную гутарку. Ня мінуў ён і сваёй біографіі: калі верыць яму, Мікола быў сынам багатых бацькоў, скончыў гімназію і вучыўся ў кіеўскім унівэрсытэце. Чаму ён кінуў унівэрсытэт, тут ужо было некалькі вэрсій, з якіх ён часьцей напіраў на выключэньне яго як політычна-шкоднага. Калі судзіць па Міколавых гутарках і сьвядомасьці, укладанай у іх, то можна было паверыць у яго сталую адукацыю. Але гэта самая яшчэ больш дзівіла, як ён мог ад людзкога жыцьця перайсьці ў басяцкі стан. Гледзячы ў глыбокія, заўсёды паніклыя чорныя вочы Міколы, можна было чытаць у іх упартыя думкі, магчыма, і спагаду па мінулым. Але яго вяласьць, апушчанасьць, балючы пэсымізм моцна прыкоўвалі галічаніна да вакольных умоў. Безнадзейнасьць выбрацца з іх выразна праглядала ў настроі Міколы.

З усіх сваіх суседзяй я меў большую сымпатыю да яго, як да ўсіх іншых. Чамусьці яго апостальская пакорлівасьць лёсу, як парадокс, дапушчала ўжывацца разам з вострай нянавісьцю да пануючага ладу. Гэта асабліва выразна прасочвалася ў яго ўспамінах пра 1905 год. Да сваіх сяброў і наогул да людзей Мікола адносіўся вельмі цёпла і ласкава. Ён радзей ад усіх кратаў сваіх дзенных учынкаў, якіх, як было відаць было па ўсім, у Міколы налічвалася досыць мала. Свой нялюдзкі стан галічанін разумеў досыць ясна і сароміўся яго—усё-ж ніразу пры мне не заікнуўся на спробу і патрэбу з яго выйсьці.

Міколу-галічаніна любіла больш усіх і тая асоба, быўшая цыркавая артыстка, якая служыла ў харчоўні-начлежцы прыбіральшчыцай. Гэта была цікавая асоба. Гадоў пад 40, яна, аднак, ня згубіла сваё прыгожасьці і сымпатыі. Стройны, безмаршчыністы яе твар, сіняватыя вочы, заўсёдная ласкавасьць і ўвага да кожнага, хто да яе зьвяртаўся, зрабілі Аўдоцьцю Палікараўну лепшым прыяцелем маіх суседзяй. Яна іх мірыла, угаварвала, давала ўсякія рады. Болей таго, яна клапацілася аб здароўі кожнага, абшывала, часта мыла іх брудную бялізну. Каб яна ня служыла ўбіральшчыцай у гэткай установе, каб не цярпела пануканьняў з боку гаспадароў, каб за някчэмную аплату не працавала, як вол—можна было-б падумаць, што яна з пазываў каразьлівае добрачыннасьці здаваляе свае жаночыя капрызы клопатамі патранэсы над гінучымі людзьмі. Аўдоцьця Палікараўна, магчыма, знайшла-б для сябе і лепшую службу, аднак, яе здавальняла і тая, на якой я яе сустрэў.

Гэта вось Аўдоцьця Палікараўна доўга і квяціста апавядала мне пра сваё мінулае.

Цяжка сфантазаваць падобны пераплёт жыцьцёвых пэртурбацый, які справодзіў лёс цыркавой артысткі. Гісторыя яе мінулага, калі толькі яна адпавядала праўдзівасьці, была надзвычайна багатай і цікавай. Я з ахвотай слухаў Аўдоцьцю Палікараўну, і, памятаю, у сваіх згубленых нарысах пра жыцьцё ў Палтаве ня раз браў яе тыпам у склад іншых пэрсонажаў...

Вось выдатнейшыя асобы з таго сьвету, у якім мне давялося пражыць каля месяца. За гэты час я мала што пісаў. У пакоі, дзе толькі ноччу мелася для мяне акрэсьленае месца, я два ці тры разы прысядаў за паперу, на вузкім падаконьніку дваровага вакна. Але кожны раз мне перашкаджалі, прыходзячы і выходзячы з пакою. Гэта мне не падабалася, але шукаць новае кватэры ня было сэнсу. У З. Баглія справы ішлі няважна. Праца паступова зьмяншалася і ў адзін дзень стала вядомым, што каму-небудзь з нас трох прыдзецца пакінуць майстэрню. Гэта дало мне штуршок першаму папрасіць разьлічэньня.

З дзесяцю рублямі гатоўкай, з нязьменнаю карзінкаю на палцы, я перад самымі калядамі пакінуў Палтаву і паехаў у Магілеў. Некалькі сходных дзён 1909 году я прапрацаваў у новай майстэрні пад загадам майстра Абрама Рэмеза.

# ІНСТЫТУТ ТАРАСА ШЭЎЧЭНКІ

*(Допіс)*

**Міх. Быкавец**

У Харкаве па вул. К. Лібкнэхта знаходзіцца вялікі стары будынак, яшчэ з часоў Мікалая І (20—30 г.), доўгі трохпавярховы будынак. Прыгожы гэты будынак. Калісь яго прызначалі для кадэцкага корпусу, а потым кадэцкі корпус быў заснаваны ў Палтаве, а ў гэтым будынку быў арганізаваны Інстытут „благородных дзевіц“. Гістарычны будынак,—быў у ім і Гулак-Арцёмаўскі, як попечыцель Інстытуту „благородных дзевіц“. Тоўстыя ў 1 мэтр сьцены. 3-ці паверх дабудаваны пазьней, як і бакавое крыло будынку.

У часе рэволюцыі знаходзілася тут установа „Південсталь“, а потым жылі студэнты.

Цяпер гэта сапраўдны палац навукі. Абодва бакі сьцяны каля ўваходных дзьвярэй аблеплены шыльдамі. Чытаем: Украінскае Навукова-Тэхнічнае Т-ва, Украінскі Марксыцкі Інстытут, Харкаўскае Навуковае Т-ва, Украінскі Камітэт Краязнаўства, Усеукраінская Навуковая Асоцыяцыя Усходазнаўства, Украінскі Інстытут прыкладной ботанікі, Украінскі Навукова-Дасьледчы Інстытут географіі і картаграфіі, Украінскі Патолёгічна-Анатомічны Інстытут, Украінскае Т-ва работнікаў навукі і тэхнікі для спрыяньня соцыялістычнаму будаўніцтву, сэкцыя аэрофотоздыманьня, курсы ўсходніх моваў, рэдакцыі журналаў: „Вісник природознавства“, „Українськиий Медичний Архів“, „Навукова-технічний Вісник“, „Східній Світ“; тут-жа і шыльда: *„Інстытут Тараса Шэўчэнкі“*.

Доўгі час Інстытут ня меў памяшканьня і таму ня мог як сьлед разгарнуць сваю працу і ўпарадкаваць свае рэчы. Яшчэ і дагэтуль шмат каштоўнага матэрыялу захоўваецца па розных мясцох, чакаючы стварэньня музэю Інстытуту. Патроху папаўняюць бібліотэку Інстытуту.

На сьценах вісяць карціны: портрэт Шэўчэнкі, хата на магілцы, Чарнеча гара, Леся Украінка, Марко Вовчок. У другім пакоі карціна Шэўчэнкі „Млын“, знойдзена ў Прылуцкім музэі ў час падарожы да Прылук пісьменьніцкай групы „Плуга“. Дагэтуль яшчэ Інстытут займае 4 пакоі: бібліотэка, габінэт бібліографіі, габінэт савецкай літаратуры і габінэт управы Інстытуту. Намечана ў хуткім часе Інстытут перавесьці ў другое

памяшканьне, дзе цяпер зьмяшчаецца Савет Народных Камісараў. Тады ж пры Інстытуце будзе ўтвораны *Цэнтральны Ўсеукраінскі Літаратурны музэй* з асноўным аддзелам „Шэўчэнка". Дагэтуль яшчэ вядуцца перамовы з музэямі і навуковымі ўстановамі РСФСР аб перадачы да гэтага музэю розных матэрыялаў, дублетаў і г. д., а таксама закупцы каштоўных колекцый літаратурных матэрыялаў.

Разумеючы, якое значэньне набываюць розныя гістарычныя матэрыялы, перапіска і сьпісы ды рукапісныя запісы твораў пры дасьледваньні літаратурнай творчасьці нашых папярэдніх пісьменьнікаў, Інстытут Тараса Шэўчэнкі зьвярнуўся праз друк з заклікам да ўсіх грамадзян ахвяроўваць ці прадаваць рэшткі матэрыялаў, або прысылаць на часовае карыстаньне.

Інстытуту патрэбны самыя матэрыялы пра т. Шэўчэнка і пісьменьнікаў пасьляшэўчэнкавага часу: Марка Вовчка, Куліша, Нечуя-Левіцкага, Франка, Лесі Украінкі, Панаса Мірнага, Кацюбінскага ды іншых.

Гэты заклік ужо даў карысьць. З апошніх набыцьцяў Інстытуту варта вызначыць: 1) портрэт памешчыка Дуніна-Баркоўскага, работы Шэўчэнкі (куплена), 2) частка архіву Васіля Блакітнага, падарованага маткаю Ганнаю Еланскага (малюнкі, розныя мэморыяльныя рэчы, як лыжка, што Блакітны выстругаў шклом, седзячы ў турме, частка бібліотэкі, рукапісы), 3) шмат рукапісных матэрыялаў пра Шэўчэнка, В. Чумака, Заліўчага, 4) архіў украінскага пісьменьніка сымболістага Паўла Саўчэнка (памёр у 1919 г.), 5) архіў пісьменьніка 80-х г. П. Раеўскага, вядомага аўтара анэкдотаў і гумарэсак (ёсьць яго украінскія вершы, запісы), 6) стары фото Шэўчэнкі, 7) колекцыя старых украінскіх выданьняў, лістовак, брошур пра т. Шэўчэнку, пераважна выданьні провінцыянальныя, што іх цяпер вельмі цяжка адшукаць (падарунак грам. О. Кожана) і г. д.

Як па ўсяму Савецкаму Саюзу, так і за кардонам напэўна ёсьць нямала гістарычнага літаратурнага матэрыялу, які можна мець у орыгіналах, і хоць-бы ў завераных копіях Усеукраінскага літаратурнага Музэю.

Інстытут Тараса Шэўчэнкі заснаваўся яшчэ ў 1926 г. На сходах навуковых работнікаў быў абраны організацыйны камітэт у складзе Айзенштока, Рычыцкага, Плевака, В. Корака і акадэміка Багалія. Камітэт, расцацаваўшы палажэньне пра Інстытут, падаў яго ў Народны камісарыят асьветы. Пасьля зацьверджаньня організацыйны камітэт быў пераўтвораны ў Прэзыдыум Інстытуту.

Асноўная структура Інстытуту такая: ён падзяляецца на 6 габінэтаў: дашэўчэнкавай літаратуры, біографія Шэўчэнкі, творчасьць Шэўчэнкі і пасьляшэўчэнкавай літаратуры, бібліографіі савецкай літаратуры.

Намечана яшчэ ўтварыць габінэт літаратуры Заходняй Украіны. У Харкаве ёсьць 5 габінэтаў (дашэўчэнкавы, творчасьць Шэўчэнкі, бібліографіі, савецкай літаратуры і Заходняй Украіны), у Кіеве пры філіі Інстытуту—габінэты: Шэўчэнка біографіі, пасьляшэўчэнкавай літаратуры і камісій савецкай літаратуры (кіруе Б. Якубскі), у Адэсе —

камісія літаратуры Стэпавай Украіны (кіруе проф. Музычка). На чале габінэту бібліографіі — проф. Плевако, габ. творчасьці Шэўчэнкі — А. Рычыцкі, біографіі Шэўчэнкі—П. Маякоўскі, пасьляшэўчэнкавай літаратуры—О. Дарашкевіч, габінэту дашэўчэнкавай літаратуры—акадэмік Д. Багалей. На чале Інстытуту Т. Шэўчэнка стаіць прэзыдыум у складзе дырэктара акадэміка Багалея, намесьніка дырэктара С. Піліпенка, вучонага сакратара І. Айзенштока і двух членаў: кіраўніка Кіеўскай філіі Дарашкевіча і А. Рычыцкага. Адзін раз на год зьбіраецца рада Інстытуту ў складзе ўсіх правадзейных членаў Інстытуту і кіраўнікоў філіі і габінэтаў. Савет абмяркоўвае плян работы за мінулы год і намячае асноўныя кірункі работы (падрыхтоўка маладых вучоных—літаратуразнаўцаў, дасьледваньне клясыкаў і г. д.). Сход савету адбываецца пераважна ў маі м-цы ў час сьвята Шэўчэнкі.

У ліку маладых навуковых супрацоўнікаў і асьпірантаў мы знаходзім: Наўроцкага (Кіеў), М. Навіцкага (Кіеў), Ціхоўскага (Харкаў) Шамрая (Харкаў), В. Пятрова (Кіеў), Яшэка (Харкаў), Філіповіча (Кіеў), Юры Саўчэнка, П. Пятрэнка, Я. Хаменка, В. Мешчанінаў, І. Ізотава, В. Квітко ды інш.

Сіламі гэтых супрацоўнікаў праводзіцца праца Інстытуту па дасьледваньню творчасьці украінскіх клясыкаў, грамадзкіх плыняй і рухаў 18—19 ст. і дасьледваньня сучаснай пасьлякастрычнікавай літаратуры.

Як бачым, кола ўвагі Інстытуту вельмі шырокае.

У Інстытуце вывучаюцца ня толькі адны творы Шэўчэнкі і яго часу. Да заданьня работы Інстытуту ўваходзіць уся украінская літаратура з часоў Івана Катлярэўскага і да нашых дзён. Таму, у адзнаку 150 галавіны з дня нараджэньня Квіткі-Снов'яненка Інстытут упарадкаваў вялікі зборнік твораў і крытычных нарысаў пра гэтага пісьменьніка (на 20 арк.). Рыхтуюцца да друку зборнікі, прысьвечаныя украінскаму романтызму (Метлінскі, Кастамараў, Баравікоўскі, Срэзьнеўскі ды інш.), М. Кацюбінскаму, Ів. Нечую-Лявіцкаму.

На чарзе стаіць справа з выданьнем часопісу „Гісторыка-літаратурны архіў". Дагэтуль гэтую работу праводзіць часопіс „Украіна", а таксама друкуюцца ў журналах: „Чырвоны шлях", „Життя й революція", а іншы раз у журналах літаратурных організацый („Плуг", „Маладняк").

Разам з гэтым з блізкім удзелам Інстытуту праводзіцца поўнае, так званае, акадэмічнае выданьне твораў Т. Шэўчэнка. Гэтае навуковае выданьне, поўнае розных заўваг, тлумачэньняў, выданьне, якое падае тэксты твораў Шэўчэнкі дакладна зьвераныя з орыгіналамі. Такое поўнае выданьне маем першае, бо да гэтага часу выходзілі толькі „Кобзар" з тэкстам, які калісь уважліва апрацаваў В. Даманіцкі і аповесьці Шэўчэнкі ў перакладзе на украінскую мову.

Заслугоўвае ўвагі том IV поўнага акадэмічнага выданьня твораў Шэўчэнкі, да якога дадаöы надзвычайна цікавы дзеньнік Тараса Рыгоравіча („Журнал").

Штогод Інстытут выдае „Збірник річник“ Шэўчэнка, прысьвечаны дасьледваньню жыцьця і творчасьці поэты і таго асяродзішча, у якім Шэўчэнка жыў і тварыў. У гэтых „річниках“ паданы навуковыя заўвагі тых вучоных, якія вывучаюць творы Шэўчэнкі, дасьледуюць пераклады яго твораў на іншыя мовы і ўплывы іншых пісьменьнікаў на творчасьць Шэўчэнка і г. д. Мінулага году вышаў адзін том „річника“, 2-гі том на 25 арк. хутка выйдзе, як падагульненьне навуковай работы пра Шэўчэнку за 1928 г. нашых вучоных.

Інстытут распачаў выдаваць, акрамя гэтага творы Шэўчэнкі і для шырокага кола чытачоў. Да кожнага твору дана прадмова, якая тлумачыць значэньне твору, той час, пра які ў творы гаворыцца і асноўныя яго ідэі. Так выдана поэма „Гайдамаки“ з прадмоваю М. Гарбаня, „Еретик“ з прадмоваю акадэміка Д. Багалія, „Катерина“ (прадмова Дарашкевіча), „Наймічка“ (прадмова Г. Наўроцкага), „Сон. Кавказ“ (прадмова акадэміка Д. Багалія), авто-біографічная аповесьць „Художник“ з прадмовай вучонага сакратара Інстытуту Айзенштока.

Адначасна Інстытут даручыў сваім супрацоўнікам напісаць цэлую сэрыю популярных кніжак пра Т. Шэўчэнку, яго біографію, апісаньне і гісторыю магілкі, пра пахаваньне, народныя легенды, зьвязаныя з магілкай. Распачата сэрыя такіх-жа асобных выданьняў для шырокіх колаў чытачоў твораў М. Кацюбінскага (вышлі з друку: „Він іде“—прадмова В. Квіткі, „Первона драта“—прадм. І. Ізотава, „Коні не винні“—прадмова Юр. Саўчэнка, „Пе-коптьор“—прадм. В. Мешчанінавай. Здана да друку сэрыя апавяданьняў з прадмовамі Г. Квіткі-Основ'яненка (усяго 14 кніжак).

Нарэшце трэба спыніцца на надзвычайна важнай працы Інстытуту, якая дае падагульненьне першым 10 гадом разьвіцьця савецкай украінскай літаратуры,—гэта складзены М. Яшэкам і А. Лейтэсам пад рэдакцыяй С. Піліпэнкі паказьнік „Дзесять років українскої літератури“ (1917—1927), з біографіямі пісьменьнікаў, бібліографічнымі весткамі.

2-гі том гэтага выданьня ахоплівае ўсе матэрыялы літаратурнага жыцьця Украіны за мінулае дзесяцілецьце (програмы, пляцформы, статуты літаратурных організацый, дыскусіі, артыкулы, проекты, адозвы і заявы ды інш.).

У 3-м томе намечана падаць тэматыку сучаснай украінскай літаратуры (стылі, жанры, портрэты пісьменьнікаў, характарыстыкі крытыкаў).

Праца „10 років українскої літератури“ адзначана ўпраўленьнем навуковымі ўстановамі УССР прэміяй Івана Франка за 1928 г.

Адэская філія Інстытуту, якая нядаўна ўтварылася, ставіць сабе мэтаю вывучаць і дасьледваць украінскую культуру ў стэповай і паўднёвай Украіне. Акрамя лекцый, прысьвечаных пытаньням з украінскай культуры, філія сіламі сваіх навуковых супрацоўнікаў закончвае працу над выпускам спэцыяльнага зборніка пра адэскага украінскага грамадз-

кага дзеяча М. Комара. У зборніку дакладна высьвятляецца грамадзкая дзейнасьць Комара, як украінскага дзеяча, аўтара слоўніка, этнографа, гісторыка (зазначаем цікавую працу М. Комара „Українська драматургія“, выданая яшчэ ў 1906 годзе ў Адэсе і паказьнікі літаратуры пра Шэўчэнку, Лісенка ды інш.).

Вось кароткія асноўныя весткі пра работу Інстытуту Т. Шэўчэнкі за два гады яго дзейнасьці. Маладая яшчэ гэта ўстанова, але яна пачынае сабіраць навокал сябе навуковыя сілы, зьбіраючы літаратурныя матэрыялы, распрацоўвае шляхі свае навуковае работы. З утварэньнем Усеукраінскага літаратурнага музэю, пачаткам выданьня гісторыка-літаратурнага архіву — Інстытут стане полымем марксыцкага літаратуразнаўства.

# КНІГАПІС

**М. Байкоў. Мікола Крывіч. На літаратурныя тэмы.** Зборник артыкулаў. *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1929. Стар. 213. Цана 1 р. 10 кап.*

Могуць быць розныя думкі наконт самае патрэбы падобных выданьняў у сучасны момант. Галоўным спажыўцом крытычных і гісторыка-літаратурных артыкулаў зьяўляецца, бясспрэчна, вучнёўская моладзь (у тым ліку студэнцтва), а таксама і настаўніцтва. Ім гэта патрэбна для іх практычных мэтаў, для школьнай работы. А з гэтага пункту погляду куды больш мэтазгоднымі зьяўляліся-б складзеныя з артыкулаў розных аўтараў зборнікі тыпу вядомае расійскае гісторыка-літаратурнае хрыстоматыі Пакроўскага, увязаныя са школьнымі програмамі. Нават такія зборнікі, як тры юбілейныя выданьні аб нашых пісьменьніках (Колас, Купала, Гартны ў літаратурнай крытыцы), лепш надаюцца для школьнага выкарыстаньня, чымся даная кніжка, бо ў іх вучань мае падбор матэрыялу аб пэўным аўтары, якога ён вывучае. Але гэта ўжо належыць да меркаваньняў практычнага характару, а нам трэба ацаніць самы зьмест кніжкі. Гэта—зборнік артыкулаў раней ужо друкаваных у розных выданьнях.

У прадмове М. Байкоў гаворыць, што „проблема вытрыманай марксыцкай літаратурнай крытыкі зьяўляецца ўсё яшчэ не разьвязанай проблемай сучаснасьці і з погляду гэтай крытыкі літаратурна-крытычныя экскурсы аўтара павінны мець недахопы“.

У сваёй кніжцы Мікола Байкоў у артыкуле пад назваю „Беларуская літаратура ў яе адносінах да агульнай культуры пролетарыяту“ ставіць вельмі цікавыя пытаньні аб сувязі індустрыялізацыі краіны з разьвіцьцём сапраўднае пролетарскае літаратуры, аб колектывізацыі вёскі, як аб умове для стварэньня новага сялянскага пісьменьніка з адпаведным сьветапоглядам і г. д. У артыкуле ўлічваецца і ранейшы ход разьвіцьця нашае літаратуры. Тут ня ўсё бясспрэчна і ня ўсё цалкам разгледжана, але пытаньні ставяцца цікавыя і абуджаюць у чытача крытычную думку.

Наступны артыкул „Месца Янкі Купалы ў беларускай літаратуры“—параўноўвае Купалу з Шэўчэнкам. Пытаньне аб рысах супольных нашай і украінскай літаратуры і аб узаемаўплыве паміж гэтымі літаратурамі вельмі цікавае і, наогул кажучы, мала яшчэ высьветленае. Таму даны артыкул трэба лічыць толькі за пачатак шматлікіх больш глыбокіх досьледаў у гэтым кірунку.

Далей ідзе даволі грунтоўны разгляд „Новае Зямлі“. „Поэма „Новая Зямля“, як монумэнтальны твор у беларускай поэзіі“. Супакойна, об'ектыўна гаворыць крытык аб непараўнаным мастацтве апісаньняў прыроды і быту, аб сакавітасьці Коласавай мовы, але слушна закідае нявытрыманасьць мэтрыкі ў ранейшых часьцях поэмы. Усе свае цьвярджэньні крытык падмацоўвае ўдала выбранымі прыкладамі. Разглядаючы ідэолёгію поэмы, крытык зазначае, што тут апісваюцца дробна-буржуазныя настроі і быт беларускага сялянства ў эпоху, пераходную да часу

вялікае соцыяльнае рэволюцыі, што гэтае сялянства, ненавідзела паноў, але аб колектыўным змаганьні з імі ня думала (стар. 57, 58); селянін думаў зрабіцца незалежным ад пана, набыўшы сабе кавалак зямлі і завёўшы сваю ўласную гаспадарку (стар. 54). Трэба ўлічваць тую абставіну, што Колас меў на ўвазе, відавочна, усяго толькі поўнае адлюстраваньне быту і псыхолёгіі пэўнае эпохі і пэўнага грамадзкага пласту. Ён гэта і зрабіў з непараўнанаю дасканаласьцю. Пасыўнасьць беларускага сялянства, якое ня ведала такіх вялізарных аграрных паўстаньняў, што ўзварушылі ўсю Украіну і поўдзень „Вялікаросіі“,— адбілася таксама ў гэтым люстры. Пясьняр нічога не выдумляе, а толькі мастацкі ўваскрашае ў сваёй поэме вобразы мінулага.

Артыкул бібліографічнага зьместу „Цішка Гартны“ дае шмат новых фактаў з жыцьця песьняра і ставіць творчасьць пісьменьніка ў неразрыўную сувязь з яго перажываньнямі. А гэтыя перажываньні даюцца на агульным фоне эпохі. Як і яго герой Рыгор Нязвычны, сам Цішка Гартны, „працуючы на заводах ды фабрыках, жывучы ў буйных гарадох, да каплі зьнішчыў веру ў мірнае палепшаньне жыцьця і стаў заядлым няўжыўным змагальнікам“ (стар. 35 данага зборніка).

Наступны артыкул „На перагібе“. М. Байкоў адзначае і недахопы роману Ц. Гартнага—расьцягненасьць выкладу, цяжкасьць пэрыодычнае мовы, паветалізмы, расіізмы і розныя шурпатасьці. Зварочваецца ўвага на дужа востра выражаны натуралізм пісьменьніка (стар. 100 і 101 Байкоўскае кніжкі). Цішку Гартнага, аднак, здаецца, цікавіў, галоўным чынам, у даным выпадку не знадворны ход падзей, а іх псыхолёгічны бок. Гэта ўлічвае і крытык і зусім слушна. У кожным выпадку цікавае выяўленьне асаблівасьцяй эпохі і быту і шмат удалых апісаньняў ставяць роман „Сокі Цаліны“ на значную вышыню ў нашай мастацкай прозе. А паводле свае монумэнтальнасьці—гэта ў нас сапраўдны унікум, як слушна зазначае крытык.

Аб творчасьці „Натальлі Арсеньневай“—невялічкі, але вельмі добрасумленна напісаны артыкул. Адзначаюцца і багацьце вобразаў, і мэлёдычнасьць вершу і глыбокае натхненасьць жывога пачуцьця. Але паказваюцца і расіізмы ў мове, і містычныя настроі.

Чатыры апошнія артыкулы стаяць ужо ніжэй, менш даюць чытачу, у параўнаньні з ранейшымі.

У гадавых аглядах: „Наша літаратура за 1925 г.“ і „Беларуская проза за 1926 г.“ можна знайсьці нямала павярхоўнасьці і суб‘ектывізму. Што да вяліка а артыкулу аб мэтодах і прыёмах нашае крытыкі (які зьмешчаны ў самым канцы зборніка), то аўтар тут выказваецца за добрыя літаратурныя звычкі, за профэсіянальную этыку часапісца. Ён зазначае на тое, што нашы рэцэнзэнты часам бываюць ня толькі без патрэбы рэзкімі, але і несправядлівымі і г. д. Аднак, гэта наглядаецца наогул пры кожнай рэзкай зьмене ў быце і ў палітычных абставінах. Ня толькі ў часопісах эпохі Францускае рэволюцыі, але нават і ў пэрыод так званых рэформ Аляксандра II мы заўважаем аналёгічныя зьявы. Змагацца з гэтым найлепш можна, даючы рад бездакорных узораў, рад об‘ектыўных, добрасумленных артыкулаў аб нашых пісьменьніках. Будзем спадзявацца, што нашыя крытыкі (а яны ўжо ў нас зьявіліся ў пэўным ліку) гэта і зробяць у большай меры, чымся было дагэтуль.

Цікава было-б ведаць, на якой падставе артыкул не літаратурнага, а слоўнікарска-тэрмінолёгічнага зьместу „Да пытаньня аб чужаземных словах у нашай мове“, увайшоў у склад гэтага зборніка. Данае мовазнаўчае пытаньне мае, зразумела,

дачыненьне да літаратуры, але не беспасрэднае.

З аўтарскіх хібаў зазначым на наступныя.

На стар. 8 аўтар гаворыць: „Адам Міцкевіч бязумоўна ёсьць нацыянальны пісьменьнік польскага народу“. Здаецца, што *не бязумоўна*, а якраз *умоўна*, г. зн. тады, калі не концэнтраваць свае ўвагі на беларускіх асаблівасьцях яго псыхікі і творчасьці (у пэўнай меры—нават і яго мовы). На стар. 139 сказана: „стыль яго жорсткі і, значыцца, рэволюцыйны“. Гэтае „значыцца“ трэба выкінуць, бо стыль кожнага палкага змагальніка, рэзкага барацьбіта жорсткі, хоць-бы сам чалавек і быў прадстаўніком зусім не рэволюцыйных імкненьняў. Замест „значыцца“ трэба проста паставіць коску.

З моўнага боку адзначым: „водпаведзь“ (рэзкі адказ) стар. 184, „больш мацней“ (182) „напружанасьць“ (—рас. нацяжка) стар. 124, „атрымаў прызнаньне(—годнасьць *Л. С.*) народнага беларускага поэты“, стар. 140, „цяжарным (—цяжкім *Л. С.*) становіцца жыцьцё хлопа“ стар. 51, „пасьля некалькіх год цяжарнай службы“, стар. 47, „штурхаючы чалавекам“, 48. Ёсьць і іншыя няправільнасьці ў мове. Да аўтарскіх памылак далучаецца яшчэ значны лік друкарскіх. З іх асабліва шкодны: „ляды“ замест „лады“, стар. 70, Ю. Лермантаў (відавочна—*М.* было выкінута і замест поэта атрымаўся яго бацька) стар. 30, 58 „Рэйтанаўскім“ замест „Рэймонтаўскім“ ды інш.

Не памылкамі, а ўпартым і, на нашу думку, няправільным пераканааньнем М. Байкова тлумачыцца „Пашкевіч“ і „Буйло“ замест „Пашкявічанкі“ і „Буйлянкі“. Цяпер, праўда, некаторыя граматыстыя, магчыма, нават большасьць—згаджаюцца з М. Байковым, што да падобных напісаньняў у афіцыйных дакумантах, у канцылярскай мове. Гэта, аднак, малаважная рэч.

Пажадайма-ж нашым крытыкам наогул, а разгледжанаму намі паасобку аднавіць тую карысную эволюцыю, што наглядалася ў іх рабоце ўсяго толькі некалькі гадоў таму назад, і даць нам новыя ўзоры крытычных досьледаў.

**С. Л.**

**Slavische Rundschau. Berichtende und kritische Zeitschrift für das geistige Leben der slavischen Völker. Herausgegeben von Franz Spina und Gerhard Gesemann. Prag. Jahrgang, I, № 1—2, Januar-Februar, 1929 г. Verlag Walter de Gruyter C$^{o}$. Berlin—Leipzig—Prag, S—152.**

Славянскі Rundschau (агляд) часопіс, прысьвечаны крытыцы і агляду інтэлектуальна-культурнага жыцьця славянскіх народаў. Выдаецца Францам Шпіна і Гергардам Геземанам. Прага. Год I, № 1—2. Студзень-люты. 1929 г. Выдавецтва Вальтэра де-Груйтэра

У пасьляваенны час, у пэрыод рэволюцыйных год эўропэйскае славяназнаўства, асабліва тое, якое датычыць вывучэньня мовы і літаратуры славянскіх народаў, зрабіла вялікія посьпехі. Зацікаўленасьць да рознастайных зьяў славянскае культуры з боку эўропэйскіх (неславянскіх) народаў значна павялічылася. Характарным паказьнікам гэтага зьяўляецца надзвычайна вялікі рост пэрыодычных выданьняў, прысьвечаных рознастайным пытаньням славяназнаўства.

Перад вайною выдаваўся толькі адзін часопіс, прысьвечаны славянскай філёлёгіі ў Нямеччыне на нямецкай мове: „Archiv für slavische Philologie“ („Архіў славянскай філёлёгіі“), Бэрлін, выдавецтва Weidmann'а. Гэтае выданьне (пад рэдакцыяй профэсара E. Berneker'а) існуе і цяпер. У пасьляваенныя гады амаль адначасова пачаў выдавацца шэраг новых нямецкіх часопісаў. Перш за ўсё: „Zeitschrift für slavische Philologie“ („Часопіс славянскай філёлёгіі“), пад

рэдакцыяй профэсара M. Vasmer'a (выдавец Markertund Petters у Лейпцыгу). Пасьля часопіс: „Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven") („Штогоднік, прысьвечаны гісторыі і культуры славян") пад рэдакцыяй профэсара E. Hanisch'a; выдаецца ў Браслаўлі Osteuropa—Institut'am. Далей часопіс: „Osteuropa" („Усходняя Эўропа"), выдаецца ў Кенігсбэргу выдавецтвам „Osteuropa" пад рэд. O. Hötzsch'a. І ўрэшце толькі што зьявіўся часопіс, назва якога падана ў загалоўку гэтай нататкі. Часопіс гэты выходзіць пад кіраўніцтвам профэсароў нямецкага унівэрсытэту ў Празе F. Spina і G. Gesemann'a.

У Францыі цяпер выдаецца два часопісы на французкай мове, прысьвечаныя славяназнаўству. Першы: „Revue des é'tudes slaves" („Часопіс славянскіх дасьледзін") пад рэдакцыяй A. Meillet'a, P. Boyer'a і A. Mazon'a; выпускаецца Institut'ам d' é'fudes slaves у Парыжы. Другі часопіс: „Le Monde slave" („Славянскі сьвет") пад рэдакцыяй L. Eisenmann'a, Et Tournol'я Aug. Gauvain'a, Jul. Legras і Henri Moysset'a.

У Ангельшчыне ёсьць спэцыяльная „Школа слявянскіх дасьледзін", („School of slavinoc studies), якая выдае часопіс: „The slavonic Review" („Славянскі агляд"), прысьвечаны вывучэньню гісторыі, экономікі, філёлёгіі і літаратуры славянскіх народаў. Рэдагуюць яе шэраг амэрыканскіх і ангельскіх профэсароў.

Урэшце ў Італіі Instituto per l'Europa Orientale ў Рыме выпускае часопіс: „Revista di litterature slave" („Часопіс славянскіх літаратур") пад рэдакцыяй профэсара Ettore Lo Gatto (Е. Лёгато).

Часопіс „Славянскі агляд", на якім мы хочам прыпыніць сваю ўвагу, ёсьць выданьне надзвычайна багатае markdown рознастайнымі зьвесткамі, якія датычаць розных бакоў культуры славянскіх народаў.

Першы вялікі разьдзел прысьвечаны шэрагу артыкулаў па розных пытаньнях літаратуры, філёлёгіі і мастацтва славянскіх краін, усходніх, заходніх і паўднёвых. Тут, між іншым, ёсьць некалькі нарысаў, якія датычаць і нашага Саюзу. Зьмешчаны цікавы артыкул проф. А. І. Някрасава пад назвай: „Новая архітэктура і яе становішча ў расійскім традыцыйным будаўнічым мастацтве". („Die neue Architektur und ihre stellung in der traditionellen russischen Baukunst"). Аўтар яго, даючы ў здымках проекты новых, якія будуюцца, гмахаў— Цэнтральнай пошты ў Харкаве, Цэнтральнага будынку дзяржгандлю ў Маскве, будынку банку ў Іванава-Вазьнясенску ды інш.—аналізуе іх у сувязі з старымі традыцыямі расійскага будаўнічага мастацтва. Далей у часопісу ёсьць сьціслы, але досыць поўны, нарыс профэсара Л.А. Булахоўскага, прысьвечаны агляду „Славянскага мовазнаўства ў Савецкай Украіне" („Die slavische sprachwissenschaft in der Räteukraine"). Таксама цікавыя ў гэтым разьдзеле артыкулы: Леона Памяроўскага аб „Шляхох і і мэтах польскай літаратурнай крытыкі" („Wed und Ziel der polnischen literarischen Kritik"), Іозефа Гутэра аб „Проблеме славянскага музыказнаўства" („Probleme der slavischen Musikwissenschaft") ды інш.

Другі разьдзел часопісу зьмяшчае ў сабе крытычныя адозвы на розныя кнігі па асобных славянскіх краінах (Ostslavisch, Polnisch, Čechoslovakisch, Süddslavisch). Між іншым, у часьці, якая разглядае кнігі ўсходня-славянскіх дзяржаў, падана кароткая, але цікавая рэцэнзія профэсара А. Някрасава аб кнізе М. М. Шчакаціхіна: „Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва" (Менск, 1928 г.).

У другім разьдзеле зьмешчана бібліографія-пералік усякіх пэрыодычных часопісаў і новых кніжак, таксама па асобных дзяржавах. З беларускіх выданьняў у гэтым разьдзеле адзначаны часопісы: „Полымя", „Узвышша", „Запіскі аддзелу гуманітарных навук Інстытуту беларускай

культуры“, адзначана кніга проф. Піотуховіча „Нарысы гісторыі беларускае літаратуры“ (Менск, 1928 г.) ды інш.

Урэшце, апошні чацьверты раздзел прысьвечаны хроніцы культурнага жыцьця ў паасобных славянскіх і эўропэйскіх дзяржавах. Цікавая хроніка і аб СССР. Тут падана шмат паведамленьняў аб культурным жыцьці ў галіне тэатру, навукі і мастацтва ў асобных гарадох, у асобных рэспубліках і г. д. З культурнага быцьця Беларусі адзначана дзейнасьць навуковага таварыства пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце за першую палову 1928 г., падана паведамленьне аб дваццацігадовым юбілеі Цішкі Гартнага, аб тым, што рыхтуецца першая беларуская опэра „Тарас на Парнасе“ і г. д.

Часопіс дзівіць багацьцем, рознастайнасьцю і актуальнасьцю вестак аб розных бакох культурнага жыцьця славянскіх дзяржаў. А таму трэба пажадаць яму пашырэньня, асабліва ў нас, у СССР і БССР, да якіх часопіс адносіцца з вялікай увагай і спачуваньнем, пільна і ўсебакова рэгіструючы і асьвятляючы ўсе дасягненьні ў галіне нашага новага будаўніцтва.

**А. Вазьнясенскі.**

**Інстытут беларускае культуры. Запіскі аддзелу прыроды і гаспадаркі. Том I. Пад агульнай рэдакцыяй старшыні аддзелу, правадзейнага члена ІБК А. Смоліча.** *Менск 1928, 292 стар. Цана 3 р. 50 к.*

Гэты зборнік мае і нямецкі ўступны артыкул А. Смоліча і зьмест некаторых артыкулаў паданы ў гэтай-жа мове.

Геолёгічны артыкул проф. Я. Афанасьева „Да пытаньня аб акрыцьцёвых пародах Заходняй часткі СССР“ мае дачыненьне ня толькі да абшараў БССР, але і сумежных з ёю: Пскоўскае, Смаленскае і Бранскае губ. У артыкуле разглядаюцца і самыя пароды, і характар іх напластаваньня, і пэўныя законамернасьці ў іх разьмяшчэньні

Другі артыкул геолёгічнага зьместу напісаны профэсарам Ф. В. Люнгерсгаўзэнам. Гэта кароткая справаздача аб маршрутных геолёгічных досьледах Паўночнае Беларусі ў 1925 годзе. „Справаздача гэтая мае на ўвазе ня выключна толькі адны навуковыя вынікі. Улічваецца аўтарам і тэхнічнае значэньне некаторых об‘ектаў назіраньня,—напрыклад, белага гутавага пяску (стар. 23), хоць гэта і не зьяўлялася беспасрэднай мэтаю экспэдыцыі. Пры артыкуле дана і багатая бібліографія адпаведна тым пытаньням, што знаходзяцца ў сувязі з мэтамі экспэдыцыі. Да абсягу геолёгічных досьледаў належыць і артыкул профэсара Б. К. Тэрлецкага „Апісаньне адкладаў краёвае сыстэмы ў Менскай акрузе“. У канцы артыкулу паданы скарочаны яго зьмест у нямецкай мове.

Беларусь мае сваё мінэральнае ўгнаеньне—гэта фосфарыты. Не пахаджэньне гэтых мінэралаў, а іх сельска-гаспадарчае значэньне зьяўляецца прадметам „Вэгетацыйных досьледаў з беларускімі фосфарытамі ў 1926 і 1927 г.г.“ профэсара С. В. Скандракова. Вынікі атрымаліся для беларускіх фосфарытаў ня дрэнныя, але сам аўтар гаворыць аб канечнасьці далейшых, яшчэ дакладнейшых досьледах.

Уплыў розных угнаеньняў на ўраджай вывучае М. Савіцкі. У яго артыкуле: „Вынікі палёвых досьледаў з ўгнаеньнямі па Меншчыне“ сабраны надта багаты фактычны матэрыял, які мае беспасрэднае практычнае значэньне для нашае сельскае гаспадаркі.

Профэсар А. Фядзюшын даў артыкул „Заметка (лепш было-б: *нататка. Л. С.*) аб летняй орніта-фаўне воз. Князь“. Шмат цікавых відаў водных птушак занатована і апісана ў гэтым артыкуле. Тут ёсьць вельмі

прыгожыя малюнкі прыроды каля возера Князь. Пры артыкуле ёсьць і нямецкі зьмест.

Беларусі патрэбны свае курорты. Калісьці яны ў нас былі нядрэнна абсталяваны і давалі дапамогу пэўнай колькасьці хворых.

Паводле „Папярэдняе справаздачы партыі па дасьледваньні курортных мясцовасьцяй Беларусі“, напісанае П. В. Трамповічам,—трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на Баркаўшчыну і зрабіць яе сапраўдным курортам. Аб другім нашым курорце, Лагойску, у справаздачы не гаворыцца, бо ён не ўваходзіць у плян гэтае экспэдыцыі і, здаецца, быў дасьледваны яшчэ раней, а цяпер ужо мае больш-менш належнае абсталяваньне.

У канцы кнігі ёсьць разьдзел „Рэфэраты і рэцэнзіі“ і вельмі багатая бібліографія прыродазнаўчых досьледаў, якія маюць дачыненьне да Беларусі:—„Сыстэмачычны сьпіс навуковых прац аб прыродзе Беларусі за 1926 і 1927 г.г.“, складзены Ў. Пракулевічам.

Кніга багата на пляны, схэмы, малюнкі і таблііцы.

Мова не ва ўсіх артыкулах гладкая.

**Смаляціч.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Вядомы расійскі поэта Н. Раждджэственскі пераклаў на расійскую мову верш Янкі Купалы „Я не поэта“. Дзяржаўнае ведавецтва РСФСР даручыла яму перакласьці шэраг іншых вершаў Я. Купалы для зборніка яго выбраных твораў, які выдаецца памянёным выдавецтвам сёлета.

* У № 17 эспэранцкай газэты „Heroldo de Esperanto“, якая выходзіць у Кёльне, зьмешчаны артыкул Д. Сьнежкі пра 20-цігадовы юбілей Цішкі Гартнага і пераклад яго апавяданьня „Распусьнік“.

У тым-жа нумары даецца здымак беларускіх пісьменьнікаў (Ц. Гартны, М. Зарэцкі, А. Александровіч, А. Дудар і інш.) з японскім пісьменьнікам Удзякі Акіта ў часе прыезду апошняга ў Менск.

* У Беларускім дзяржаўным выдавецтве вышла з друку кніжка Цішкі Гартнага на польскай мове „Новэлі“, у перакладзе Гельтмановай. У кніжку ўвайшлі апавяданьні са зборнікаў „Трэскі на хвалях“ і „Прысады“.

* 25 красавіка ў Доме пісьменьнікаў адбыўся агульны сход пісьменьнікаў усіх літаратурных аб‘яднаньняў. З дакладам аб пляне выданьняў нацыянальнай літаратуры на расійскай мове выступіў прадстаўнік Дзяржвыдавецтва РСФСР тав. Равіч-Чаркаскі.

— Выданьне літаратуры народаў СССР пачалося Дзяржвыдавецтвам у 1928 г.,—паведаміў тав. Равіч-Чаркаскі.—З беларускай літаратуры ў 1928 г. перакладзены і выданы на расійскай мове „У глыбі Палесься“ Я. Коласа і зборнік апавяданьняў Ц. Гартнага. На 1929 г. вызначылі 460 аркушаў на выданьне літаратуры народаў СССР. З гэтых 460 аркушаў вызначана 60 аркушаў для літаратур культурна-адсталых нацыянальнасьцяй і 75 аркушаў для беларускай літаратуры.

У пляне ў першую чаргу намечана выдаць зборнікі твораў З. Бядулі, Я. Купалы, М. Зарэцкага і М. Чарота. Гэтыя зборнікі ўжо падрыхтаваны да друку.

Намячаецца выдаць зборнік апавяданьняў БелАПП‘у, „На пратсорах жыцьця“—Я. Коласа і зборнік сучаснай беларускай поэзіі, у складаньні якога прымуць удзел прадстаўнікі ўсіх літаратурных аб‘яднаньняў, „На зломе“—Нёманскага, „Новэлі“—К. Чорнага. Да зборніка М. Чарота дадаюцца яго поэмы „Босыя на вогнішчы“, „Беларусь лапцюжная“ і „Карчма“, а таксама ўступны артыкул.

Зборнік апавяданьняў БелАПП‘у даручана скласьці т.т. Сянькевічу і Мурашку. Уступны артыкул да зборніка К. Чорнага дасьць літсэкцыя таварыства марксыстых.

Апроч пералічаных зборнікаў, якія будуць выданы на расійскай мове, пры часопісу „Страна советская“ выдаюцца альманахі-штогоднікі, дзе будзе друкавацца і сучасная беларуская літаратура.

Мы даем расійскаму чытачу беларускую літаратуру ў высокамастацкіх перакладах,—гаварыў далей тав. Равіч-Чаркаскі.—У перакладах прымаюць удзел Асееў, Сьвятлоў, Багрыцкі, Галодны, Сяльвінскі і інш.

На тыя беларускія кніжкі, якія ўжо выданы па-расійску, ёсьць каля

25 водзываў і ўсе водзывы (апрача 2—3 рэцэнзій) гаворапь, што беларуская літаратура мае вялікія мастацкія дасягненьні.

Агульны сход пісьменьнікаў і поэтаў прыняў рэзолюцыю па дакладу Равіча-Чаркаскага, у якой вітае ініцыятыву Дзяржвыдавецтва РСФСР у справе выданьня твораў народаў СССР наогул і беларускіх у прыватнасьці на расійскай мове і ўхваляе як выбар аўтараў для перакладу, так і плян, і парадак іх выданьня.

Сход у прынятай рэзолюцыі лічыць патрэбным адзначыць невялікую колькасьць аркушоў, адведзеных для беларускіх пісьменьнікаў у пляне гэтага вытворчага году Дзяр. выдав. РСФСР і выказвае пажаданьне, каб на той год гэты плян быў пашыраны.

Сход таксама просіць Дзяр. выдав. РСФСР зьвярнуць увагу на якасьць перакладаў, каб яны перадавалі сапраўдны твар беларускай літаратуры расійскаму чытачу.

* Катэдра этнографіі БАН сёлета організуе экспэдыцыю ў шэраг раёнаў БССР. Адна экспэдыцыя мае выехаць у раён Семежава, асяродак даўнейшых медзьвяжатнікаў, якія хадзілі з сваімі мядзьведзямі далёка за межы Беларусі. Тут будзе вывучацца быт і фольклёр патомкаў даўнейшых беларускіх забаўнікаў.

Адна экспэдыцыя накіроўваецца ў Азарычы і Даманавічы, Мазырскай акр., для вывучэньня народнай музыкі. У Лагойскім раёне будзе вывучацца народная мэдыцына. Апошняя экспэдыцыя накіроўваецца ў Лоеўска-Брагінскі раён, найменш вывучаны ў этнографічных адносінах.

* У сераду 15 мая ў Доме Пісьменьнікаў адбыўся ўрачысты сход, прысьвечаны ўшанаваньню 30-цігадовага юбілею мастацкай працы мастака Я. Кругера. Сход адкрыў уступнай прамовай старшыня „Гуртка па вывучэньні мастацтва“ т. Ів. Цьвікевіч. З прывітаньнямі выступіў ад Галоўмастацтва БССР т. Дыла, ад яўрэйскага аддзелу Дзяржаўнага музэю тав. Паліес, ад „Т-ва дрампісьменьнікаў і композытараў“—Красінскі, ад мастацкага аб'яднаньня „Ромб“—т. Кашталянскі і інш. Даклад аб жыцьці і творчасьці мастака Кругера зрабіў проф. Шчакаціхін. У адказным слове юбіляр расказаў, як нязвычайна цяжка было ў царскія часы атрымаць бедняку-яўрэю мастацкую асьвету і адзначыў тыя шырокія магчымасьці для работы, якія дала мастаком савецкая пролетарская ўлада.

* У № 13 праскай газэты „Prager Presse“ за 25 красавіка гэтага году зьмешчана рэцэнзія на першы том „Запісак гуманітарных навук“ Інстытуту беларускай культуры. Газэта асабліва прыхільна адзываецца пра артыкул Н. Прывалава, называючы яго „сьвежым ды цікавым матэрыялам“.

* Вышаў № 10-11 чэскага часопісу „Nove Rusko“, прысьвечаны БССР. Нумар зьмяшчае ў сабе цэлы шэраг артыкулаў на розныя тэмы з жыцьця Савецкай Беларусі. Гэтак у „Nove Rusko“ надрукаваны: артыкул т. Хацкевіча пра нацыянальнае пытаньне ў БССР, А. Ц.—пра становішча беларускай навукі, Р. Парэчына—аб беларускім праве, Ленскага—пра гандаль і прамысловасьць БССР ды інш. Уступны артыкул напісаны проф. З. Няедлым, вядомым грамадзкім дзеячам і прыхільнікам Савецкае Беларусі. Гістарычны нарыс пра заснаваньне БССР напісаны рэдактарам часопісу д-рам Прохаска. Нумар багата ілюстраваны здымкамі з беларускіх краявідаў і пастановак тэатраў. Над выпускам нумару працаваў Бокс.

* 17 мая вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам т. Галубка выехаў для абслугоўваньня Гомельшчыны.

Тэатр прабудзе ў акругах 2 з паловаю месяцы. Першыя пастаноўкі будуць у Асіповічах, Жлобіне, Будзе, Чэчэрску і Ветцы.

* Белдзяржкіно рыхтуецца да здымкаў вялікага мастацкага культурна-

бытавога фільму. Фільм павінен паказаць прыроду, экономіку, быт і культуру Савецкае Беларусі. Ён павінен будзе даць выразныя азначэньні кожнае акругі ў агульнай гаспадарцы і жыцьці БССР.

* Каб пашырыць нацыянальную сьвядомасьць сярод працоўных беларусаў г. Дзьвінску і пазнаёміць іх з беларускай гісторыяй, літаратурай ды вызваленчым рухам, агульны сход бацькоў Дзьвінскае беларускае школы вынес пажаданьне, каб пры школе былі організаваны ня менш як два разы ў месяц рэфэраты.

У бягучым навучальным годзе адбыліся ўжо гэткія рэфэраты:

25 верасьня настаўнік А. Барткевіч прачытаў рэфэрат на тэму „Хто мы, чаму на нас нападаюць і каму гэта карысна".

17 лістапада настаўнік А. Барткевіч — „10-ыя ўгодкі незалежнасьці Латвіі".

25 лістапада настаўнік А. Барткевіч—„Родная мова". Пасьля рэфэрату выступаў вучнёўскі хор, пад кіраўніцтвам настаўніка сьпеваў К. Александровіча і адбылася дэклямацыя вучняў старэйшых клясаў школы.

20 сьнежня школа адсьвяткавала юбілей беларускага поэты Цішкі Гартнага (Зьм. Жылуновіча). Рэфэрат аб пісьменьніку прачытаў настаўнік школы Янка Зэйгліш.

30 сьнежня сьвяткавалася адчыненьне Беларускае Акадэміі Навук. Рэфэраваў настаўнік А. Барткевіч, выступалі вучні з дэклямацыяй і сьпяваў хор школы.

10 студзеня даклад аб нацыянальным пытаньні зачытаў дэпутат сойму У. Пігулеўскі. Пасьля дакладу адбыліся сьпевы і дэклямацыя.

У час калядных канікулаў вучнямі школы ставілася п'еса „Пасланец". Як навіна, выступіў вучнёўскі балет.

Рэфэраты і концэртная пасьля іх частка зацікавілі грамадзтва.

* Улетку гэтага году будуць закончаны здымкі культ-фільму, які прысьвячаецца мэліорацыі ў БССР. Праца будзе весьціся на Мар'інскіх балотах.

Апроч гэтага, будуць сфотографаваны работы, якія вядуцца сялянскімі мэліорацыйнымі таварыствамі, і навукова - дасьледчая практычная праца на Міханавіцкім балоце.

* У гэтым годзе экспэдыцыяй Белдзяржкіно будуць сфотографаваны яўрэйскія земляробчыя паселішчы ў БССР. Об'ектам здымкаў будуць тыя месцы, дзе даўно ўжо працуюць яўрэі на зямлі, яўрэйскія гаспадаркі індывідуальнага тыпу, узьнікшыя за час існаваньня савецкае ўлады, і яўрэйскія колгасы і комуны.

* Фабрыка Белдзяржкіно ў Ленінградзе зараз канчае культ-фільм „Хто яны", прысьвечаны мэханічнаму хлебапячэньню.

— Закончаны поўнасьцю фільм „Да заўтра" (Омут). Монтаж фільму будзе скончаны ў першых лічбах чэрвеня.

— Да канца чэрвеня г. г. будуць скончаны і апрацованы шэраг сцэнараў—„193" О. Леанідава, прысьвечаны героічнай барацьбе народавольцаў, „Лясныя браты"—прысьвечаны паўстаньню латыскіх рабочых і сялян у 1905 годзе.

* Трэцяя ўсебеларуская мастацкая выстаўка зрабіла пэўны зрух грамадзкае думкі наўкола мастацкага жыцьця. Водгукі ў беларускай прэсе і дыспут, які адбыўся пасьля выстаўкі, ярка паказалі, што далейшае ізоляванае ад грамадзкага і культурнага жыцьця існаваньне мастацтва немагчыма. Пры ранейшых умовах выяўленчае мастацтва БССР асуджана на адрыў ад беларускай глебы, ад політычнага і культурнага жыцьця беларускіх рабочых і сялянскіх мас.

Пасьля трэцяе выстаўкі організуецца пры дзяржаўным музэі невя-

лічкі гурток па вывучэньні мастацтва і адшуканьні спосабаў папулярызацыі яго ў масах. На працягу некалькіх месяцаў, пасьля раду дакладаў і дыскусій, аказалася, што рамкі гуртка залішне малыя, каб разгарнуць побач з навуковай шырокую культурную работу.

А ў суботу (18-V) у Доме пісьменьнікаў адбыўся шырокі ўстаноўчы сход для ператварэньня гуртка ў „Беларускае таварыства прыхільнікаў выяўленчага мастацтва“. Паводле проекту статуту таварыства, яго дзейнасьць іменна пойдзе шляхам уцягненьня як мага шырэйшых мас у справу папулярызацыі мастацтва. Організацыя, пры дапамозе Галоўмастацтва і культаддзелаў саюзаў, масавых сыстэматычных дакладаў пра мастацтва і яго ролю, дэмонстраваньне пры дапамозе дыяпозытываў рэпродукцыі з мастацкіх работ, выданьне масавых каляровых рэпродукцый з малюнкаў лепшых мастакоў БССР і СССР, выпуск популярнай літаратуры пра мастацтва, організацыя часовых карцінных галярэй і інш.,—усё гэта створыць спрыяючую атмосфэру для росквіту выяўленчага мастацтва.

* Пасьля падручнікаў для ўсіх відаў школ вялікае месца ў пляне БДВ займаюць аддзелы масавай літаратуры (400 арк.) і мастацкай (852 арк.— проза, вершы, крытыка, тэатр, музыка, выяўленчае мастацтва).

У галіне масавай літаратуры БДВ толькі сёлета шырэй разгарнула працу, дый то пераважна па сельскагаспадарчай кніжцы: замест 40 арк. леташняга году, у гэтым годзе на агрономічную літаратуру вызначана 140 аркушоў; з трохтысячнага тыражу гэтай літаратуры выдавецтва перайшло да 10-цітысячнага.

Лік аркушоў на мастацкую літаратуру ў 1929-30 г. павялічаны ў параўнаньні з гэтым годам амаль ў два разы (1928-29 г. 484 арк., 1929-30 г. 852 арк.). Рост гэты будзе ісьці, па-першае, па лініі выданьня твораў беларускіх клясыкаў і, па-другое, па лініі павялічанага выпуску крытычнай літаратуры, музычнай і перакладаў з іншых моў.

* Усяго ў СССР на 1 студз. 1929 г. было 1.543 часопісы з разавым тыражом у 9.061.700 экз. З іх на расійскай мове—1.198 часопісаў, на украінскай—90, на татарскай—19, *на беларускай—16*, на нямецкай—13, на армянскай—11.

Па 7 часопісаў выдаецца на яўрэйскай, башкірскай і чуваскай мовах, 6 часопісаў—на узбэцкай мове, па 4—на польскай і казакскай, па 3—на грузінскай, латыскай, эстонскай, туркмэнскай і зіранскай (Комі) мовах і г. д.

Галоўная маса часопісаў выдаецца ў Маскве (698 часопісаў з тыражом у 9 млн. экз.) і ў Ленінградзе (147 часопісаў). У іншых мясцох РСФСР выдаецца 453 часопісы, у УССР—165, ЗСФСР — 33, *у БССР — 29*, у УзбССР—14 і г. д.

Агульная колькасьць аркушоў-адбіткаў усіх часопісаў СССР у 1929 г. складзе 600—650 мільёнаў аркушоў-адбіткаў.

Часопісы адзначаюцца вялікай рознастайнасьцю ў зьмесьце. Аднак, сярод іх ёсьць некалькі вялікіх груп. На першым месцы па колькасьці стаіць група часопісаў па пытаньнях грамадазнаўства, соцыолёгіі, політыкі, савецкага і партыйнага будаўніцтва; на другім—часопісы па экономіцы, фінансах, прамысловасьці і гандлі; на 3-м месцы—часопісы па пытаньнях працы, профэсіянальным і рабочым руху; на 4-м месцы—літаратурна-мастацкія часопісы.

* Па аддзеле прыроды і гаспадаркі Беларускай акадэміі навук сёлета намечана правесьці каля 10 геолёгічных, глебазнаўчых і іншых экспэдыцый.

А дзеля гэтага ў Менску склікаецца пленум камісіі па вывучэньні прыродна-вытворчых сіл, на якім будзе дэтальна абмеркаваны плян надыходзячых экспэдыцый. Пленум

заслухае таксама даклад Усесаюзнага геолёгічнага камітэту.

* У Маскве ў Цэнтральным доме Чырвонай арміі 21 красавіка адбыўся вялікі вечар беларускай культуры.

Сотні пакояў, лябараторый, выставак...

Побач з іншымі выстаўкамі на другім паверсе організавана беларуская выстаўка. Беларусы, рабочыя Масквы і чырвонаармейцы, што сабраліся на вечар, шнурам-чарадой праходзяць каля беларускай выстаўкі—знаёмяцца з гаспадарнымі і культурнымі дасягненьнямі Савецкай Беларусі, з гісторыяй рэволюцыйнага мінулага і тымі кірункамі, па якіх працоўныя Беларусі ідуць да новага жыцьця—соцыялізму.

З дакладам аб дасягненьнях беларускай культуры і гаспадаркі выступіў сталы прадстаўнік БССР пры ўрадзе СССР т. Паўлюкевіч.

Пасьля ўрачыстай часткі сіламі беларускага клюбу ў Маскве і артыстымі Беларускага дзяржаўнага тэатру быў наладжаны вялікі концэрт. Хор беларускага клюбу выканаў многа сьпеваў. Сымфонічны концэрт маскоўскага радыё-вузла выканаў беларускія мэлёдыі.

* У канцы мая або пачатку чэрвеня на Украіне наладжваецца тыдзень беларускай навукі. Для чытаньня дакладаў з Менску выедзе ў Харкаў і Кіеў дэлегацыя з 15 найбольш выдатных вучоных БССР.

У гэту дэлегацыю вылучаецца ад Беларускай акадэміі навук прэзыдэнт акадэміі праф. Ігнатоўскі, ад Белдзяржунівэрсытэту—рэктар у-ту акадэміі Пічэта, ад Беларускай с.-гасп. акадэміі—дац. Кісьлякоў, ад беларускага таварыства марксыстых т. Сянькевіч і інш.

Беларуская дэлегацыя пабудзе таксама на ўсеукраінскай конфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстых.

* Падрыхтована новая наступная пастаноўка БДАТ-І—п'еса расійскага драматурга Глебава „Інга". П'есу ставіць рэжысэр БДАТ-І Сьмяянаў.

Таксама Ляборанцкі гурток БДАТ-І рыхтуе паставіць у канцы сэзону п'есу драматурга Дзяржавіна „Шлак". П'есу будзе ставіць Крыловіч. 10 чэрвеня БДАТ-І канчае сэзон у Менску і выяжджае на адзін месяц у Бабруйск.

* Дэкрэтам Саўнаркому УССР склад Усеукраінскай акадэміі навук папаўняецца 30 новымі акадэмікамі, прычым да выбараў іх прыцягваецца навуковая грамадзкасьць і шырокія колы працоўных.

Дэкрэт спатканы шматлікімі навуковымі організацыямі Украіны з вялікай цікавасьцю. Навуковыя організацыі намячаюць кандыдатуры новых акадэмікаў. Пакуль высунуты наступныя кандыдатуры: Кржыжаноўскі (старшыня дзяржпляну СССР), Скрыпнік (Наркамасьветы УССР), Шліхтэр (Наркамзем УССР), Затонскі (нарком РСІ), прафэсары Сямкоўскі, Паладзін, Макоўскі, Вавілаў (член Усесаюзнай акадэміі навук), Лебедзеў, Ігнатоўскі (прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук), Яварніцкі і інш.

У разрад мастацкай літаратуры намечаны украінскі поэта Тычына і беларускі пісьменьнік Янка Купала.

Асобна распрацоўваецца пытаньне аб вылучэньні ва Усеукраінскую акадэмію навук кандыдатур вучоных Заходняй Украіны.

* Беларускае дзяржаўнае выдавецтва зараз падрыхтоўвае выданьне зборніка твораў забітага беларускага пісьменьніка т. Варава.

* БДМ у хуткім часе атрымлівае з Эрмітажу (Масква) 26 карцін замежных мастакоў 18-га і пачатку 19-га ст. ст. Частка карцін зьяўляецца орыгіналамі.

* Гэтымі днямі адбыўся пленум ЦП саюзу працаўнікоў мастацтва, на якім быў разгледжаны плян работы Белдзяржкіно і Галоўмастацтва. Пленум пастанавіў уключыць у пяцігадовы плян работы організацыю беларускай дзяржаўнай опэры. Для падрыхтоўкі артыстых прапанавана сёлета організаваць опэрную студыю і дзяржаўную сымфонічную оркестру-

* Скончана складаньне проэкту рэформы беларускага правапісу, які ў хуткім часе ўносіцца на разгляд акадэмічнай рады БАН. Проэкт праводзіць некаторыя спрашчэньні правіл у галіне фонэтыкі і морфолёгіі і ўстанаўляе правілы правапісу чужаземных слоў і ўласных іменьняў, якія да гэтага часу ня былі апрацаваны.

* БАН атрымала запрашэньне прыняць удзел у працах зьезду клясычных філёлёгаў у Пазнані (Польшча), які адбудзецца ўлетку г. г.

* Загадчык габінэту этнографічнай музыкі Украінскай акадэміі навук, композытар Квітко прыехаў у БССР вывучаць беларускія народныя песьні і музыку. Тав. Квітко мае правесьці ў БССР цэлы год.

* У канцы мая ў БАН мае прыехаць акадэмік Саюзнай і Украінскай акадэміі навук Пэрэтц, які выступіць з дакладам на тэму: „Старажытная беларуская літаратура“.

* Пры Галоўмастацтве адбылася нарада, на якой быў заслуханы даклад дырэктара Віцебскага мастацкага тэхнікуму т. Вольскага.

З новага навучальнага году намячаецца рэорганізацыя тэхнікуму. Аддзел скульптурна-мастацкі рэорганізуецца ў мастацка-пэдагогічны.

Проэктам прадугледжваецца організацыя новага вытворчага аддзелу з дэкоратыўна-бутафорскай майстэрняй.

Сёлета ў тэхнікум будзе прынята 30—40 чалавек.

На нарадзе гаварылася пра патрэбнасьць утварэньня на Беларусі вышэйшай мастацкай школы па тыпу акадэміі.

* ЦБ краязнаўства ў бліжэйшы час організуе шэраг экспэдыцый.

15 жніўня экспэдыцыя пад кіраўніцтвам тав. Шашалевіча выедзе ў Чачэрскі раён, Гомельскай акругі, для вывучэньня быту колгасаў. Экспэдыцыя прабудзе там тры тыдні.

Другая экспэдыцыя, пад кіраўніцтвам т. Жураўскага, накіруецца ў Лоеўскі і Камарынскі раёны для дасьледваньня экономікі гэтых раёнаў.

Намечана таксама экспэдыцыя па Меншчыне для ўсебаковага вывучэньня якой-небудзь комуны.

* Прэзыдыум акадэміі навук пастанавіў організаваць катэдру марксызму і ленінізму пры акадэміі. Загадчыкам катэдры зацьверджаны акадэмік Вольфсон, навуковым сакратаром—т. Валабрынскі.

* Віцебскі філіял аб'яднаньня асоцыяцыі мастакоў рэволюцыі ў знак першай гадавіны свайго існаваньня робіць першыя крокі прасоўваньня мастацтва ў гушчу мас.

21 красавіка ў г. Віцебску ён адкрывае сваю першую мастацкую выстаўку і па рабочых клюбах чытае лекцыі на тэму: „Сучаснае мастацтва ў СССР і яго задачы“.

Пасьля Віцебску выстаўка будзе перакінута ў другія гарады БССР, як Нова-Барысаў, Магілеў і інш.

* Пры аддзеле прыроды і гаспадаркі БАН адбылася спэцыяльная нарада па організацыі навукова-дасьледчага інстытуту экспэрымэнтальнай мэдыцыны і вэтэрынарыі. Гэта пытаньне абмяркоўвалася ня так даўно на пасяджэньні прэзыдыуму БАН, але пакуль што ня вырашана канчаткова.

* ЦБ краязнаўства выпусьціў зборнік пад назвай „Краязнаўства“, у якім сабраны ўвесь кіраўнічы матэрыял па організацыі краязнаўчага руху, а таксама мэтодычны матэрыял па абсьледваньні і вывучэньні адпаведных пытаньняў краязнаўства. У зборніку зьмешчаны мэтодычныя ўказаньні па вывучэньні прыродна-географічных грамадзка-экономічных і культурна-гістарычных об'ектаў.

* В. Вольскі прыслаў у ЦБ краязнаўства цікавы матэрыял аб беларускіх элемэнтах у бытавой абраднасьці беларускіх і літоўскіх татар. Моцны ўплыў беларускага быту адбіваецца ў татарскім вясельлі, пры абрэзаньні і інш.

* Асьпірант БАН т. Скардзіс напісаў працу аб стане літоўскага насяленьня ў межах БССР, падрабязна высьветліўшы гісторыю, экономіку,

быт і способы гаспадараньня ў літоўскіх паселішчах. Праца т. Скардзіса зьяўляецца першай у галіне вывучэньня літоўскага насяленьня ў Беларусі.

* Падрыхтоўваецца вялікі мастацкі фільм, які адлюструе прыроду, экономіку, быт і культуру Савецкай Беларусі. У фільме будуць матэрыялы з жыцьця асобных акруг БССР. Агульнае навуковае кіраўніцтва пастаноўкай фільму і складаньне сцэнара ўзяў на сябе проф. Смоліч. Фотографаваньнем будзе кіраваць рэжысэр В. Вайншток, асыстэнтам у яго будзе А. Ольшанскі.

* Газэта „Правда“ за 19 мая г. г. № 112 зьмясьціла вялікую рэцэнзію П. Горына на III том збор твораў У. І. Леніна, на беларускай мове.

* У юбілейным вялікім выданьні, з поваду X гадавіны незалежнасьці Латвіі,—„Latvijas Repubika desmit pastāvēšanas gados“—надрукаваны артыкул Канстантына Езавітава „Беларусы ў Латвіі“, а таксама паданы весткі аб беларускай прэсе ў Латвіі.

* У № 5 дзіцячае латыскае часопісі „Iaunais Cirulitis“. („Малады Жаўроначак“) зьмешчаны: 1) беларуская народная песьня „Калыханка“, у перакладзе на латыскую мову гр. Мат. Езавітавай; 2) апавяданьне Якуба Коласа „У балоце“, у перакладзе тэй-жа грамадзянкі, і 3) малюнак маладога беларускага мастака студэнта Латвійскае акадэмі мастацтва гр. Міpановіча, на тэму „Люлі, люлі, люлі, прыляцелі куры“...

## ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ РСФСР

* Маскоўская газэта „Вечерняя Москва" надоечы правяла сярод расійскіх пісьменьнікаў цікавую анкету пра вынікі літаратурнага году. Шэраг пісьменьнікаў лічаць мінулы літаратурны год удачным. Выдатнымі творамі пералічаюць яны наступныя: „Тихий Дон", „Севастополь"—Малышкіна, „Последний из Удегэ" — Фадзеева, „Заисть" — Алёшы ды інш.

* М. Аляксееў скончыў новы роман пад назваю „Ресторан на Арбате". Роман хутка выйдзе ў выдавецтве „Земля и Фабрика".

* М. Слонімскі працуе над романам „Фома Клешнев" і „Большевики и интеллигенция".

* Музычны тэатр імя Няміровіча-Данчэнкі увёў у свой рэпэртуар наступнага году комічныя опэры: „Треуголка", „Эстадор" і дзьве аднаактавыя опэры Пучыны.

* Рэдакцыйная камісія саюзу расійскіх пісьменьнікаў занята апрацоўкай пляну двух зборнікаў, якія павінны прайсьці па лістажу выдавецтва „Федерация". Адзін зборнік будзе зьяўляцца альманахам саюзу пісьменьнікаў (бэлетрыстыка, вершы, нарысы і крытычныя артыкулы). Тэма другога зборніку — „Пісьменьнік у рэволюцыі"; у ім будуць даны адказы на актуальныя пытаньні сучаснай літаратуры.

* Кіно-організацыя Межрабпомфільм намеціла да вытворчасьці такія карціны: „Я палю Парыж"—па роману Ясенскага, „Марцемяніха"—па твору Жданава, „Разлом" — Лаўрэнева, „Рэйкі гудуць"—Кіршона, „Інжынэр Мэрц"—Нікуліна і „Жонка"—па Трэневу.

* 14 чэрвеня г. г. у Ленінградзе адкрываецца ўсерасійская музычная конфэрэнцыя. У часе конфэрэнцыі намячаецца правесьці тыдзень пропаганды савецкае музычнае культуры.

* ЦК УсеКП(б) 8 мая гэтага году абвясьціў строгую вымову рэдакцыі часопісу „Молодая Гвардия" за зьмешчанае ў № 5 гэтага часопісу напоўапавяданьне Арцёма Вясёлага: „Босая праўда", якое зьяўляецца аднабокім, тэндэнцыйным і ў асноўным карыкатурным выяўленьнем савецкае сапраўднасьці.

* Знойдзены амаль поўны вялізны архіў выдаўца рускага часопісу „Русский Архив" Бэртэнева. У архіве ёсьць да 15 неапублікаваных лістоў усіх выдатнейшых расійскіх пісьменьнікаў XIX стагодзьдзя.

* Расійскі кіно-рэжысэр Пудаўкін аднагалосна выбраны віцэпрэзыдэнтам лёндонскага таварыства „Фільм-Гілл".

* Расійскі часопіс „Смена" абвясьціў конкурс на лепшае апавяданьне і мастацкі нарыс. Тэма — „Моладзь і соцыялістычнае будаўніцтва".

* Маскоўскім вялікім тэатрам прынята да пастаноўкі новая опэра Патоцкага—„Прарыў".

* Пры нацыянальным бюро пісьменьніцкага аб'яднаньня „Кузьніца" організаваны гурток цыганскіх пісьменьнікаў. У гурток увайшлі пісьменьнікі-цыганы: Я. Ром-Лебедзеў, Н. Панкоў, Т. Лебедзеў, М. Палякова ды інш. Кіруе гуртком М. Герман.

* Пісьменьнік Усев. Іваноў дапоўніў збор твораў, якія выдаюцца ГІЗ'ам РСФСР, шостым томам, у які ўвойдуць п'есы.

* Аляксей Дзямідаў выпусьціў на францускай мове свой роман „Вихрь“, які раней друкаваўся ў комуністычнай францускай газэце „Юманітэ“.

* Іван Катаеў працуе над кнігаю новых апавяданьняў. У выдавецтве „Федерация“ выходзіць другім выданьнем яго аповесьць „Сэрца“.

* У Пензе знойдзены новыя дакуманты пра Грыбаедава—аўтэнтычная справа сьледчай камісіі па справе дзекабрыстых. Тры дакуманты падпісаны Грыбаедавым, на 10 дакумантах уласныя адказы Адаеўскага, Рылеева, Трубяцкога, Бястужава-Руміна, Сяргея Мураўёва, Палкоўніцкага, Барацінскага, Давыдава і Пэстэля. Пачынаецца справа з паказаньняў Мураўёва, Абаленскага і Трубяцкога аб удзеле Грыбаедава ў таварыстве дзекабрыстых. У дакумантах ёсьць сапраўдны ліст Грыбаедава да цара Мікалая, у канцы якога ён просіць даць яму свабоду або паслаць у патаемную раду, каб на вочнай стаўцы, з абвінаваўцамі выкрыць іх паклёп.

* У былым „Азіяцкім пакоі“ ў кацярынінскім палацы (у Дзіцячым Сяле) акадэмік Крачкоўскі знайшоў надзвычайна рэдкі ўсходні рукапіс па гісторыі Абісініі. На думку аўторытэтаў, гэтая знаходка зьяўляецца вялікай навуковай каштоўнасьцю, як адзіны ў сьвеце экзэмпляр.

Акадэмія навук просіць Галоўнавуку перадаць рукапіс для вывучэньня і хаваньня ў Азіяцкі музэй.

* Аддзел тэатру і музыкі Галоўмастацтва абмеркаваў даклад дырэкцыі Вялікага тэатру аб рэпэртуарным пляне новага сэзону. Плян складзены з лепшых узораў клясычнага рэпэртуару, некалькіх савецкіх опэр і балету, навінак Захаду і ўзораў опэрнае і балетнае творчасьці нацыянальных меншасьцяй.

Галоўмастацтва ўхваліла ў асноўным плян тэатру. У новым сэзоне будуць паказаны балетныя пастаноўкі: „Щелкунчик“ і „Времена года“. Клясычны рэпэртуар пастаноўлена дапоўніць опэрай Вагнэра „Пагібель багоў“ і Вэдзі—„Фальстаф“. У трохгадовы рэпэртуарны плян пастаноўлена ўключыць „Дон-Жуана“ і „Похищение Сераля“ — Моцарта, „Кольцо Нибелунгов“—Вагнэра і адну з опэр Вірліоза. Па расійскай опэры рэпэртуар будзе дапоўнены „Юдифью“—Серова і аднаактавымі опэрамі (Стравінскага ды інш.). У плян новага сэзону ўключаны дзьве савецкія опэры—„Загмук“ і „Маць“—Б. Гусмана і балет „Четыре Москвы“—М. Бойтлера. З заходніх навінак будуць паказаны „Новости дня“.

Галоўмастацтва запрапанавала тэатру перагледзець увесь склад трупы, запрасіўшы новыя сілы і зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на асьвяжэньне і ўзмацненьне мастацкага кіраўніцтва (рэжысэраў, дырыжэраў, мастакоў). Пры тэатры трэба стварыць студыю.

* 15 мая адбылося заключнае пасяджэньне майскай сэсіі Акадэміі навук, на якім было 52 акадэмікі.

Па пытаньні аб навуковай зьмене створана камісія ў складзе акадэмікаў А. Е. Фрычэ, А. Д. Архангельскага, М. Н. Пакроўскага, А. Ф. Іёфэ, І. Ю. Крачкоўскага і А. А. Барысяка для выпрацоўкі новага палажэньня для асьпірантаў пры ўстановах Акадэміі навук. Інстытут асьпірантаў будзе даведзены да 80 чалавек. Інстытут практыкантаў ліквідуецца. Практыканты, якія не пасьпелі скончыць стаж, пераводзяцца ў асьпіранты. Намячаць і прапанаваць кандыдатаў у асьпіранты надалей могуць навукова-дасьледчыя ўстановы СССР, ВНУ і паасобныя акадэмікі. Права-ж канчатковага адбору асьпірантаў застаецца за Акадэміяй.

У канцы пасяджэньня было прыступлена да канчатковых выбараў двух віцэ-прэзыдэнтаў Акадэміі. Кандыдатамі на гэтыя пасады ў красавіковай сэсіі былі намечаны акадэмікі Кржыжаноўскі і Фэрсман. Абодва кандыдаты атрымалі па 46 выбарчых галасоў і 6 нявыбарчых.

Наступная сэсія назначана на 23 верасьня.

* 18 мая мінула 5 год з дня існаваньня музэю рэволюцыі СССР. За 5 год свайго існаваньня музэй сабраў і распрацаваў вялікую колькасьць матэрыялаў вялікага гістарычнага значэньня. Усе гэтыя матэрыялы-экспонаты (сапраўдныя гістарычныя дакументы, фотографіі, рэліквіі і інш.) даюць яркі і цэлы малюнак рэволюцыйнага руху ў Расіі ад паўстаньня Разіна да апошніх этапаў грамадзянскай вайны.

Організаваны нядаўна ў музэі (яшчэ ня скончаны) аддзел „Соцыялістычнае будаўніцтва" малюе аднаўленьне і рэконструкцыю народнае гаспадаркі Савецкага Саюзу. Экспонаты гэтага аддзелу ясна выяўляюць генэральную лінію партыі. Індустрыялізацыя краіны, колектывізацыя сельскае гаспадаркі, збожжавая проблема і іншыя асноўныя задачы, пастаўленыя партыяй перад краінай, ясна адлюстраваны ў фотографіях, дыяграмах, розных модэлях і інш.

У асобнай залі экспонаты малююць гісторыю разьвіцьця і работу партыі, комсамолу, профсаюзаў, саветаў, дэлегацкіх сходаў і г. д.

Цяпер аддзел соцыялістычнага будаўніцтва дапаўняецца новым разьдзелам, прысьвечаным міжнароднаму становішчу СССР. Гэты разьдзел зьявіцца зьвяном паміж аддзеламі, якія адлюстроўваюць рэволюцыю, і аддзелам Комінтэрну, які адкрыты да 10-цігодзьдзя Комуністычнага Інтэрнацыяналу. Аддзел Комінтэрну па багацьцю сваіх экспонатаў—выключная зьява. У ім прадстаўлены сапраўдныя дакументы вялікай гістарычнай каштоўнасьці і шмат цікавых фотографій, якія малююць сусьветны рэволюцыйны рух.

Апроч організацыі сталых аддзелаў, музэй наладжвае часовыя выстаўкі, прысьвечаныя выдатным рэволюцыйным гадавінам і палітычным кампаніям. За апошнія два гады ім былі наладжаны выстаўкі: да 10-цігодзьдзя Кастрычніка, да 25-цігодзьдзя II Зьезду РСДРП, да 50-цігодзьдзя процэсаў „50-ці" і „193", выстаўкі, прысьвечаныя Някрасаву, Чарнышэўскаму, Н. К. Крупскай і інш.

Наведваньне музэю расьце з году ў год. Летась музэй наведала звыш 236 тыс. чал., з іх 140 тыс. організаванымі экскурсіямі.

На чарзе пытаньне аб пабудове спэцыяльнага вялізнага будынку, які мог-бы зьмясьціць Музэй рэволюцыі і родныя яму музэі Леніна і Чырвонай арміі.

* Акадэмія навук СССР выдае да наступнага 200-гадовага юбілею з дня нараджэньня М. Ламаносава поўны збор яго твораў. Гэта будзе яшчэ першае гістарычна-крытычнае выданьне яго твораў.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* 17 красавіка орган усеукраінскага ЦВК газэты „Вісти“ абвясьціла пастанову Савету народных камісараў „пра папаўненьне ўсеукраінскай акадэміі навук новымі правадзейнымі членамі і пра парадак іх выбару“. Украінскі друк надае гэтаму вялікае значэньне.

* Усеукраінская акадэмія навук налічвае ў сваім складзе 47 правадзейных членаў, якія вядуць працу ў трох аддзелах, на якія падзяляецца акадэмія: 1) гістарычна-філёлёгічны, 2) фізыка-матэматычны і 3) соцыяльна-экономічны.

* У маі месяцы рада украінскага таварыства „гісторык - марксысты“ склікае украінскі навуковы зьезд гісторыкаў-марксыстых з наступнаю павесткаю дня: 1) пленарныя ўступныя даклады пра важнейшыя сучасныя проблемы ў гісторыі і мэтодолёгіі гісторыі, 2) справаздача пра работу навукова - дасьледчых установ: таварыства „Гісторык-марксысты“, гістарычнага аддзелу украінскага інстытуту марксызму, Цэнтраархіву, гістпарту, маркса-ленінскай катэдры пры УАН; 3) работа ў сэкцыях: а) гісторыі Украіны ды іншых народаў СССР, б) гісторыі партыі і Кастрычнікавае рэволюцыі, в) нацыянальнага пытаньня, г) сусьветнае гісторыі, д) гісторыі культуры і е) мэтодыкі выкладаньня гістарычных дысцыплін.

* У Кіеў перавезена частка новаорганізаванага Ўсеукраінскага Пантэону. Апошні складаецца з 15 мазгоў выдатнейшых дзеячоў украінскае навукі, мастацтва, пісьменства. Сярод іх мазгі, сэрца і эндокрынная сыстэма В. Караленкі, окулістага Гершмана, патолёгаў Крылова і Сагрэба ды інш. На цэлы савецкі саюз—гэта трэцяя падобная ўстанова.

* 15 красавіка гэтага году ў Харкаве, у Музэі украінскага мастацтва, адкрылася організаваная музэем і выдавецтвам выстаўка украінскае кніжнае графікі. На выстаўцы паказана продукцыя украінскага выдавецтва ў друкарскіх адбітках і творчасьць мастакоў-графікаў у орыгіналах. Сярод экспонатаў ёсьць нізка рэчаў з Заходняе Украіны.

* Расійскае выдавецтва ў Харкаве „Пролетарий“ выдае ў двух томах біографіі украінскіх пісьменьнікаў. Большасьць матэрыялаў далі самі пісьменьнікі.

* У Дзяржаўным выд-ве РСФСР друкуецца на расійскай мове вядомы твор романістага Галоўкі „Бур‘ян“.

* Дзяржаўнае выдавецтва Украіны выдала збор поэзіі маладнякоўскага поэты Т. Масэнкі „Паўдзённае мора“.

* Вустг выдаў кніжку вершаў С. Галаванаўскага пад назваю „Одвэрта“ (Адкрыта).

* Па сцэнарыі пісьменьніка Л. Ляшэнка ВУФКУ зараз заканчвае здымку кіно-карціны „В заметах“.

* Піліпэнка С. падрыхтаваў да друку зборнік баяк (перакладных і перапрацаваных) з расійскай мовы пад назваю „Батраковы байкі“.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНЫХ КРАІН

* Надоечы ў Рыме з вялікім посьпехам прайшла прэм'ера опэры Рэспіджы „Патануўшы звон". На прэм'еры быў пісьменьнік Гауптман.

* У 1925 г. былы амэрыканскі сэнатар Сымон Гутэнхэйм на ўспаміны свайго памёршага сына, Джона Гугенхэйма, стварыў спэцыяльны фонд для выдачы прэмій выдатнейшым амэрыканскім мастаком, вучоным, літаратарам, музыкам ды інш. Надоечы фонд Гугенхэйма выдаў 88 асобам 188.000 даляраў. Сярод нагароджаных: Джэмс Лайт, які вывучае рэволюцыйнае тэатральнае мастацтва Нямеччыны і СССР, Рэмо Буфано, які зьбірае матэрыял па гісторыі марыянэтак, Харольд Лам, аўтар яшчэ *ненадрукованае* кнігі „Чынгіс-хан і Тамэрлян", профэсар Лезьлі Ходсон, вядомы сваімі працамі па вывучэньні ангельскіх поэтаў эпохі Елізаветы, Маргарыта Шляух, што працуе ў Ісьляндыі над вывучэньнем сярэднявяковага эпосу, Гары Шловер, які прысьвяціў сябе вывучэньню ўплыву філёзофіі Шопэнгауэра на нямецкую літаратуру, Морды Гасьнер—дэкоратар ды інш.

Прэтэндэнтаў на прэміі Гугенхэйма ў гэтым годзе было больш за 600 чалавек. У сярэднім кожны атрымаў 2.500 даляраў.

* Поль Судэ (Францыя) выдаў кнігу крытычных артыкулаў „У таварыстве вялікіх розумаў".

* Жюль Ромэн (Францыя) пачаў друкаваць у „Нувэль Рэвю Францэз" новы роман „Калі караблі"... Новы роман Роляна Доржэлесаназываецца „У дваццаць гадоў".

* П'ер Кальмэт (Францыя), адзін з самых блізкіх людзей нябожчыка Анатоль Франса, выдае кнігу ўспамінаў пра вядомага поэту. Кніга будзе называцца „Вялікі пал Анатоля Франса". Гэтым палам было зьбіраньне рэдкасьцяй.

* У Лёндоне пачынае выдавацца новы часопіс „Рэалісты". Рэдакцыя складаецца з 28 выдатнейшых пісьменьнікаў і вучоных.

* Амэрыканскі романісты Сынклер Люіс выпусьціў новы роман, які названы прозьвішчам героя „Додсварс".

* Вядомы Амэрыканскі тэнор, якога лічаць каралём тэнаровых сьпевакоў, Джыакома Ляуры Вольпі на працягу бягучага сэзону зарабіў каля мільёну даляраў. За адно сваё выступленьне ў рымскім тэатры „Колізэй", *перад некалькімі тысячамі* слухачоў, Вольпі атрымаў мільён лір, з якіх палову аддаў свайму імпрэсарыо. Згодна слоў артыстага, чыкагскі унівэрсытэт запрапанаваў яму мільён даляраў за права выкарыстаць яго галаву пасьля сьмерці для навуковых анатомічных дасьледваньняў. Вольпі застрахаваў свой голас на агромністую суму, плацячы штогод страхоўкі 100 тыс. даляраў.

* Дагэтуль у Англіі, згодна закону, выданага яшчэ ў 1780 годзе, не падзялялі закрыты тэатр і ўстановы для забавы. Дзякуючы таму, што закон ня мог тады прадбачыць кіно, апошняе цяпер прабіла дзірку ў законе. Нядаўна ў Лёндоне адбыўся зьезд лёндонскіх дырэктароў, тэатраў і асоцыяцый установ для забавы, на якім пастаноўлена пачаць змаганьне за скасаваньне памянёнага закону.

* Мусоліні назначыў вядомага італьянскага пісьменьніка Луіджы

Пірандэлё членам нанава заснаванай італьянскай акадэміі, якая мае тып фрацускай акадэміі.

* Характарная зьява памяншэньня продажу поэзыі сярод чытачоў ёсьць не ў адным СССР. Гэта наглядаецца досыць выразна і ў іншых краінах. Характарныя лічбы падаюць з францускіх кнігарняў. Згодна іх падрахункаў, у 1913 г. ў Францыі было выдана 860 романаў і 457 зборнікаў вершаў. У 1922 г.—976 романаў і 395 зборнікаў вершаў. А ў 1923 г.—1009 романаў і 286 зборнікаў вершаў. З таго часу першая лічба расьце, а другая—падае.

* Нядаўна ў Бэрлін прыяжджаў вядомы ангельскі пісьменьнік Гербэрт Уэльс. Пісьменьнік сказаў у залі нямецкага рэйстагу вялікую прамову пра гарантыі міру. У сваёй прамове Г. Уэльс даводзіў патрэбнасьць урэгуляваньня нараджэньня дзяцей. Перанаселенасьць зьяўляецца асноўнай прычынай небясьпекі міру.

* 17 красавіка гэтага году ў Рызе намёр вядомы латыскі мастак Эдуард Брэнцэн. У сваіх работах нябожчык карыстаўся нацыянальнымі мотывамі, бяручы тэмы з сучаснага латыскага жыцьця і гісторыі латыскага народу. Ён быў таксама ілюстратарам і дэкоратарам.

* Газэты прыводзяць наступныя сумы гонорару, які плаціцца ў Амэрыцы выдатным палітычным дзеячам за іх літаратурныя творы, а таксама сумы гонорару вядомым тэатральным артыстым і кіноартыстым. Так, былы прэзыдэнт Кулідж атрымлівае за свае артыкулы з разьліку крыху больш аднаго даляра за слова: былы кандыдат у прэзыдэнты на апошніх выбарах Сьміт, які друкуе сваю аўтобіографію на старонках газэты „Іунінг Пост“, атрымлівае па даляру за слова. Вядомы-ж кінэматографічны артысты, комік Чарлі Чаплін, доўга не згаджаўся прыняць удзел у галасавым фільме, нарэшце, спакусіўся за гонорар у суме адзін мільён доляраў, які яму запрапанаваў буйны амэрыканскі кінэматографічны дзеяч Крузэ. Газэты дадаюць, што за гэты гонорар Чарлі Чаплін наўрад ці выкажа мільён слоў.

* У Нюрэнбэрскім (Баварыя) гарадзкім тэатры пастаўлена новая комічная опэра З. Копаны, напісаная паводле комэдыі Штэрнгейма „Бюргер Шыпэль“.

* Новая опэра композытара Жоржа Гю „Торбун“ ставілася ў парыскім тэатры. „Комічная опэра“ мела вялікі посьпех. Лібрэто пабудавана на казках Пэро. Опэра пастаўлена ў стылі позьняга рэнэсансу.

* У апошняй кніжцы францускага часопісу „Рэвю дэ Монд“ польскі гісторык С. Аскеназі друкуе знойдзены ім у архівах графа Дзялінскага ў Корніке (Помэранія) невялікі роман Наполеона першага „Клісон і Аўгеньня“. Роман напісаны маладым Бонапартам у 1795 г. і мае аўтобіографічны характар. Клісон і Аўгеньня—гэта сам Бонапарт і Аўгеньня Клары, маладая дзяўчына, якую ён кахаў. Роман напісаны ў сантымэнтальных тонах і цікавы толькі, як біографічны матэрыял.

* Вядомы бэльгійскі пісьменьнік М. Мэтэрлінк рыхтуе кнігу пад назваю „Вялікая фээрыя“. У ёй ідзе гутарка пра бесканцовасьць сусьвету, пра зямлю, уплыў зор ды іншых падобных пытаньнях.

* У Мадрыдзе (Гішпанія) вышла новае выданьне „Дон Кіхот“, пад рэдакцыяй Родрыгеса Марэна, які зрабіў агромністую працу па перагляду ўсяго тэксту.

* У Англіі зданы ў друк дванаццаты том „Слоўніка ангельскае мовы“. Выйдзе ён з друку ў канцы гэтага году. Складаньне першага тому пачата ангельцамі ў 1859 г. Патрабавалася 70 гадоў, каб скончыць гэту працу. У слоўнік уключана 418.825 слоў. Друк яго каштаваў 300.000 фунтаў стэрлінгаў.

* Напярэдадні 1 Мая ў Парыжы быў арыштаваны вядомы польскі пролетарскі пісьменьнік Бруно Ясенскі,

аўтар нашумеўшага роману „Я палю Парыж“, эпопэі „Слова пра Якуба Шэльлі і шэрагу іншых твораў.

Некалькі год таму назад, пасьля разгрому комуністычнай газэты „Рабочая Трыбуна“, якую ён рэдагаваў у Львове, знаходзячыся пад пагрозай суду і прасьледваньнямі паліцыі, Бруно Ясенскі выехаў у Парыж. Там ён аднавіў сваю літаратурную дзейнасьць, там ён пачаў пісаць і свой роман „Я палю Парыж“, які друкаваўся, паміж іншым, у францускай газэце „Юманітэ“, там ён заснаваў і рабочы тэатр „Сэн-Дэні“.

Польскае пасольства ў Парыжы было нездаволена яго знаходжаньнем і дзейнасьцю ў Францыі. Гэтае нездаволеньне падзялялася і ў рэакцыйных францускіх колах. У выніку стараньняў прадстаўнікоў польскага пасольства, летась у сьнежні было выrашана выслаць Ясенскага з Парыжу. Але тады 60 выдатнейшых пісьменьнікаў Францыі, у тым ліку і Ромэн Ролян, Анры Барбюс, Віктар Маргерыт, Жорж Дзюамель і Люк Дзюртэн апублікавалі свой протэст, і высылка была спынена.

Гэтым, аднак, не магло скончыцца пытаньне для францускіх і польскіх рэакцыянэраў. Першыя былі раззлаваны вялікай выкрывальнай роляй, якую адыграў яго роман „Я палю Парыж“, проціпастаўлены ілжываму і паклёпніцкаму памфлету Поля Морана „Я палю Маскву“. Роман гэты быў выданы адным з буйнейшых выдавецтваў Францыі і перакладзены на шэраг моў.

Польскіх рэакцыянэраў злаваў посьпех організаванага Ясенскім тэатру для польскіх рабочых у Парыжы. Польскае пасольства выпісала артыстых з Варшавы, каб адцягнуць рабочых палякоў ад тэатру Ясенскага, але гэта спроба не ўдалася.

Напярэдадні 1 Мая ішла п‘еса Ясенскага „Дзьве гадзіны ў незалежнай Польшчы“; агенты польскага пасольства прабавалі сарваць спэктакль, але справа скончылася тым, што рабочыя пабілі гэтых агентаў.

Гэты інцыдэнт паслужыў повадам для францускіх і польскіх рэакцыянэраў, каб пачаць новую кампанію за высылку Бруно Ясенскага.

Бруно Ясенскі быў арыштаваны і ў ручных кайданох у той-жа дзень высланы на бэльгійскую граніцу. Бэльгійцы адмовіліся яго прыняць і Ясенскага перакінулі на другую граніцу.

* У Вэнгрыі вышла ў сьвет кніга невядомага аўтара, якая зрабілася сэнсацыяй літаратурнага сэзону. Родзіон Марковіч (Rodion Markowics) назваў кнігу сваіх успамінаў аб вайне і палоне „Сібірскі гарнізон“. Паводле думкі крытыкі, аўтар выяўляе асяродзішча і людзей з нязвычайнай сілай і пераканальнай мастацкасьцю і па сваёй унутраной праўдзе стаіць месцамі нават вышэй Анры Барбюса.

* „Gaceta Literaria“, вядомая далёка за межамі Гішпаніі літаратурная газэта, абвясьціла конкурс на наступныя працы: 1) Гішпанскі тэатр у 1928 годзе; 2) Гішпанскае кіно ў 1928 годзе; 3) Гішпанскае мастацтва ў 1928 годзе. Прэм‘яваныя работы будуць выданы асобнай кнігай.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ